# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

Наша выданне прысвечана асобным старонкам жыцця і творчасці літаратараў Беларусі XVIII–XIX стст. Зважаючы на тое, што найбольшую вартасць заўсёды маюць не нататкі даследчыка пра пісьменніка, а перадусім ягоныя творы ды іншыя матэрыялы, якія апавядаюць пра яго, значная ўвага надаецца менавіта публікацыі невядомых ці малавядомых тэкстаў – паэзіі, публіцыстыкі, карэспандэнцыі і інш.

А гэта тым больш важна, што мы, гісторыкі Новай беларускай літаратуры, зрабілі да крыўднага мала: наша праца павінна была пачынацца ад навуковага выдання літаратурных тэкстаў ды іншых гісторыка-літаратурных дакументаў, якія датычаць літаратурнага працэсу на Беларусі. Але адбывалася інакш: літаратуразнаўцы пераказвалі (часам з памылкамі) прачытанае з даўніх выданняў пра паэтаў і пісьменнікаў, мастацкія тэксты адаптоўвалі да вымогаў цэнзуры і чытача; нармальная тэксталагічная праца звычайна не вялася.

Праўда, цягам XX стагоддзя шмат было зроблена: выяўлена ў бібліятэках і архівах аграмадная колькасць матэрыялаў, якія хоць і не апублікаваныя, але ў пераказах уведзены ў навуковы ўжытак. Урэшце, мы маем грунтоўныя *Пачынальнікі* Генадзя Кісялёва[1]. Што датычыць мастацкіх тэкстаў, дык трэба прызнаць, што хрэстаматыі і анталогіі XX і XXI стст. даюць адно прыблізнае ўяўленне пра даробак літаратараў Беларусі XVIII–XIX стст.[2]. Зрэшты, усе яны прызначаліся для шырокага чытача (студэнцкае аўдыторыі), а таму не маглі быць навуковымі. Фактычна, навуковым выданнем літаратурных тэкстаў XVIII–XIX стст. у нас ніхто не займаўся (як выключэнне – спроба

[1] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, Мінск 1977, 544 с.; 2-е выд., Мінск 2003, 549 с.

[2] Укладальнікі хрэстаматый па беларускай літаратуры XVIII–XIX стагоддзяў рэдагавалі і адаптоўвалі тэксты. Так было ў першай палове XX стагоддзя: *Хрыстаматыя беларускае літэратуры: XI век – 1905*, Вільня 1922 (М. Гарэцкі), *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1940 (В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская), *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1950 (В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская). Не змянілася сітуацыя і пазней: *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1956 (В. Барысенка), *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971 (С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша), *Беларуская дакастрычніцкая драматургія*, Мінск 1978 (С. Лаўшук), *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1988 (А. Лойка, В. Рагойша). У XXI ст. колькасць хрэстаматый павялічылася, але прынцыпы падрыхтоўкі тэкстаў засталіся ранейшыя: *Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў: Зборнік тэкстаў*, Мінск 2000 (М. Хаўстовіч), *Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 2000 (К. Цвірка), *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, Мінск 2001 (У. Казбярук), *Беларуская літаратурная спадчына: Анталогія,* у дзвюх частках, кніга першая, Мінск 2011 (С. Курбанава, А. Суша, Г. Галенчанка, В. Русак, І. Зайцаў, П. Лапо), *Літаратура першай паловы XIX стагоддзя: Залатая калекцыя беларускай літаратуры*, т. 3, Мінск 2012 (М. Хаўстовіч), *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя,* частка 1: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры*, т. 4, Мінск 2013 (Л. Кісялёва, Н. Сенкевіч), *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя,* частка 2: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры*, т. 5, Мінск 2013 (Л. Кісялёва, Н. Сенкевіч), *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, Мінск 2013 (К. Цвірка, І. Шпакоўскі, К. Антановіч).

Юрася Пацюпы тэксталагічнага апрацавання *Тараса на Парнасе* і *Двух д'яўлаў*[3]). Як ні дзіўна, але нават беларускамоўныя тэксты акрэсленага перыяду так і не дачакаліся навуковай публікацыі: творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча ўсё яшчэ друкуюцца ў серыі "Літаратурна-мастацкіх выданняў" (хоць часам шмат у чым адпавядаюць, заўважым, параметрам навуковай падачы матэрыялу).

Дадзены том нашага выдання (якое плануецца як штогоднік), не прэтэндуючы на вычарпальнасць, знаёміць чытача з пяццю літаратарамі, што стаялі ля вытокаў новай беларускай пісьменнасці. Чацвёра з іх – Францішак Рысінскі, Ян Баршчэўскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Ялегі Пранціш Вуль – нязменна акцэнтавалі сваё беларускае паходжанне (ва ўсякім разе так характарызавалі іх сучаснікі), а Ігнацы Быкоўскі, народжаны на Міншчыне, традыцыйна падкрэсліваў сваю ліцвінскасць.

Мы зыходзім з прызнання таго факту, што беларуская літаратура XVIII–XIX стст. – гэта літаратура ў сваёй аснове шматмоўная. Нацыянальная рэканструкцыя літаратурнага працэсу ў Беларусі дыктуе толькі такое яго разуменне. А таму толькі ўсебаковае вывучэнне літаратуры эпохі (у тым ліку і кантактаў з суседзямі) дазволіць адказаць на пытанні, якія немагчыма высветліць, калі мы будзем даследаваць беларускамоўную складковую гэтага працэсу. Даўно прыйшоў час адмовіцца ад заганнае практыкі падзелу літаратараў на "сваіх" і "чужынцаў". Наколькі больш простай аказалася б атрыбуцыя беларускіх ананімных тэкстаў, каб мы не вырывалі іх з кантэксту, каб вывучалі не толькі асаблівасці ўзнікнення беларускамоўных твораў, але ведалі літаратурную сітуацыю ўвогуле.

Аднак творчасць многіх літаратараў Беларусі не аналізуецца нават у найноўшых даследаваннях. Так, напрыклад, Ф. Рысінскі ўсяго толькі згадваецца ў акадэмічнай *Гісторыі беларускай літаратуры* як магчымы аўтар верша *Лямант раскаханага*[4]. І гэта нягледзячы на тое, што У. Мархель уключыў адзін ягоны верш (у арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову) у анталогію *Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай*[5]; фрагменты іншых вершаў паэта вядомы па нарысе Рамуальда Падбярэскага *Беларусь і Ян Баршчэўскі*. І папулярнасць ягонай паэзіі ў першай палове XIX ст., і ейны высокі мастацкі ўзровень вымагаюць вяртання яе ў беларускі літаратурны кантэкст.

Таксама і І. Быкоўскаму ў названай *Гісторыі* месца не знайшлося (праўда, Г. Кісялёў у *Хроніцы літаратурнага жыцця Беларусі другой паловы XVIII–XIX ст.* двойчы згадвае пісьменніка: а менавіта тое, што ў 1790 г. у Мінску выйшаў у свет ягоны філасофска-этычны трактат і што ў 1819 г. літаратар памёр[6]). Але ж яшчэ ў 1980-м годзе Адам Мальдзіс у даследаванні *На скрыжаванні славянскіх традыцыі* ўпэўнена далучаў творчасць І. Быкоўскага да шматмоўнай літаратуры Беларусі[7]. І толькі ў апошні час з'явіліся публікацыі Ганны Гладковай, прысвечаныя спадчыне пісьменніка. Беларускія пераклады паэзіі, прозы і драматургіі літаратара пакуль яшчэ не друкаваліся. Але яны з часам з'явяцца, а таму карысным для перакладчыкаў будзе бібліяграфія твораў І. Быкоўскага.

---

[3] К. Вераніцын, *Тарас на Парнасе: Паэмы*, Мінск 2009, 79 с.

[4] *Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII – XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 99–100.

[5] *Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX ст.*, Мінск 1998, с. 446–449.

[6] *Гісторыя беларускай літаратуры...*, с. 505, 510.

[7] А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII – XVIII ст.*, Мінск 1980, с. 15, 231, 232, 242, 260, 295.

Ф. Рысінскі і І. Быкоўскі – пісьменнікі канца XVIII – пачатку XIX ст. – адыгрывалі важную ролю ў літаратурным працэсе беларускіх зямель. Вяртанне іх спадчыны дазволіць больш грунтоўна пазнаць культурнае жыццё ў краі як таго часу, так і пазнейшае эпохі. Вядома, насцярожанае стаўленне значнае часткі беларускіх савецкіх навукоўцаў да польскамоўнага даробку літаратараў Беларусі запавольваў і запавольвае яшчэ і сёння ўвядзенне яго ў агульнабеларускі дыскурс. Але найбольш адмоўнае значэнне мела ігнараванне ўсяго іншамоўнага, што друкавалася на беларускіх землях, беларускімі перакладчыкамі. Нягледзячы на тое, што яшчэ ў 1960-я гг. А. Жураўскі і А. Булыка сцвярджалі, што "ўяўляецца апраўданым беларускімі кнігамі лічыць тыя выданні, якія ажыццяўляліся беларусамі і прызначаліся для распаўсюджвання сярод беларускага насельніцтва незалежна ад таго, дзе яны ствараліся і на якой мове друкаваліся"[8], іншамоўныя кнігі працягвалі "не заўважацца", а беларускія пераклады (бо толькі так яны маглі быць уключанымі ў працэс асэнсавання) з'явіліся толькі напрыканцы 1980-х – пачатку 1990-х гг.

У адрозненне ад Ф. Рысінскага і І. Быкоўскага Яну Баршчэўскаму "пашанцавала": асобныя яго тэксты перакладаліся і друкаваліся ад пачатку XX ст. у перыёдыцы і хрэстаматыях, а з 1990 г. выйшла ў свет сем кніжных выданняў ягоных твораў агульным накладам больш за 70 тыс. асобнікаў. Аднак, нягледзячы на тое, што творы пісьменніка занялі сталае месца ў школьнай праграме, матэрыялаў пра ягонае жыццё і творчасць апублікавана вельмі мала. А таму ўяўляецца надзвычай важным знаёмства з дакументамі Полацкай езуіцкай акадэміі, якія дазваляюць больш дакладна акрэсліць год нараджэння Я. Баршчэўскага. У далейшым плануем публікацыю іншых матэрыялаў: маладомых тэкстаў паэта (польскамоўных вершаў, баладаў, санетаў), прыжыццёвых рэцэнзій на ягоныя творы і інш.

Арцёма Вярыгу-Дарэўскага добры знаўца беларускай літаратуры Рамуальд Зямкевіч называў другім (пасля В. Дуніна-Марцінкевіча) найбольш значным літаратарам XIX ст. Праўда, навукоўцы XX ст. звычайна невысока ацэньвалі ягоны талент: беларускамоўныя вершы, што захаваліся, не дазвалялі змясціць паэта на вяршынях беларускага Парнаса. А таму толькі нядаўна з'явіліся пераклады польскамоўных твораў, поўныя версіі беларускамоўных вершаў (аднак транслітараваныя з лацінкі на кірыліцу і адаптаваныя). Прыйшоў час пазнаёміць навуковую грамадскасць з усёй захаванай спадчынай пісьменніка, каб актывізаваць пошук страчаных рукапісаў. Бо часам вывучэнне нават вядомых архіўных дакументаў дазваляе выявіць невядомыя тэксты. Немалаважнае значэнне мае і публікацыя архіўных матэрыялаў, якія апавядаюць пра ўдзел А. Вярыгі-Дарэўскага ў арганізацыі паўстання ў 1863 г. на Віцебшчыне. Тым больш, што асобныя гісторыкі называюць яго ідэйным кіраўніком віцебскіх інсургентаў. Варта прыгледзецца да лёсу дачкі літаратара, якая, пакінуўшы ў сярэдзіне 1890-х гг. Іркуцк, пераехала ў Парыж. Можа, менавіта там трэба шукаць неапублікаваныя творы А. Вярыгі-Дарэўскага?

Шэраг дакументаў, якія датычаць пісьменніка, апублікавана ў зборніку *Пачынальнікі*, але ўсё ж значная іх частка ўсё яшчэ знаходзіцца на архіўных паліцах. У дадзены том уключаны ўсе вядомыя сёння літаратурныя творы паэта (арыгіналы падаюцца без транслітарацыі і адаптацыі паводле першакрыніцаў; да асобных польскамоўных тэкстаў падаюцца пераклады на беларускую мову), непублікаваная карэспандэнцыя і інш.

---

[8] *Книга: Исследования и материалы*, сб. XIV, Москва 1967, с. 105.

Доўгі час Ялегі Пранціш Вуль (Элегі Францішак Карафа-Корбут) у гісторыі беларускае літаратуры пазіцыянаваўся як аўтар аднаго верша, мастацкія асаблівасці якога прыцягвалі ўвагу. Але толькі ў апошні час з’явіліся сцверджанні, што версіфікацыйнае майстэрства паэта нагадвае асаблівасці творчай манеры аўтара *Тараса на Парнасе* і *Двух д’яўлаў*. Дадзеная гіпотэза патрабуе руплівага пошуку, аналізу ўсяго культурнага жыцця Віцебшчыны сярэдзіны XIX стагоддзя. На жаль, падобная праца раней амаль не вялася (фактычна, апрача Г. Кісялёва, толькі спарадычна іншыя навукоўцы даследавалі віцебскі Парнас[9]). Сённяшнія даследаванні прынеслі пэўныя вынікі: да беларускамоўнага і польскамоўнага вершаў з *Альбома* А. Вярыгі-Дарэўскага дадаліся яшчэ два польскамоўныя тэксты; карэспандэнцыя літаратара папоўнілася яшчэ адным лістом; уважлівае прачытанне матэрыялаў следства дазваляе выказаць думку, што паэт і ягоны брат Вільгельм бралі ўдзел у сутычцы з царскім войскам ля фальварка Пагосцішча; знаёмства з успамінамі былых інсургентаў дапамагло “знайсці” Ялегі Пранціша Вуля ў Сібіры.

Як бачна з апошніх знаходак, віцебскі літаратар напрыканцы 1850-х – напачатку 1860-х гг. актыўна шукаў кантактаў з рэдактарамі і выдаўцамі і, трэба думаць, мог няраз выступіць у друку пад псеўданімам, які мы ведаем, а таксама пад нейкім іншым. Пакуль не выяўлена таксама аніякіх дачыненняў Ялегі Пранціша Вуля з польскімі перыядычнымі выданнямі 1870–1880 -х гг. Але нельга паверыць у тое, што таленавіты паэт і публіцыст пасля сібірскае высылкі страціў цікавасць да друкаванага слова, да магчымасці выявіць свой дар, які яскрава выявіўся ў маладыя гады.

Наша публікацыя – гэта спроба падрыхтаваць базу для навуковага выдання помнікаў беларускай пісьменнасці XVIII–XIX стст., а таксама зборнікаў матэрыялаў пра лёс як саміх пісьменнікаў, так і іхніх твораў, што, будзем спадзявацца, некалі ў нас з’явяцца.

---

9 Напрыклад, гісторык Людміла Хмяльніцкая зусім нядаўна выявіла ў архівах шматлікія матэрыялы пра Аляксандра Рыпінскага: радавод Рыпінскіх ад XVI ст., дакументы пра фотаатэльe паэта ў Віцебску, звесткі пра ягоную жонку Ксавэрыю Рыпінскую, метрычны запіс аб смерці літаратара.

# ПЕРЫПЕТЫІ ЛЁСУ ВІЦЕБСКАГА ПАЭТА

### Праблемы атрыбуцыі макаранічных вершаў

У *Хрыстаматыі беларускае літэратуры* Максім Гарэцкі змясціў два тэксты, якія назваў макаранічнымі вершамі з XVIII ст.:

На старонцы 73:

Яко ценцерук у лесе балбоча,
Так мое сэрцэ до цебе сакоча!
Ні верашчака, келбаса, сялянка,
Ніц мі не міло без цябе, каханка!
Рве сен мэ сэрцэ, як гуж у хамуце,
Кеды пшыядэн і сёндэн на куце!
Ды ўжо-ж насохся, як лапаць у печы, –
Горкая доля... А хто-ж мен улечы?

І на старонцы 74:

За пенкнай паненкай аж душа сумуе,
Як тая зязюля, жаласна кукуе.
Як ня бачу панны, жыцце мне – магіла,
Бардзо болі глова, уцякае сіла.
Дам я тобе зэгар, а велькі, як рэпа, –
Нех пры твоім сэрцы заўшэ моцна клепа,
Хай наўпамінае, цо я ці поведзіл,
Што і ўдзень і ўночы неспокойне седзел... [10]

У гэтай жа хрэстаматыі ёсць і *Пінская шляхта* В. Дуніна-Марцінкевіча[11] з вядомым рамансам Куторгі:

Рвецца маё сэрца да красьненькай розы,
Быццам пры калёсах атоса із лозы.
Па панне Мар'яне душа ўся сумуе,
Быццам бы зюзюля жалосна кукуе.
Як ня бачу панны, жыцце мне – магіла,
Галоўцы цяжэнька, уцякае сіла.
Ой, высах я, высах, як лапаць у печы,
Горка-ж мая доля, хто ж мяне улечи?
Як цетраў ў лясочку жаласна балбоча,
Так маё сардэнька да панны сакоча.

---

[10] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 73–74.

[11] Дарэчы, гэта другая публікацыя твора В. Дуніна-Марцінкевіча, ажыццёўленая, відавочна, паводле газеты „Вольная Беларусь" (1918, №№ 30–31), з якою супрацоўнічаў М. Гарэцкі.

Ні верашчка, каўбасы, дзялянка –
Нішто не смакуе без цябе, каханка!
Дам табе я зэгар вялікі, як рэпа,
Няхай ён пры сэрцы крэпка тваім клепа
Ды напамінае, як цяжка я ною,
І ні ў дзень, ні ў ночы ня маю спакою...

У каментары да гэтага рамансу М. Гарэцкі пазначыў: „Параўнаваць з польска-беларускімі вершамі 18-га веку”[12]. На жаль, складальнік не пазначыў, адкуль ім узятыя „польска-беларускія вершы 18-га веку”. Відавочна, не з *Пінскае шляхты*, а з нейкае іншае крыніцы.

На выхад *Хрыстаматыі* адгукнуўся знаны аматар беларускай літаратуры, бібліяфіл і публіцыст, і адначасна агент II аддзела Генеральнага штаба Польскага войска (дэфензівы) Рамуальд Зямкевіч. У артыкуле *Гутаркі аб беларускай літаратуры* ён, па-першае, запярэчыў таму, што макаранічныя вершы М. Гарэцкі датуе XVIII стагоддзем, па-другое, верш *Яко ценцерук у лесе балбоча* назваў творам „польска-беларускага вершапісца Аношкі, каторы пісаў у пачатку XIX сталецьця”, па-трэцяе, верш *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* прыпісаў пяру „невядомага аўтара з Дзісеншчыны, не пазнейшы за 1820 год”[13].

На артыкул Р. Зямкевіча М. Гарэцкі не адрэагаваў, не паправіў (можа, не пагадзіўся з заўвагамі крытыка?) свой тэкст у выданнях *Гісторыі беларускае літэратуры*, хоць пэўныя дачыненні з Р. Зямкевічам падтрымліваў: у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве захоўваюцца тры выданні *Гісторыі* з асабістай бібліятэкі Р. Зямкевіча (Вільня 1920, Масква–Ленінград 1924, Менск 1926). Прычым, выданне 1926 г. – з дарчым подпісам М. Гарэцкага: „*Глыбокапаважанаму дз. Ромуальду Земкевічу. 15.XI.1926 г. М. Гарэцкі*”.

У другой палове XX ст. вышэйзгаданыя вершы „апынуліся” ў беларускіх хрэстаматыях пад прозвішчам Аляксандра Рыпінскага. Справа ў тым, што ў кнізе *Беларусь*, выдадзенай ў Парыжы ў 1840 г. А. Рыпінскі падаў адзін з гэтых тэкстаў, як ён называе, „беларуска-вашэцяга макаранізму, які вельмі падобны на пальшчызну нашых мяшчан”:

Jako cięcieruk, u lesie bałbocze:
Tak moje serce – do ciebie sakocze!
Ni wereszczaka! – kiełbasa! – sielanka! –
Nic mi nie miło! – bez ciebie! – kachanka!...
Rwie się me serce! – jak taja atosa:
Kiedy targają preklęta kalosa!...
Rwie się me serce – jak huż u chamucie!..
Kali pryjadę i siądę na kucie.
Da ŭżoż nasoch sia! – jak łapeć na pieczy!...
Horkaja dola!,.. a któż mię poleczy?!...[14]

Два дадатковыя радкі ў А. Рыпінскага (у адрозненне ад М. Гарэцкага), відаць, далі права складальнікам хрэстаматыі 1971 года прыпісаць твор самому А. Рыпінскаму[15]

[12] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя...*, с. 158.
[13] Р. Зямкевіч, *Гутаркі аб беларускай літаратуры*, „Новае жыццё” 1923, № 1.
[14] A. Rypiński, *Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji; o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc.*, Paryż 1840, s. 202–203.
[15] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 102–103, 349–350.

(хоць ён у сваёй кнізе выразна пазначае, што адно толькі ведае яго). Ды яшчэ, узяўшы верш *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* з *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага, падаць яго як твор усё таго ж А. Рыпінскага з *Беларусі*[16].

І нават у другім выданні *Хрэстаматыі* (1988) складальнікі фактычна не ўлічылі заўвагу А. Мальдзіса[17]: вершы ўсё адно прыпісваюцца пяру А. Рыпінскага, праўда, са спасылкаю на інфармацыю Р. Зямкевіча[18]. Аўтарытэтнае і найбольш поўнае выданне[19] беларускіх тэкстаў XIX ст., такім чынам, сцвярджае аўтарства А. Рыпінскага.

Аднак ужо ў 90-я гг. XX ст. можна было не даць веры гэтай *Хрэстаматыі*, бо ў Варшаўскім Галоўным Архіве Акт Даўніх (sygn. 725) Я. Янушкевічам быў выяўлены *Раптуляр Дароты Даманавічоўны* з другой паловы XVIII ст., у якім змешчаны верш *Kąnkuręcya pewnego hajduka do praczki*:

Jak cietrew siedząc w Jelniczku bałbocze
tak moie serce do ciebie sakocze.
Serce moie rwietca własnie jak atosa,
gdy zacznie targać praklęta kalosa.
Choć wieraszczaka, kiłbasy dzieląka
y ta niesmaczna bez ciebie, kochanka.
Hdzież Ty prepadła mnie ruciwszy w smutku,
Czy Prachi wzięli, czy hdzie siedzisz w kutku?
Jastrąb letaiąc w kibciach swoich tryma
Ptaszku zławlonu, a drugi odnima.
Biedne moie serce w kaławrocie chodzi,
bez mey kochanki nichto nie ochłodzi.
I dziergun smutny na wiosnu dzierguie,
Samiczku wabiąc ziazulka kukuie.
Ach, y mnie ciężko na sercu skrabuie
Po mym serdęku szto wżo niewiduie.
Biednie Ja ciepier iak wiłk zawsze wyie,
zgubił wilczycu, a sam nudu piie.
Wysuszyłeś mnie jak skibku na grędzie,
Kiedy ż me serce smutku pozbędzie.
Wiedaysz ciepier co będzie dziełaci,
zapręgszy kania poiedu szukaci.
Po całym swiecie do moiey kochanki,
Jest u niey czuha y czarne obaranki.
Ja wżoż nasochsia, jak łapać na pieczy,
horkaja dola chtoż mianie poleczy.
Rwutca maie żyły, jak huży w chamucie,
kiedy ż przybędziesz y siądziesz na kucie.
Do yry [?] na ynteres wielkiu sprawu maju,
Ja serdecznie ku tobie spryiaiu.
Asłyca wielkim zawsze krągam chodzi,
Precie ż z tesknicy serce nie wybrodzi.
Mięsiąc złacisty w nocy przeswiacuie,

[16] Нават дасведчаныя гісторыкі літаратуры, давяраючы *Хрэстаматыі*, няраз паўтаралі гэтую памылку складальнікаў.
[17] А. Мальдзіс, *Плён аднаго стагоддзя*, „Полымя” 1971, № 10, с. 223.
[18] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя*, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 457.
[19] Перадусім, да выхаду ў свет 3–5 тамоў *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* (2012–2013).

A ia kochanki nigdy nie widuie.
Y Gwiazdy swiacuia nieba nieposępna,
kiedy ż kochanka nie jest przystępna.
Niedzwiedziu, wiłku, rysiu y wiepru dziki
w swoiey zesknicy nie maiuć praktyki.
Choć srogie i mocy y siardzity lewu
nigdy na niedolu swego niema gniewu.
Bo choć odnidzie, zaraz głosem kryczy
y swoiey samiczki kochanki prikliczy.
A ia ciężko biedney wołam krykiem płaczę,
a moiey kochanki nigdy nie obaczę.
Smutku moy gorki, patr, jak ciebie lublu.
Kiedy nie przybędziesz, to siebie zahublu.
Prinamniey pohladz, pokul żytcia stoyć,
a kiedy pomre, to sie będziesz boyć.
Zatym za more poleciał szyrokie,
że bym miał skrydła szukać choć hłybokie.
A tam znaszodszy nizki pokłon daię,
bo twoym szczyrym prawdziwym zostaię[1].

Тут мы маем і 10 радкоў верша *Плач пакінутага каханай* (дакладней: *Ляманту закаханага*) з *Беларусі* А. Рыпінскага, і 8 радкоў гэтага ж верша з *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага. І можам сцвердзіць: Р. Зямкевіч памыляўся, датуючы верш XIX ст., і памыляліся ўкладальнікі *Хрэстаматыі*, прыпісваючы вершы (фрагменты вершаў?) А. Рыпінскаму.

Як мы ўжо згадвалі, верш (фрагмент верша?) *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* цалкам (праўда, у крыху змененым выглядзе) выкарыстаў В. Дунін-Марцінкевіч у рамансе Куторгі. Цікава тое, што гэты верш, здаецца, анідзе больш у друкаваных крыніцах не сустракаецца. Такое ўражанне, што М. Гарэцкі вылучыў яго з *Пінскае шляхты*, хоць каментар гісторыка літаратуры і пярэчыць гэтаму.

Што датычыць аўтарства вышэйзгаданых тэкстаў, то анічога пэўнага на сённяшні дзень невядома. Але нашу ўвагу прыцягнула гіпотэза У. Мархеля: аўтарам „макаранічных беларуска-польскіх мініяцюр” *Плач пакінутага каханай* і *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* трэба лічыць Францішка Рысінскага. Прычым, вядомы гісторык літаратуры няраз гэта паўтараў. Праўда, сваю аргументацыю даследчык не раскрывае.

А таму паспрабуем пашукаць кропак судакранання Ф. Рысінскага з макаранічнымі вершамі XVIII ст. Гэтыя “кропкі” могуць быць і ў фактах біяграфіі паэта з Віцебска, і ў паэтыцы ды стылістыцы тых вядомых сёння ягоных твораў, ягонай спадчыне, а гэта крыху больш за 700 вершаваных радкоў, напісаных з даволі высокім версіфікацыйным майстэрствам.

Але спачатку – пра самога Ф. Рысінскага.

## Спроба біяграфіі

Нарадзіўся Ф. Рысінскі на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Рэчы Паспалітае ў маёнтку Рындзяны[2] Веліжскага павету. У першай палове XVIII ст. Рындзяны былі

[1] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, укл. У. Мархель, Мінск 1990, с. 204–205.
[2] Напісанне назвы маёнтка ў розных крыніцах падаецца па-рознаму: Рындзяны (*Słownik Geograficzny*); бацька паэта названы „старостам рындзуньскім” (T. Żychliński, *Złota księga szlachty polskiej*). Сёння –

ў складзе г. зв. „starostwa niegrodowego”[1], размешчанага ў Віцебскім павеце Віцебскага ваяводства. Паводле Літоўскае метрыкі ў 1702 г. да гэтага староства належалі вёскі Рудня ля рэчкі Кляжа, Альсочын, Узке, Нягоўле, Жандне і Асіноўская[2]. Напачатку староства было ва ўласнасці Немалаковіча, пасля Рыпінскіх, Агінскіх, а ў 40-я гг. XVIII ст. перайшло да Рысінскіх. Перадусім, калі 8 кастрычніка 1746 г. Пётр Рысінскі, гербу Лешчыц, браў шлюб з Ёаннаю Пакаш, дык ужо тытулаваўся старостам рындзуньскім[3]. Нейкіх іншых звестак пра род Рысінскіх выявіць не ўдалося, мы не ведаем, ці быў гэты род пароднены з родам славутага беларуса Саламона Рысінскага і родам Андрэя Рысінскага, пратэстанта, аўтара кнігі *Satyr na twarz dworska* (датуецца 1640 годам)[4].

А вось генеалогія роду Пакашаў, гербу Праўдзіч, прасочваецца ад сярэдзіны XVII ст. Пачынальнікам роду лічыцца Уладзіслаў Пакаш-Эаліяшэвіч, суддзя упіцкі. Яго праўнук Юзаф Пакаш ажаніўся ў 1722 г. з Тарэзаю Дэспат-Зяновіч, дачкою падкаморага полацкага і старосты шнітаўскага. Памёр ён ў 1747 г. у Журах, пакінуўшы трох сыноў і чатырох дачок, адна з якіх, Ёанна (прыкладна 1728 г. нараджэння), была выдадзена замуж за Пятра Рысінскага[5].

Год нараджэння Францішка Рысінскага мы дакладна не ведаем. У беларускіх энцыклапедыях звычайна гаварылася пра другую палову XVIII ст. Д. Самборска-Кукуць, на падставе даты шлюбу бацькоў паэта (8.10.1746) сцвярджае наступнае: „Прыйшоў на свет ў сярэдзіне XVIII ст. (пасля 1846 г.)”[6]. Але, думаецца, можна даць больш веры інфармацыі Г. Кісялёва: у выяўленай беларускім даследчыкам справе канцылярыі Полацкага намесніцтва 1783 г. пра службу мясцовых чыноўнікам згадваецца засядацель[7] ад шляхты ў Другім дэпартаменце Верхняга земскага суда надворны саветнік (з 1780 г.) Ф. Рысінскі, якому было ў той час 34 гады. А г. зн., робіць выснову Г. Кісялёў, нарадзіўся паэт у 1749 г.[8].

Гадаваўся Францішак Рысінскі ў адным з бацькоўскіх маёнткаў, хутчэй за ўсё – у Рындзянах. Менавіта гэты маёнтак, паводле прывілею караля Рэчы Паспалітае Станіслава Аўгуста Панятоўскага ад 13 лютага 1768 г., Ёанна Рысінская ўступіла Францішку Рысінскаму, „які з яго аплачваў кварту (2075 злотых) і гіберну (230 злотых)”[9]. Дадзены прывілей сведчыць, што Пятра Рысінскага ўжо не было ў жывых, а маёмасцю распараджалася маці паэта. Цікавы гэты дакумент яшчэ і тым, што ў ім называецца апошняя пасада Пятра Рысінскага – стражнік віцебскі. А гэта азначае, што маладыя

гэта вёска Рындзіна (Рындино) Усвяцкае воласці Усвяцкага раёна Расійскае Федэрацыі. У XIX ст. Рындзяны ўваходзілі ў склад Узноўскае гміны Веліжскага павету.

[1] Каралеўскія маёнткі, перададзеныя каралём у карыстанне (арэнду) за пэўныя заслугі перад дзяржаваю. Уладальнік (староста) мусіў плаціць падатак – кварту (чацвёртая частка прыбытку маёнтка, якая прызначалася на ўтрыманне г. зв. кварцянага войска) і гіберну (грашовы падатак, належны з падданых каралеўскіх маёнткаў).

[2] На сённяшняй карце Усвяцкага раёна Пскоўскай вобласці ўдалося адшукаць наступныя населеныя пункты: Рындзіна, Рудня, Кляжы, Узкае, Жабіна.

[3] T. Żychliński, *Złota księga szlachty polskiej*, Poznań 1882, t. 4, s. 217.

[4] G. Korbut, *Literatura polska*, Warszawa 1929, t. I, s. 434.

[5] T. Żychliński, *Złota księga...*, s. 217.

[6] D. Samborska-Kukuć, *O Franciszku Rysińskim, nieznanym poecie z Witebska*, „Wiek Oświecenia” 2007, s. 190.

[7] Так паводле наменклатуры расійскіх афіцыйных дакументаў. У даўняй беларускай традыцыі – асэсар.

[8] Г. Кісялёў, *Францішак Рысінскі – паэт і памешчык* [у:] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва. Каліноўскі – эпоха – наступнікі*, Мінск 1994, с. 232.

[9] *Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, Warszawa 1889, t. X, s. 103.

гады Францішка маглі быць звязаны і з Віцебскам. Перадусім, у Віцебску ён мог атрымаць адукацыю.

Службу ў расійскай адміністрацыі Ф. Рысінскі пачаў у 1780 г. у якасці засядацеля Другога дэпартамента Верхняга земскага суда Полацкага намесніцтва, маючы чын надворнага саветніка (чыноўніка VII класа, у вайсковай службе – падпалкоўніка). Заўважым, што кіраваў гэтым Дэпартаментам стацкі саветнік Пётр Багамолец, а засядацелямі разам з Ф. Рысінскім былі надворныя саветнікі Мікалай Шышка, Юзаф Шадурскі, Якуб Косаў, Казімір Жаба[1]. Цікава, годам раней у гэтым самым Дэпартаменце служылі: старшыня – стацкі саветнік Пётр Багамолец, засядацелі – Юзаф Шадурскі, камергер Польскага двара, Казімір Жаба, былы лоўчы віцебскі, Ануфры Гласка, падпалкоўнік польскае службы, Мікалай Шышка, былы канюшы ліфлянцкі, Якуб Косаў, былы староста чарніцкі[2]. Як бачым, Ф. Рысінскі ў 1780 г., маючы трыццаць адзін год ад нараджэння, заняў пасаду засядацеля, з якой выбыў падпалкоўнік польскае службы Ануфры Гласка. Калі б гэта адбылося на год раней, мы ведалі б пасаду ці тытул Ф. Рысінскага „дарасійскага перыяду". Справа ў тым, што якраз у 1780 г. расійская адміністрацыя[3] вырашыла надаць сваім новым грамадзянам, былым урадоўцам Рэчы Паспалітае, расійскія чыны, дастасоўваючыся да іх папярэдніх заслуг. Вось як пра гэта піша ў сваіх успамінах Гаўрыла Дабрынін: „Государыня-императрица приказала главнокомандующему Белоруссіею, графу Чернышеву, подать к себе список всех служащих по выбору от дворянства, новых своих подданных, и пожаловала их чинами тех степеней, какія они, по выбору, зауряд занимали. Таким образом, не одному хоронжему, или простому шляхтичу досталось в ранг подполковника, то-есть в надворные советники. Забавно было слышать, как многіе из пожалованных, непривыкшіе к чинам россійским, приходя в наместническое правленіе, спрашивали нас, служащих: «что такое титулярной советник? что такое надворной советник?» «Я был – один говорит – подстолій», другой: «мостовничій»... «коморник ржечицкій».... «мечник стародубовскій».... «реент ошмянскій»... и проч. «За что у нас вычитают из жалованья, ежели нас подарили чинами?» и проч.; а председатель верхней расправы г. Курчь предлагал на разрешеніе каждому, кто хотел его слушать: «говорят, что я в ранге подполковника. Где-ж мой полк?»"[4].

Можна дапусціць, што Ф. Рысінскі да 1772 г. або меў уласны тытул (ці пасаду), напрыклад, староста рындзянскі[5], або тытулаваўся стражнікoвічам віцебскім (як сын былога стражніка віцебскага). Толькі ў гэтым выпадку ён мог атрымаць чын надворнага саветніка.

На пасадзе засядацеля Другога дэпартамента Верхняга земскага суда Ф. Рысінскі знаходзіўся нядоўга: ужо ў 1781 г. яго абіраюць дваранскім засядацелем Полацкага совеснага суда. І ён тры гады служыць разам з совесным суддзёй Янам Храпавіцкім,

---

[1] *Месяцослов с росписью чиновных особ в государстве на лето от рождества Христова 1781*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 259.

[2] Тое ж і годам раней. Адно што інакш называецца ранейшая (відавочна, да „воссоединения") пасада Пятра Багамольца: былы Галоўны суддзя Губернскага земскага суда.

[3] Дакладней, сама Кацярына II, што наведала Беларусь у маі 1780 г.

[4] Г.И. Добрынин, *Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим написанная. 1752–1827*, „Русская старина" 1871, т. 4, № 8, с. 116.

[5] Гэта найбольш верагоднае: калега-засядацель Якуб Косаў, былы староста чарніцкі, у 1780 г. атрымаў чын надворнага саветніка.

стацкім саветнікам, які раней тытулаваўся галоўным суддзёй Губернскага земскага суда, а таксама дваранскім засядацелям надворным саветнікам Мартынам Кубліцкім, які ў ранейшыя часы быў земскім суддзёй ліфлянцкім (у Совесным судзе былі яшчэ па два прадстаўнікі ад мяшчан і сялян).

У выяўленай Г. Кісялёвым справе канцылярыі Полацкага намесніцтва за 1783 г. маюцца звесткі пра маёмасны стан Ф. Рысінскага: ён меў маёнткі ў Віцебскім і Полацкім паветах [у Віцебскім павеце 268 душ мужчынскага полу, у старостве – 39[1], у Полацкім павеце – 748 душ, у Веліжскім (пэўна, у Рындзянах) – 1162 душы[2]].

Дадзеныя па Віцебскім павеце пацвярджаюцца „Спісам абшарнікаў-землеўласнікаў Віцебскага павета, колькасці іх вёсак і колькасці сялян у іх па рэвізіях 1772–1782 гг.”[3]. Адзначым, што Ф. Рысінскаму належалі вёскі Паўцава, Казімірава і інш. (усяго –12)[4], а ў Себежскім павеце – маёнтак Рукава (суседзямі паэта, заўважым, былі Дзяніс Фанвізін і Данат Жаброўскі[5]).

У шляхецкіх (дваранскіх) выбарах 1784 г. Ф. Рысінскі ці то не браў удзелу, ці то не быў абраны: яго няма ў спісах чыноўнікаў адміністрацыі Полацкага намесніцтва за 1785–1787 гг. А вось у 1787 г. яго абіраюць старшынёй Другога дэпартамента Верхняга земскага суда. Пад яго кіраўніцтвам у гэтую кадэнцыю ў Дэпартаменце служаць: Дамінік Храпавіцкі, князь Тамаш Агінскі (верагодна, Канстанцін Агінскі), Людвік Беніслаўскі, Антоні Рагоза, Вікенці Лускіна, Юзаф Грабніцкі[6].

У 1790 г. Ф. Рысінскі атрымлівае чын калежскага саветніка (чыноўніка VI класа) і яго зноў абіраюць старшынёй Другога дэпартамента Верхняга земскага суда. Прычым, практычна тыя ж самыя асобы зноў служаць у яго Дэпартаменце[7].

А вось у 1793 г. склад Дэпартамента крыху абнавіўся. Цяпер тут служаць: Ігнацы Кубліцкі, Вікенцій Багамолец, Людвік Верашчынскі, Алаіз Шантыр, Юзаф Грабніцкі[8]. Праўда, з нейкіх прычын у 1795 г. у Дэпартаменце з’явіліся Кліменці Васілеўскі, Ігнацы Корсак, Юзаф Старжынскі, але застаўся старшыня, сакратар Сямён Ульяноўскі

---

[1] Гаворка пра Караваенскае староства, якое ўзнікла на пачатку XVII ст. у Віцебскім павеце і складалася з вёсак Каравайна і Трубачы. Уладальнікамі былі: Федка Грышыніч, Аляксандар Галаўня (з 1605 г.), Фрыдэрык Сапега (з 1621 г.), віцебскі ваявода Самуэль Сангушка (з 1655 г.), пісар земскі віцебскі Адам Кісель (з 1692 г.), Стафан Косаў (з 1746 г.), які плаціў 282 злотыя кварты і 143 злотыя гіберны. У *Спісе* А. Супінскага пазначана, што Рысінскаму (імя не пададзена) належала ў 1782 г. вёска Трубачы з 39 душамі мужчынскага полу.

[2] Г. Кісялёў, *Францішак Рысінскі...*, с. 232.

[3] У 1772 г. Ф. Рысінскаму ў Віцебскім павеце належала 518 прыгонных, а ў 1782 г. – 540 (268 мужчыны і 272 жанчыны). Болей было толькі ў князя Ксаверыя Агінскага, кухмістра літоўскага, – адпаведна 2114 і 2153.

[4] А. Супінскі, *Прыгонная Віцебшчына. Нарыс* [у:] *Віцебшчына. Неперыядычны зборнік Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства*, Віцебск 1928, т. 2, с. 141. (Цікава, што аўтар гэтае працы, спасылаючыся на Полацкага архібіскупа Ясона Смагаржэўскага, сцвярджае, што падаткі на Беларусі пасля „воссоединения” павялічыліся ў дванаццаць разоў.)

[5] Гл.: Н. Меншов, *О генеральном межевании Себежского уезда*, “Призыв” 2009, № 58.

[6] *Месяцослов с росписью чиновных особ в государстве на лето от рождества Христова 1788*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 190. Юзаф Грабніцкі ў 1802 г. быў Полацкім паватовым маршалкам.

[7] *Месяцослов с росписью чиновных особ в государстве на лето от рождества Христова 1791*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 203.

[8] *Месяцослов с росписью чиновных особ в государстве на лето от рождества Христова 1794*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 327.

і засядацель Ігнацы Кубліцкі[1]. Пэўна, палітычныя падзеі крыху скалынулі структуры, куды выбіралі чыноўнікаў з мясцовае шляхты. Закранулі гэтыя падзеі і Ф. Рысінскага.

Калі падчас паўстання Т. Касцюшкі ў жніўні 1794 г. Міхал Агінскі прайшоў рэйдам па Віцебшчыне (захапіў Дынабург), дык расійскія вайсковыя ўлады, адказваючы на патрыятычны ўздым насельніцтва Беларусі, правяло шэраг карных аперацый, у выніку якіх за краты трапілі людзі, віною якіх было тое, што з'яўляліся тутэйшымі. Сярод іх апынуўся і Ф. Рысінскі. Праўда, хутка ён быў вызвалены, аднак не таму, што следчыя адкрылі памылку. Сябра Ф. Рысінскага Ігнацы Жаброўскі[2] знайшоў магчымасць паўплываць на губернатара – арыштаванага выпусцілі і дазволілі заняць ранейшую пасаду. Казімір Буйніцкі (1788–1878), які занатаваў гэтую гісторыю ў сваіх *Успамінах*, заканчвае яе наступным чынам: „[Рысінскі], чалавек багаты, бяздзетны, аддзячыў Жаброўскаму ягоную паслугу падарункам на вечнасць маёнтка ў Себежскім павеце, які меў 500 мужчынскіх рэвізскіх душ, дзе жыве сёння жонка таго Жаброўскага, удава"[3].

З часоў царавання Паўла I дайшоў цікавы дакумент, які гаворыць пра стаўленне Ф. Рысінскага да сялян. Упершыню яго выкарыстаў М. Клачкоў у кнізе *Очерки правительственной деятельности времен Павла I*. Апавядаючы пра маніфест Паўла I пра трохдзённую паншчыну ад 5.04.1797 г., расійскі вучоны прыводзіць прыклады, як сяляне рэагавалі на яго: „Беларускай губерні сяляне кал. сав. Рысінскага Прохар Трафімаў і Сцяпан Восіпаў падалі скаргу Гасудару на свайго пана «в отягощении их несносными работами и налогами», а пасля (у кастрычніку 1797 г.) з'явіліся да князя Куракіна і, «подтверждая неумеренные свои работы и налоги, объявили, что они от домов отлучились еще в генваре месяце без всякого вида, и о изданном от Вашего И. В-ва указе о работах на помещика не знали, теперь же, по объявлению им о том, соглашаются идти в домы, прося помилования в их дерзости». 11 кастрычніка цар меў ласку напісаць: «отпустить крестьян в домы их с листом и подтвердить им о должном повиновении своему помещику»"[4].

Следства па гэтай скарзе не праводзілася, а таму будзе няправільным сцвярджаць, што Ф. Рысінскі не вылучаўся з масы паноў асаблівым лібералізмам. Бо вядома, што напачатку царавання Паўла I, карыстаючыся шырокай магчымасцю падаваць скаргі (ля імператарскага палацу стаяла адмысловая скрынка, у якую кожны мог укінуць ліст-скаргу), шмат хто ў сваіх крыўдах імкнуўся знайсці высокага заступніка. Гісторыкі адзначаюць рост колькасці сялян-хадакоў. Ці не былі тыя сяляне Рысінскага шукальнікамі лепшае долі, што з надзеяю глядзелі на пачынанні „справядлівага" цара? Зрэшты, высокі дзяржаўны саноўнік мог і не ведаць, якімі „несносными работами и налогами" абцяжарвалі яго сялян аканомы. Усё ж не можам даць веры, што паэт-сентыменталіст у практычным жыцці быў жорсткі і несправядлівы.

Невядома, ці служыў Ф. Рысінскі пры Паўлу I. Пакуль выявіць неабходных дакументаў не ўдалося. А вось у першыя гады царавання Аляксандра I яго дакладна няма ў спісах чыноўнікаў расійскай адміністрацыі. (На чале Першага дэпартаменту Галоўнага суда Віцебскай губерні ў 1801–1803 гг. знаходзіўся Юзаф Заранэк, а Другога дэпартаменту – Тадэвуш Пятровіч Буйніцкі). І толькі ў 1804 г. Ф. Рысінскага абіраюць

---

[1] *Месяцослов с росписью чиновных особ в государстве на лето от рождества Христова 1796*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 341.

[2] Ігнацы Жаброўскі працяглы час служыў засядацелем Першага дэпартаменту Верхняга Земскага суда Полацкага намесніцтва. Пазней (да 1808 г.) быў падкаморым Дынабургскага павету.

[3] K. Bujnicki, *Pamiętniki (1795–1875)*, Kraków 2001, s. 32.

[4] М. Клочков, *Очерки правительственной деятельности времен Павла I*, Петроград 1916, с. 551.

старшынёй Першага дэпартаменту Галоўнага суда. (Выбыў датэрмінова Ю. Заранэк). У адрас-календары пазначана, што ён мае чын стацкага саветніка (V клас), а г. зн. да яго трэба было звяртацца „ваше высокородие”. Саветнікам пры Дэпартаменце служыць Цімафей Пуцімцаў, засядацелямі – Юзаф Старжынскі і Юстын Юрэвіч, а сакратаром – Фрол Мудровіч[1]. На выбарах 1805 г. Ф. Рысінскага зноў абіраюць на ранейшую пасаду. Саветнік і сакратар застаюцца ранейшыя, а засядацеляў абіраюць новых – Якуба Жабу і Пятра Косава[2]. У 1808 г. шляхта чарговы раз давярае Ф. Рысінскаму пасаду старшыні Першага дэпартаменту Галоўнага суда Віцебскай губерні. Нязменны Фрол Мудровіч застаецца на пасадзе сакратара, а вось засядацеляў абралі новых – Тамаша Пясецкага і Лявонція Крупеніка[3].

Пра эпізод з судовай практыкі Ф. Рысінскага можна даведацца з *Успамінаў* К. Буйніцкага. Так атрымалася, што першы выступ вясной 1809 г. у грамадска-палітычным жыцці свайго Дынабургскага павета будучы літаратар і выдавец мог закончыць фатальна: за выказаны пратэст[4] на павятовым сойміку К. Буйніцкі, а таксама „тры Плятэры і тры Жаброўскія[5]” былі аддадзены віцебскім губернатарам Сумарокавым[6] пад суд. На шчасце К. Буйніцкага, сярод арыштаваных былі Жаброўскія, якім спрыяў „старшыня Першага дэпартамента Галоўнага суда Рысінскі, чалавек справядлівы, разумны і вельмі паважаны губернатарам. Разгледзеўшы справу, ён пайшоў да губернатара і, прывітаўшыся, сказаў, што будзе іграць з ім камедыю. Здзіўлены Сумарокаў запытаўся пра прычыну гэтага жарту, але Рысінскі запэўніў яго, што кажа без жартаў і так патлумачыў: Пан аддаў пад наш суд сем абывацеляў, абвінавачаных у непадпарадкаванні вышэйшай уладзе, дык вось я прапаную, каб узяў на сябе на хвіліну ролю суддзі, а мне дазволіў рэпрэзентаваць вінаватых. Я буду бараніцца, а Вяльможны пан, выслухаўшы мяне, напіша дэкрэт, які я пасля ў Судовай палаце падпішу як старшыня Першага дэпартамента Галоўнага суда. Сказаўшы гэта, ён прачытаў наш пратэст, працытаваў законы і давёў, што ў нашым учынку не было нічога заганнага, бо права было за намі, а распараджэнне начальніка губерні было арбітральным і пярэчыла парадку, усталяванаму царскімі пастановамі. Сумарокаў зразумеў сваю памылку і адмяніў свой загад”[7].

Анічога больш не занатоўвае ў сваіх *Успамінах* К. Буйніцкі пра свайго выратавальніка. Невядома, ці ведаў ён пра паэтычныя захапленні Ф. Рысінскага, ці быў знаёмы з ягонымі творамі.

---

[1] *Месяцослов с росписью чиновных особ, или Общий штатъ Россійской Империи на лето Христово 1804*, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 20.

[2] *Месяцослов с росписью чиновных особ, или Общий штат Россійской Империи на лето Христово 1805*, часть вторая, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 273.

[3] *Месяцослов с росписью чиновных особ, или Общий штат Россійской Империи на лето Христово 1809*, часть вторая, в Санктпетербурге, при Императорской Академіи Наук, с. 388.

[4] Павятовы маршалак Геранім Аскерка, абраны ў 1808 г., на загад віцебскага цывільнага губернатара П. Сумарокава мусіў правесці новыя выбары суддзі і падсудка Павятовага суда на месца адхіленых і аддадзеных пад суд Яна Шрэдэрса і Юрыя Каменскага. Але асобныя дасведчаныя абывацелі заўважылі парушэнні з боку губернатара і смела заступіліся за пакрыўджаных.

[5] Былы падкаморы Ігнацы, Канстанцін і былы падсудак Юзаф. Апошні ў 1794 г. быў арыштаваны і трапіў разам з Ф. Рысінскім за краты.

[6] Гаворка пра Паўла Сумарокава (1767–1846), дзяржаўнага дзеяча і літаратара, пляменніка паэта Аляксандра Сумарокава. Спачатку ён служыў у гвардыі, пасля ў Міністэрстве юстыцыі; быў віцебскім цывільным губернатарам (з 1807 г.), пазней стаў сенатарам. Аўтар шэрагу кніг *Путешествие по всему Крыму и Бессарабии* (1800) ды інш., а таксама камедый *Зелёный корсет* (1805), *Модник* (1806), драмы *Марфа Посадница* (1807), прытчы *Орлы и скворцы* (1806).

[7] K. Bujnicki, *Pamiętniki...*, s. 98–99.

Год смерці Ф. Рысінскага ў энцыклапедыях і даведніках падаецца адвольна. Доўгі час гісторыкі літаратуры, узяўшы пад увагу паведамленне Р. Падбярэскага ў "Roczniku Literackim" („umarł przed kilkunastą laty"), са знакам пытальніка пісалі: „1830?". Д. Самборска-Кукуць, відавочна, на падставе гэтай жа інфармацыі прапануе іншы, больш ранні – „каля 1825". Аднак, думаецца, даследчыкі не ўлічылі нататкі *Карэспандэнцыя* X. D. у 149 нумары (5 кастрычніка) „Tygodnika Wileńskiego" за 1819 г. Як можна здагадацца па зместу публікацыі, Ф. Рысінскага ўжо ў той час не было сярод жывых.

Калі ж памёр паэт з Віцебска?

На нашу думку, год смерці паэта можна вылічыць ускосным чынам. У 1808 г. Ф. Рысінскі быў абраны чарговы раз старшынёй Першага дэпартамента Галоўнага суда Віцебскай губерні. У *Месяцослове* на 1809 г. гэта пацвярджаецца. А вось у наступным 1810 годзе гэтую пасаду займае Мікалай Ефімовіч. Можам дапусціць, што памёр паэт яшчэ да восені 1809 г. (часу складання адрас-календара на 1810 год). Зрэшты, ён мог быць, дзякуючы спрыянню губернатара Паўла Сумарокава пераведзены на больш высокую пасаду (але не ў Віцебскай губерні), або ў свае 60 гадоў пакінуць дзяржаўную службу і паехаць у адзін са сваіх маёнткаў.

## Францішак Рысінскі ў друку XIX–XX стст.

Упершыню пра Ф. Рысінскага як паэта ў друку напісаў нехта X. D. у 149 нумары газеты „Tygodnik Wileński" за 1819 г., публікуючы другую частку верша *Pod dobry humor do Kasi*. Аўтар допісу не мае інфармацый пра жыццё і творчасць паэта, але спадзяецца атрымаць іх. Ён адно называе Ф. Рысінскага беларускім памешчыкам, які напісаў шмат вершаў "з нагоды" – разумных і дасціпных. Невядома, ці X. D. сабраў звесткі пра паэта, але ў друку за яго подпісам яны не з'явіліся.

У 1828 г. пад прозвішчам „Рысінскі" ў варшаўскай газеце „Motyl" пад тытулам *Do Kasi* з'явіўся канцавы фрагмент верша *Pod dobry humor do Kasi*. Але аніякіх інфармацый пра аўтара тут не было.

Бясспрэчна, найбольш цікавымі з першых публікацый пра Ф. Рысінскага былі нататкі ксяндза Антонія Карніловіча, прэфекта Дынабургска-Краслаўскае школы. У трох нумарах часопіса „Dziennik Wileński" за 1830 г. ён апублікаваў дванаццаць вершаў паэта, а таксама падаў звесткі пра яго: па-першае, называе імя Рысінскага – Францішак, па-другое, акрэсліваецца пасада – „у Галоўным Віцебскім судзе прэзідэнт 1-га дэпартаменту", па-трэцяе, пацвярджаецца інфармацыя X. D. пра тое, што „пры сваім жыцці на Белай Русі карыстаўся славаю паэта", па-чацвёртае, вершы Ф. Рысінскі пісаў „лёгка" па-польску і па-расійску. Апошняе сцверджанне ксяндза А. Карніловіча выклікае пытанне: ці сапраўды па-расійску? Вядома, служачы ў расійскай адміністрацыі Ф. Рысінскі мог дасканала авалодаць расійскаю моваю (хоць факты сведчаць, што самі расійскія чыноўнікі, жывучы і працуючы ў „беларускіх губернях", імкнуліся вывучыць польскую мову). Можа, усё ж на беларускай гаворцы? Зрэшты, А. Карніловіч (ці рэдактар?) пазначыў „па-расійску", нават не „па-руску".

У тым жа 1830 г. Г. Клімашэўскі змясціў у „Noworoczniku Litewskim" пад прозвішчам „Рысінскі" верш *Do przyjaciela w smutku*. Відаць, тэкст твора ўзяты з невядомага сёння рукапісу.

У 1840 г. у далёкім Парыжы ў кнізе *Беларусь* згадаў пра „слаўнага ў нашых ваколіцах сваім паэтычным талентам годнага абывацеля Рысінскага" Аляксандар Рыпінскі, называючы яго „суддзёй ці прэзідэнтам у месце".

Значную колькасць звестак пра паэта падаў у сваіх працах Р. Падбярэскі. Спачатку ў нататцы да публікацыі трох вершаў у „Roczniku Literckim” (1844) ён гаворыць пра папулярнасць паэзіі Ф. Рысінскага „ў ваколіцах Віцебска і Полацка”; падае яго пасаду – „старшыня Цывільнай палаты”[1]; і ўпершыню ў друку выказваецца пра гады жыцця паэта: „памёр гадоў дваццаць таму”. Цікавай можа падасца інфармацыя Р. Падбярэскага пра тое, што яму ўдалося наведаць (?) сваякоў паэта (сястра Тэрэза была замужам за Рэвутам). Аднак спадкаемцы Ф. Рысінскага „поўнага” рукапісу не мелі.

Значнае месца займае Ф. Рысінскі ў канцэпцыі новай беларускай літаратуры Р. Падбярэскага: „Аднак з усіх пісьменнікаў толькі два могуць заслугоўваць назвы беларускіх народных, што нас, уласна, больш за ўсё цікавіць. Францішак Рысінскі, аўтар мноства напісаных з нагоды і лёткіх вершыкаў, лёгкіх, вясёлых, дасціпных, у якіх звяртае ўвагу і міжвольна прымушае задумацца філасофская, часам знянацку кінутая думка, заснаваная на глыбокім веданні свету і людзей, выяўляе і рэдкі талент, і розум, падтрыманы навукай і роздумам. Сам чыноўнік, бо быў старшынёй Цывільнае палаты ў Віцебску, належачы да шаноўных людзей і праз уласнасць, – хоць, здаецца, род яго з Украіны[2], – пераследаваў ён з’едлівай мовай камізму сваіх сабратоў; гэтыя вершыкі з нагоды, у якіх заўсёды хапала пругкасці, выказвалі нейкі грубаваты гумар, адценне камізму, уласцівага аднаму толькі сярэдняму класу беларускае шляхты; малюючы часта якую-небудзь агульнавядомую асобу, яны мелі велізарны поспех і абляталі ў вуснай перадачы ўсю Беларусь. Сталі такія папулярныя, што не знойдзеш ні дома, ні асобы на Беларусі, якія б не ведалі на памяць хоць бы ўрыўка з якога верша Рысінскага. Быў ён праўдалюб, рэзаў вострую праўду кожнаму: і чыноўніку, і духоўнаму, і калегу, і роўнаму сабе шляхціцу, і сябрам, і суседзям, не мінаў нават і прыгожага полу, да якога меў немалы інтарэс. Грубаватым гумарам ён трапіў у жылку нацыянальнае схільнасці і так зліўся з думкамі сабратоў, што яго асобныя выразы сталі ў многіх мясцінах прыказкамі, як правінцыяльная мудрасць. Хоць геній Рысінскага і не адпавядае ўсім умовам чыста народнага пісьменніка, аднак вялікая яго папулярнасць дазваляе яму заслужыць гэтае найменне”[3].

Невядома, ці меў якія новыя звесткі пра Ф. Рысінскага яго зямляк і сваяк А. Рыпінскі, які ўключыў паэта ў складзены ім для А. Плуга спіс 55 пісьменнікаў, „якія або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пра яе пісалі на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай”[4]. Бо складзеная ім біяграфія паэта не захавалася.

Ані гісторыкі літаратуры, ані энцыклапедыі не згадвалі ў XIX стагоддзі пра Ф. Рысінскага. Хіба што ў геральдычных даведніках можна знайсці пра паэта пэўную інфармацыю[5].

---

[1] На пачатку XIX ст. у склад губернскае адміністрацыі ўваходзілі: *Губернское правление, Казённая палата і Главный Суд*, які складаўся з двух дэпартаментаў. Відавочна, Р. Падбярэскі выкарыстоўвае сучасныя найменні інстытутаў губернскае ўлады. У 1840-я гг. былі тры палаты: Казённая, Крымінальная і Цывільная. Зрэшты, Першы дэпартамент Галоўнага суда, прэзідэнтам якога быў Ф. Рысінскі, займаўся крымінальнымі справамі, а вось у кампетэнцыю Другога дэпартаменту Галоўнага суда ўваходзілі грамадзянскія справы (пазней менавіта яго называлі: Палата цывільнага суда).

[2] Дзіўна, што падчас сваіх росшукаў на Віцебшчыне Р. Падбярэскі не змог даведацца, адкуль паходзіў Ф. Рысінскі.

[3] R. Podbereski, *Białoruś i Jan Barszczewski* [w:] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, Petersburg 1844, [t. I], s. VI–VII.

[4] *Alexander Rypiński do Adama Pługa (Antoniego Pietkiewicza)* [w:] *Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza (1798–1898)*, Warszawa [1899], t. I, s. 256.

[5] T. Żychliński, *Złota księga*..., s. 217.

На пачатку XX стагоддзя К. Эстрайхер уключыў у 26 том свае *Bibliografii polskiej* інфармацыю пра выданне, якога не было: старонкі з „Rocznika Literackiego”.

І толькі ў другой палове XX стагоддзя ўвагу гісторыкаў літаратуры прыцягнула постаць Ф. Рысінскага. Складальнікі хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша ўключылі ў кнігу фрагменты ўступнага артыкула Р. Падбярэскага *Беларусь і Ян Баршчэўскі* да кнігі *Шляхціц Завальня* Я. Баршчэўскага. Праўда, пра Ф. Рысінскага ўкладальнікі пакінулі літаральна некалькі радкоў. Апрача таго, чытач не знаходзіў пра яго аніякіх звестак[6], якія магчыма было падаць паводле інфармацыі Р. Падбярэскага.

Аднак у рэцэнзіі на выхад у свет хрэстаматыі А. Мальдзіс, кажучы пра перспектывы вывучэння гісторыі літаратуры, згадаў паэта з Віцебска і выказаў меркаванне, што ў яго спадчыне маглі быць не толькі польскія і рускія, але і беларускія вершы: “У *Польскім біяграфічным слоўніку* (т. XIV, сш. I, стар. 83–84) змешчаны артыкул пра пісьменніка, настаўніка і місіянера Антоні Карніловіча (1805–1856). Маленства яго прайшло ў Оршы, потым ён працаваў на Пружаншчыне. А. Карніловіч, гаворыцца ў артыкуле, “цікавіўся таксама беларускай паэзіяй, асабліва паэтам Францішкам Русінскім (!), вершы якога збіраў і меркаваў выдаць”. Апошнія гады жыцця Карніловіч правёў у Ілінцах Кіеўскай губерні. Значыць, спадчыну Рысінскага (ці Русінскага) ёсць сэнс шукаць на Украіне”[7].

Сваю здагадку даследчык пацвярджаў спасылкаю на артыкул Р. Падбярэскага: “Са слоў Падбярэскага бачна, што Рысінскі (аўтар ставіць яго побач з віцебскім віцэ-губернатарам Манькоўскім, якому прыпісвае *Энеіду навыварат*) пісаў па-беларуску многа і плённа[8]. Але яго творы яшчэ не адшуканы”[9].

Фактычна, сваім допісам А. Мальдзіс запачаткаваў працэс „вяртання” Ф. Рысінскага; сваім указаннем на магчымасць адшукання беларускамоўнай спадчыны паэта „паставіў” яго ў кантэкст гісторыі беларускае літаратуры.

Публікуючы ў зборніку *Пачынальнікі* артыкул Р. Падбярэскага цалкам, Г. Кісялёў даў кароткую інфармацыю пра Ф. Рысінскага (грунтуючыся, уласна, адно на напісаным Р. Падбярэскім): „Рысінскі Францішак (памёр каля 1830 г.) – паэт-гумарыст. Быў чыноўнікам у Віцебску (старшыня палаты цывільнага суда)”[10].

Амаль тое самае напісалі С. Х. і В. С. Александровічы ў каментары да публікацыі фрагментаў артыкула Р. Падбярэскага: „Францішак Рысінскі (канец XVIII – пачатак XIX ст.) – польскі паэт, займаў пасаду старшыні палаты цывільнага суда ў Віцебску”[11]. Хіба што не супадала акрэсленне даследчыкамі гадоў жыцця паэта: усё ж „памёр каля 1830” і „пачатак XIX ст.” гэта не адно і тое ж. Год нараджэння Ф. Рысінскага, названы С.Х. і В.С. Александровічамі як „канец XVIII ст.”, думаецца, пададзены чыста інтуітыўна.

Здавалася б, дадзеная інфармацыя павінна была б падштурхнуць гісторыкаў літаратуры да глыбокага вывучэння спадчыны паэта з Віцебска. Аднак у 70–80-я гг. хіба што толькі сам А. Мальдзіс згадаў пра Ф. Рысінскага, сцвярджаючы, што

[6] Відаць, адмыслова прапушчаны быў сказ пра службу Ф. Рысінскага „старшынёй Цывільнай палаты ў Віцебску”.

[7] А. Мальдзіс, *Плён аднаго стагоддзя*, „Полымя” 1971, № 10, с. 223.

[8] Усё ж пра беларукамоўныя творы Ф. Рысінскага Р. Падбярэскі нічога не піша.

[9] А. Мальдзіс, *Плён аднаго стагоддзя*..., с. 223.

[10] *Пачынальнікі*..., с. 75.

[11] С.Х. Александровіч, В.С. Александровіч, *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў*, Мінск 1978, с. 53.

Ф. Карпінскі[12] „цікавіўся беларускай паэзіяй, асабліва паэтам Францішкам Рысінскім, вершы якога збіраў і намерваўся выдаць”[13].

Праўда, у гэтым часе з’явіўся энцыклапедычны артыкул (першы, заўважым) У. Мархеля пра паэта: „Рысінскі (Rysiński) Францішак [? – 1830 (?)], польскі і бел. паэт. Старшыня цывільнага суда ў Віцебску. Пісаў эпіграмы, лірычна-філас. і гумарыст. вершы на польскай, паводле сведчанняў, таксама на бел. і рус. мовах. Пераадольваючы класіцыстычную версіфікатарскую нарматыўнасць, набліжаўся да рамант. лірызацыі зместу. Творы Р. распаўсюджваліся на Віцебшчыне ў спісах і вусна (частка з іх знаходзілася ў архіве Ф. Карпінскага[14] і полацкага маршалка С. Грабніцкага), а таксама публікавалася ў час. «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік», 1819, т. 8), «Dziennik Wileński» [«Віленскі дзённік», 1830, т. 5 (публ. А. Карніловіча)], «Rocznik Literacki» [«Літаратурны штогоднік», 1844, кн. 2 (публ. Р. Падбярэскага)]. Р., відаць, аўтар макаранічных бел.-польск. мініяцюр *Плач пакінутага каханай* і *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* (апубл. А. Рыпінскім у кн. *Беларусь*, 1840)”[15].

Меркаванне (заўважым: без аргументаў!) У. Мархеля не было ўлічана складальнікамі другога выдання хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* А. Лойкам і В. Рагойшам: названыя вершы яны па-ранейшаму лічылі творамі А. Рыпінскага; праўда, спасылаючыся на артыкул Р. Зямкевіча, пазначылі ў каментарах: „Існуе непацверджанае меркаванне, што гэтыя вершы не належаць А. Рыпінскаму: *Плач пакінутага каханай* быццам бы напісаны Янам Аношкам (каля 1775–1820 або 1827 <…>, а *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* – невядомым аўтарам з Дзісеншчыны не пазней 1820 г.”[16].

Пра Ф. Рысінскага як беларускага літаратара ў хрэстаматыі гаворка не ідзе: хоць звесткі пра яго і падаюцца ў артыкуле Р. Падбярэскага *Беларусь і Ян Баршчэўскі*, але зноў укладальнікі пакідаюць іх без увагі.

У 1990 г. У. Мархель, друкуючы пераклад верша паэта *Роздум пасля страты закладзенага маёнтка*, пазначыў ва ўступнай нататцы: „Не рабілася ніякай спробы адказаць на пытанне, чаму ў пачатку XIX стагоддзя надзвычайную папулярнасць на Віцебшчыне мелі іранічна-філасофскія творы Францішка Рысінскага”[17]. Закід вядомага даследчыка, відавочна, быў самому сабе: на той час адно толькі Г. Кісялёў, Я. Янушкевіч ды ён сам прафесійна займаліся вывучэннем гісторыі беларускае літаратуры XIX ст.

Невыпадкова менавіта Г. Кісялёў у хуткім часе адгукнуўся на папрок калегі: спачатку ў даследаванні *Ад Чачота да Багушэвіча. Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.* ён адно згадаў пра прысутнасць паэта з Віцебска ў літаратурным працэсе Беларусі: [„З пісьма відаць, што Рыпінскі пад канец жыцця займаўся гісторыяй беларускай літаратуры (дакладней, літаратуры Беларусі) і напісаў біяграфічныя нарысы пра Я. Баршчэўскага, Ф. Князьніна, Г. Марцінкевіча, В. Рэута,

[12] Чамусьці інфармацыю з *Польскага біяграфічнага слоўніка* пра А. Карніловіча А. Мальдзіс дастасаваў да Ф. Карпінскага, хоць у рэцэнзіі 1971 г. было правільна.

[13] А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый*..., с. 268.

[14] Інфармацыя памылковая. Вершы Ф. Рысінскага маглі быць у архіве ксяндза А. Карніловіча, а не Ф. Карпінскага.

[15] У. Мархель, *Рысінскі Францішак* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі*, Мінск 1987, т. 4, с. 552.

[16] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя*, склад. А. А. Лойка, В. П. Рагойша, Мінск 1988, с. 457.

[17] У. Мархель, *Іншамоўнае сваё* [у:] *Шляхам гадоў. Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. У. Мархель, Мінск 1990, вып. 2, с. 290.

Ф. Рысінскага, Т. Заблоцкага і інш.”[18]], а таксама закрануў праблему атрыбуцыі вершаў *Плач пакінутага каханай* і *За пенкнай паненкай аж душа сумуе*: „Аніякіх доказаў, што гэта творы Рыпінскага, у нас няма. У свой час М. Гарэцкі адносіў іх да XVIII ст. Іншай думкі прытрымліваўся Р. Зямкевіч – «першы верш віцебскага польска-беларускага вершапісца Аношкі, каторы пісаў у пачатку XIX стагоддзя, а другі невядомага аўтара з Дзісеншчыны, не пазнейшы за 1820 год». Ёсць таксама прапанова лічыць іх творамі віцябчаніна Францішка Рысінскага”[19].

Пасля асобе паэта з Віцебска Г. Кісялёў прысвяціў асобны артыкул: на падставе архіўных матэрыялаў ён фактычна ўпершыню стварыў больш-менш рэальны „партрэт паэта і памешчыка”[20]. Дакументы канцыляры Полацкага намесніцтва за 1783 г. давалі яму магчымасць акрэсліць год нараджэння, прасоўванне па кар’ерных прыступках мясцовай адміністрацыі, а кніга расійскага гісторыка М. Клачкова *Очерки правительственной деятельности времён Павла I* (Петраград 1916) і краязнаўчы зборнік „Віцебшчына” (т. 2, 1928) вызначыць маёмасны стан Ф. Рысінскага. А яшчэ раз аналізуючы праблему аўтарства вядомых беларуска-польскіх мініяцюр, Г. Кісялёў прызнаў, што гіпотэза У. Мархеля і меркаванні Р. Зямкевіча вартыя ўвагі і патрабуюць дадатковых росшукаў.

Артыкул У. Мархеля з *Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва* амаль без змен быў надрукаваны ў біябібліяграфічным слоўніку *Беларускія пісьменнікі*. Адно толькі даследчык дапускаў цяпер, што Ф. Рысінскі паходзіў са шляхты, ды з большай упэўненасцю казаў пра ягонае аўтарства беларуска-польскіх мініяцюр. Бясспрэчнай вартасцю дадзенай публікацыі была і бібліяграфія (зрэшты, няпоўная) друкаваных твораў паэта[21].

У. Мархелю належаць таксама кароткія інфармацыі пра Ф. Рысінскага (на аснове энцыклапедычных артыкулаў) у *Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX ст.*[22].

Польскія гісторыкі літаратуры толькі ў XXI ст. звярнулі ўвагу на польскамоўнага паэта з Віцебска. Праўда, колькі разоў у анталогіях друкаваліся фрагменты ягоных твораў, але заўсёды або пад іншым прозвішчам[23], або ананімна[24]. А вось даследчыца літаратуры польска-беларуска-латышскага памежжа Д. Самборска-Кукуць, назваўшы Ф. Рысінскага „малым дрэўцам у аграмадным лесе польскае літаратуры” і „песняром рэгіёну”, прысвяціла яму невялікі артыкул, які ўтрымлівае шмат цікавых інфармацый. Па-першае, у старых гербоўніках яна выявіла звесткі пра бацьку паэта – “старосту рындзуньскага” Пятра Рысінскага і пра яго шлюб з Ёаннаю Пакаш. Больш за тое, не падаючы крыніцу, сцвярджае пра самога паэта: „Ажаніўся позна (пасля 1791 года), меў адну дачку”[25]. Па-другое, адначасна з нататкамі Р. Падбярэскага (добра вядомымі беларускім

---

[18] Г.В. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча. Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, Мінск 1993, с. 100.

[19] *Ibidem*, с. 293–294.

[20] Г. Кісялёў, *Францішак Рысінскі...*, с. 231–234.

[21] У. Мархель, *Рысінскі Францішак* [у:] *Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, Мінск 1995, т. 5, с. 194–195.

[22] У. Мархель, *Прадвесце адраджэння* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX ст. у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 99, 100, 103.

[23] Напрыклад, верш *Пад добры гумар да Касі*, перадрукаваны з тыднёвіка „Wanda” (1820, t. II, s. 27), прыпісаны Р. Корсаку. Гл.: R. Korsak, *Wiersz o próżnosci świata* [w:] *Zbiór poetów polskich*, ułożył i opracował P. Hertz, Warszawa 1959, ks. I, s. 257–259.

[24] Верш *Świat jest nasz kat* змешчаны ананімна ў наступнай публікацыі: R. Kaleta, *Antologia poetycka Franciszka Ksawerego Woyny*, „Ze Skarbca kultury” 1983, z. 38.

[25] D. Samborska-Kukuć, *O Franciszku Rysińskim...*, s. 190.

даследчыкам) Д. Самборска-Кукуць выкарыстоўвае ўспаміны К. Буйніцкага. Па-трэцяе, ёй удалося выявіць шэраг рукапісных версій друкаваных твораў Ф. Рысінскага. І, па-чацвёртае, дае кароткую характарыстыку паэтычнай спадчыны літаратара.

На жаль, у сваёй працы Д. Самборска-Кукуць не выкарыстала беларускія крыніцы; не пазбегла яна таксама асобных недакладнасцяў. Ды і аналіз даробку Ф. Рысінскага атрымаўся залішне агульны, павярхоўны.

А таму варта ўважліва прааналізаваць творчасць малавядомага, але вельмі таленавітага літаратара Беларусі другой паловы XVIII – пачатку XIX стагоддзя.

### Лірычны герой Францішка Рысінскага

Палітычныя, патрыятычныя і нацыянальныя погляды лірычнага героя ў паэзіі Ф. Рысінскага амаль не выяўляюцца. Так, у вершы *Recepta na jedną sylabę* як пра нешта адрознае ад сябе паэт кажа пра *Lacha*. Праўда, ён не атаясамлівае сябе і з тым, „co go [Lacha] wziął”. Рэгіянальны патрыятызм паэт выявіў хіба што пры дапамозе зваротаў да мясцовай тэматыкі, да асоб, якія жывуць побач. Гэта прафесар філасофіі пэўнай езуіцкай калегіі, гэта і Францішка Багамольцава, гэта і дзяўчына-танцоўшчыца з Асвеі, гэта і Шчапан Шчаткоўскі, пазней – харунжы рэжыцкі, гэта і згадка пра Габрыэля Грубера, езуіта, славутага вынаходніка і лекара на Полаччыне. Відавочна, мясцовы патрыятызм паэта праяўляе сябе апасродкавана. Па-іншаму і быць не магло. Як ніяк Ф. Рысінскі цягам 30 гадоў быў важнаю часткаю адміністрацыйнай машыны царызму на Полаччыне і Віцебшчыне. Але ўжо той факт, што паэт пісаў па-польску, гаворыць пра яго патрыятычную паставу.

Лірычны герой Ф. Рысінскага – гэта асоба, жыццёвы вопыт якое дазваляе сфармуляваць пэўныя прынцыпы, заўважыць тое, чаго не бачыць большасць. Вельмі выразна ў паставе героя выяўляюцца рысы, што былі ўласцівыя эпосе барока і ракако.

Мы не можам цалкам пагадзіцца са сцверджаннем Д. Самборскай-Кукуць, што „wersze Rysińskiego to liryki utrzymane w konwencji sentymentalnej”[26]. Так, сентыментальныя матывы часам даволі адчувальныя ў Ф. Рысінскага, але амаль паўсюдна прысутная іронія (часам сарказм) нішчыць чуллівасць і пачуццёвасць лірычнага героя.

Больш правільна будзе гаварыць пра залежнасць музы Ф. Рысінскага ад барочных катэгорый. Яно і зразумела. Светапогляд паэта склаўся ў эпоху, якая амаль не ведала ўплываў Новага часу. Яму, выхаванцу, відавочна, езуітаў, была блізкая сентэнцыя „vanitus wanitatum et omnia vanitas”. Перадусім, лірычны герой паэта ўсведамляе марнасць чалавечага імкнення да славы, вяршэнства, першынства. Ягоны досвед загадвае яму не зайздросціць уладарам і багатырам гэтага свету, бо ён ведае „próżność świata przemiennego” (*Pod dobry humor do Kasi*), бо „pryydzie nie mylnie kres próżney wielkości, // I w iednym dole legnie z chłopem pan”.

Лірычны герой Ф. Рысінскага, як і герой грамадска-палітычнай лірыкі XVII–XVIII стст., усвядоміўшы тленнасць чалавечага жыцця, прыходзіць да высновы, што варта выкарыстаць адпушчаныя лёсам імгненні, узяць ад жыцця ўсе асалоды: „Gdy ona do mnie usmiechnie się grzecznie <…> Wolę dzień szczęścia, niż tryumfów rok”.

Але і гэты матыў не становіцца „фінальным”, падсумоўваючым у светапоглядных пошуках героя. Заўсёдная іронія паэта не дазваляе герою цешыцца выкладзенай ім філасофіяй: як ён адмаўляе свет дзеля Касі, так Кася адмаўляе герою дзеля нечага або

[26] D. Samborska-Kukuć, *O Franciszku Rysińskim...*, s. 193.

некага іншага. І таму герою нічога не застаецца, як толькі паведаміць каханай тую ісціну, якую ён ужо спазнаў, папярэдзіць і асцерагчы яе ды яшчэ раз паўтарыць сваю прапанову: „Czuwa i na cię czas zazdrosnym okiem, // Chcąc zatrzeć wdzięki, zmarszczyć gładką brew, // Bieżmyż do celu zamiaru podskokiem, // Dopóki żywa drga w nas ieszcze krew”.

Герой верша *Duma po stracie majątku przez exdywizją* шмат у чым падобны на героя папярэдняга верша: ён не імкнуўся за славаю і дастаткам, не збіраў грошы, шляхетнасць („cnota”) – ідэал, да якога ён імкнецца ўсё жыццё. Ягоны скарб – „rozum i poczciwość”. Але ўвесь свет навокал жыве па іншых прынцыпах: свет дбае пра сваю карысць. Чытач не ведае, чаму герой не здолеў разлічыцца з крэдыторамі, але пэўнае тое, што суд пастанавіў заспакоіць іх прэтэнзіі маёнткам даўжніка. Герой застаецца адзін на адзін са сваёй бядой: крэдытор сёння „chytrze wzdycha” і, вядома, не дапаможа тлум сяброў, што колісь тут весяліліся, – іх „razem diabli wzęli”. Але ён застаецца ранейшым, бо нават у няшчасці ён спакойны, ягоная пачцівасць не дазваляе яму змяніць прынцыпы і зайздросціць шчасцю іншых.

Варта звярнуць увагу на пэўную адрознасць жыццёвых калізій паэта і ягонага лірычнага героя. Ф. Рысінскі наўрад ці зазнаў тое, што выпала на долю ягонага героя. Наяўнасць шматлікіх маёнткаў дазваляла не баяцца крэдытораў; не павінна было быць страху, што ён застанецца „goły”. Але, думаецца, у нас няма падстаў казаць пра адрознасць аўтара і героя ў іх жаданні жыць пачціва, „w cnocie”. Паэт ствараў пэўны тып ідэальнага героя, які супрацьпастаўлены меркантыльнаму свету. Таму свету, які добра ведаў суддзя Ф. Рысінскі.

Герой верша *Dumanie nad życiem ludzkim*, задумваючыся над чалавечым жыццём, прыходзіць да несуцяшальных высноў: і дзяцінства, і маладосць, і сталасць, і старасць праходзяць то ў глупстве, то ў фанабэрыі і пустаце, то ў марнасці. І ўсіх чакае адзін канец: „Nad tym rośnie krzak chwastu, tam wzgórek popiołu”.

Паэзія давала магчымасць Ф. Рысінскаму казаць пра самога сябе і адначасова рабіць гэта так, каб асабістага, прыватнага ў выказваннях лірычнага героя было не так і шмат. Часам хочацца паставіць знак роўнасці і бачыць у лёсе, акалічнасцях жыцця героя прыватнае жыццё яго аўтара-паэта. Напрыклад, змест вершаў *Odpowiedź professorowi filozofii przyznającemu się, że mimo swoję naukę boleje i płacze z bojaźni utraty przyjaciółki, niebiezpiecznie chorej* і *Odezwa do najszanowniejszej przyjaciółki Franciszki Bohomolcowej, w czasie cztero-niedzielnej choroby na nogę* скіроўвае шукаць у іх прыкрыя моманты жыцця Ф. Рысінскага – хваробу яго жонкі і ягоную ўласную немач. Сапраўды, мы зыходзім з таго, што вершы Ф. Рысінскага прызначаліся для вузкага кола сяброў, а гэта значыць біяграфічнае дамінуе ў лірычных выказваннях.

Пачуццёва-сентыментальнае, здавалася б, характэрнае для гэтых вершаў. Прафесар філасофіі ўзрушаны да жалю хваробаю жонкі сябра, а гэта – сцвярджае аўтар – „zacnieysza cnota przed innemi”. Але далей ледзь улоўная іронія: прафесар, больш чулы за нейкага Zenona, імкнецца давесці хіба толькі тое, што ён смуткуе з прыкрага лёсу сябра. А што на самой справе? Чаму так перажывае прафесар? Аўтар не кажа. Але затое напоўніцу іранізуе: рана плачаш, шаноўны прафесар філасофіі. Хворая, дзякуючы моцы Божай, ачуняе і „dzielna mocy Bożey mistrzyni natura” прысароміць слабую веру „ucznia Epikura”. Наяўнасць іроніі ў гэтым вершы не дазваляе паставіць сентыментальнае на першае месца, „абсалютызаваць” сентыментальнае.

Падобнае можна сказаць і пра другі, напісаны з прычыны ўжо ўласнае хваробы, верш. Лірычны герой, маючы хворую нагу, адчувае „większy ból” ў сэрцы, а яшчэ

больш „ciergię na umyśle”. Ён не кажа адкрыта пра прычыну сваіх пакутаў, але хутчэй за ўсё яго не задавальняе стаўленне да яго атачэння. А таму ён хавае свае нягоды: прымае весела гасцей, смяецца, не паказвае, што таіцца ў ягоным сэрцы. І толькі яна, Францішка Багамольцава, што цэніць у чалавеку „rozum nad dostatki, // A w przyjacielu stałość i przymioty”, усё ведае. Яна – сапраўдны сябар, які сваім спачуваннем лечыць.

Не знаходзім мы сентыментальнага і ў вершы *Wieczor w Oświeju*. Тут паэт выкарыстоўвае прыём дэталёвага апісання, вымалёўвае найдрабнейшыя рысы, каб перадаць сваё захапленне танцам невядомай балерыны. (Пэўна ж, Шадурскія мелі ў Асвеі свой тэатр.) Паэт дасканала валодае пэндзлем. А фінальная дыскусія лірычнага героя з яшчэ адным зачараваным гледачом мае давесці, што сапраўднае мастацтва не варта трактаваць у катэгорыях даўніх эпох. Талент у спалучэнні з прыроднай прыгажосцю здольны зачараваць. Але гэта не чары, створаныя моцаю „zaklętego ducha”.

*Piosenka na nótę: „Śpiewał słowiczek noc całą”*[27] – гэта адзіны верш у спадчыне Ф. Рысінскага, які цалкам упісваецца ў плынь сентыменталізму. Тут усё адпавядае эстэтыцы гэтага напрамку: і постаць смутнага закаханага, яго гіпербалізаваная пачуццёвасць, слязлівасць і г. д., і нячулая дзяўчына, якая адно падпарадкоўваецца Таму, хто „rozrządza miłością”: „wstydem spłonela, // I po chłopczynie westchnęła”. Насцярожвае той факт, што дзяўчына завецца Юстына. Што гэта: наследаванне Ф. Карпінскаму ці, увогуле, мы маем справу з вершам Ф. Карпінскага, памылкова далучаным да збору Ф. Рысінскага? Зрэшты, сумненні ў аўтарстве Ф. Рысінскага развейваюцца тым, што паэт з Віцебска часта выкарыстоўваў падобную страфіку (*Wieczor w Oświeju*, *Prośba do Anety*, *Wiersz w dzień urodzin Anny*) і ўласціваю паэту лёгкасцю верша.

Пэўна, тагачасная літаратура (эротыкі Ф. Карпінскага) уплывалі на паэта, „прымушалі” наследаваць, выкарыстоўваць падобную тэматыку, праблематыку і стылістыку. Аднак сентыментальная пастава не стала асноўнай у яго творчасці. Ф. Рысінскі ішоў сваім шляхам, ягоны стыль мае свае адметнасці, на што звярнуў увагу яшчэ Р. Падбярэскі.

*Duma w samotności Szczepana Szczotkowskiego* напісана як маналог лірычнага героя. Паказальна, што існаваў рэальны Шчапан Шчаткоўскі, у 1824–1826 гг. рэжыцкі харунжы, які захаваў і перадаў А. Карніловічу асобныя вершы Ф. Рысінскага. Відавочна, паэт добра ведаючы Ш. Шчаткоўскага, укладае ў ягоныя вусны своеасаблівую філасофію жыцця сумленнага чалавека таго часу. Зусім верагодна, што на пачатку XIX ст. Ш. Шчаткоўскі, не дбаючы пра „łudzące blaski”, адмаўляўся ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці краю і вёў жыццё „pod samotnym domu cieniem”. Лірычны герой не называе прычыны, чаму ён абраў такі шлях. Можа, гэта праява апалітычнасці, а можа, нежаданне служыць царскай адміністрацыі. Ва ўсялякім выпадку „w swey chaty zaciszy” ён не ведае ні інтрыг, ні подласці. Яго ідэалам становіцца „mierność, z potrzebami zgodna”. Тое, што прызначана лёсам, ён пакорна прымае, бо чалавеку не трэба шмат: „Bogactwem: domek, kęs chleba”.

І адзінае, чаму б ён хацеў падпарадкоўвацца – гэта сумленне, калі яно спакойнае, дык чалавек у сваіх жыццёвых клопатах нічога больш не патрабуе для шчасця.

Такая жыццёвая філасофія, такі вобраз „ідэальнага чалавека”, думаецца, склаліся не пад уплывам эстэтыкі класіцызму ці сентыменталізму, а гістарычныя ўплывы на Беларусі дыктавалі сапраўдным грамадзянам краю падобны стыль паводзінаў і жыцця. Невыпадкова ў Ф. Рысінскага быў яшчэ адзін верш (Р. Падбярэскі падае з яго

[27] Відаць, маецца на ўвазе *Tren VI* Яна Кахано ўскага.

фрагмент), які развівае заяўленую ў вершы *Duma w samotności Szczepana Szczotkowskiego* тэму. На гэты раз лірычны герой, адмаўляючыся ад вялікага свету, па якім „wszystko czart wie jak się plecie”, відавочна жадае весці такі лад жыцця, як невядомы нам пан Дамінік. У „odludnym kurniku” можна ўнікнуць „żądzy, bogactw i honorów”, тут можна есці „z gliny, a chodzić piechotą”. А калі куды і выйсці, дык толькі „na mszę w niedzielę”. Так можна спакойна жыць, перадусім, спадзявацца на спакойнае жыццё.

І зноў мы звяртаем увагу на несупадзенне перыпетый лёсу Ф. Рысінскага і яго лірычнага героя. З аднаго боку высокі губернскі чыноўнік (няхай сабе і выбраны шляхтаю), а з іншага – герой, які марыць пра ціхае самотнае жыццё ў вясковым зацішшы ў згодзе з сумленнем, задаволіўшы мінімальныя патрэбы „куском хлеба” з уласнага загону. Думаецца, аднак, што ніякіх супярэчнасцяў тут няма. Займаючы высокую пасаду Ф. Рысінскі, вядома, мусіў выконваць распараджэнні, якія пярэчылі ягоным пераканнанням. А яго стаўленне да гэтага адлюстраваў ягоны лірычны герой, ягоная паэзія. Зрэшты, мы не ведаем, як Ф. Рысінскі адышоў са службы. Ці не споўніў ён жаданні свайго лірычнага героя ў 1809 годзе? Ці не памяняў „вялікі свет” на „odludny kurnik”, каб „spokojnie żyjąc” сказаць перад смерцю: „O przyszłe nie dbam, przeszłych nieżałuję”?

Лірычны герой Ф. Рысінскага – звычайна гэта чалавек сталага веку. З вышыні гадоў ён крытычна ацэньвае свае ўчынкі: „Pierzchawa młodość po głupstwa przestrzeni, // Mierzyła błędną ufnością nadzieje”. Але ўсе яны не са сферы грамадска-палітычнага жыцця, а толькі прыватным сваім жыццём незадаволены герой. Дадзены аспект вычарпальна раскрываецца ў сітуацыі, калі „dziewki mię nie chcą, a ja się chcę żenić”. Маладая Анэта не хоча нават слухаць старога залётніка, бо „nie w smak Galacie przecudney urody // Pieśń Polifema, choć nader miłośna”. Увогуле Анэта няраз становіцца аб’ектам зваротаў-выказванняў лірычнага героя. У вершы *Do Anety na niespodziewane rozstanie się* ягоная сяброўка перастала яго кахаць, пагарджае ім, урэшце пакідае яго. З гэтай жа тэмай шчыльна звязаны верш *Prośba do Anety o przyśpieszenie dekretu na dawne zasługi*, хоць гэты твор, магчыма, варта паставіць на першае месца ў шэрагу аповедаў пра ўзаемаадносіны герояў. Тут яшчэ ў „Яго” кволіцца надзея, што дэкрэт „Яна” выдасць справядлівы, што „Яна” ўлічыць усе „Ягоныя” даўнейшыя заслугі.

Зусім іншым пададзены герой у вершы *Sen strapionego męża po utracie naylepszey żony*. Пражыўшы кароткае, але шчаслівае жыццё „Яна”, жонка героя, памірае, але заўважыўшы з нябёсаў, што „Ён” пастаянна маркоціцца, гіне ад смутку, прыходзіць у „Яго” сон, каб даць перасцярогу: „Czas pofolgować twemu udręczeniu”, бо сіратою застанецца іхняя дачка.

У падобным настроі, жыццёсвярджальным і аптымістычным, вытрыманы і верш Ф. Рысінскага *Cierpliwość wszystko zwycięża*. Не трэба наракаць на нядолю, бо ўсё ў гэтым свеце змяняецца. І толькі цярплівасць можа перамагчы ўсе няшчасці. Больш за тое, толькі той, хто не паддаецца цяжкасцям „miłym jest niebu”, бо толькі „z nieszczęśliwego stanu // Zwycięstwo stałość odbiera”.

**Папярэднія высновы**

1. Паэтыка твораў Ф. Рысінскага мае пэўнае падабенства на мастацкія асаблівасці беларуска-польскіх макаранічных вершаў XVIII ст. Як і ананімныя тэксты, творы Ф. Рысінскага ўзніклі на хвалі пашырэння ў грамадстве барочнай песенна-інтымнай лірыкі. Тэматычна верш *Залёты аднаго гайдука да прачкі* пераклікаецца з фрагментам

таго твора, які падаў у прадмове да *Шляхціца Завальні* Р. Падбярэскі. Фактычна, і лірычная гераіня Ф. Рысінскага, і герой *Залётаў* займаюцца тым жа самым – шукаюць спадарожніка свайго жыцця. Апрача таго, і ў адным, і ў другім выпадку паэтычнае выказванне будуецца на іроніі: у вершы *Nie proszę ciebie o deszcz lub pogodę* гэта дасягаецца пры дапамозе „напісання псалмаў” ад імя дзяўчыны, а ў *Залётах* – дзякуючы спалучэнню беларускае (простае) і польскае моваў. Чым, уласна, і дасягаецца камічны эфект. I ў адным, і ў другім выпадку, кажучы словамі карэспандэнта газеты „Tygodnik Wileński” (1819), назіраецца „больш высокі, чым усеагульны, спосаб мышлення і шчаслівая дасціпнасць”.

2. Даступныя сёння крыніцы не дазваляюць, аднак, больш упэўнена гаварыць пра Ф. Рысінскага як аўтара беларускіх макаранічных вершаў. Гіпотэза У. Мархеля паранейшаму застаецца адно гіпотэзай. Жывучы на Беларусі, паэт з Віцебска, бясспрэчна, валодаў беларускаю моваю настолькі, каб пісаць на ёй вершы. Асабліва ў тых выпадках, калі гаворка вялася ад імя герояў, што паходзілі з ніжэйшых слаёў грамадства (гайдук і прачка). Тым не менш, дакументальныя пацверджанні датычнасці Ф. Рысінскага да беларускамоўнае паэзіі пакуль яшчэ не выяўлены.

# ВЕРШАВАНЫЯ ТВОРЫ

Паэтычная спадчына Ф. Рысінскага – гэта два дзесяткі вершаваных твораў, шаснаццаць з якіх – завершаныя тэксты, астатнія – фрагменты вершаў. Аднак не выклікае сумненняў, што нават такі невялікі (усяго 718 радкоў) аб’ём літаратурнага даробку паэта з Віцебска заслугоўвае на ўвагу.

## *Маючы добры настрой: Да Касі*

Верш (пад назваю *Znikomość rzeczy ludzkich*) апублікаваны ў 1819 г. рэдакцыяй газеты „Tygodnik Wileński”[1] з эпіграфам „Vanitas vanitatum et omnia vanitas”[2] пад прозвішчам Раймунда Корсака[3]. Корсака[3]. Вядомы чатыры версіі (тры друкаваныя і рукапісная) вышэйназванага твора. Вытлумачыць розначытанні не ўяўляецца магчымым: яны могуць паходзіць з прычыны існавання розных аўтарскіх рэдакцый верша, а таксама з-за правак і памылак выдаўцоў ці перапісчыкаў. Самая поўная версія надрукавана ў „Tygodniku Wileńskim” – 96 радкоў. Усе іншыя – карацейшыя. Рукапіс Нацыянальнае бібліятэкі ў Варшаве мае 88 радкоў, тэкст апублікаваны ў тыднёвіку „Motyl” – 56 радкоў, а ў тыднёвіку „Wanda” – 48 радкоў. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Tygodnik Wileński” (1819, nr 148, s. 222–223).

## *Znikomość rzeczy ludzkich*

Klnę się że królom tronu nie zazdroszczę,
        I o zwycięskie Laury mało dbam,
O zbiór znikomych Bogactw się nie troszczę,
        Bo próżność świata przemiennego znam.
Ani chcę suszyć łba żądzą daremną
        By moię wielkość wspierał obcych trud,
Lub groźny liktor, przodkuiąc przede mną
        Rostrącał strachem przerażony lud.
Niech oni losem rządzą ludzkiey doli,
        Gdy im tryb rządu, nadal ślepy traf;

[1] „Tygodnik Wileński” – навукова-літаратурны штотыднёвік. У 1804 г. выходзіў пад рэдакцыяй В. Ізбіцкага і С. Стравінскага, сяброў віленскага Філаматычнага таварыства. Адноўлены ў 1815 г. Ёахімам Лялевелем (з 1818 г. выходзіў раз на два тыдні). Рэдактарамі выдання былі Міхал Балінскі, Ігнацы Шыдлоўскі, М. Альшэўскі. Фактычна, быў неафіцыйным органам Таварыства шубраўцаў. Першыя свае творы надрукавалі ў ім Адам Міцкевіч і Антон Эдвард Адынец. Апошнія нумары газеты выйшлі ў свет у 1822 г.

[2] „Марнасць марнасцяў, і ўсё марнасць” (*Экл.* 1:2).

[3] Раймунд Корсак (1767–1817) паходзіў з Гарадзеншчыны; вайсковы і дзяржаўны дзеяч, удзельнік паўстанпаўстання 1794 г., апошнія гады жыцця прайшлі на Падоллі. Дзядзька паэта Юльяна Корсака. Тварыў пад уплывам сентыменталізму, пісаў таксама вершы палітычнага і гумарыстычнага зместу (паэма *Бібейда*). У „Dzienniku Wileńskim” у 1818 г. друкаваўся ягоны верш *Да князя Міхала Агінскага*.

Mnie zaś bynaymniey ztąd głowa nie boli,
    Żem w ich szeregu ni xiąże, ni graf.
Gdy prawom wierny rząd kraiu szanuję,
    Zbrodni się strzegę, chodzę torem cnót,
Bliźnich rad wspieram, nad sobą panuję,
    Z resztą nie stukam do fortuny wrót.
Bo znam że wszystko, na co w świecie patrzę,
    Z blaskiem dostojeństw, iest to istny sen,
My zaś na świecie, jakby na teatrze
    Iesteśmy krótkich aktorami scen.
Królowie! Którym świat w miedzach iest ciasny,
    Przykro opuszczać wam przyjdzie ten dzień,
Tron pełen władzy, iako nie swój własny,
    Iuż schodzi z świata jakby marny cień.
Przyydzie nie mylnie kres próżney wielkości,
    I w iednym dole legnie z chłopem pan,
Gdzie bez kalibru uszlachconych kości,
    Śmierć nas porówna wszystkich w iedem stan,
Tam niedostępni dla pychy panowie
    Do których woli tłum się cisnął sług:
Iak z iedney gliny Adama synowie,
    Zginął z tym obok co ich dźwigał pług.
Ten co niezmiernych planet bieg oznaczył,
    I kto natury skrytey poiął moc,
Kto ruch ogromney ziemi wytłumaczył,
    I w liczbię godzin spoił ze dniem noc.
Kto dawcą mądrych praw w narodzie słynął,
    I kto przemocną siłą znękał świat,
Skoro iuż sławy głośny dzień upłynął
    Kędyż są oni? Gdzie ich proszę ślad?..
Widzę z marmuru niebotyczne groby,
    W których się kryie ich nikczemny pył;
Lecz cóż im proszę teraz z tey ozdoby,
    Kiedy proch nie zna czy czem kiedy był?
Dla mnie czy dziki chwast, czy wonne róże
    Po śmiertnym zgonie, grób mój będą ćmić,
Ani zaszkodzi, pewnie ni pomoże
    Kiedy bez czucia przyjdzie wiecznie gnić.

### Працяг верша

Праз два тыдні (у наступным нумары газеты) нехта X. D. горача запярэчыў рэдакцыйнай, відавочна, атрыбуцыі верша: „Мосці Пане Рэдактар «Tygodnika Wileńskiego». Не крычу на гвалт, што вершы, змешчаныя ў тыднёвіку Васпана (№ 148, с. 222), не былі плодам Раймунда Корсака; аднак, маючы пэўныя аргументы засумнявацца ў гэтым, разумею, што дарэчы будзе прапанаваць іх Васпану. Я маю копію тых радкоў у сваім зборы рукапісаў; але яны зусім іншым тытулам і імем іншага аўтара падпісаны. Што датычыць тытулу, дык ён не *Znikomość rzeczy ludzkich*, а *Pod*

*dobry humor do Kasi*, імя аўтара – Рысінскі. Не магу Васпану паслужыць цяпер вычарпальнай інфармацыяй пра жыццё і творчасць Рысінскага, што пазней спадзяюся мець. Сёння толькі тое магу пэўна паведаміць, што Рысінскі быў беларускім памешчыкам і напісаў шмат прынагодных вершаў, у якіх дэманструе і больш высокі, чым усеагульны, спосаб мышлення, і шчаслівую дасціпнасць. Дык зусім праўдападобна, што радкі, надрукаваныя ў «Tygodniku», належаць яму. Асабліва з тае прычыны, што ў вядомых мне творах Раймунда Корсака не сустракаюцца аднаскладовыя рыфмы; а асобы, якія добра ведалі гэтага паэта, прыпісваюць яму адметны густ і чуйнасць да гармоніі польскае мовы. Дык я зычыў бы да душы, каб касуючы сумненні, перакананальная пэўнасць, што я адважыўся тут прапанаваць, вярнула «кожнаму сваё»; бо тады, мяркую, кожнаму найлепш. Будзь што будзе, аднак, ці тыя радкі будуць названы *Znikomość rzeczy ludzkich*, ці *Pod dobry humor do Kasi*; ці аўтарам іх акажацца Корсак, ці (што больш праўдападобна) Рысінскі – усё ж яны не цалкам пададзены ў «Tygodniku». Дык дасылаю Васпану Мосці Пану Рэдактару іх заканчэнне, хоць і не спадзяюся, што яго хутка можна будзе ўбачыць у друку; бо Васпан (калі мне вольна казаць) вельмі любіш працягі, якія з яго тыднёвіка зрабілі – выкарыстаю метафару – пасму адрэзанага прадзіва. Але каб толькі гэта мы мелі да закідаў перыядычным выданням! Ды ці ж мне брацца за іх крытыку, з якой і дасканалы нямецкі рэцэнзент не справіўся. Маю гонар заставацца Васпана Мосці Пана Рэдактара нязменным падпісчыкам і слугою. X. D.”[1]. Хто схаваўся за крыптанімам X. D. – сёння невядома. Але гэта, бясспрэчна, не ксёндз Антоні Карніловіч, які толькі ў 1820-я гг. займецца зборам звестак пра Ф. Рысінскага. Дадзеная нататка X. D. сведчыць, што ўжо ў другім дзесяцігоддзі XIX ст. на Беларусі была асоба, якая цікавілася творчасцю папулярнага ў краі паэта і абяцала расказаць пра яго ў друку. Зусім верагодна, X. D. меў у сваім распараджэнні рукапісы Ф. Рысінскага, што дало яму магчымасць „пазнаць” твор паэта ў „Tygodniku Wileńskim”, а супаставіўшы яго з тэкстам з уласнага архіву, падаць у друк працяг верша. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Tygodnik Wileński” (1819, nr 149, 3.10.1819, s. 252–253), дзе змешчана пад тытулам *Dokończenie wierszy Znikomość rzeczy ludzkich, przysłane do Redakcyi* (Ob. Nr 148, s. 202).

Przecz że z mych myśli uprzykrzone smutki,
        Przecz żądze pychy, i z serca i z ust;
Skoro bez zwrotu wiek móy znika krótki,
        Niech go dokończę tak, iak chce moy gust.
Sam do mnie z kuflem węgrzyna starego,
        Wskrześmy dziś sobie ów swobodny ród,
Iak za Augusta bywało wtórego,
        Miłostek pełno, a węgrzyna w bród.
Kiedy to Wenus pod bluszczowym hełmem,
        Między dziewoie stawiąc kufle w rząd,
Słodziła trony Augusta z Wilhelmem.
        Roskosze pieszczót między wieyskich grząd.
Zwyciężców ludu a praw ich despoty
        Których morderską krwią spluskana dłoń,
W plotła wsród laury: łzy bliźnich, kłopoty,
        I smutek sierot zdobi waszą skroń!
Mnie się zda że gdy pycha w was ochłonie,
        I dzikiey żądzy rozpierzchnie się dym;
W ten czas wy sami, na pieszczoty łonie

[1] X. D., *Korrespondencya*, „Tygodnik Wileński” 1819, nr 149, s. 250–252.

Dacie Wenerze przed Belloną prym.
I Henryk gromiąc Gallów ród uporny,
Nie w tem czuł słodycz że ich bronią lżył;
Lecz że na dziewczą powaby pokorny,
Okryty sławą dla miłości żył.
On był weselszym gdy wstręt tey ukrócił,
Którey z czułością chciał pozyskać wzgląd;
Niż gdy pod Astrą wszystko w proch obrócił
Wzburzył z dna morze i przeraził łąd.
Niech mi sto królestw dziś Fortuna stawi,
Niech złoto płynie w móy dom ze wszech stron;
Bez względów; Kasi nic mnie to nie bawi
Bo w iey serduszku i skarb móy i tron.
Dla mnie ułomek mirtowey gałąski,
Skoro go poda iey bieluchna dłoń;
Droższy niż *order* lordów od *podwiązki*,
Hiszpańskie *runo* a Duńczyków *słoń*.
Gdy ona do mnie usmiechnie się grzecznie,
Z czułym umizgiem tkliwy rzuci wzrok;
Zrzekam się reszty dni moich bezpiecznie,
Wolę dzień szczęścia, niż tryumfów rok.
Widzisz więc Kasiu szczere me zapały,
Bez wnętrznych przysad, powierzchownych farb;
Czemuż znać niechcesz, że dla ciebie cały
Zyię, i w tobie szczęścia mego skarb.
Dybie i na cię czas zaźdrosnym krokiem,
Chcąc przyćmić wdzięki, zmarszczyć gładką brew,
Bieżmyż do celu zamiarów z podskokiem,
Dopóki rzeźwa drga w nas ieszcze krew.

## Другая версія тэксту верша

Пацвярджэннем аўтарства Ф. Рысінскага можа служыць рукапіс Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве (Zbiory Morstinów, Radziwiłłów, Potockich) з творамі паэта з Віцебска. Характэрна, што верш, які пададзены пад прозвішчам Franciszek Rysiński і называецца *Pod dobry humor. Do Kasi*, усяго на восем радкоў меншы за публікацыю ў „Tygodniku Wileńskim”. Гэты верш вельмі блізкі да тэксту верша ў „Tygodniku”, хоць і нельга сказаць, што ён перапісаны з друкаванае крыніцы. Тым больш, што рукапіс Нацыянальнай бібліятэкі можна датаваць XVIII ст. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле: Rps BN 6715 III: *Zbiory Morstinów, Radziwiłłów, Potockich: Wiersze różne autorów, m. in. Felińskiego, Kniaźnina, Niemcewicza, Trembeckiego*, k. 200–201 v.

Klnę się że królom tronu nie zazdroszczę,
I o zwycięskie laury mało dbam,
O zbiór znikomych bogactw się nie troszczę,
Bo próżność świata przemiennego znam.
Ani chcę suszyć łba żądzą daremną
Abym pierszeństwem sławy dziwił lud

Tryscąc jasności niech błyska przedemną
Którym zysk chwały zyskać obcy trud.
Niech oni losem rządzą ludzkiey doli,
Którym styr Rządu dał zrodzenia traf;
Mnie zaś bynaymniey ztąd głowa nie boli,
Żem nie w ich rzędzie ni xiąże, ni graf.
Bo znam że wszystko, na co tylko patrzę,
Z blaskiem dostojeństw, iest to istny sen,
My zaś na świecie, jakby na Teatrze
Iesteśmy krótkich Aktorami scen.
Przyydzie nie chybnie kres dumney wielkości,
Gdy w iednym dole legnie z chłopem pan,
Gdzie bez kalibru uszlachconych kości,
Śmierć nas porówna wszystkich w iedem stan,
Tam niedostępni dla pychy panowie
Do których luzny tłum się kupi sług:
Jak z jedney gliny Adama synowie,
Zgniją z tym obok co wiek dźwigał pług.
Ten co niezmiernych Planet bieg oznaczył,
I kto natury poiął skrytą moc,
Kto bieg ogromney ziemi wytłumaczył,
I w liczbię godzin spoił ze dniem noc.
Kto dawcą mądrych praw w narodzie słynął,
I kto przemocną ręką znękał świat,
Skoro ich sławy groźny dzień upłynął
Kędyż są oni? Gdzie ich proszę ślad?..
Widzę z marmurów pyszne Panów groby,
W których się chowa ich nikczemny pył;
Lecz cóż im proszę teraz z ich ozdoby,
Skoro proch nie zna, że czem kiedyś był?
Dla mnie czy dziki chwast, czy wonne róże
Po moim zejściu grób móy będą ćmić,
Jak nie zaszkodzi, tak mi nie pomoże
Kiedy bez czucia przyjdzie w Ziemi gnić.
Precz więc z mych myśli uprzykrzone smutki,
Precz żądze pychy i z serca i z ust;
Skoro bez wzrostu wiek móy znika krótki,
Niech że kończę jak moy każe gust.
Hej! do mnie z kuflem węgrzyna starego,
Wskrześmy dziś w sobie ów swobody płod,
Iak za Augusta bywało wtórego,
Miłostek pełno, a węgrzyna w brod.
Kiedy to Wenus pod bluszczowym hełmem,
Między dziewoie stawiąc kufle w rząd,
Słodziła trudy Augusta z Wilhelmem.
Roskoszą pieszczót poszród wieyskich grząd.
Zwyciężców ludów j praw ich despoty
Których morderską krwią zmazana Broń,
Uplotła laury, łzy bliźnich, kłopoty,
I smutki sierot waszą zdobią skroń!
Mnie się zda że gdy pycha w was ochłonie,

I z dzikiey żądzy rozpierzchnie się dym;
Wtedy wy sami, na pieszczoty łonie
Dacie Wenerze przed Belloną prym.
I Henryk gromiąc Gallów ród uporny,
Nie w tym czuł słodycz że ich bronią lżył;
Lecz że na dziewcząt wabiki pokorny,
Okryty sławą dla miłości żył.
On był weselszym gdy wstręt tey odwrócił,
Którey z czułością chciał pozyskać wzgląd;
Niż gdy pod Arną wszystko w proch obrócił
Wzburzył z dna morze i przeraził ląd.
Niech mi Fortuna dziś sto królestw stawi,
Niech złoto płynie w móy dom ze wszech stron;
Bez względów Kasi nic mię to nie bawi
Bo w iey serduszku i skarb móy i tron.
Dla mnie mirtowey ułomek gałąski,
Skoro mi poda iey bieluchna dłoń;
Droższy niż Lordom order od podwiązki,
Hiszpanom *runo* a Duńczykom *słoń*.
Niech ona do mnie usmiechnie się grzecznie,
Z czułym umizgiem rzuci na mnie wzrok;
Zrzekam się moich dni wszystkich bezpiecznie,
Wolę dzień szczęścia, niżli smutku rok.
Widzisz więc Kasiu szczere me zapały,
Bez żadnych przysad j podchlebnych farb;
Czemu znać niechcesz, że dla ciebie cały
Żyię, i w tobie życia mego skarb.
Czuwa i na cię czas zazdrosnym okiem,
Chcąc zatrzeć wdzięki, zmarszczyć gładką brew,
Bieżmyż do celu zamiaru podskokiem,
Dopóki żywa drga w nas ieszcze krew.

## Трэцяя версія верша

Крышку іншая версія твора (толькі першыя 12 строф. Тытул: *Wiersz o próżności świata*) друкавалася пад прозвішчам Р. Корсака[1] ў 1820 г. у варшаўскім тыднёвіку „Wanda”[2]. Нешматлікія адрозненні ўсё ж нельга класіфікаваць як рэдакцыйную праўку тэксту. Гэта, відавочна, не передрук з газеты „Tygodnik Wileński”. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Wanda” (1820, t. II, s. 27).

Szczęsny, że królom tronu nie zazdroszczę,
I o zwycięskie laury mało dbam,
O zbiór znikomych bogactw się nie troszczę,
Bo cała próżność tego świata znam.
Ni głowę suszę żądzą daremną,
By wielkość moją wspierał obcych trud

[1] Да спадчыны Р. Корсака далучыў гэты верш і Павел Герц, публікуючы яго пад тытулам *Wiersz o próżności świata* (на падставе публікацыі ў „Wandzie”) у сваёй анталогіі *Zbiór poetów polskich*, ks. I, Warszawa 1959, s. 257–259.

[2] Газета „Wanda. Tygodnik polski płci pięknej i literaturze poświęcony, czasopismo rozrywkowo-literackie” выходзіла ў Варшаве ў 1820–1822 гг. пад рэдакцыяй Б. Кіцінскага. Карысталася шырокай папулярнасцю.

Lub groźny liktor, przodkując przede mną,
    Rostrącał strachem przerażony lud.
Niech oni rządzą losem ludzkich doli,
    Gdy im styr rządu dal szczęśliwy traf,
Mnie zaś bynajmniej ztąd głowa nie boli,
    Żem w rzędzie onych ni książe, ni graf.
Gdy prawom wierny, rząd w kraiu szanuję,
    Zbrodni się strzegę, chodzę torem cnót,
Bliźnich rad wspieram, nad sobą panuję,
    Nie szukam żadnych do fortuny wrót.
Bo znam, że wszystko, na co w świecie patrzę,
    Z blaskiem dostojeństw jest to istny sen,
My zaś na świecie, jako na teatrze,
    Jesteśmy krótkich aktorami scen.
Królowie, którym świat w miedzach za ciasny,
    Przykro wam będzie ten opuszczać dzień,
Tron pełen chwały, jako nie swój własny,
    I schodzić z świata jako marny cień.
Przyjdzie niechybnie kres próżnej wielkości,
    Gdzie w iednym grobie z chłopem legnie pan,
Gdzie bez różnicy nieszlachetnych kości
    Śmierć nas porówna wszystkich w jedem stan.
Gdzie nieprzystępni dla pychy panowie,
    Dla których woli tłum się ciśnie sług,
Jak z jednej gliny Adama synowie
    Legną z tym obok, co ich dźwigał pług.
Ten, co niezmiernych planet bieg oznaczył
    I kto natury skrytej poznał moc,
Kto ruch ogromnej ziemi wytłumaczył
    I w liczbie godzin ze dniem spoił noc,
Kto dawcą mądrych praw w narodzie słynął
    I kto przemożną siłą znękał świat,
Gdy już ich sławy głośny cień przeminął,
    Gdzie też są oni, gdzie też onych ślad?
Widzę z marmuru niebotyczne groby,
    W których się kryje ich nikczemny pył,
Lecz pytam teraz, cóż im z tej ozdoby,
    Kiedy proch nie zna, czymsiś kiedy był.
Mnie czy chwast dziki, czyli wonne róże
    Po śmiertnym zgonie grób mój będą ćmić,
Ani zaszkodzi, ani nie pomoże,
    Gdy Parka przetnie życia mego nić.

## Чацвёртая версія верша

Яшчэ адна версія гэтага верша надрукавана ў штотыднёвіку „Motyl”[1]. Спачатку ў 13 нумары за 1828 г. ананімна пад тытулам *Pod dobry humor* з’явілася першая частка верша – 40 радкоў, а

[1] „Motyl” – штотыднёвая газета з малюнкамі, якая выдавалася ў Варшаве ў 1828–1831 гг. князем Любецкім.

ў 15 нумары ўжо пад прозвішчам „Рысінскі" друкуецца наступная – *Do Kasi* – 16 радкоў. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Motyl" (1828, nr 13, 23 maja 1828, s. 85–87).

Klnę się że możnym bogactw niezazdroszczę,
Że o zwycięzkie laury mało dbam,
O zbiór znikomych bogactw się nietroszczę,
Bo próżność świata przemiennego znam.
Gdym panu wierny, rząd kraiu szanuję,
Zbrodni się strzegę, chodzę torem cnot,
Bliźnich rad wspieram, nad sobą panuję,
Z resztą niepukam do fortuny wrot.
Bo znam iż wszystko na co w świecie patrzę,
Z blaskiem dostojeństw, iest to istny sen,
My zaś na świecie, jakby na teatrze,
Iesteśmy krótkich aktorami scen.
Przyjdzie niemylnie kres dumnej wielkości,
I obok chłopa legnie wielki pan,
Gdzie bez kalibru uszlachconych kości,
Śmierć nas porówna wszystkich w iedem stan.
Tam niedostępni dla pychy panowie,
Do których mocy kupił się tłum sług,
Iak z iedney gliny Adama synowie,
Legną z tym obok co wiek dźwigał pług.
Ten co niezmiernych planet bieg oznaczył,
I co natury skrytej poiął moc,
Co ruch ogromnej ziemi wytłumaczył,
I liczbą godzin spoił ze dniem noc.
Kto dawcą mądrych praw w narodzie słynął,
I kto przemocną, siłą znękał świat,
Kiedy ich życia krótki byt upłynął,
Kędyż są oni, gdzie ich proszę ślad?
Widzę z marmuru wspaniałe ich groby,
Kędy się mieści ich nikczemny pył,
Lecz cóż im proszę teraz z tej ozdoby,
Kiedy proch niewie, że kiedyś czemś był.
Dla mnie czy dziki chwast, czy wonne róże,
Grob mój po śmierci w koło będą ćmić,
Ani zaszkodzi, pewnie nie pomoże,
Kiedy bez czucia przyjdzie w ziemi gnić.
Precz z moich myśli uprzykrzone smutki,
Precz pycha, żądza i z serca i z ust,
Kiedy bez zwrotu wiek mój znika krótki,
Niechże go kończę tak iak chce mój gust.

Наступная частка друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Motyl" (1828, nr 15, 6 czerwca 1828, s. 120).

Niech mi sto królestw dziś fortuna stawi,
Niech w domu moim płynie złoto z stron,
Bez względów Kasi, nic mię to nie bawi,
Bo w iej serduszku i skarb mój i tron.

Dla mnie mirtowej ułomek gałązki,
Skoro go poda iej bieluchna dłoń;
Droższy niż lordem order od podwiązki,
Niż parom runo, a margrafom słoń.
Niech ona do mnie umizgnie się grzecznie,
Z czułym westchnieniem tkliwy rzuci wzrok,
Zrzekam się reszty dni moich bezpiecznie,
Woląc dzień szczęścia, niż nadziei rok.
Widzisz więc Kasiu, szczere me zapały,
Bez wnętrznych przysad i powierzchownych farb.
Czemuż znać niechcesz żem dla ciebie cały
Żyie, i w tobie szczęścia mego skarb.

## *Навука*

Верш (пад тытулам *Recepta na jedną sylabę*) надрукаваны ў штотыднёвіку „Wanda” [дакладней, у ягоным сатырычным дадатку-ўстаўцы „Pot-pourri”, рэдагаваным вядомым варшаўскім акторам Алаізам Жулкоўскім (1777–1822)]. Аўтарства не пазначана. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле газеты „Wanda” („Pot-pourri”, 1821, t. III, nr 8, s. 63–64).

Świat jest nasz kat,
Ty, co znasz świat,
Patrz jak masz być
I na nim żyć.
Kwiat co trwa dzień,
Lub tak jak cień,
Tak jest nasz wiek,
Tak jest i człek.
Ten co niósł prym,
Co go znał Rzym,
Co go laur krył,
Jakby nie był.

Tak też ów Lach,
Co niósł śmierć, strach,
Kark przed nim gioł,
To go też wzioł.
Bo nie trwa lud,
Przez sejm, gmin, trud,
Przez wał, broń, mur,
Lecz przez cnot zbiór,
Pers, Grek i Rzym
Znikł, jak dym,
Masz więc znieść cios,
Bo tak chciał los.

### Другая версія верша

Рукапіс пад тытулам *Par Monosyllabe* захоўваецца ў Бібліятэцы Асалінэум ва Уроцлаве. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле: Rps Ossolin. 6621/I: *Archiwum Wodzickich z Kościelnik*, t. 3: *Zbiór ciekawości różnych czyli excerpcie z listów, 1795–1798*, k. 242–243.

Swiat iest nasz kat.
Ty co masz Swiat
Znasz iak masz żyć
J na nim być.
Kwiat co trwa dzień
Lub też iak cień
Tak iest nasz wiek
J tak iest Człek.
Ów co zgniotł Rzym,
J w nim miał prym,
Co go Laur krył,
Jakby nie był.

Tak też ów Lach
Co niosł śmierć, strach,
Przed nim krok giął,
Ten, co go wziął.
Bo nie trwa Lad
Przez Seym, gmin, trud
Przez Tron, wał, mur,
Lecz przez Cnot zbiór.
Pers, Grek i Rzym
Tak znikł iak dym.
Więc trza znieść cios,
Co go dał los.

### Трэцяя версія верша

Рукапіс пад тытулам *Nauka* захоўваецца ў Бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта. Дадзеная версія карацейшая на чатыры радкі, але яна надзвычай каштоўная – падаецца прозвішча аўтара. Шматлікія разначытанні можна вытлумачыць і памылкамі перапісчыкаў, і працяглым вусным бытаваннем твора. Друкуецца з захаваннем моўных і пунктуацыйных асаблівасцяў крыніцы паводле: Rps BUW 278: *Zbiory Strawińskich z Nakryszek, Wiersze i pieśni różnych autorów oraz drobne pisma prozą, zebrane i przepisane w końcu XVIII w. i na początku XIX w.*, k. 547.

Czas iest nasz kat
Gdy więc znasz swiat
I gdy masz łeb
Jedz piy y ...
Ten co wzniosł Rzym
I w nim miał prym
Choć go laur krył
Tak jak nie był
Tak y ów Lach
Co zniosł śmierć strach.

Ten co go wziął
Przed nim kark giął
Bo nie trwa lud
Przez Seym broń trud
Nie przez wał mur
Lecz przez cnot zbiór
Pers Grek y Rzym
Znikł tak iak dym
Zna znieść ten cios
Bo tak chciał los.

Nie w modzie Naruszewicz[3], nie ztąd już wiatr wieje,
Teraz dziewcze z chłopięciem młodziuchnym się śmieje,
A tych co czekoladą krzepią się, porterem, –
Bawią, jakby się bawiąc z rozumnym *Gruberem*[4].

Нарушэвіч не ў модзе. Хто скажа прычыну?
І смяецца хлапец маладзенькі з дзяўчынай.
Іншы ж есць шакалад, муза портэрам поўніць,
Быццам з Груберам мудрым гаворыць на роўных.

*Oto jaka była filozofja-życia poety, który niedbał ni o bogactwa ni o urzęda:*

*Вось якая была філасофія жыцця паэта, што не дбаў ні пра багацце, ні пра пасады:*

Już sięgę sobie w odludnym kurniku,
Za jedno z tobą Panie Dominiku,
Tam z tobą smutek i radość rozdzielę,
Nie wyjdę z domu, prócz na mszę w niedzielę.
Zrzeknę się parad z najmilszą ochotą,
Jeść będę z gliny, a chodzić piechotą.
Zamiast pałaców, będę miał chałupkę
I dobrym chlebem ładowaną ciupkę.
Nie wspomnę nigdy i o przeszłym świecie,
Na którym wszystko czart wie jak się plecie,
Uniknę żądzy, bogactw i honorów,
Długów się zbędę i zrzeknę się zbiorów.
A w tenczas kontent na własnym zagonie,
Spokojnie żyjąc, powiem przy mym zgonie:
„O przyszłe nie dbam, przeszłych nieżałuję,
„A los głupi" i t. d. . . . . . . .

Пан Дамінік, ля цябе дзеля ладу,
Я ў падарожнай куросадні сяду,
Буду і сумным, як ты, і вясёлым,
Выйду ж адно на імшу да касцёла.
Пехам пайду, на парады забуду,
З добрага посуду есці не буду.
Замак пакіну, халупу збудую,
Хлебам сабачы катух наладую.
Свет свой былы не згадаю ніколі,
Колькі там д'яблавай дзеі і волі!
Скончу з даўгамі, унікну пашанаў,
Нават падаткі збіраць перастану.
Толькі тады, жывучы здавалёна,
З родных загонаў скажу перад сконам:
„Што будзе – не дбаю, былога не шкода,
Лёс жа дурны..." і г. д.

[3] Адам Нарушэвіч (1733–1796) – паэт, гісторык, перакладчык. Паходзіў з Піншчыны.
[4] Габрыэль Грубер (1740–1805) – выхаванец мастацкае акадэміі ў Вене, выкладаў у Полацкім езуіцкім калегіуме.

## Фрагмент верша

Два радкі верша Ф. Рысінскага захаваліся дзякуючы таму, што А. Рыпінскі выкарыстаў іх як эпіграф да свайго верша *Odpowiedź na list Alexandra N. pisany s Francii 3$^{go}$ października 1848 r.* з пазначэннем, што гэта „Piosenka znanego na Białej-Rusi poety Rysińskiego”. Пазней, ужо вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, у 1883 г. у лісце да Адама Плуга А. Рыпінскі паведаміць, што займаецца напісаннем гісторыі краёвай літаратуры і што напісаў („скляпаў з большага”) біяграфіі шэрагу мясцовых літаратараў. Сярод падрыхтаваных біяграфій – і жыццяпіс Францішка Рысінскага. Зрэшты, дадзеныя матэрыялы А. Рыпінскага не захаваліся, а таму немагчыма сказаць, ці меў ён нейкія новыя звесткі пра паэта, ці адно да сваіх успамінаў далучыў тое, што прачытаў у Р. Падбярэскага. Перадусім, прадмову да *Шляхціца Завальні* ён ведаў добра.

Dzień się zbliża do wieczora,
Jużem nie ten, com był wczora!

# Ігнацы Быкоўскі

- *Перакладчык, паэт, мемуарыст*
- *Успаміны*
- *Вершаваныя творы*
- *Карэспандэнцыя*
- *Выдадзеныя і нявыдадзеныя кнігі*

# ПЕРАКЛАДЧЫК, ПАЭТ, МЕМУАРЫСТ

Ігнацы Якса-Быкоўскі гербу Грыф[5] (1750 – пасля 1823) займаў прыкметнае месца ў літаратурным працэсе канца XVIII – пачатку XIX стст. Гэта быў ледзь не адзіны (як выключэнне – Ганна з Радзівілаў Мастоўская і Тэкля з Бажымоўскіх Урублеўская) "прафесійны" літаратар, што жыў на беларускіх землях (не бярэм пад увагу Францішка Рысінскага і Яна Аношку, якія не друкавалі сваіх твораў).

У Беларусі да нядаўняга часу апрача філосафа Э. Дарашэвіча аніхто не даследаваў пісьмовую спадчыну І. Быкоўскага[6], хоць у энцыклапедыях ягоная біяграфія нязменна падавалася[7]. У нашы дні Ганна Гладкова напісала дысертацыю *Творчая спадчына Ігнацыя Быкоўскага ў кантэксце эпохі еўрапейскага Асветніцтва*, у якой, прааналізаваўшы вершаваныя тэксты паэта, выявіла ў іх найбольш адметныя асаблівасці паэтыкі класіцызму і сентыменталізму; ахарактарызавала яна таксама прозу і драматургію пісьменніка, падкрэсліўшы "гістарычную і дакументальную вартасць" успамінаў літаратара.

Творчая спадчына І. Быкоўскага даволі разнастайная. Па нашых падліках, ён быў аўтарам каля 50 выданняў – пераважна кніг ці зборнікаў, хоць сустракаюцца і асобна надрукаваныя вершы ці оды. На жаль, большасць ягоных кніжак да нас не дайшлі. А гэта, вядома, не спрыяла і не спрыяе ўсебаковаму вывучэнню творчасці пісьменніка, жыццё якога ў значнай ступені было звязана з землямі сучаснай Беларусі.

Нарадзіўся І. Быкоўскі ў фальварку Пяцеўшчына ля Самахвалавічаў. Ягоныя продкі, маючы на пачатку XVII ст. *fundum*[8] у Бахарэвічах[9], валодалі шматлікімі вёскамі ў наваколлі. Пасля смерці Хведара, сына Яна Быкоўскага ў 1619 г. уладанні былі падзелены паміж ягонымі сынамі. Пазней як пасаг трапілі ва ўласнасць іншых родаў і часта былі прадметам судовых працэсаў. Урэшце ў 1748 г. маніфест караля Аўгуста III урэгуляваў спрэчкі. Бацька пісьменніка, Мацей, сын Яна Быкоўскі, падстолі брацлаўскі, адпісаў парафіяльнай уніяцкай царкве ў 1752 г. тры валокі зямлі і 100 злотых штогадавое платы[10]. Пра бацьку вядома таксама, што ён быў сынам Кацярыны з Жыжчэўскіх. Ажаніўшыся з Багумілай Свентажэцкай (Свентажэўскай), меў з ёю шасцёра

[5] Прапануем такую форму імя і прозвішча пісьменніка. Імя "Ігнацы" (не ўжываючы склонавых формаў "Ігнацага", "Ігнацему" і г. д.), а не "Ігнат", бо так пазначана ва ўсіх вядомых тэкстах (выданнях самога літаратара, а таксама ў працах геральдычных); "Якса" – гэта прыдомак (яго паходжанне не зусім зразумелае, магчыма, ад імя "Якуб").

[6] Э. Дорошевич, *Философия эпохи Просвещения в Белоруссии*, Минск 1977, с. 180–196.

[7] [А. Мальдзіс], *Быкоўскі Ігнацій Якса* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў пяці тамах*, Мінск 1984, т. 1, с. 524; А. Мальдзіс, *Быкоўскі Ігнацій Якса* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў шасці тамах*, Мінск 1994, т. 2, с. 143; Э. Дарашэвіч, *Быкоўскі Ігнацій Якса* [у:] *Асветнікі зямлі беларускай*, Мінск 2001, с. 78–79.

[8] Галоўны фальварак (маёнтак).

[9] Вёска і фальварак у заходняй частцы Ігуменскага павету ля рэчкі Пціч. Належалі Быкоўскім, а ў XIX ст. як пасаг перайшлі да Вейсенгофаў. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, Warszawa 1880, t. I, s. 76.

[10] A. Jel[ski], *Piaciewszczyzna* [w:] *Słownik geograficzny...*, Warszawa 1887, t. VIII, s. 41.

сыноў (Ян, Раман, Тадэвуш, Антон, Ігнацы, Станіслаў) і дачку Канстанцыю (была замужам за Шырмаю-Шчарбінскім). Трох братоў пісьменнік згадвае ў сваім жыццяпісе, а пра іншых можна сказаць наступнае: Ян ажаніўся з Граткоўскаю і меў з ёю тры дачкі: Кацярыну, Барбару і Тарэзу; Антон (1846 – пасля 1801) вучыўся ў Варшаўскай рыцарскай школе разам з Тадэвушам Касцюшкаю. З 1769 г. служыў у літоўскім войску, а пасля быў прызначаны ад'ютантам караля (стаў нават генерал-ад'ютантам). У 1790 г. вярнуўся на бацькаўшчыну: стаў сябрам Цывільна-вайсковае камісіі Мінскага ваяводства, пасля – каморнікам ваяводства (1792)[11].

Пра пуцявіны свайго жыцця пісьменнік расказаў у мемуарах. Праўда, напісаны яны ў 1806 г., а г. зн., што пра апошнія гады ягонага зямнога шляху мы амаль нічога не ведаем. Нам так і не ўдалося высветліць, чаму польскія навукоўцы нязменна пішуць "памёр пасля 1817" ці "пасля 1818", а ў беларускіх энцыклапедыях і даведніках год смерці пазначаны як 1819? І як тады быць з выданнем, якое выйшла ў свет у 1823 г. – *W dzień urodzin Jaśnie Wielmożnej Elżbiety z Proszyńskich Gieczewiczowej gubernatorowej Mińskiej gubernii. Ignacy z Jaxow Bykowski. Roku 1823 Novembra 19. v. s.* (Mińsk: w Drukarni Gubernskiej Rządowej). Справа ў тым, што стацкі саветнік Вікенці Гечан-Гечэвіч быў мінскім губернатарам у 1818–1831 гг. І, праўдападобна, што верш паэта быў напісаны, як і надрукаваны, у 1823 г.

Пераважная большасць тэкстаў І. Быкоўскага – гэта пераклады. (Дарэчы, сам пісьменнік вельмі рэдка пазначаў, што перакладае *Мсціслава* А. Сумарокава, *Храм славы* і *Выкраданне кудзерка* А. Поўпа, *Наніну* Вальтэра, *Вясковыя ночы* Жана Шарля Цібо дэ Лаво, Жана Франсуа Мармантэля[12] і інш.). Аднак яшчэ К. Эстрайхер сцвердзіў у сваім славутым выданні: арыгінальны ці перакладны той ці іншы тэкст І. Быкоўскага. Пазнейшыя польскія гісторыкі літаратуры выявілі, што амаль уся літаратурная спадчына пісьменніка з беларускіх зямель – гэта пераклады[13] (ці перапрацоўкі) і назвалі, якіх еўрапейскіх аўтараў наследаваў літаратар з Беларусі.

Фактычна, арыгінальных твораў І. Быкоўскага захавалася няшмат (вершы, вершы-прысвячэнні ды інш.) Усё астатняе, у тым ліку г. зв. філасофская проза – пераклад, перастварэнне або адаптацыя славутых, а часам і малавядомых тэкстаў еўрапейскай пісьменнасці да патрэбаў чытацкае публікі ў Беларусі і Літве. А таму варта казаць пра залежнасць высноў нашага суайчынніка ад працаў еўрапейскіх літаратараў і філосафаў. Зрэшты, найважнейшае тое, што І. Быкоўскі пашыраў найноўшую асветніцкую думку ў краі, дзе не кожны меў магчымасць пазнаёміцца з еўрапейскаю кнігаю ў арыгінале.

Варта сказаць колькі слоў і пра г. зв. "актыўную пазіцыю грамадзяніна-патрыёта, клопат пісьменніка пра будучыню роднага краю", як часам сцвярджаецца ў найноўшых беларускіх літаратуразнаўчых працах.

У маладыя гады І. Быкоўскі далучыўся да расійскага войска (1772–1775), ваяваў у чыне паручніка пад камандаваннем фельдмаршала П. Румянцава і А. Суворава на

[11] Гл.: K. Niesiecki, *Herbarz polski*, wyd. przez J.N. Bobrowicza, Lipsk 1839, s. 378.

[12] Тут, дарэчы, увогуле кур'ёзны выпадак: як уласныя пераклады І. Быкоўскі выдаў тэксты Жана Франсуа Мармантэля ў тлумачэнні Тамаша Каятана Венгерскага, адно змяняючы іх назвы: *Pasterka sabaudzka* на *Fonroz i Adelaida*, а *Przyjaźń na doświadczeniu* на *Nelson i P. Blanford* (абедзве аповесці надрукаваны ў трохтомніку *Powieści moralne p. J.F. Marmontela z francuskiego na język polski wyłożone przez T.K. Węgierskiego* (Warszawa 1776–1778).

[13] Правільней будзе сказаць: кнігі І. Быкоўскага, пазначаныя як перакладныя, адрозніваюцца ад "арыгінальных", ці то "перапрацовак" (насамрэч таксама перакладных, хоць прозвішча аўтара не пазначана) адно хіба меншаю ступенню перапрацоўкі).

Дунаі, што пазней фактычна спрыяла (праўда, не заўсёды) яго грамадскай і літаратурнай дзейнасці ў краі, які, нават яшчэ не анексаваны, быў у поўнай залежнасці ад Расійскай імперыі. Так, у 1799 г. І. Быкоўскі выдаў у Вільні ў друкарні піяраў больш за дзясятак кніг, дзякуючы дапамозе віленскага губернатара Івана Фрызеля, якому паэт прысвяціў выданне паэмы *Kościół sławy*.

Як цікавы прыклад "патрыятызму" І. Быкоўскага можа быць той факт, што пад час паўстання Т. Касцюшкі князь М. Рапнін даваў нашаму герою вайскоўцаў дзеля аховы. Зрэшты, асаблівай прыхільнасцю да расійскай адміністрацыі ён не вызначаўся. Перадусім, не браў удзелу ў працы органаў мясцовай улады (яго прозвішча не згадваецца ў *Месяцословах* Расійскай імперыі). Пасля 1806 г. пісьменнік рэдка выступаў і ў друку: апрача трох публікацый (*Wenera z piany morskiej rodząca się*, Wilno 1808; *Demokryt, filozof grecki, mniemany wariat*, Wilno 1808; *W dzień urodzin Jaśnie Wielmożnej Elżbiety z Proszyńskich Gieczewiczowej, gubernatorowej Mińskiej gubernii*, Mińsk 1823) анічога больш не выдаваў.

Нам невядома дакладна, дзе ён жыў пасля таго, як пакінуў Воўчын (цяпер Камянецкі раён). У асобных публікацыях згадваюцца: маёнтак Луконіца Слонімскага павета (ад імя шляхты павета ён вітаў караля Станіслава Аўгуста ў 1792 г.), маёнтак Хільчыцы ля мястэчка Ражанка Лідскага павета, Мінск і Міншчына (Бахарэвічы?, Пяцеўшчына?).

Шмат разоў пісьменнік спрабаваў зацікавіць сваёй творчасцю вядомых тагачасных літаратараў і мецэнатаў: звяртаўся да Варшаўскага таварыства сяброў навук (1803–1806), Францішка Карпінскага і Тадэвуша Мастоўскага (1806), у Віленскі ўніверсітэт і да Адама Казіміра Чартарыскага (1811). Як відаць, нічога з гэтага не атрымалася. Аднак, нягледзячы на тое, што знаныя асобы адвярнуліся ад І. Быкоўскага, ён быў аўтарытэтам для літаратараў-пачаткоўцаў: ягонае дапамогі чакала Тэкля Урублеўская, ён рабіў спробы захаваць спадчыну Тэафілі Глінскай[14].

Актуалізацыя творчае спадчыны Ігнацы Быкоўскага ў беларускім літаратуразнаўстве пачалася[15]. І яна заслугоўвае таго: дзесяткі кніг пісьменніка пашыралі напрыканцы XVIII – пачатку XIX стст. у Беларусі (землях былога Вялікага Княства Літоўскага) асветніцкія ідэі, папулярызавалі творы еўрапейскага класіцызму і сентыменталізму.

---

[14] І. Быкоўскі занатаваў у свае ўспаміны вершы Т. Урублеўскай (*Teatr życia ludzkiego*, *Szczęście*, *Człowiek, jakiego trudno znaleźć,* а таксама падаў важныя звесткі пра паэтку. Гл.: М. Хаўстовіч, *Тэкля з Бажымоўскіх Урублеўская і яе літаратурная спадчына* [у:] *Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса*, Мінск 2007, с. 219, 231) і Т. Глінскай (*Szczorse* [*Pochwała Szczors*], *Bukiet od córki dla matki*, *Od tej że, w wilią rocznicy ojca*).

[15] Гл. публікацыі Ганны Гладковай: *Перадгісторыя друкаванага варыянта дзённіка Ігнацыя Быкоўскага* [у:] *Мелодии, краски, запахи "малой родины" Адама Мицкевича*, Гродно 2008, с. 271–276; *Ідэйна-мастацкія асаблівасці паэзіі І. Быкоўскага (на прыкладзе зборніка* Wiersze), "Веснік МДУ імя А.А. Куляшова. Філалагічныя навукі" 2009, № 4 (34), с. 140–145; *Эпісталярная спадчына Ігнацыя Быкоўскага*, "Białorutenistyka Białostocka" 2010, с. 131–142; *Мемуары Ігнацыя Быкоўскага як гістарычная крыніца* [у:] *Актуальныя праблемы крыніцазнаўства айчыннай гісторыі*, Віцебск 2011, с. 52–55 і інш.

# УСПАМІНЫ ІГНАЦЫ БЫКОЎСКАГА

Рукапіс успамінаў І. Быкоўскага быў вядомы польскім гісторыкам літаратуры яшчэ ў XIX ст., а напачатку XX ст. трапіў у прыватную бібліятэку Яна Міхальскага (1876–1950). На мове арыгіналу (з мадэрнізацыяй арфаграфіі) надрукаваны Тадэвушам Мікульскім (1909–1958) у часопісе "Pamiętnik literacki" (1950, R. XLI, zesz. 3/4, s. 1049–1071). Перадрук у кнізе: T. Mikulski, *Ze studiów nad Oświeceniem,* Warszawa 1956). У перакладзе Г. Гладковай на расійскую мову друкаваўся ў кнізе: *Кладезь мудрости и благодати: Фольклор и литературные памятники Беларуси*, Москва 2010, с. 642–659. Рукапіс захоўваецца ў Бібліятэцы інстытута літаратурных даследаванняў ПАН (Biblioteka Instytutu Badań Literackich PAN, sygn. Fund. Mich. 99).

## *Жыццё Ігнацы Быкоўскага, паручніка расійскіх войскаў, напісанае ім самім у 1806 годзе*

Я нарадзіўся ў 1750-м годзе ў спадчынным фальварку Пяцеўшчына[1], які знаходзіўся за тры мілі Мінска. Мой бацька памёр, калі мне ішоў трэці год. Маці мая, Свентажэцкая родам, сваім шасці сынам і дачцэ[2], сягаючы вышэй сваіх жаночых магчымасцяў, з нязменным перакананнем і цярплівасцю, старалася даць прыстойную адукацыю, хоць для яе гэта было вельмі цяжка, бо дастатак мела невялікі.

Я, ходзячы ў школу езуітаў у Мінску (ад інфімы аж да рыторыкі – як у той час гаварылася), ведаў Альвар (лацінскую граматыку) на памяць, хоць нічога не разумеў. А цяпер шкадую і свае працы, і тых пяці гадоў, якія зглуміў марна дзеля той бескарыснай адукацыі.

У 1765-м годзе мой старэйшы брат Раман[3] завёз мяне ў Віцебск і ўладкаваў у канвікце ксяндзоў піяраў. Паўтара года ў іх былі мне больш карысныя, чым пяць гадоў у Мінску ў езуітаў, бо і французскую мову сяк-так вывучыў.

У 1766-м годзе, пакінуўшы пакінуў школу і паехаў з тым жа братам Раманам ва Украіну, у Вінніцкі павет[4], дзе яму наша маці адпісала спадчынны фальварак Зарванец. Адсюль гэты ж мой брат Раман аддаў мяне ва Уладзімер у палестру. Праўнікам я не працаваў, бо не выносіў гэтае работы[5].

---

[1] У І. Быкоўскага: Piaciowszczyzna. На ваенна-тапаграфічнай карце Мінскай губерні 1869 г. – Пятовщина.

[2] Пра дзяцей Мацея і Багумілы Быкоўскіх ёсць інфармацыя ў кнізе W. Wielądo, *Heraldyka, czyli Opisanie familii*, Warszawa 1798, t. V, s. V, перадрукаваная пазней у гербоўніку Каспара Нясецкага. Т. Мікульскі выказаў меркаванне, што В. Вялянда атрымаў матэрыял ад Антона Быкоўскага, брата пісьменніка.

[3] Раман Быкоўскі быў межавым суддзёй і каморнікам брацлаўскім (1779), смаленскім войскім (1775–1783), 1783), вінніцкім харунжым.

[4] Брацлаўскае ваяводства Рэчы Паспалітае.

[5] Зусім верагодна, што ў друкаваным *Głosie o determinacyą sądu w sprawie [...] Tadeusza i Giertrudy z Zmiejowskich Bykowskich, Woyskich Smoleńskich, z WJ. Panami Dymitrem Zmiejowskim Szambelanem J.K.M. i Jgnacym Bykowskim Koniuszym Wołkowyskim* (каля 1781 г.) ідзе гаворка пра "нашага" І. Быкоўскага. У 1776 г. пасля смерці віленскага земскага пісара Феліцыяна Змяёўскага пачалася судовая справа за ягоную спадчыну паміж пляменнікамі: Мікалаем, Дзімітрам, Баніфацым Змяёўскімі і Гертрудаю са

У 1770 годзе я пакінуў палестру і накіраваўся да іншага майго брата, Тадэвуша[1], які быў у Воўчыне[2] камісарам у князя Міхала Чартарыскага, канцлера літоўскага. Ён адаслаў мяне ў Варшаву, жадаючы ўладкаваць пры якім-небудзь двары. Але з тае прычыны, што ў той час было ўсеагульнае замяшанне ў польскім народзе з-за высылкі пад час сойму 1767 г. Солтыка, біскупа кракаўскага, Залускага, біскупа кіеўскага, гетмана Жавускага з сынам[3], то магнаты двары свае зменшылі. Дык прасядзеўшы дарма колькі месяцаў у Варшаве і выдаткаваўшы ўсё, што меў, падаўся я да барскай канфедэрацыі, што аддзеламі хадзіла каля Варшавы, і быў у камандзе рэгіментара Бахоўскага[4], мяркуючы, што паспрыяю абароне айчыны, якая гінула. З тым Бахоўскім, блукаючы з аддзелам па Падляшшы, у Гуслеве[5], маёнтках князя Варанецкага, нас разагнаў корпус Браніцкага, які ў той час быў каронным лоўчым[6]. Я, мяняючы коней, рэціраваўся ў радзівілаўскае мястэчка Белае за некалькі міляў ад Брэста. Там, заўважыўшы ўланаў аддзелу Браніцкага, якія ў баі пад Гуслевам захапілі майго прыпражнога каня, атакаваў іх і захапіў у палон. Яны адразу заявілі, што будуць служыць пад маёй камандаю, а таму я іх вызваліў. Але варта было людзям майго аддзелу адысціся, як адзін з іх секануў мяне з тылу палашом, а пасля піхнуў пад бараду. Пакуль людзі мае прыбеглі, яны ўцяклі. Адразу паслалі па майго брата Тадэвуша, што быў у Воўчыне за чатыры мілі. Той, маючы сяброўскія адносіны з Браніцкім, папрасіў у яго ахову для мяне, каб я не трапіў да маскалёў. Пасля таго, як я ачуняў і на ўласным вопыце пераканаўся, што вайсковаму майстэрству трэба вучыцца, атрымаў з дапамогаю брата Тадэвуша афіцэрскі патэнт у караля Станіслава Аўгуста і рэкамендацыю да графа Пятра Румянцава[7], фельдмаршала, які камандаваў у той час, як ішла вайна з туркамі, арміяй на Валахіі, і быў прызначаны ў Сеўскі пяхотны полк у 1772 годзе.

У 1773 годзе пайшлі мы за Дунай; там стаў камандаваць намі Аляксандар Сувораў, у той час генерал-маёр, а пазней фельдмаршал і князь італійскі. У гэтым жа годзе на Сёмуху мелі мы бой з туркамі пад крэпасцю Гірсова ля самага Дунаю, з боку Балгарыі, дзе туркі былі разбітыя. Адразу пасля баталіі Сувораў падаў у адстаўку, не жадаючы падпарадкоўвацца[8]. І мой полк разам з іншымі трапіў пад каманду князя Юрыя

Змяёўскіх Быкоўскаю. Інтарэсы Гертруды Быкоўскае ўзяўся бараніць ваўкавыскі канюшы І. Быкоўскі (вярнуўшыся з войска, будучы літаратар мог атрымаць гэты тытул, тым больш, што пазней ён жыў зусім побач – пад Слонімам і Лідаю) за 30000 злотых. Аднак, нібыта змовіўшыся з Дзімітрам Змяёўскім, ён не толькі не стараўся весці справу належным чынам, але яшчэ паклікаў у суд Гертруду Быкоўскую за нявыплачаны ганарар. Муж Гертруды – Тадэвуш Быкоўскі быў смаленскім войскім. Паводле геральдыстаў (Адам Банецкі, Севярын Урускі) у 1775–1883 гг. смаленскім войскім нібыта быў Раман Быкоўскі. Аднак больш веры можна даць усё ж *Głosu o determinacji sądu*.

[1] Тадэвуш Быкоўскі быў каралеўскім шамбелянам; маёр літоўскіх войскаў.

[2] Мястэчка ў Брэсцкім павеце. Пасля смерці Міхала Чартарыскага (1696–1775) Воўчын перайшоў да Адама Казіміра Чартарыскага.

[3] Кракаўскага біскупа Каятана Солтыка (1715–1788), кіеўскага біскупа Юзафа Залускага (1702–1774), кароннага гетмана польнага Вацлава Жавускага (1706–1779) і ягонага сына Севярына Жавускага (1743–1811) расійскі пасланнік у Варшаве Мікалай Рапнін загадаў вывезці з Варшавы ў Калугу 13/14 кастрычніка 1767 г.

[4] Ян Бахоўскі, рэгіментар (намеснік гетмана), разбіў пад Варшавай у 1769 г. казацкі аддзел.

[5] Бой пад Гуслевым (Гушлевым) адбыўся 25 лютага 1770 г.

[6] Маецца на ўвазе Францішак Ксавэры Браніцкі (1730–1819), які ў 1768–1772 гг. разам з расійскім войскам тлуміў збройны чын барскіх канфедэратаў.

[7] Пётр Румянцаў (1725–1796) камандаваў пад час вайны з Турцыяй (1768–1774) другой, а пасля першай арміямі.

[8] Па іншых звестках, А. Сувораў пасля перамогі 14 верасня 1773 г. пад Гірсовам атрымаў водпуск і пакінуў армію ў кастрычніку.

Далгарукава. Ён захапіў горад Керас, размешчаны за чатыры мілі ад Гірсова, пасля вялікі горад Базарчук за мілю ад Варны, потым – Юні-Базар і іншыя гарады, назваў якіх я не памятаю[1].

Позняй восенню генерал-лейтэнант Унгерн з найлепшым корпусам забітага генерала Вайсмана[2] атакаваў Варну, крэпасць ля Чорнага мора, але яго вымусілі адступіць, і ён страціў тысячу чалавек і восем гармат, а генерал-маёра Рэйзера паранілі ў нагу. Той жа генерал Унгерн, будучы старшым генералам, загадаў нашаму генералу князю Далгарукаму неадкладна спяшацца яму на дапамогу пад Варну, бо мы стаялі за мілю. Аднак з-за таго, што расійскія генералы былі такія амбітныя і падпарадкоўвацца іншаму не хацелі, дык той перапрасіў, але сказаў, што не пойдзе, бо не мае на гэта непасрэднага загаду графа Румянцава.

Калі мы вярталіся назад (а гэта было ў снежні) і былі пад Керасам, Румянцаў, разгневаны на абодвух генералаў, загадаў ім вяртацца пад Варну са сваімі карпусамі. Але правіянту для войска ўжо не было, а коні, як артылерыйскія, гэтак і пад казёнными фурамі, ісці не маглі, дык атрымаўшы такі рапарт, Румянцаў загадаў войску ісці на зімовыя кватэры на Валахію, што было для нас вельмі цяжка і небяспечна, бо ў снежні перапраўляліся праз Дунай. Генералаў за гэта пазбавілі пасадаў, а войска напакутавалася.

Зімою прызначылі мяне ў вайсковую камісію, але з прычыны хваробы далі водпуск у Польшчу на адпачынак.

У 1774-м годзе, яшчэ ў сакавіку, выйшлі мы з зімовых кватэраў і сталі лагерам пад горадам Гірсова за Дунаем. Той самы Аляксандар Сувораў, які стаў ужо генерал-лейтэнантам[3], узяў нас зноў пад сваё камандаванне і меў у корпусе сем тысяч, а пасля генерала Унгерна камандаваў сямітысячным корпусам старэйшы за Суворава генерал-лейтэнат Міхал Камінскі[4]. Ён стаяў са сваім войскам пад Базарчукам паблізу Варны. Стаялі мы на гэтых пазіцыях ажно да ліпеня. І тут генерал Камінскі прыслаў загад нашаму генералу Сувораву, каб як хутчэй спяшаўся яму на дапамогу, бо *рэіс эфэндзі*[5] ішоў на яго з дваццаццю тысячамі ад Казлоча[6], а візір з такою ж колькасцю войска – ад Шумна[7]. Сувораў, хоць не хацеў нікому падпарадкоўвацца, але мусіў, аднак, падпарадкавацца загаду, бо Румянцаў сурова рэкамендаваў, каб малодшы генерал слухаў старэйшага. Пайшлі мы ўгору над ракою Дунай, жадаючы зачапіць Сілістрыю, даволі моцную крэпасць, дзе, як спадзяваўся Сувораў, туркі заступяць нам дарогу. Калі мы наблізіліся да Сілістрыі, малая дывізія туркаў выйшла нам насустрач, а мы загналі іх у горад, і яны больш не паказаліся.

Мінуўшы Сілістрыю, Сувораў заўважыў, што нашы правіянцкія фуры засталіся ў тыле за тры мілі ад войска блізу Сілістрыі, дзе было не больш за трыста арнаўтаў[8], дык туркі маглі, выскачыўшы з Сілістрыі, забраць гэты правіянт. Дык меркавалі, каго паслаць кур'ерам да правіянту з загадам, каб як хутчэй злучаліся з войскам. Ужо было пасля цапстрыку[9] і глыбокая ноч, калі мяне змянілі на варце ў лагеры і загадалі, не

---

[1] І. Быкоўскі называе балгарскія і турэцкія гарады: Карасу, Базарджук, Юні-Базар, Варна.
[2] Отта Вайсман загінуў у баі пад Кучук-Кайнарджа 3 ліпеня 1773 г.
[3] У 1774 г. А. Сувораў стаў генерал-паручнікам.
[4] Правільна: Міхаіл Каменскі (1738–1809).
[5] Маецца на ўвазе міністр замежных спраў Абдул-Рэзак.
[6] Правільна: Казлуджы, сёння Суворава.
[7] Правільна: Шумна (Шумен), пазней Шумла.
[8] Албанцаў.
[9] Сігналу.

чакаючы ранку, ехаць да правіянцкіх фураў, даўшы толькі двух фур’ераў[1]. Было гэта небяспечна, бо турэцкія патрулі з Сілістрыі шасталі ўночы. Калі аніводзін з расійскіх афіцэраў не хацеў рызыкаваць, бачачы небяспеку, паслалі мяне як чужаземца. Я ведаў гэта, але трэба было выканаць загад. Аніхто з нас дарогі не ведаў ды яе там і не было, дык арыентуючыся па зорках, мы ехалі на поўнач. На шчасце, без прыгодаў трапілі мы ў прызначанае месца. Разбудзіўшы каменданта лагера сярод ночы, я перадаў яму загад і рэкамендаваў адразу ж рушыць. Сам, змяніўшы коней, яшчэ перад світаннем накіраваўся назад і перад зменаю варты быў у лагеры. Тут Озераў, наш генерал-маёр[2], і іншыя высокае рангі афіцэры пачалі мяне віншаваць з паспяхова завершаным падарожжам, чаго яны самі не спадзяваліся. У гэты час мой брыгадзір, князь Мачыбелаў[3], абняў мяне і пацалаваў у галаву, даючы публічна сведчанне, што я належна ўсё выканаў.

Пайшоў наш корпус на злучэнне з корпусам генерала Камінскага, ад якога мы былі непадалёку. Толькі мы зблізіліся, як пачаўся бой з туркамі. Сувораў прасіў генерала Камінскага, каб дазволіў яму аднаму ўступіць у бой. Атрымаўшы дазвол, мы адразу накінуліся на туркаў і гналі іх шасцітысячны авангард цэлую мілю. Калі мы выйшлі з лесу і наблізіліся да іх лагеру пад горадам Козлач, дык тут толькі ўся сіла турэцкая, якой было дваццаць тысяч, паднялася супраць нас і з запалам атакавала. Я, маючы каманду пры штандарах, страціў шмат сваіх людзей, сам жа, прызнаюся, цудоўным чынам выратаваўся. Пасля шасцігадзіннай баталіі туркі адступілі і мы, апрача шасці тысяч палонных, захапілі ўвесь турэцкі лагер, гарматы з боепрыпасамі і горад Козлач[4]. Візір, даведаўшыся пра паражэнне *рэіс эфэндзія*, вярнуўся ў крэпасць Шумна, размешчаную сярод Баліёньскіх гор. Сувораў пасля баталіі падаў у адстаўку і ад’ехаў. Генерал Камінскі, прыняўшы камандаванне над двума карпусамі, пайшоў супраць візіра пад Шумна, перамог яго за чвэрць мілі ад тае крэпасці, спаліў дом візіра паблізу горада і атачыў крэпасць Шумна.

У час атакі гэтага горада мяне паслалі кур’ерам ад генерала Камінскага да графа Пятра Румянцава, фельдмаршала, які стаяў пад Сілістрыяй; я вёз з сабою злоўленага турэцкага кур’ера, высланага з Сілістрыі да візіра. Не далі мне больш за двух фур’ераў ахоўваць таго турка. Калі я набліжаўся ўночы да Базарчуку, паведамілі мне казакі, якія ўцякалі з варты (да якой я пад’ехаў), што туркі, выскачыўшы з Варны, пасеклі балгараў, якія былі з імі, што рэшта казакоў з варты схавалася ў лясок (які мне паказалі), што аддзел генерала Рэйзера з Базарчука мусіў ужо выйсці ў пагоню за туркамі. Я павярнуў гэтых казакоў, і яны прывялі мяне да тых, што хаваліся ў лесе. Там, змяніўшы коней, бочнымі дарогамі прабіраўся я да Базарчука, адтуль мусіў даць круг у дзесяць міль дзеля бяспекі, пакуль прыехаў у Сілістрыю.

Пасля таго, як я вярнуўся ад графа Румянцава, нечакана быў падпісаны мір з туркамі ля вёскі Кайнардзі ў 1774 годзе, у ліпені, не памятаю якога дня[5]. І калі мы ўжо ішлі з генералам Камінскім у атаку на крэпасць Шумна, турэцкі і расійскі кур’еры прыляцелі з данясеннем, што мір ужо заключаны. Назаўтра візір прыслаў сваю світу з віншаваннямі і адразу мы пачалі адступаць да Дунаю. Калі нашы войскі пераправіліся праз Дунай, я прыняў каманду ў крэпасці Гірсова, дзе мой падпалкоўнік князь

---

[1] Падафіцэр, які замаецца забяспячэннем войска правіянтам.
[2] Маецца на ўвазе камандзір Першага гранадзёрскага палка Сямён Озераў (1725–1807).
[3] Гаворка пра камандзіра ў 1770–1775 гг. Сеўскага пяхотнага палка палкоўніка (пазней –брыгадзіра) Давіда Мачабелі (Мачабелава) (?–1776).
[4] Маецца на ўвазе перамога пад Казлуджы 20 чэрвеня 1874 г.
[5] Гаворка пра падпісаную 21 ліпеня 1774 г. Кучук-Кайнарджыйскую мірную дамову.

Ратаеў аддаваў яе туркам. Тут у мяне пачалася ліхаманка з-за дунайскае вады, тут на мяне пасыпаліся розныя няшчасці і горасці. Даведаўся я, што два мае казакі, падданыя са спадчыннае вёскі Зарванец, памерлі. А вестка пра смерць майго малодшага брата Станіслава, які пайшоў за мною з-за прывязанасці, ледзь і мяне не давяла да смерці. Ліхаманка ўсё больш і больш мяне адольвала, нават меў частыя канвульсіі. Жадаючы легчы ў адну магілу з каханым братам, я мала дбаў пра лячэнне. Брыгадзір мой, бачачы, які я змучаны хваробай, накіраваў мяне ў Польшчу, даўшы жаўнераў з нашага палку для аховы. Раптам я атрымаў ад брата майго старэйшага, Тадэвуша, ліст, каб падаў у адстаўку, бо на Сойме ўхвалілі павелічэнне войска[1], дык і я магу на высокі чын разлічваць. Не бачачы для сябе памыснасці ў расійскай службе, я падаў у адстаўку і прыехаў у Варшаву. Але калі ў 1776 годзе кароль Станіслаў Панятоўскі зрабіў канфедэрацыю супраць свайго народу, прывёў маскву пад Варшаву, дык меркаванага павелічэння войска не адбылося[2].

З жалем гледзячы на гэтыя інтрыгі, на падзел краю і блізкую гібель мае айчыны, што ўжо прадбачыў, я адмовіўся ад вайсковай службы і пачаў марыць пра спакой.

Бавячыся ў Воўчыне ў князя Адама Чартарыскага[3], генерала зямель падольскіх, у 1778 годзе я пазнаёміўся і пасябраваў з Францішкам Князьніным[4], які быў пры княскім двары. Ягоная дасціпнасць, надзвычайная ветлівасць і лагодны характар моцна заахвочвалі мяне, каб пасябраваць з ім бліжэй, тым больш, што і ён гэтага, здаецца, шукаў. Ён заўсёды мне чытаў фрагменты сваіх твораў, якія я з захапленнем слухаў. А я для яго іграў на тэарбане[5], што яму надзвычай падабалася. Пасля я пачаў паказваць яму фрагменты сваіх тэкстаў. Ён папраўляў некаторыя памылкі і пачаў заахвочваць, каб я ўдасканальваўся ў паэзіі, ахвяруючы мне сваю дапамогу. Дык калі і маю я нейкі талент у пісанні, дык вінны гэтаму адзінаму майму прыяцелю, які паказваў мне памылкі і спосаб пісання, паказваў узоры з розных выдання, што было галоўнай прычынай маёй моцнай заангажаванасці ў паэзіі. Часам ён апавядаў мне некаторыя выпадкі са свайго жыцця: як пакліканы дзіцячым пачуццём, паддаўся захапленню і ўступіў у ордэн езуітаў на трынаццатым годзе жыцця, як у гэтым ордэне змарнаваў лепшы час свайго жыцця ў пустых летуценнях і страціў зрок, пішучы часам цэлымі начамі. Ад'язджаючы з Воўчына ў Варшаву, ён даў мне на памятку пра сяброўства стос паперы, збрашураваны ў кніжку, каб я запісваў у яе свае паэтычныя творы. На пачатку гэтае кніжкі ён напісаў мне наступны верш:

***Да Ігната Быкоўскага Францішак Князьнін***

W nudnościach samych a podległym stanie
Najsłodszem chwile młodości przepędził,
I w tej i w owej lat znikłych odmianie
        Tylkom się wędził.
Ach! jak nieznośna dla tej myśli męka!
Co wzlata wolnie, rada swej swobodzie,

---

[1] Сойм у 1775 г. прыняў пастанову павялічыць войска да 30 тысяч.
[2] Гаворка пра падзеі лета-восені 1776 г.
[3] Маецца на ўвазе Адам Казімір Чартарыскі (1734–1823), палітык, літаратар, мецэнат.
[4] Францішак Князьнін (1756–1807) быў у той час у Воўчыне настаўнікам польскай літаратуры Адама Ежы Чартарыскага (1770–1861).
[5] Музычны інструмент (від лютні), які быў надзвычай папулярны ў магнацкіх і шляхецкіх дварах Рэчы Паспалітай у XVIII ст.

Tu zaś ustawnie podległość ją nęka
    I przykrość bodzie.
Jak więc szczygiełek, na lep ułowiony,
Biedzi się wpośrzód przykrego tarasu[1],
I w te i w owe chcąc ulecieć strony,
    Drze się do lasu,
Lub jak na wzgórku brunatny fijołek,
Gdy nie ma rosy, a słońce zbyt grzeje,
Usycha, więdnie, a chyląc wierzchołek
    Pada i mdleje:
Tak i ja w samym mego wieku kwiecie,
Gdy przykrość martwi, a szczęście nie służy,
Prawie nie czułem, iżem żył na świecie
    W tęskliwej nuży.
Pókim, Ignacy, był w latach dziecinnych,
A miałki umysł zostawał w ciemnocie,
Pótym był kontent z rozrywek niewinnych
    W lubej prostocie.
Aż gdy powoli rozum się przećwiczył,
A przykrość żółć swą mieszała w nauce,
W liczbęm się odtąd odludnych policzył,
    Odtąd się smucę.
Muzy mnie tylko wspierając obficie
Gust mój kastalskim syciły nektarem,
Oneć mi przykre zasładzają życie,
    Tchnę onym darem.
Z Natury łona wypuszczon na ziemię,
Swobodnem myśli na Parnas obrócił;
Przyrzekła Klio wziąć mię za swe plemię,
    Bym przy niej nucił.
Pomnę, jak niegdyś na Zielonym brzegu
Najprzód poznałem córki Mnemozyny,
Tam kędy Widzba w dwoistym ubiegu
    Wpada do Dźwiny[2].
Na poklask onych i chęci przychylne
Począłem nucić wtedy raz najpierwszy.
Wtenczas powziąłem przedsięwzięcie pilne
    I gust do wierszy.
I skorom tylko przystał do Parnasu,
Próżnościom świata oddałem waletę[3].
Tuszył mieć ze mnie od tamtego czasu
    Witebsk poetę.
Odtąd wy gorycz słodzicie, Parnaski,
Skoro do waszej zabawy przysiędę,

[1] Тут: вязніцы, турмы.
[2] "У Віцебску, дзе я быў у канвікце ў піяраў, там і Князьнін, ходзячы ў школы езуітаў, уступіў у іх Ордэн" (заўвага І. Быкоўскага).
[3] З лат.: valete – развітанне.

Żyję spokojny i żyć z waszej łaski,
Wam służąc, będę.
By nie wasz nektar moje słodził trudy
I nie wasz czasem brzęk mię rozweselił,
Może bym dawno po angielsku z nudy[1]
W łeb sobie strzelił.

Мэтаю пісання гэтых радкоў Князьніна для мяне было тое, што мы адзін аднаму не раз апавядалі выпадкі нашага жыцця, разважаючы пра нашу адукацыю (якая на той час была) марную, а таксама пра спосаб мыслення таго веку, пра забабоны, прымхі, фанатызм і г. д., усё, што перашкаджала пісьменніку мець чыстае і высокае ўяўленне пра розныя рэчы... Напісаў ён таксама некалькі строф пра сваё пакліканне да ордэну, якія я тут змяшчаю:

Dziecko, nabożnym złudzone przesądem,
Pęta przyjąłem wbrew idąc naturze.
Błąd ten zbawiennym ukrył się obrządem
W świętej posturze.
Duch mój i ciało oddane w niewolę,
Przykre sam na się włożyłem kajdany.
Chcąc nie chcąc, smutną ucierpiałem dolę —
Więzień spętany.
Choć się wzdrygałem tam czuciów natury,
Czuć jednak wyższą musiałem potęgę,
Która wśrzód ciemnej mierziła klauzury
Próżną przysięgę.
W takowym stanie któż wesół zostawa,
Gdzie myśl się waha, a namiętność kłóci?
Nie zgładzą żadne hamulce i prawa
Wewnętrznej chuci itd.

Лісты гэтага шаноўнага Ментара і Сябра – мой самы дарагі скарб і найсаладзейшая памятка яго сяброўства. Некалькі гэтых лістоў я паслаў ў Варшаву ў Варшаўскае таварыства[2] ў 1805 годзе разам з маімі творамі, рэшту захоўваю ў сябе[3]. Калі я пасылаў яму свае рукапісы на праўку, дык напісаў наступны верш:

Posyłam Ci me pisma, kochany Franciszku!
Którem sobie układał, siedzący w zaciszku.
Przed tobą są otwarte i serce, i myśli,
Pod twój sąd zawsze idzie, co me pióro kryśli.
Twoja przyjaźń stateczna i twe światłe rady,

[1] Гаворка пра модную ў той час “англійскую хваробу” – spleen.
[2] Маецца на ўвазе Таварыства сяброў навук у Варшаве (1800–1832), якое гуртавала вучоных, літаратараў і інш.
[3] І. Быкоўскі ў лістападзе-снежні 1803 г. пісаў да Таварыства, абяцаючы даслаць свае літаратурныя творы. На пасяджэнні 2 студзеня 1804 г. Таварыства абавязала свайго старшыню Яна Альбертрандзі (1731–1808) ухваліць пачынанні суайчынніка, які спрыяе “пашырэнню навук і святла адукацыі” на бацькаўшчыне. Пісьменнік зразумеў дасланы яму ліст як заахвочванне да супрацоўніцтва з Таварыствам, а таму дасылае ў Варшаву свае творы (трагедыю *Belizariusz*, дзве камедыі, а таксама друкаваныя вершаваныя творы) з просьбай ацаніць іх. Аднак Таварыства, спасылаючыся на “слушныя прычыны” адмовілася ад “roztrząsania dzieł tego rodzaju”. І. Быкоўскі ўсё ж працягваў настойваць на сваім. Гл. ліст пісьменніка да Я. Альбертрандзі ад 2 лютага 1805 г. у нашым выданні.

Poprawując mój dowścip, zmniejszały w nim wady.
Tyś mi zawsze doradzał, bym życia godziny
Poświęcał na wielbienie córek Mnemozyny,
Odtąd mnie słodka była ta zabawa święta,
Chęć się к niej przykładała, twym wzorem ujęta.
Przyjmże więc do poprawy prac moich usiłki,
Gdzie zaś Ci się zda, odmień, gdy znajdziesz omyłki.
Mnie to ani urazi, ani też rozdraźni,
Przyjmę jak za najdroższy dar twojej przyjaźni.
Lepiej, że mnie ich zdrożność wskażesz poufale,
Niźli wydać na światło, a niedoskonale.
Tymczasem wierz statecznie, iże przywiązanie
Ku tobie – chyba z życiem moim wraz ustanie[1].

У 1781 годзе паслаў яму на праўку трагедыю *Mścisław*, якую пасля, у 1787 годзе, надрукавалі. У Гродне ў тым жа годзе былі надрукаваны мае дзве аповесці: *Kokietka, czyli Przypadki Irysy* ды *Ema i Lemozow: Powieść rossyjska*. У гэтым жа годзе Гроль, кнігагандляр варшаўскі[2], надрукаваў першую частку *Wieczorów wiejskich*, вершам. У 1788 годзе Дуфур, кнігагандляр варшаўскі[3], надрукаваў другую частку *Wieczorów wiejskich*, вершам і прозаю, прысвечаную Станіславу Аўгусту, каралю польскаму. Гэтую кніжку ксёндз Нарушэвіч, біскуп луцкі[4], аддаў каралю. Другі твор, які ён таксама надрукаваў, – *Nocy wiejskie*, вершам. 3tio *Pukiel Belindzie ustrzyżony i porwany: Poema*. 4to *Nelson i Blanford: Powieść*. 5to *Sydney y Wolsan: Powieść*. 6to *Dwie sułtanki: Powieść*. 7to *Mścisław*: *Tragedia*. У 1789 годзе ў Вольнай друкарні[5] ў Варшаве надрукавалі *Saul: Tragedia*.

У гэтым жа годзе я ажаніўся з Антанінаю Тарлецкаю, з якою маю сына Януша[6] і дачку Багумілу[7]. Дачцэ мы далі імя маёй маці на памятку таго, што была яна найлепшая. Сыну я даў імя свайго прадзеда, на памятку, што ад яго выводзіцца мой род. Жонка мая сама карміла абодвух дзяцей, нягледзячы на крык і нараканні суседак, якія называлі мяне тыранам, бо самі не кармілі. І жонка мая, бачачы цяпер ўдзячных дзяцей, не шкадуе перанесеных з-за іх цяжкасцяў.

Уцягнуўшыся змоладу ў пісанне, я не пераставаў пісаць і далей. У 1790 годзе аддаў у друк у Мінску[8]: *Batchmendy: Powieść perska*. 2do *Kwestya podana do rozwiązania, czyli Dusza bardziej bywa wzruszona przez rozkosz, czyli też przez smutek*. У 1792 годзе ў Варшаве аддаў я друкаваць *Gustaw Waza: powieść szwedzka*. У 1799 годзе ў Вільні

---

[1] Тут заўвага І. Быкоўскага: “Que n’ai je? En te perdant, perdû le souvenir”.
[2] Гаворка пра Міхаэля Гроля (1722–1798), варшаўскага кнігагандляра, выдаўца і друкара.
[3] Гаворка пра Пятра Дюфура (Dufour) (1730–1797), варшаўскага кнігагандляра, выдаўца і друкара.
[4] Маецца на ўвазе Адам Нарушэвіч (1733–1796), вядомы гісторык, паэт, перакладчык.
[5] Маецца на ўвазе друкарня, заснаваная ў 1788 г. Янам Патоцкім (1761–1815), французскамоўным пісьменнікам, аўтарам аповесці *Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе*.
[6] У лісце да князя А.Е. Чартарыскага ад 7 мая 1811 г. І. Быкоўскі просіць узяць пад апеку свайго сямнаццацігадовага сын Януша, які атрымаў добрую адукацыю.
[7] У кнізе Севярына Урускага *Rodzina: Herbarz szlachty polskiej* (Warszawa 1905, t. II, s. 108) маюцца звесткі пра яшчэ аднаго сына І. Быкоўскага – Валентыя, які ў 1839 г. у Царстве Польскім давеў сваё шляхецкае паходжанне. Магчыма, тут гаворка пра сына, які нарадзіўся пасля 1806 г. Аднак, хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе нехта з роду Быкоўскіх з Серадзкага ваяводства. Генеалагічны партал MyHeritage (http://www.myheritage.pl/) таксама называе Валенты Быкоўскага, 1780 г. н., сынам І. Быкоўскага, афіцэра расійскіх войскаў, і Тарлецкае.
[8] У Мінску ў 1790-я гг. базыльяне мелі друкарню, у якой выдавалі юрыдычную і мастацкую літаратуру.

ў піяраў[1] аддаў у друк: 1mo *Kościół sławy*: *Poema*. 2do *Rozmyślania wieśniacze*. 3tio *Wiersz do Najjaśniejszego Imperatora Pawła Piotrowicza*. 4to *Nanina: Komedia* і некалькі аповесцяў. Фрызель, які ў той час быў віленскім губернатарам[2], найбольш дапамог мне ў справе друку гэтых твораў, і я прысвяціў яму *Kościół sławy*: *Poema*. У 1803 годзе аддаў у Гародні[3] ў друк *Ścieszka do szczęścia mało komu znana: Powieść*. Маю яшчэ ў рукапісе наступныя творы: 1-mo *Sposób sądzenia o guście*, 2do *Świątynia szczęścia*, 3tio *Zabawy z sobą samym, w dziesiąciu uwagach wierszem*, 4to першы том *Rewolucji Francuskiej*, выдадзенай Дэсадуарсам (Antoine Fantin-Desodoards – M. X.), і некалькі аповесцяў. Перакладзеныя і перапрацаваныя наступныя драматычная творы: 1mo *Zwodziciel: Komedia w piąciu aktach*, да якое свае арыйкі дадаў, 2do *Demokryt, filozof grecki*, вершам, 3tio *Armida, czyli Fortele miłości: Opera wierszem*, 4to *Śmierć Dydony: Opera wierszem*.

Пасля пачаў я ўласныя сілы выпрабоўваць у драматургіі і напісаў арыгінальныя: 1mo *Zoroaster: Trajedia*, 2do *Westałka: Trajedia*, 3tio *Belizar: Trajedia*; гэтыя трагедыі я перапрацаваў пасля прачытання іх Францішкам Карпінскім[4], маім прыяцелем і слаўным паэтам, якому ўсе свае творы даваў на праўку ў 1806 годзе. 4to *Śmierć Hektora: Trajedia*, якую Найяснейшаму Аляксандру I, імператару расійскаму прысвяціў, 5to *Adelaida: Trajedia*, 6to *Śmierć Jasińskiego, czyli Dobycie Pragi: Trajedia*, 7mo *Zbrodniarze po śmierci ukarani: Trajedia*.

З твораў драматычна-камічных напісаў я наступныя арыгінальныя: 1mo *Królowa Bona: Drama*, 2do *Alcyra: Drama*, 3tio *Trzy Gracje: Drama liryczne*, 4to *Palemon: Drama liryczne*, 5to *Wenera z piany morskiej rodząca się: Opera,* 6to *Sędzia niesprawiedliwy: Drama*.

Напісаў я таксама працу пра паляпшэнне земляробства. Таксама напісаў *Ліст да Варшаўскага таварыства* з дaданымі асобна чатырма адказамі на пытанне, ці рэформа Марціна Лютэра прынесла якую карысць для рэлігіі[5].

Гэта ўсё ляжыць у рукапісах. Іншых, больш дробных твораў, не пералічаю. Цяпер маю пяцьдзесят пяць гадоў. Калі ў далейшым сваім жыцці буду мець магчымасць і штосьці важнае здарыцца, дык не марудзячы напішу.

Разважаючы пра сваё жыццё, калі гляджу назад, бачу шэраг няшчасцяў, звязаных з натураю чалавека, у якія яго заводзіць альбо нявопытная маладосць, альбо збег акалічнасцяў ці бескантрольныя жарсці, альбо, урэшце, агульная бяда, якую зазналі мы пры страце нашае айчыны, што я ў шмат якіх творах тлумачыў. Адсюль ясна можна

[1] У 1754 г. ксёндз Мацей Догель заснаваў віленскую друкарню піяраў. Дзякуючы набытаму новаму французскаму абсталяванню, вызначалася высокай якасцю друку.

[2] Маецца на ўвазе Іван Фрызель (1740 – пасля 1809), віленскі (правільна: літоўскі) губернатар (1799–1801), абаронца правоў жыдоў. На пачатку XIX ст. падаў свой праект у г. зв. “Еврейский комитет”, які ў 1804 г. распрацаваў *Положение о евреях*. Праект I. Фрызеля быў супрацьпастаўлены антысеміцкаму праекту Г. Дзяржавіна.

[3] У Гародні першую друкарню заснаваў у 1775 г. Антоні Тызенгаўз (1733–1785). Кіраваў ёю ў 1788–1792 гг. Барух Ром. У другой палове 1790-х гг. была перанесена ў Вільню. З 1794 г. у Гародні выдавала кнігі прыватная друкарня Яна Ясеньскага.

[4] Францішак Карпінскі (1741–1825), адзін з самых вядомых паэтаў-сентыменталістаў Рэчы Паспалітае эпохі Асветніцтва.

[5] 3 мая 1805 г. Таварыства сяброў навукі ў Варшаве аб’явіла конкурс на тэму: “Які ўплаў мела рэформа Лютара на палітычны стан у Польшчы і развіццё народнай адукацыі”. Як высветлілі польскія даследчыкі Ежы Міхальскі і Тадэвуш Мікульскі, на конкурс былі дасланыя дзве працы – Ігнацы Патоцкага і, відавочна, I. Быкоўскага. Гл.: T. Mikulski, *Ze studiów...*, s. 1064–1065.

бачыць, што аніводзін жывы чалавек – ад вялікага да малога – з няшчасцяў выблытацца не можа. Людвік XVI, кароль французскі, стаў ахвяраю свае пакорлівасці і няўмеласці; жонку ж яго, Антонію, інтрыга ў тую ж прорву ўкінула. Вопыт гаворыць нам, што калі аграмадны дуб валіцца, дык і малыя дубочкі сабою ломіць. Так Францыя беспарадкамі, а Польшча сваім заняпадам шмат нявінных ахвяраў паглынулі. Ад такіх думак напісаў наступныя радкі, якія ў трагедыя *Adelaida* змясціў на канцы.

Nadto bidny człeka stanie!
W ustawnej jesteś odmianie.
Ledwo kiedy dzionek minął,
By człek w rozpaczy nie ginął.
Gdy zda się, że prosto dąży,
Aż traf go w przepaści grąży *etc.*

Задумваючыся пра сваё ўласнае жыццё і пра чалавечы лёс, наступны верш напісаў да Тадэвуша Мастоўскага[1]:

Kiedy rozważam całe moje życie,
Widzę, że z nurtem wody upłynął wiek mój młody,
  A dni mych było niebaczne użycie.
Dowścip młodziuchny ledwo co rozkwitał,
Wnet stała chęć podniecać, ażeby go oświecać,
  Nie znając celu, wszytkiegom się chwytał.
Nad swą istnością dumałem zdziwiony,
Żem mógł głęboko myślić, wyrażać, mówić, kryślić,
  Czułem stąd radość, żem był utworzony.
Wtym dał się słyszeć głos nauczyciela.
Wskazując on pozory, struł uciech prawych wzory.
  Odtąd z jestestwa nie czuję wesela.
Rodzice groźną lub niedbałą władzą
Przytępiają w człowieku bystrość młodego wieku,
  Rzadko im ważność trudów uczuć dadzą.
Aż wnet tysiączne rozrywki i gusta
Serce gwałtownie wzburzą, myśl w rozkoszach zanurzą,
  Tu się dopiero otwiera rozpusta.
Wszytko mu sprzyja i przymnaża chluby,
Porwany między fale, nie chce się dźwignąć wcale,
  Lęka się burzy, ale nie swej zguby.
Z zdarzonej pory korzystać nie umie,
Myśl się ustawnie chwieje, podchlebują nadzieje,
  I że u mety już stanął, rozumie.
Na tym jedynie wszytkim dni me trawił,
Czym bym się dziś ucieszył... I żebym tam pospieszył,
  Gdzie (wiem) z słodyczą, iż się będę bawił.

---

[1] Гэты верш І. Быкоўскага захаваўся ў трох рэдакцыях. Першая друкавалася ў зборніку *Wieczory wiejskie* (Warszawa 1887, s. 50–59) пад тытулам *Do Tadeusza przeze mnie* і была прысвечана брату паэта. Другая з'явілася ў зборніку *Rozmyślenia wieśniacze* (Wilno 1799, s. 56–66) пад тытулам *Do Andrzeja*. Трэцюю рэдакцыю паэт скіраваў да Тадэвуша Мастоўскага (1766–1842), публіцыста і выдаўца, які напачатку XIX ст. рэалізаваў некалькі серый ("Wybór pisarzów polskich", t. I–XXVII, 1803–1805; "Wybór powieści moralnych i romansów", t. I–XX, 1804–1805). Тэксты І. Быкоўскага ў Т. Мастоўскага не друкаваліся.

Kochałem tkliwie i byłem kochany,
Strój miałem według mody dla kształtniejszej urody,
I tyś, mój rywal, mógł być pokonany.
Tysiączne razem przed się brałem prace,
A zuchwały i hardy, za nic miałem azardy,
Tusząc, zwycięstwem że trudy opłacę.
Czasem słonecznych chroniąc się promieni,
Padłszy w cieniu pod drzewem, gdy wiatr chłodził powiewem,
Myślałem, że się los mój już nie zmieni.
I teraz, wpadłszy czasem w zachwycenie,
Zda się, że owe chwile idą wstecz do mnie mile
I że w nich moje nasycam pragnienie.
Ni tych urojeń ma dusza pozbędzie,
Jakby znów wiosna miła dni mych znów się wróciła,
I chciałbym zawsze zostawać w tym błędzie.
W ocknieniu amant takie czuje dziwy,
Że mu przerwało wcześnie szczęście, które miał we śnie,
Znowu chce usnąć, aby był szczęśliwy!
Ilekroć wiodła do uciech ochota,
Mniemałem, że nie błądzę, gdy me nasycam żądze,
Chociaż wewnętrznie trapiła zgryzota.
Aż czas mój umysł odmienił nieznacznie,
Postradawszy obiekta, porzuciłem projekta
I już nie myślę, jak przedtym, opacznie.
Pod mglistą chmurą, w młodości mej kwiecie
Podchlebnie rozumiałem, że wszytko mym udziałem
Ma być, com widział pięknego na świecie.
Aż kiedym zerwał dziś zasłonę grubą
I te ćmę stałe oko, gdy przenika głęboko,
Widzę aż nadto myśl próżną z mą zgubą.
Łańcuch natury chciałem ujrzeć nieraz,
Aż gdy moja myśl żywa dostrzegła te ogniwa,
Żem to otrzymał, żałuję już teraz.
Gdyż stąd poznałem stan bidny człowieka,
Że całe życie błądzi i częściej mylnie sądzi,
A krok za szczęściem posuwa z daleka.
Przykrzyłem, że czas nierychło ucieka!
Wnet stanąłem u mety, com tak pragnął, niestety,
Straszny, ach, straszny moment, co mnie czeka.
Uciech zdradliwych dość i innych było,
Co uniósł w swoim biegu czas do wieczności brzegu,
Rozważać przeszłość jednak zawsze miło.
Mniemałem, żem jest aż nadto szczęśliwy!
Gdym nocy i poranki trawił u mej kochanki,
Jej powab rzadki wielbił umysł tkliwy.
Byłem u siebie mocno przekonany,
Żem się ja tylko liczył, com tę piękność dziedziczył,
I żem wzajemnie od niej ukochany.
Wszytkie ochoczo pełniłem rozkazy,

A jak jedyne Bóstwo, czciłem w niej wdzięków mnóstwo,
Przyjemne nawet były jej urazy.
Myślałem rychło, że u mety stanę,
A po tej przykrej dobie będę szczęśliwym sobie,
Kiedy w nadgrodę jej serce dostanę.
Ale zwierciadło prawdy błąd mój wyda,
W nim widzę z zawstydzeniem, iż chytrym omamieniem
W ogrodzie swoim trzyma mnie Armida[1].
Tu się dopiero mój umysł oświeci,
A w serca mego czczości ujrzę sidła miłości,
Do których wielu obłąkanych leci.
Tak to swe miłość ubarwia nadzieje!
Wskazując obiekt z dala, do rozkoszy zapala,
Która użyciem częstym gdy słabieje[2],
Wtenczas oziębła wierność już jej strzeże,
Tej wolą swą poddawszy, wolności postradawszy,
Na miłosne się udadzą kradzieże.
Z początku było to zabawką grzeczną,
Ale po krótkiej chwili w zwyczaj ją zamienili,
A na ostatek w potrzebę konieczną.
To, com okryślał dotąd, wszytko za nic!
O srogie przeznaczenie! Żal czuję na wspomnienie
Złości, które mię trapiły bez granic.
Wszytkichem ludzi miał za mych współbraci,
Żyjąc z nimi bez zwady, nie lękałem się zdrady,
Myśląc, że każdy przyjaźnią odpłaci.
Serce i dom mój był dla nich otwarty,
Z pomocąm się к nim spieszył, abym w smutku pocieszył,
W potrzebie każdy był ode mnie wsparty.
Ale mniemania mnie moje zawiodły!
Postrzegłem (co za dziwy!), że się zwał sprawiedliwy
Ten, co mię odarł i co z gruntu podły.
Z żalem patrzyłem, jak prześladowano
Wszędy słuszność niewinną, a zaś potwarz złoczynną
Z poklaskiem podłym za cnotę uznano.
Nadstawiam ucha i podstąpię dalej,
Ale chytrość haniebną zwą dobrocią potrzebną,
Obrzydłe kłamstwo wszyscy uwielbiali.
Każda społeczność w podchlebców obfita,
Zacnością u nich pycha, z zawiści każdy wzdycha,
A pod obłudą pobożność ukryta.
Zdrajca nikczemny, z nim łakomieć drugi,
Pełni obydwa zbrodni, zepchnąwszy tych, co godni,
Sami usiedli na miejscu zasługi.

[1] Гераіня паэмы Т. Тасо (1544–1595) *Вызвалены Ерусалім*. У літаратуры ейнае імя часта выступае як сімвал дзяўчыны, якая зачароўвае сваёй прывабнасцю і хараством.
[2] “Omnis appetitus placet, experientia displicet” (заўвага І. Быкоўскага). Словы рымскага папы Грыгора Вялікага (540–604) з казання *Homilie* (36, 1), што тычыцца *Евангелля*.

Акадэмія) навучання пісьменніка. Пісаць біяграфію Я. Баршчэўскага трэба, бясспрэчна, паводле пэўных гістарычных дакументаў. Менавіта дакументамі варта падмацоўваць выказванні першага біёграфа пісьменніка Рамуальда Падбярэскага, які ў сваім вядомым нарысе імкнецца стварыць вобраз рамантычнага паэта, жыццё якога “з’яўляецца адным пастаянным самаахвяраваннем – дзеля паэзіі”[38].

З ягонага артыкула можна даведацца, што Я. Баршчэўскі “яшчэ ў Полацку, у калегіі езуітаў, будучы малым хлапчуком <…> пісаў ужо вершы, за што рана заслужыў мянушку вершаскладальніка”[39], што Я. Баршчэўскі быў “бурсаком” ці “бедным шкаляром”, што Я. Баршчэўскі закончыў вучобу ў Полацку “з атэстатам кандыдата”[40].

Фактычна, ані слова не сказаўшы пра Полацкую акадэмію, Р. Падбярэскі сцвярджае, што пісьменнік вучыўся ў ёй: ступень кандыдата можна было атрымаць не ў калегіі, а толькі ў Акадэміі[41]. Юльян Барташэвіч, які асабіста ведаў Я. Баршчэўскага, у некралозе, часам спрачаючыся-іранізуючы з выказваннямі Р. Падбярэскага, фактычна толькі паўтарае “першага біёграфа” і анічога новага не дадае пра вучобу пісьменніка ў Полацку.

Аніякіх новых матэрыялаў пра полацкі перыяд жыцця Я. Баршчэўскага не будуць мець у сваім распараджэнні аўтары нататак у энцыклапедыях і бібліяграфічных слоўніках XIX–XX стст. Нават Ян Гіжыцкі, аўтар надзвычай цікавае працы пра Полацкую акадэмію, не адшукаў аніякіх дакументаў пра беларускага пісьменніка. Ён адно толькі дае ягоную біяграфію на падставе ўсё тых жа энцыклапедый у раздзеле *Вядомыя выхаванцы беларускіх езуітаў*[42].

У 1924 г. у зборніку *Z filareckiego świata* Генрык Масціцкі надрукаваў успаміны Эдварда Тамаша Масальскага[43], колішняга студэнта Полацкай акадэміі. У іх ёсць

---

[38] Р. Падбярэскі, *Беларусь і Ян Баршчэўскі* [у:] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Варшава 2012, с. 372.

[39] *Ibidem*.

[40] *Ibidem*, с. 375. Паводле новых інфармацый, атэстат кандыдата Я. Баршчэўскі пад час вучобы не атрымаў. Так, 26 верасня 1834 г. у сваёй заяве на імя рэктара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Я. Баршчэўскі піша: “Окончив курс наук в бывшей Полоцкой Эзуитской Академии, не мог я получить надлежащий мне аттестат по причине непредвиденного удаления сего Ордена из пределов государства Российского, ныне же желая принять на себя обязанности учителя латинского языка, прошу Ваше Превосходительство приказать сделать мне экзамен и снабдить для сего предмета законным аттестатом”. Гл.: http://urfinwe.livejournal.com [доступ: 31.08.2013]. У Расійскай імперыі ступень кандыдата прысуджалася студэнтам, якія паспяхова закончылі ўніверсітэт (акадэмію ці ліцэй) і падалі пісьмовую працу. Яна давала права на атрыманне чыну калежскага сакратара (10 клас). У 1834 г., як сведчыць заява, – Я. Баршчэўскі меў чын губернскага сакратара (12 клас). Да заявы Я. Баршчэўскі далучыў толькі пісьмовую працу на латыні. Словы пісьменніка пра неатрыманы атэстат з прычыны раптоўнага выгнання езуітаў ў 1820 г., здавалася б, пацвярджаюць інфармацыю з артыкулаў Р. Падбярэскага і Ю. Барташэвіча пра тое, што Я. Баршчэўскі быў “калегам” на школьнай лаўцы Гаўдэнтыя Шапялевіча (г. зн., вучыўся ў Полацку да сакавіка 1820 г.), які сапраўды пакінуў Акадэмію ў сувязі з выгнаннем езуітаў, хоць і насцярожвае той факт, што Я. Баршчэўскі быў студэнтам ледзь не да трыццаці гадоў (калі прыняць за год нараджэння 1790).

[41] Можна дапусціць, што Я. Баршчэўскі ўсё ж у 1834 г. быў дапушчаны да экзамену і атрымаў ступень кандыдата Полацкай акадэміі, а таму сябры і знаёмыя маглі называць яго так.

[42] J. G., *Materyały do dziejów Akademii Połockiej i szkół od niej zależnych*, Kraków 1905, s. 243–244.

[43] Эдвард Тамаш Масальскі (1799–1879) нарадзіўся пад Нясвіжам (Рудаўка), але дзіцячыя гады прайшлі на Ігуменшчыне. Пасля выгнання езуітаў працягваў вучобу ў Віленскім універсітэце, належаў да таварыства філарэтаў, быў арыштаваны ў 1823 г., але ў хуткім часе вызвалены і працягваў навуку. У рамане *Пан Падстоліц* (1831–1833) закрануў актуальныя праблемы грамадскага і сацыяльна-эканамічнага жыцця на Беларусі. Жыў і працаваў у Пецярбургу, на Валыні, Варшаве. Апошнія гады жыцця правёў у Лювене, дзе жыў у сына Урбана, прафесара Лювенскага ўніверсітэта.

згадка і пра Я. Баршчэўскага: "У 1816 годзе мы закончылі пяты клас школаў магілёўскіх, і бацька завёз нас у Полацкую езуіцкую акадэмію. Наняў для нас кватэру і стол у горадзе ў нейкае пані Масынінай, італьянкі, удавы кандытара. Адрэкамендаваў кс. Ландэсу, правінцыялу, і рэктару Акадэміі кс. Бжазоўскаму, і былі мы запісаны ў почат вучняў факультэта вольных навук на філасофскае аддзяленне. Факультэтаў было тры ў Акадэміі, а менавіта: факультэт моваў, факультэт вольных навук і факультэт тэалагічны[44]. Але факультэт вольных навук дзяліўся на тры аддзяленні: 1. уласна "вольных навук", дзе выкладалася: майстэрства вершаскладання, красамоўства, усеагульная гісторыя, старажытнасці, а таксама выяўленчае мастацтва, музыка і г. д.; 2. на філасофскім выкладалі логіку, метафізіку, дыялектыку, этыку, натуральную тэалогію, таксама матэматыку чыстую і прыкладную, фізіку, хімію, і натуральную гісторыю; 3. на юрыдычным было права натуры, права кананічнае, рымскае і краёвае цывільнае і крымінальнае, а таксама судовы працэс. На першых двух аддзяленнях гэтага факультэта ўсе навукі былі на латыні і перапоўнены сілагізмамі, усё паводле даўнейшых аўтараў. <…> пачалі мы наведваць лекцыі. Юзаф, жвавейшы за мяне, спрытнейшы і схільны хутчэй да паэзіі, чым да рэфлексійных навук, знудзіўся філасофскім аддзяленнем і перайшоў на літаратурнае, г. зн. на ўласна вольных навук. А з тае прычыны, што там яму ўсё ішло так лёгка, што не патрабуючы працаваць дома, бо лекцыі памятаў на слых, дык пачаў больш часу прысвячаць пісанню вершаў, а таксама і на крыху задоўгія спатканні з калегамі. Сярод іх было нямала працавітых і старанных, як напрыклад, на юрыдычным аддзяленні Данат Жаброўскі, Канстанцін Сербіновіч, Пятро Эліяшэвіч; на літаратурным – Шапялевіч і Баршчэўскі. Гэтыя абодва шмат мелі паэтычнага натхнення, і калі б ім трапіўся лепшы прафесар, пэўна б пакінулі пасля сябе лепшыя творы, чым тыя, якія выдалі. Але шмат таксама сярод іх было і панічыкаў, якія мала вучыліся, трацячы шмат часу на забавы, дазваляючы сабе нават карты і розныя выбрыкі, нягледзячы на суровасць езуіцкага нагляду. З ліку тых гулякаў прыяцельскія дачыненні з намі мелі Камароўскія, Жаброўскія, браты Даната, Петрыкоўскія, іхнія сваякі Юрэвічы, Беніслаўскія – усе беларусы, хлопцы добрыя і пачцівыя, але ў Акадэмію хадзілі толькі для формы, хутчэй дзеля забавы"[45].

Тое, што браты Масальскія маглі апынуцца ў Акадэміі ўвосень 1816 г., ускосна пацвярджаецца іншымі крыніцамі. Так, "Kalendarzyk na Rok Pański 1815" паведамляе, што Тамаш і Юзаф Масальскія былі выдатнікамі ў III класе (звесткі для календара падрыхтаваны ў сярэдзіне 1814 г.) Магілёўскай езуіцкай калегіі. А г. зн., што браты ў 1814/1815 навучальным годзе хадзілі ў клас паэтыкі (IV), а ў 1815/1816 – у клас рыторыкі (V) і, закончыўшы калегію, маглі ў тым жа 1816 г. запісацца ў Полацкую Акадэмію.

Аднак звяртаюць на сябе ўвагу пэўныя недакладнасці ва ўспамінах Э.Т. Масальскага. Па-першае, Алаіз Ландэс (1767–1844) правінцыялам езуітаў быў у 1809–1814 гг., а з 1814 да 1 жніўня 1817 г. выконваў абавязкі рэктара Акадэміі[46]. Адпаведна

---

[44] Навучанне на тэалагічным факультэце доўжылася 4 гады. Студэнт, які не здаваў экзамен пасля першага года, пераходзіў на г. зв. ніжэйшы курс і два гады вывучаў маральную тэалогію; калі не здаваў экзамен пасля другога года, дык яшчэ год вывучаў маральную тэалогію. Гл.: *Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach polski i Litwy: 1564–1995*, oprac. L. Grzebień SJ, Kraków 2004, s.691.

[45] E.T. Massalski, *Z pamiętników (1799–1824)* [w:] *Z filareckiego świata: Zbiór wspomnień z lat 1816–1824*, Warszawa 1924, s. 247–248.

[46] *Encyklopedia wiedzy o jezuitach*..., s. 354.

Раймунд Бжазоўскі[47] (1763–1848) у 1814–1816 гг. быў канцлерам Акадэміі, а з 1 жніўня 1817 – рэктарам[48]. Зрэшты, недакладнасці невялікія. Вось толькі здзіўляе той факт, што мемуарыст не памятае свайго першага рэктара Акадэміі. Па-другое, у памяці мемуарыста не захавалася дакладная інфармацыя пра падзел роднага факультэта на структурныя адзінкі (курсы, аддзяленні ці класы) [49].

Крыніцы падаюць, што ў Акадэміі існаваў факультэт філасофскіх і вольных навук, які меў чатыры аддзяленні (класы): I клас (або клас логікі і метафізікі), дзе выкладаліся: логіка, дыялектыка, метафізіка, этыка або маральная філасофія, палітычная эканомія і статыстыка, геаметрыя і салідаметрыя, заалогія; II клас (або клас фізікі), дзе выкладаліся: фізіка, эксперыментальная фізіка, хімія, мінералогія, трыганаметрыя; III клас (або клас прыкладной матэматыкі), дзе выкладалася: прыкладная матэматыка, астраномія, грамадзянская і вайсковая архітэктура, батаніка; IV клас (або клас красамоўства[50]), дзе выкладалася: вершаскладанне, красамоўства свецкае, красамоўства касцельнае, грамадзянскае права і дыпламатыя, усеагульная гісторыя. Звычайна, маладыя людзі запісваліся на першы курс (аддзяленне, клас) – на логіку і метафізіку, закончыўшы які мелі права вучыцца на другім курсе – на аддзяленні фізікі. А вось трэці курс большасць студэнтаў прапускала, адразу запісваючыся на аддзяленне красамоўства і права.

Першы год навучання ў Полацку (1816/1817) – паводле мемуарыста – браты Масальскія завяршылі паспяхова: Юзаф атрымаў "ступень студэнта вольных навук", а Эдвард Тамаш – "студэнта філасофіі". Вакацыі яны правялі на Ігуменшчыне, удзельнічалі ў выбарах павятовых чыноўнікаў ад шляхты. І гэта яшчэ адзін аргумент, што Масальскія з 1816 г. вучыліся ў Полацку: выбары сапраўды адбыліся летам 1817 г. у Мінску.

Другі год навучання (1817/1818) браты закончылі з "патэнтамі кандыдатаў".

А пра трэці год (відавочна, 1818/1819) Э.Т. Масальскі пачынае гаворку з таго, што згадвае сваіх сваякоў з Навагрудчыны Рафала і Атона Слізьняў, якія нібыта толькі прыехалі ў Полацак. Аднак тут яшчэ раз памыляецца мемуарыст: як сведчаць успаміны Атона Слізьня, ён і ягоныя браты пачалі вучобу ў Полацкім калегіуме ў 1816 г. Гэта пацвярджае і часопіс "Miesięcznik Połocki": Рафал у снежні 1817 г. быў выдатнікам у II класе. А вось інфармацыя пра "суседзяў з Калюжыц Валента і Карла Ваньковічаў" дакладная: будучы славуты мастак і ягоны брат вучыліся ў Полацку з 1816 г. Цікавымі падаюцца згадкі пра выданне рукапіснага штотыднёвага часопіса, у якім змяшчалі свае літаратурныя творы наступныя асобы: Генрых Віткоўскі, Юзаф Сурын, два Шадурскія, Багамолец, Аркадзь Рашкоўкі, Юзаф Касакоўскі, Раман Ляхніцкі, Караль Ваньковіч і Эдвард Тамаш Масальскі. Дзіўна, але сярод аўтараў часопісаў няма ні Яна Баршчэўскага, ні Гаўдэнтыя Шапялевіча – таленавітых, па словах мемуарыста, паэтаў-студэнтаў. Гэты год Э.Т. Масальскі завяршае са "ступенню магістра філасофіі і кандыдата абодвух праў"[51].

Пра чацвёрты (1819/1820) год навучання мемуарыст паведамляе, што яго калегі абралі прэфэктам садалісаў, а пасля падрабязна апісвае выгнанне езуітаў з Полацка.

---

[47] Відавочна, Э.Т. Масальскі гаворыць пра яго, а не пра генерала ордэна езуітаў (з 14.09.1805 г.) Тадэвуша Бжазоўскага (1749–1820), які 1 студзеня 1816 г. быў высланы ўладамі з Пецярбурга ў Полацак. Раймунд Бжазоўскі з 1816 г. быў асістэнтам генерала закону.

[48] *Encyklopedia wiedzy o jezuitach*…, s. 73.

[49] Дапускаем, што першы курс (аддзяленне логікі і метафізікі) маглі называць "філасофіяй".

[50] Ці "права і красамоўства".

[51] E.T. Massalski, *Z pamiętników...*, s. 254.

Атрымліваецца, што Э.Т. Масальскі чатыры (няпоўныя, праўда) гады вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі. Самае галоўнае, успаміны даюць падставы меркаваць, што Юзаф Масальскі вучыўся на “літаратурным аддзяленні” разам з Я. Баршчэўскім і Г. Шапялевічам. Што датычыць Г. Шапялевіча, то ён – 1800 года нараджэння[52] – зусім рэальна мог быць аднакурснікам Ю. Масальскага, таксама 1800 года нараджэння. Аднак жа Я. Баршчэўскі, старэйшы за іх абодвух ці то на 6, ці то на 10 гадоў, відавочна, не мог вучыцца разам з імі. Гэта было колісь прычынаю не даваць веры ўспамінам Э.Т. Масальскага; мы лічылі, што мемуарыст проста згадвае пісьменніка, што вучыўся ў тых самых езуітаў, што і ён. Немалаважным было і тое, што Я. Баршчэўскі паходзіў з беднай шляхты (магчыма, ягоны бацька, уніяцкі святар з Мурагоў ля Нешчарды, нават і не быў шляхецкага паходжання): цяжка было дапусціць, што чалавек з беднай сям’і мог вучыцца ў Акадэміі пасля 25 гадоў.

А таму патрэбныя былі іншыя, пажадана дакументальныя сведчанні побыту Я. Баршчэўскага ў Акадэміі. Ведаючы, што полацкія езуіты выдавалі ў сваёй друкарні (дзейнічала ў Полацку з 1787 да 1820 г.) календары, у якіх змяшчалі спісы выдатнікаў – студэнтаў Акадэміі і вучняў калегіума, мы заняліся пошукамі гэтых выданняў[53]. Высветлілася, што колісь існавалі: “Kalendarz polityczny Połocki na Rok Pański 1802” (а таксама і на 1803), “Kalendarz na Rok Pański 1814” (а таксама і на 1815) і “Kalendarzyk na Rok Pański 1816” (а таксама і на 1817–1819 гг.). На жаль, выданні езуітаў вельмі кепска захаваліся. А ў тых, якія нам сёння даступныя, Я. Баршчэўскага ў спісах выдатнікаў няма.

Няма Я. Баршчэўскага і ў спісах выдатнікаў полацкіх школ[54], што друкаваліся і ў календарах, якія выдаваліся Віленскім універсітэтам. Справа ў тым, што толькі ў часы Паўла I езуіты мелі надзвычай карысныя ўмовы для развіцця школьнае адукацыі. Ім меркавалася нават аддаць Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага (былую Віленскую езуіцкую акадэмію), але сітуацыя змянілася, калі на троне апынуўся Аляксандар I. Заснаваны ім Віленскі ўніверсітэт атрымаў права нагляду над усім школьніцтвам заходніх губерняў Расіі. Езуіцкія калегіумы Беларусі мусілі падпарадкоўвацца Віленскаму ўніверсітэту, які патрабаваў дастасавання навучальных праграмаў да ўласных вымогаў. Фактычна, да 1812 г. уся справаздачная дакументацыя Полацкага калегіума накіроўвалася ў Вільню. Менавіта там, у архіве ўніверсітэта мусілі захоўвацца і спісы вучняў езуітаў. Вядома, універсітэт дасылаў свае справаздачы ў Міністэрства народнае асветы, якое сёе-тое з гэтых справаздач друкавала ў зборніках *Периодическое сочинение об успехах народного просвещения* (1803–1817).

Аднак звестак пра Я. Баршчэўскага і ў зборніку, і ў архіве Міністэрства народнае асветы пакуль не выяўлена.

На шчасце, езуіты пачатку XX стагоддзя парупіліся пра тое, каб мець у сябе копіі дакументаў, якія датычылі дзейнасці свайго ордэна ў 1773–1820 гг., у г. зв. “беларускі перыяд”. Дзеля гэтага ў Пецярбург быў накіраваны Франсуа Гайар (1861–1932), які чатыры гады (1908–1911) працаваў у расійскіх архівах. Сёння зробленыя ім копіі захоўваюцца Archivum Romanum Societatis Iesu (Рым) як г. зв. Collection Gaillard.

---

[52] Так пададзена ва ўсіх вядомых нам біяграмах Г. Шапялевіча.

[53] Часам спісы выдатнікаў далучаліся да г. зв. праграмаў навучання: *Zebranie nauk, z których uczniowie szkół połockich XX. Jezuitów dadzą dowód rocznego postępku*, w Połocku, Roku 1810, mca lipca, 23 dnia.

[54] У “Kalendarzyku politycznym na Rok 1810, dla Wydziału Uniwersytetu Imperatorskiego Wileńskiego” (s. 117) сярод выдатнікаў “ніжэйшых” класаў згадваецца Мацей Баршчэўскі.

Сярод іх – асобныя дакументы, якія могуць асвятліць невядомыя старонкі жыцця Я. Баршчэўскага ў Полацку. Маем на ўвазе копіі спісаў студэнтаў Акадэміі за 1812/1813, 1813/1814, 1815/1816, 1817/1818, 1818/1819 і 1819/1820 навучальныя гады. (Адсутнічае спіс студэнтаў за 1816/1817 н. г.).

Дакументы пісаныя на латыні, адно толькі прозвішчы пададзены ў іх польскай форме. Усе яны выкананы адным почыркам (іншым почыркам пададзена інфармацыя пра атрыманне навуковых ступеняў). У іх ёсць недакладнасці, праўкі, памылкі.

Звяртаем увагу на той факт, што спісы студэнтаў чамусьці няпоўныя. Паводле іх у Полацкую акадэмію ў 1812–1815 і 1817–1819 гг. (цягам гэтых шасці навучальных гадоў) запісаўся 361 чалавек (вядома, гаворка пра штогадовыя запісы на курсы). Пададзім дадзеныя ў табліцы.

| | Logika | Fizyka | Matematyka | Wymowa | Teologia. R. 1 | Teologia. R. 2 | Teologia. R. 3 | Teologia. R. 4 | Teologia dogmatyczna | Teologia moralna | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1812/1813 | 13 | 6 | 2 | | 2 | 2 | | | | | 25 |
| 1813/1814 | 15 | 3 | - | | 3 | 1 | 1 | | | 2 | 25 |
| 1814/1815 | 21 | 14 | 2 | 7 | | | | | 4 | 1 | 49 |
| 1815/1816 | 30 | 13 | 5 | 12 | | | | | 3 | 1 | 64 |
| 1817/1818 | 19 | 16 | 4 | 9 | | | | | 8 | 2 | 58 |
| 1818/1819 | 21 | 18 | 3 | 11 | 9 | 3 | 2 | 1 | | | 68 |
| 1819/1820 | 41 | 11 | 2 | 5 | 2 | 5 | 2 | 3 | | 1 | 72 |
| | | | | | | | | | | | 361 |

У той жа час вядома, што студэнтаў у Полацку было значна больш. Напрыклад, Ян Гіжыцкі, які на аснове зборніка *Периодическое сочинение об успехах просвещения*, падае, што ў Акадэміі ў 1813/1814 н. г. навучаліся 84 студэнты: на тэалагічным факультэце – 25, на філасофскім – 29, на моўным – 30, а ў 1814/1815 н. г. адпаведна – 25, 66 і 45; у тым ліку: 50 езуітаў, 11 базыльян, 10 ксяндзоў і 63 свецкія асобы[55].

У дакументах з калекцыі Ф. Гайара тройчы згадваецца Я. Баршчэўскі: яго прозвішча ёсць у спісах студэнтаў, якія запісаліся ў Акадэмію на 1813/1814 (*Joannes Barszczewski, Annorum 21, filius Joannis, ex destr. Polocensi*), 1814/1815 (*Joannes Barszczewski, Annorum 22, filius Joannis, ex destr. Polocensi*) і 1815/1816 навучальныя гады (*Joannes Barszczewski, Annorum 23, filius Joannis, ex distr. Polocensi*)[56]. Як вынікае з запісаў, цягам трох гадоў будучы літаратар вучыўся на факультэце філасофіі і вольных навук: спачатку на першым курсе (класе), якія часцей называлі аддзяленнем логікі і метафізікі, пасля на другім (ці на аддзяленні фізікі) і, урэшце, на чацвёртым (ці на аддзяленні красамоўства і права), прамінаючы, як і большасць студэнтаў, трэці курс (ці аддзяленне матэматыкі).

А самае каштоўнае тое, што на падставе дадзеных дакументаў мы можам больш-менш дакладна назваць год нараджэння Я. Баршчэўскага. Калі ў верасні[57] 1813 г. яму

---

[55] Відавочна, Я. Гіжыцкі (ці крыніца, якую ён выкарыстоўвае) памыліўся: 25+66+45=136, а 50+11+10+63=134.

[56] Archivum Romanum Societatis Iezu, Rzym, Coll. Gaillard, sch. 34, Russia No 4, s. 266, 267v, 269.

[57] Найбольш верагодна, што запіс у Акадэмію адбываўся ў сярэдзіне верасня. І, вядома, падавалася поўная колькасць гадоў на момант запісу. (У адной з публікацый У. Мархель калісь выказаў меркаванне – несумненна, інтуітыўнае – што пісьменнік прыйшоў на свет на Купалле і з гэтай прычыны быў названы Янам).

21, у верасні 1814 г. – 22, а ў верасні 1815 г. – 23 гады, дык г. зн., што ***нарадзіўся Ян Баршчэўскі ў 1792 г.***[58]. Месца нараджэння пісьменніка пазначана як Полаччына, а імя бацькі – Ян. Важна тое, што ўсе тры спісы падаюць аднолькавую інфармацыю пра Я. Баршчэўскага.

Усе тры гады на адным курсе з Янам Баршчэўскім вучыліся: Данат Жаброўскі, Гіяцынт Васілеўскі і Стафан Красоўскі. Два гады аднакурснікамі пісьменніка ў Акадэміі былі: Павел Гаеўскі, Севярын Мацілевіч, Ігнат Мацілевіч, Стафан Багушэвіч, Аўгуст Маліноўскі, Язафат Войдак, Сільвестар Стафаноўскі і Вінцэнт Цеханоўскі. Цікава таксама адзначыць, што Данат Жаброўскі, Севярын Мацілевіч, Стафан Багушэвіч у 1809 г. з'яўляліся аднакласнікамі Мацея Баршчэўскага ў Полацкай езуіцкай калегіі. Прыняўшы пад увагу шматлікія памылкі ў "Kalendarzyku politycznym na rok 1810", у якім друкаваўся спіс выдатнікаў "полацкіх школ ксяндзоў езуітаў", можам сцвердзіць, што там ідзе гаворка пра Яна, а не Мацея Баршчэўскага. А з гэтага вынікае, што "полацкім шкаляром" Ян Баршчэўскі стаў толькі ў верасні 1807 года, маючы 15 гадоў. Закончыўшы летам 1812 г. калегію, ён разам са сваімі аднакласнікамі ў верасні 1813 года запісаўся на першы курс Акадэміі.

Застаецца адкрытым пытанне пра час, калі Я. Баршчэўскі пакінуў Акадэмію. Пададзенае намі вышэй выказванне Э.Т. Масальскага павінна было б схіліць да думкі, што і ў 1816/1817 н. г. пісьменнік усё яшчэ заставаўся ў Полацку. Але, па-першае, аўтар-апавядальнік *Шляхціца Завальні* ўвосень 1816 года сцвярджае, што ён ужо амаль год як не быў у Полацку (можна думаць, пакінуў *alma mater* напрыканцы 1815 ці напачатку 1816 г., не закончыўшы навучальны год). Па-другое, Э.Т. Масальскі, паўторым яшчэ раз, проста згадвае ва ўспамінах свайго знаёмага Я. Баршчэўскага, які калісь вучыўся ў полацкіх езуітаў.

Лічым патрэбным зазначыць, што паводле дакументаў з калекцыі Ф. Гайара браты Масальскія запісаліся ў Акадэмію на 1817/1818 н. г. (прычым – у студзені 1818 г.) на аддзяленне логікі і метафізікі (г. зн. на першы курс). Праўда, адсутнічае спіс студэнтаў 1816/1817 н. г., дык можна дапусціць, што Масальскія курс логікі паўтаралі, каб у 1818/1819 н. г. запісацца на аддзяленне фізікі, а ў 1819/1820 н. г. – на аддзяленне красамоўства. Апошняе пацвярджаецца спісам студэнтаў на 1819/1820 н. г. : Э.Т. Масальскі ў ліку тых, хто вывучае права (і красамоўства). Ягоны брат Юзаф у паперах ARSI сустракаецца толькі аднойчы: у студзені 1818 г. запісаны ў клас логікі.

Апрача таго, што спісы (копіі спісаў), якія захаваліся ў калекцыі Ф. Гайара, няпоўныя, яны яшчэ ўтрымліваюць дадзеныя, якія не пацвярджаюцца іншымі крыніцамі. Маем на ўвазе інфармацыю пра гады нараджэння (узрост, колькасць гадоў) шэрагу вядомых людзей XIX стагоддзя, якія вучыліся ў Полацкай езуіцкай акадэміі.

Так, напрыклад, Паўлу Гаеўскаму[59] – паводле ARSI – у 1813 г. –17 гадоў, у 1814 – 19, у 1815 – 20, г. зн., ён нарадзіўся ў 1795–1796 г. У той час як энцыклапедыі падаюць

[58] Вядома, можна акрэсліць час, калі прыйшоў на свет Ян Баршчэўскі больш шырока: ***ад кастрычніка 1791 па верасень 1792 года.***

[59] Павел Гаеўскі, цэнзар, сапраўдны таемны радца і перакладчык, закончыў Полацкую езуіцкую акадэмію ў 1816 г. са ступенню магістра. З 1818 г. пачаў працу ў Дэпартаменце духоўных спраў новаўтворага Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы. З 1825 г. у канцыляры Міністэрства народнай асветы (да 1864 г.). Адначасна ў 1826–1843 гг. быў цэнзарам Галоўнага цэнзурнага камітэта (Пецярбургскі цэнзурны камітэт). Перакладаў з польскай і французскай моў, у тым ліку кнігі: Ф. Моссальский, *Пан Подстолич* (1830–1833); Ф. Бернатович, *Поята, дочь Лездейки, или Литовцы в XIV столетии* (1832–1833). Памёр у 1875 г. Сын Віктар – вядомы пушкініст – выхоўваўся ў пансіёне Яна Эйнерлінга.

іншую дату – 16(27).08.1797 г[60]. Атрымліваецца, што пры запісе ў Акадэмію юнаку дадалі год-другі.

Канстанціну Сербіновічу[61] – паводле ARSI – у 1814 г. 18 гадоў, а ў 1815 – 19, г. зн., ён нарадзіўся ў 1796 г. У навуковай літаратуры ягоны год нараджэння падаецца па-рознаму: “около 1795 г.”[62], “1797*”[63] і “01.07.1797”[64].

Гаўдэнты Шапялевічу[65] – паводле ARSI – у 1815 г. было 17 гадоў, а ў 1819 – 21, г. зн., ён 1798 г. н. Аднак ва ўсіх біяграфічных слоўніках[66] сцвярджаецца, што паэт нарадзіўся ў 1800 г. А гэта азначае, што ён у 15-гадовым узросце стаў студэнтам Акадэміі. [Паводле “Kalendarza na Rok Pański 1815” Г. Шапялевіч у 1814 г. быў выдатнікам у IV класе Полацкага калегіума (як, дарэчы, і Валенты і Карл Ваньковічы); закончыўшы V клас, ён мог стаць у 1815 г. студэнтам Акадэміі].

Базылю Лужынскаму[67] – паводле ARSI – у 1814 г. было 22 гады, а ў 1815 – 23, н. зн., ён нарадзіўся ў 1792 г. У энцыклапедыях год ягонага нараджэння падаецца па-рознаму: часцей за ўсё як 1791[68], але часам з пазначэннем “па іншых звестках 1786 або 1787)”[69].

У дакументах з калекцыі Ф. Гайара Антоні Зубка[70], уніяцкі святар, а пазней праваслаўны архіепіскап, (1797–1884) згадваецца адзін раз: сярод запісаных на аддзяленне фізікі ў 1817/1818 н. г. як грэка-ўніяцкі клірык. Ягоны ўзрост не пададзены.

---

[60] Н.Г. Охотин, *Гаевский Павел Иванович* [в:] *Русские писатели 1800–1917: Биографический словарь*, Москва 1989, т. 1, с. 511.

[61] Канстанцін Сербіновіч, цэнзар, рэдактар, мемуарыст, кандыдат Полацкае езуіцкае акадэміі. З 1818 г. служыў без “жалования” ў Замежнай калегіі, а пасля, па словах П. Вяземскага, “чиновником по особым поручениям при Карамзине”, пасля – у Міністэрстве народнае асветы. З 1836 г. – у Св. Сінодзе на кіраўнічых пасадах. Быў таксама рэдактарам “Журнала Министерства народного просвещения”.

[62] К. Зравомыслов, *Сербинович Константин Степанович* [в:] *Русский биографический словарь*, изд. под наблюдением председателя Императорского Русского Исторического Общества А.А. Половцова, Санкт-Петербург 1904, т. 18, с. 347.

[63] Д.А. Хитров, *Сербинович Константин Степанович* [в:] *Русские писатели 1800–1917: Биографический словарь*, Москва 2007, т. 5, с. 587.

[64] *Сербинович Константин Степанович* [в:] http://ru.wikipedia.org [доступ: 1.09.2013].

[65] Гаўдэнты Шапялевіч, паэт, сябра Я. Баршчэўскага, магістар філасофіі і кандыдат вольных навук, пасля закрыцця Полацкае езуіцкае акадэміі служыў у 1820–1830 гг. у Пецярбурзе ў Дэпартаменце духоўных спраў замежных веравызнанняў у чыне калежскага сакратара. У 1830–1834 гг. працаваў настаўнікам лацінскае мовы ў Віцебскай гімназіі, адкуль звольнены па справе Т. Лады-Заблоцкага. Супрацоўнічаў з альманахам “Niezabudka” і газетаю “Tygodnik Petersburski”.

[66] Л[ев] Ш[тернберг], *Шепелевич (Родислав Иосафатович Лазаревич-Шепелевич)* [в:] *Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона*, С.-Петербург 1903, т. XXXIXа, с. 485.

[67] Маецца на ўвазе Архіепіскап Полацкі і Віцебскі Васілій, дзеяч уніяцкай, а пазней праваслаўнай царквы на Беларусі.

[68] А. Хотеев, М.М. Носко, Е.Н. Филатова, *Василий (Лужинский Василий-Бенедикт Стефанович)* [в:] *Православная энциклопедия*, Москва 2004, т. 7, с. 88–89.

[69] А.М. Філатава, *Лужынскі Васіль Венядзікт* [у:] *Асветнікі зямлі беларускай: X – пачатак XX ст.: Энцыклапедычны даведнік*, Мінск 2001, с. 262.

[70] Архіепіскап Антоні [А. Зубка] ва ўспамінах *О греко-унитской церкви в западном крае* пісаў: “Езуіты вучылі, што дзеці святароў – незаконнанароджаныя, бо па кананічнаму праву святары не павінны жаніцца. З гэтай прычыны дзеці святароў, каб пазбегнуць глумлення, хавалі сваё паходжанне і пераходзілі на лацінства; у ліку такіх быў і мой родны брат. Адзін далёкі сваяк, сын святара Мугароўскае царквы Іван Баршчэўскі, выхаванец езуітаў, стаўшы пазней польскім літаратарам і апісваючы сваё жыццё і сваё стаўленне да бацькі, аніводным словам не згадаў, што яго бацька быў уніяцкім святаром, а назваў яго шляхціцам з Мурагоўскай ваколіцы” (“Русский вестник”, т. 53, 1864, сентябрь, с. 287).

Вінцэнт Ліпскі (1795–1875), пазнейшы рымска-каталіцкі біскуп вучыўся не толькі ў Мсціслаўскай езуіцкай школе[71], але і ў Полацкай езуіцкай акадэміі: у 1817/1818 н. г. у класе фізікі, 1818/1819 – на першым, а ў 1819/1820 – на другім курсах дагматычнай тэалогіі. У верасні 1819 г. яму 23 гады[72], паходзіў ён з Клімавіцкага павета[73], а бацьку ягонага звалі Язэп.

Эдварду Тамашу Масальскаму – паводле ARSI – у студзені 1818 г. – 18 гадоў, а ў спісе на 1819/1820 н.г. – 20. Першы запіс адпавядае сапраўднасці (мемуарыст нарадзіўся 23 лістапада 1799 г.[74]), а другі можа быць дакладным толькі ў тым выпадку, калі студэнт запісаўся ў Акадэмію не ў верасні, а ў лістападзе – пасля ці напярэдадні свайго дня нараджэння.

Дакументы ARSI, нягледзячы на шэраг недакладнасцяў, якія ўдалося выявіць у спісах, з'яўляюцца важнай крыніцай інфармацыі. Не выклікае сумнення, што Ян Баршчэўскі у 1813–1816[75] гг. быў студэнтам Полацкай езуіцкай акадэміі, а годам ягонага нараджэння сёння з вялікай доляй верагоднасці можна лічыць 1792.

Рамуальд Падбярэскі ў адным са сваіх лістоў да Юзафа Ігнацы Крашэўскага называў Яна Баршчэўскага ў 1842 г. "50-гадовым дзядулькаю"[76]. Відавочна, з прыватных размоў ён ведаў узрост пісьменніка. Аднак у артыкуле-прадмове да *Шляхціца Завальні* (1844) Р. Падбярэскі падае 1794 год у якасці даты нараджэння, магчыма таму, "каб не вельмі старыць яе аўтара, каб аўтар не пераступіў пяцідзесяцігадовы рубеж жыцця"[77]. З гэтай прычыны, на думку Г. Кісялёва, і вынікае пазнейшая блытаніна з годам нараджэння Яна Баршчэўскага, бо Р. Падбярэскі, "падкарэкціраваўшы лічбу на пачатку жыццяпісу (1794 замест 1790), ён потым у тэксце ўсё ж няўзнак «прагаварыўся», «выдаў» сапраўдны ўзрост свайго героя – каля 1809 года яму васямнаццаць"[78]. Менавіта тое, "няўзнак прагаворанае" Р. Падбярэскім, можа служыць яшчэ адным довадам на карысць дакладнасці дакументаў, якія захоўваюцца ў калекцыі Ф. Гайара ў Рыме.

---

[71] J. G., *Materyały do dziejów...,* s. 254. Іншыя выданні ўвогуле не згадваюць пра вучобу В. Ліпскага ў езуітаў. Гл., напрыклад: http://pl.wikipedia.org/wiki/Wincenty_Lipski [доступ: 27.09.2013].

[72] Крыніцы падаюць (http://www.catholic-hierarchy.org/bishop/blipski.html [доступ 27.09.2013]), што В. Ліпскі нарадзіўся 15 сакавіка 1795 г., а г. зн., што ў Спісах ён на год "маладзейшы".

[73] У кнізе *Biskupi Kościoła Katolickiego w Polsce* (2000) сцвярджаецца, што В. Ліпскі нарадзіўся ў Лазавіцы каля Клімавіч.

[74] H. Gacowa, *Massalski Edward Tomasz* [w:] *Polski słownik biograficzny*, t. XX/1, Wrocław i in., 1975, s. 145.

[75] Мажліва, запісаўшыся ў верасні 1815 г. на курс красамоўства і права, Ян Баршчэўскі не змог закончыць навучальны год у Полацку.

[76] Rps BJ, sygn. 6457$^{IV}$, k. 244. *Ліст Р. Падбярэскага да Ю.І. Крашэўскага ад 15.01.1842 г.*

[77] Г. Кісялёў, *Ян Баршчэўскі – спрэчкі біёграфаў*, "Полымя" 1995, № 11, с. 267.

[78] *Ibidem*, s. 274.

# РАСКЛАД УРОКАЎ
# У ШКОЛАХ ПОЛАЦКАЙ АКАДЭМІІ

Друкуецца паводле: „Miesięcznik Połocki” 1818, t. II, nr VII.

## Rozporządzenie nauk w szkołach, należących do Akademii Połockiej

| I klasa gramatyki | II i III klasa gramatyki | IV i V klasa wymowy | VI klasa filozofii | VII klasa filozofii |
|---|---|---|---|---|
| 1. Język rosyjski<br>2. Część pierwsza gramatyki łacińskiej i polskiej<br>3. Tłumaczenie bajek Fedra, listów Cycerona zadają się i poprawiają roboty<br>4. Arytmietyki pierwiastkowe działania<br>5. Początki chrześcijańskiej nauki<br>6. Historya święta od stworzenia świata<br>7. Geografija okręgu ziemno-wodnego powszech. | 1. Język rosyjski, francuski albo niemiecki<br>2. Część druga i trzecia gramatyki łacińskiej i polskiej<br>3. Tłumaczenie listów Cycerona, Neposa, Salustyusza i t.d.; zadają się i poprawiają roboty<br>4. Ułamki i stosunki<br>5. Nauka chrześcijań. o składzie Apost. i Sakr.<br>6. Historya asyryjska i perska<br>7. Geografija Europy, Azyi, Afryki, Ameryki | 1. Nauka języków<br>2. Prawidła rymotwórstwa i krasomówstwa<br>3. Tłumaczenie mów Cycerona i wierszy Wirgilijusza, Horac., Owid., Catulla Tybulla; zadają się i poprawiają roboty<br>4. Algebra i geometrya<br>5. Nauka chrześć. o 10cia przykaz. i modlitw.<br>6. Historya grecka, rzymska, rosyjska i polska<br>7. Geografija Grecyi, Włoch i Rosyi | 1. Nauka języków<br>2. Logika, dyalektyka i metafizyka<br>3. Etyka o szczęściu najwyższem. O prawach przyrodzonych narodów, boskiem i ludzkiem, toż o obowiązkach<br>4. Polityczna ekonomija<br>5. Geometrya i solimetrya<br>6. Zoologija | 1. Nauka języków<br>2. Fizyka powszechna i szczególna<br>3 . Chemija powszechna i stosowana do rozmaitych użytków<br>4. Fizyka doświadczająca<br>5. Trygonometrya płaska i kulista<br>6. Mineralogija |

# РАСКЛАД ЗАНЯТКАЎ У ПОЛАЦКАЙ АКАДЭМІІ

Друкуецца паводле: *Zbiór nauk w Akademii Połockiej Towarzystwa Jezusowego. Od 15 Września Roku 1817, do 15 Lipca Roku 1818*, Połock w Drukarni Akademickiej, s. 20–21.

## Rozporządzenie nauk w Akademii Połockiej

| **Oddział teologiczny** | **Oddział nauk filozoficznych i wyzwolonych na cztery klasy rozłożony** | | | | **Oddział języków** |
|---|---|---|---|---|---|
| | Klasa IV. Wymowa | Klasa III. Matematyka stosowana | Klasa II. Fizika | Klasa I. Logika i metafizika | |
| 1. Teologija dogmatyczna | 1. Rymotwórstwo z literaturą języka łacińskiego i polskiego | 1. Matematyka stosowana | 1. Fizyka powszechna i szczególna | 1. Logika i dyalektyka | 1. Literatura hebrajska i grecka |
| 2. Teologija moralna | 2. Krasomówstwo | 2. Astronomia | 2. Chemija | 2. Etyka, ekonomija polityczna | 2. Literatura łacińska |
| 3. Prawo kościelne | 3. Wymowa kościelna | 3. Architektura obywatelska i rycerska | 3. Fizyka doświadczająca | 3. Metafizyka | 3. Literatura rosyjska |
| 4. Pismo święte | 4. Prawo powszechne i szczególne rosyjskie z dyplomatyką | 4. Sekcye i kalkuł | 4. Trygonometrya płaska i kulista | 4. Geometrya i solimetrya | 4. Literatura francuska |
| 5. Historya kościelna z geografią hierarchiczną | 5. Historya powszechna | 5. Botanika | 5. Mineralogija | 5. Zoologija | 5. Literatura niemiecka |

### Podział nauk na dni i godziny całego tygodnia

| **Dni** | | w naukach teologicznych | w klasie wymowy | w klasie matematyki stosowanej | w klasie fizyki | w klasie logiki i metafizyki | Godziny |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| w poniedziałek | przed południem. | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | 8 do 9 |
| | | Teologia dogmatyczna | Rymotwórstwo z literaturą języka łacińskiego i polskiego | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 9 do 10 |
| | | Teologia moralna | Prawo powszechne | Astronomia | Chemija | Etyka | 10 do 11 |
| | po południu | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | 1 do 2 |
| | | Teologia dogmatyczna | Krasomówstwo | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 2 do 3 |
| | | Prawo kościelne | Prawo szczególne rosyjskie | Architektura obywatelska i rycerska | Fizyka doświadczająca | Ekonomija polityczna | 3 do 4 |
| we wtorek rano | | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | 8 do 9 |
| | | Pismo święte | Wymowa kościelna | Sekcye i kalkuł | Trygonometrya płaska i kulista | Geometrya i solimetrya | 9 do 10 |
| | | Historya kościelna | Historya powszechna | Botanika | Mineralogija | Zoologija | 10 do 11 |
| we środę | przed południem. | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | 8 do 9 |
| | | Teologija dogmatyczna | Rymotwórstwo z literaturą języka łacińskiego i polskiego | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 9 do 10 |
| | | Teologija moralna | Prawo powszechne | Astronomia | Chemija | Etyka | 10 do 11 |
| | po południu | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | 1 do 2 |
| | | Teologija dogmatyczna | Krasomówstwo | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 2 do 3 |
| | | Prawo kościelne | Prawo szczególne rosyjskie | Architektura obywatelska i rycerska | Fizyka doświadczająca | Ekonomija polityczna | 3 do 4 |
| we czwartek rano | | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | Literatura hebrajska | 8 do 9 |
| | | Pismo święte | Wymowa kościelna | Sekcye i kalkuł | Trygonometrya płaska i kulista | Geometrya i solimetrya | 9 do 10 |
| | | Historya kościelna | Historya powszechna | Botanika | Mineralogija | Zoologija | 10 do 11 |
| w piątek | przed południem. | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | Literatura rosyjska | 8 do 9 |
| | | Teologija dogmatyczna | Rymotwórstwo z literaturą języka łacińskiego i polskiego | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 9 do 10 |
| | | Teologija moralna | Prawo powszechne | Astronomia | Chemija | Etyka | 10 do 11 |
| | po południu | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | Literatura francuska | 1 do 2 |
| | | Teologija dogmatyczna | Krasomówstwo | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 2 do 3 |
| | | Prawo kościelne | Prawo szczególne rosyjskie | Architektura obywatelska i rycerska | Fizyka doświadczająca | Ekonomija polityczna | 3 do 4 |
| w sobotę | przed południem. | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | Literatura grecka | 8 do 9 |
| | | Teologija dogmatyczna | Rymotwórstwo z literaturą języka łacińskiego i polskiego | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 9 do 10 |
| | | Teologija moralna | Prawo powszechne | Astronomia | Chemija | Etyka | 10 do 11 |
| | po południu | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | Literatura niemiecka | 1 do 2 |
| | | Teologija dogmatyczna | Krasomówstwo | Matematyka stosowana powszechna | Fizyka powszechna i szczególna | Logika, dyalektyka, metafizyka | 2 do 3 |
| | | Prawo kościelne | Prawo szczególne rosyjskie | Architektura obywatelska i rycerska | Fizyka doświadczająca | Ekonomija polityczna | 3 do 4 |
| Sztukom przyjemnym, gimnastycznym, muzyce, rysunkom, tańcom, sztuce rycerskiej i innym podobnym ćwiczeniom we wtorek i czwartek z południa wyznaczają się godziny. | | | | | | | |

# СПІСЫ СТУДЭНТАЎ ПОЛАЦКАЙ ЕЗУІЦКАЙ АКАДЭМІІ

Друкуецца паводле: Archivum Romanum Societatis Iezu, Rzym, Coll. Gaillard, sch. 34, Russia No 4, s. 265–276v.

## Расія. – Міністэрства Народнай Асветы[1]

№ 45565. Кніга, якая змяшчае імёны і прозвішчы студэнтаў Полацкай Імператарскай Езуіцкай Акадэміі ад 1812 года

I. Арк. 1–2 **1812 год**

***Логікі***

1. Байкоўскі Ян, 21 год, сын Рыгора, з Полацкага павету.
2. Цеханоўскі Вінцэнт, 20 гадоў, сын Андрэя, з Браслаўскага павету[2].
3. Чарны Міхал, 19 гадоў, сын Дарафея, з Себежскага павету[3].
4. Чашнецкі Мартын, 17 гадоў, сын Антона, з Полацкага павету.
5. Часпіцкі Роберт, 17 гадоў, сын Мікалая, з Дрысенскага павету.
6. Елянеўскі Павел, 20 гадоў, сын Гераніма, з Сенненскага павету.
7. Куласінскі Язэп, 17 гадоў, сын Антона, з Невельскага павету.
8. Кымкевіч Самуіл, 18 гадоў, сын Мікалая, з Аршанскага павету.
9. Сальмановіч Аляксандар, 17 гадоў, сын Казіміра, з Гарадоцкага пав.
10. Скшэдзецкі Язэп, 17 гадоў, сын Язэпа, з Лепельскага пав.
11. Эалішэўскі Ян, 18 гадоў, сын Барталамея, з Дзісенскага пав.
12. Васютовіч Язэп, 17 гадоў, сын Сымона, з Полацкага пав.[4].
13. Вароніч Ян, 17 гадоў, сын Стафана, з Полацкага пав.[5].

***Фізікі***

14. Дэм'яновіч Міхал, 19 гадоў, сын Тамаша, з Мсціслаўскага пав.
15. Эльяшэвіч Антон, 23 гады, сын Рыгора, з Полацкага пав.[6].
16. Канюшэўскі Ян, 22 гады, ……………[7], з Полацкага пав.
17. Шчэнсновіч Ян, 19 гадоў, сын Піліпа, з Невельскага пав.[8].

---

[1] У арыгінале: Russia. – Министерство Народного Просвещения. № 4.
[2] У наступным навучальным годзе таксама запісаны на гэты ж курс, у 1814/1815 – на курс фізікі, а на 1815/1816 г. – матэматыкі. У 1817/1818 і 1818/1819 н. гг. у Акадэміі вучыўся ягоны брат Андрэй.
[3] У 1809 г. быў выдатнікам у 4 класе калегіума.
[4] У 1808 г. выдатнікам у V класе калегіума быў Ян Васютовіч. Магчыма, брат Язэпа.
[5] У 1808 г. быў выдатнікам у II класе, а ў 1809 г. III класе калегіума.
[6] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс матэматыкі, а ў 1817/1818 – на курс права.
[7] Пропуск у тэксце.
[8] У 1808 г. быў выдатнікам у IV класе калегіума. У 1813/1814 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1814/1815 і 1815/1816– на курс матэматыкі. Паводле „Kalendarzyka na Rok Pański 1815" у 1814 г. атрымаў ступень

18. Тамкавід Стафан, 22 гады, сын Язэпа, з Себежскага пав.[1].
19. Зубка Тамаш, 19 гадоў, сын Рыгора, з Полацкага пав.[2].

***Матэматыкі***

20. Хамеўскі Аляксандар, 20 гадоў, сын Яна, з Мсціслаўскага пав.
21. Кіркор Базыль, 19 гадоў, сын Францішка, з Мсціслаўскага пав.[3].

***Тэолагі. Першы год***

22. Кіркор Антон, 19 гадоў, сын Язэпа, з Сенненскага павета[4].
23. Навіцкі Адам, 21 год, сын Станіслава, з Полацкага пав.[5].

***Тэолагі. Другі год***

24. Ігнатовіч Амброзі, 25 гадоў, сын Яна, з Себежскага пав.
25. Сікорскі Язэп, 24 гады, сын Аляксандра, з Лепельскага пав.[6]

1812–1813 год. У гэтым навучальным годзе з-за ўварвання французаў у Акадэміі не было іншых студэнтаў, апрача клерыкаў Таварыства езуітаў

## Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

III. Арк. 2–3 **1813–1814 год**

У лік Акадэмічных студэнтаў запісаны наступныя:

***Логікі***

1. Севярын Мацілевіч, 17 гадоў, сын Яна, з Полацкага павету[7].
*У канцы года пасля экзамену стаў кандыдатам філасофіі*[8].
2. Вінцэнт Цеханоўскі, 22 гады, сын Андрэя, з Браслаўскага пав.
*Пасля экзамену напрыканцы года стаў кандыдатам філасофіі.*
3. Ян Баршчэўскі, 21 год, сын Яна, з Полацкага пав.[9].
4. Гіяцынт Васілеўскі, 20 гадоў, сын Яна, з Мсціслаўскага пав.[10].

---

кандыдата філасофіі. Акт уз’яднання ўніятаў з праваслаўнымі падпісалі дзве асобы, якія насілі аднолькавыя імя і прозвішча: аканом Беларускай семінарыі Ян Шчэнсновіч і засядацель Беларускай кансісторыі Ян Счэнсновіч.

[1] У 1813/1814 н. г. запісаны таксама на курс фізікі. У Акадэміі вучыўся ягоны брат Адам, вядомы ўніяцкі дзеяч.

[2] У 1813/1814 н. г. запісаны на курс логікі, у 1814/1815 і 1815/1816 – на курс права. Брат студэнта Полацкай акадэміі Антона Зубкі, вядомага ўніяцкага, а пасля праваслаўнага дзеяча.

[3] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс красамоўства і права.

[4] У 1813/1814 н. г. запісаны на 2 курс тэалогіі, у 1814/1815 – на курс дагматычнай тэалогіі, а ў 1815/1816 – на курс права і красамоўства. Паводле брашуры *Імёны айцоў і братоў беларускіх езуітаў ад 1773 да 1820* Антон Кіркор нарадзіўся 25.12.1789 г., у 1806 г. уступіў у ордэн. Памёр 13 мая 1840 г. у К’еры (Італія).

[5] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс маральнай тэалогіі.

[6] У 1813/1814 н. г. запісаны на 3 курс тэалогіі, аднак цяпер яго месцажыхарства акрэслена як “з Сенненскага пав.”

[7] У 1809 г. быў выдатнікам у III класе калегіума. У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1815/1816 – на курс матэматыкі. У Акадэміі вучыўся ягоны брат Ігнат.

[8] Тут і далей інфармацыя пра атрыманую ступень напісана іншым почыркам. Магчыма, звесткі пра атрыманыя ступені Ф. Гайар ці нехта іншы падалі паводле іншае крыніцы.

[9] У арыгінале: Joannes Barszczewski, Annorum 21, filius Joannis, ex destr. Polocensi.

[10] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1815/1816 – на курс права і красамоўства.

5. Павел Гаеўскі, 17 гадоў, сын Яна, з Палтаўскае губерні[1].

*Стаў у канцы года кандыдатам філасофіі.*

6. Данат Жаброўскі, 19 гадоў, сын Канстанціна, з Дынабургскага пав.[2].

*У канцы года пасля экзамену стаў кандыдатам філасофіі.*

7. Тамаш Рэвут, 22 гады, сын Ігната, з Полацкага пав.

8. Стафан Красоўскі, 16 гадоў, сын Георгія, з Полацкага пав.[3].

*Ступень кандыдата філасофіі атрыманы ў канцы года.*

9. Аўгуст Маліноўскі, клерык ордэна S. B. M.[4], 26 гадоў[5].

10. Язафат Войдак, клерык ордэна S. B. M., 19 гадоў[6].

11. Сільвестар Стафаноўскі, клерык ордэна S. B. M., 23 гады[7].

12. Тамаш Зубка, 21 год, сын Рыгора, з Полацкага павету.

13. Ігнат Мацілевіч, 18 гадоў, сын Яна, з Полацкага пав.[8].

14. Антон Будзька, 18 гадоў, сын Язэпа, з Полацкага пав.[9].

15. Стафан Багушэвіч, 18 гадоў, сын Паўла, з Полацкага пав.[10].

**Фізікі**

16. Язэп Куксінскі, 19 гадоў, сын Антона, з Невельскага пав.[11].

*Пасля экзамену атрыманы ступень кандыдата філасофіі.*

17. Стафан Тамкавід, 22 гады, сын Язэпа, з Себежскага пав.

18. Ян Шчэнсновіч, 21 год, сын Піліпа, з Невельскага пав.

**Матэматыкі ў гэтым годзе не было**

**Тэолагі. Першы год**

19. А[12]. Андрэй Язерскі, 30 гадоў, ордэн S. B. M.[13].

20. Рудольф Байсер, 29 гадоў, клерык ордэна S. B. M.

21. Анатоль Вільчынскі, 26 гадоў, клерык ордэна S. B. M.[14].

---

[1] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1815/1816 – на курс матэматыкі.

[2] У 1809 г. быў выдатнікам у I ці II класе калегіума. У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1815/1816 – на курс права і красамоўства. У "Miesięczniku Połockim" (1818, t 2) надрукавана ягоная праца *Rozprawa o dwóch pierwszych wysokości źródłach ułożona i przykładami objaśniona*. Быў уладальнікам вёсак Краснаводава, Горы і Сямешкава, якія раней належалі Францішку Рысінскаму. Пазней Данат Жаброўскі выбіраўся маршалкам Себежскага пав. У Акадэміі вучыўся яго брат Канстанцін.

[3] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1815/1816 – на курс права і красамоўства. У "Miesięczniku Połockim" (1818, t 2) надрукавана ягоная праца *Rozmowa o wynajdowaniu wyrazów nowych w ojczystej mowie*.

[4] Святога Базыля Вялікага (лац.).

[5] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі.

[6] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1817/1818 – на курс дагматычнай тэалогіі, у 1818/1819 – на 2 курс тэалогіі, у 1819/1820 – на 4 курс тэалогіі. Язафат Войдак (Войдаг) у 1814 стаў базыльянінам, а ў 1818 г. – святаром. Доктар тэалогіі і магістар філасофіі. З 1828 г. на чале кляштара ў Талачыне. Перайшоў у каталіцтва.

[7] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі.

[8] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1818/1819 – на 1 курс тэалогіі. Брат Севярына Мацілевіча.

[9] У 1814/1815 н. г. запісаны на той самы курс.

[10] У 1809 г. быў выдатнікам у III класе калегіума. У 1814/1815 н. г. запісаны на курс фізікі..

[11] У 1809 г. быў выдатнікам у IV класе калегіума. У 1814/1815 н. г. ён запісаны на курс красамоўства і права.

[12] У арыгінале: P[ater]. (лац.) –Айцец.

[13] У 1814/1815 н. г. ён запісаны на курс дагматычнай тэалогіі.

[14] У 1814/1815 н. г. ён запісаны на курс фізікі, у 1815/1816 – дагматычнай тэалогіі.

**2-і год**

22. Антон Кіркор, 21 год, сын Язафата[1], з Сенненскага пав.
*Атрымаў ступень магістра філасофіі.*

**3-і год**

23. Язэп Сікорскі, 26 гадоў, сын Аляксандра, з Сенненскага пав.

**Маральная тэалогія**

24. Парфіры Шулякевіч, клерык ордэна S. B. M.[2].
25. Якуб Вакар, клерык ордэна S. B. M.[3].

# Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

IV. Арк. 4–5 **1814–1815 год**

Запісаны ў лік Акадэмічных студэнтаў наступныя:

**Логікі**

1. Базыль Лужынскі, 22 гады, сын Стафана. Клерык грэка-ўніяцкі[4].
2. Ігнат Мацкевіч, 23 гады, сын Ёахіма. Клерык грэка-ўніяцкі[5].
3. Ян Ігнатовіч, 20 гадоў, сын Базыля. Клерык грэка-ўніяцкі[6].
4. Мікодым Нікановіч, 24 гады, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі[7].
5. Павел Слонімскі, 23 гады, сын Пятра. Клерык грэка-ўніяцкі[8].
6. Адам Дэмідовіч, 19 гадоў, сын Міхала, з Ігуменскага павету[9].
7. Антон Будзька, 20 гадоў, сын Язэпа, з Полацкага павету.
8. Антон Златкоўскі, 22 гады, сын Сымона, з Полацкага павету[10].
9. Канстанцін Сербіновіч, 18 гадоў, сын Стафана, з …….[11] пав.[12].
10. Канстанцін Жаброўскі, 19 гадоў, сын Канстанціна, з Дынабургскага пав.[13].
11. Дамінік Бутрымовіч, 23 гады, сын Антона, з Полацкага пав.

---

[1] Так у дакуменце.
[2] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс дагматычнай тэалогіі.
[3] У 1814/1815 н. г. запісаны на курс маральнае тэалогіі.
[4] У 1815/1816 н. г. ён запісаны на курс фізікі.
[5] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1817/1818 – на курс дагматычнай тэалогіі, 1818/1819 – на 3 курс тэалогіі, у 1819/1820 – на 4 курс дагматычнае тэалогіі.
[6] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі. Магчыма, пазнейшы асэсар (засядацель) уніяцкай кансісторыі, арганізатар пратэстаў супраць скасавання Уніі.
[7] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1817/1818 – на курс дагматычнай тэалогіі, 1818/1819 – на 3 курс тэалогіі, у 1819/1820 – на 4 курс дагматычнае тэалогіі.
[8] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[9] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[10] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс права і красамоўства.
[11] Назву павета прачытаць не ўдалося. К. Зравамыслаў у *Русским Биографическом Словаре* піша, што К. Сербіновіч нарадзіўся "ў адной з заходніх губерняў каля 1795 г., пасля з 1797 г. жыў у Вільні, а з 1809 г. – у Полацку". Паводле Адрас-календароў у 1788, 1791, 1796 гг. спачатку калежскі рэгістратар, а пазней губернскі сакратар Стафан Міхайлаў сын Сербановіч займаў пасаду сакратара ў палаце крымінальнага суда ў Полацкім намесніцтве. У 1804 г. надворны саветнік С.М. Сербіновіч служыць у казённай палаце і займае пасаду губернскага скрабніка (казначея) Віленскай губерні.
[12] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[13] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1817/1818 – на курс права. У „Miesięczniku Połockim" (1818, t. 3) надрукаваны пераклад К. Жаброўскага працы *Wiadomość o dziwnych zjawieniach, które miał Tomasz Ignacy Marcin* (з кнігі, выдадзенай у Парыжы ў 1817 г.).

12. Рыгор Місянкевіч, 24 гады, сын Язэпа, з Слонімскага пав.
13. Ян Галамбеўскі, 21 год, сын Гераніма, з Віцебскага пав.
14. Ян Ігнатовіч, 20 гадоў, сын Мацея, з Себежскага пав.[1].
15. Ян Козел, 18 гадоў, сын Язэпа, з Вілейскага пав.
16. Язэп Маеўскі, 19 гадоў, сын Язэпа, з Полацкага пав.[2].
17. Язэп Мірскі, 19 гадоў, сын Міхала, з Дзісенскага пав.[3].
18. Язэп Будзіеўскі, 16 гадоў, сын Казіміра, з Мазырскага пав.
19. Ісідор Мадзалеўскі, 18 [гадоў], сын Вінцэнта, з Браслаўскага пав.[4].
20. Міхал Камароўскі, 18 [гадоў], сын Язэпа, з Сененскага пав.[5].
21. Гіляры Тамкавід, 19 гадоў, сын Мартына, з Невельскага пав.[6].

**Фізікі**

22. А. Анатоль Вільчынскі, 26 гадоў, ордэн S. B. M.
23. Аўгуст Маліноўскі, 27 гадоў, клерык, ордэн S. B. M.
24. Язафат Войдак, 20 гадоў, клерык, ордэн S. B. M.
25. Сільвестар Стафаноўскі, 24 гады, клерык, ордэн S. B. M.
26. Данат Бароўскі, 21 год, сын Язэпа, з Дзісенскага пав.[7].
27. Данат Жаброўскі, 20 гадоў, сын Канстанціна, з Дынабургскага пав.
28. Гіяцынт Васілеўскі, 21 год, сын Яна, з Мсціслаўскага пав.
29. Ігнат Мацілевіч, 19 гадоў, сын Яна, з Полацкага пав.
30. Ян Баршчэўскі, 22 гады, сын Яна, з Полацкага пав.[8].
31. Павел Гаеўскі, 19 гадоў, сын Яна, з Палтаўскае губерні.
32. Севярын Мацілевіч, 19 гадоў, сын Яна, з Полацкага пав.
33. Стафан Багушэвіч, 19 гадоў, сын Паўла, з Полацкага пав.
34. Стафан Красоўскі, 17 гадоў, сын Георгія, з Полацкага пав.
35. Вінцэнт Цеханоўскі, 23 гады, сын Андрэя, з Браслаўскага пав.

**Матэматыкі**

36. Антон Эльяшэвіч, 26 гадоў, сын Рыгора, з Полацкага пав.
37. Ян Шчэнсновіч, 23 гады, сын Піліпа, з Полацкага пав.

**Студэнты красамоўства і права**

38. Базыль Кіркор, 22 гады, сын Францішка, з Мсціслаўскага пав.
39. Язэп Суржэдзеўскі, 21 год, сын Язэпа, з Лепельскага пав.
40. Міхал Гарбачэўскі, 18 гадоў, сын Рамана, з Віцебскага пав.[9].
41. Тамаш Зубка, 23 гады, сын Рыгора, з Полацкага пав.
42. Язэп Куксінскі, 20 гадоў, сын Антона, з Невельскага пав.
43. Язэп Сялява, ….. гадоў[10], сын Вінцэнта, з Лепельскага пав.
44. Ксавэры Шышка, 23 гады, сын Казіміра, з ……… пав.[11].

---

[1] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[2] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[3] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1817/1818 і 1818/1819 – на курс права.
[4] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[5] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс фізікі.
[6] У 1815/1816 н. г. запісаны на той самы курс.
[7] У 1808 г. быў выдатнікам у V класе калегіума.
[8] Joannes Barszczewski, Annorum 22, filius Joannis, ex destr. Polocensi.
[9] У 1815/1816 н. г. запісаны на курс права і красамоўства.
[10] Колькасць гадоў не пададзена.
[11] Напісана неразборліва.

**Дагматычная тэалогія**

45. А. Андрэй Язерскі, 31 год, ордэн S. B. M.
46. Парфіры Шулякевіч, 26 гадоў, клерык, ордэн S. B. M.
47. Антон Кіркор, 22 гады, сын Язафата, з Сененскага пав.
48. Антон Мячынскі, 27 гадоў, сын Яна, з Аршанскага пав.

**Маральная тэалогія**

49. А. Якуб Вакар, 36 гадоў, ордэн S. B. M.

# Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

V. Арк. 6–8 **1815–1816 год**

Запісаны ў лік Акадэмічных студэнтаў наступныя:

**Дагматычная тэалогія**

1. Другі год: Анатоль Вільчынскі, 27 гадоў, ордэн S. B. M.
2. Першы год: Максімільян Шыманоўскі, ордэн S. B. M.[1].
3. ………[2] Казімір Кардамовіч, 29 гадоў, сын Тамаша, з Браслаўскага пав.[3].
   *Атрымаў ступень кандыдата тэалогіі*

**Маральная тэалогія**

4. Адам Навіцкі, 24 гады, сын Станіслава з Полацкага пав.

**Студэнты красамоўства і права**

5. Антон Кіркор, 23 гады, сын Язафата, з Сенненскага пав.
6. Антон Златкоўскі, 23 гады, сын Сымона, з Полацкага пав.
7. Канстанцін Кітовіч.
8. Данат Жаброўскі, 21 год, сын Канстанціна, з Дынабургскага пав.
9. Гіяцынт Васілеўскі, 23 гады, сын Яна, з Мсціслаўскага пав.
10. Ян Баршчэўскі, 23 гады, сын Яна, з Полацкага пав.[4].
11. Язэп Суржэдзерскі, 22 гады, сын Язэпа, з Лепельскага пав.[5].
12. Міхал Гарбачэўскі, 19 гадоў, сын Рамана, з Віцебскага пав.
13. Павел Сварыка, 20 гадоў, сын Андрэя, з Віцебскага пав.
14. Стафан Красоўскі, 19 гадоў, сын Георгія, з Полацкага пав.
15. Тамаш Зубка, 24 гады, сын Рыгора, з Полацкага пав.
16. Мікалай Літынскі, сын Яна, з Дрысенскага пав.[6].

**Матэматыкі**

16. Ян Шчэнсновіч, 24 гады, сын Піліпа з Невельскага пав.
17. Юльян Мадзалеўскі, …… г.[7], сын Вінцэнта, з Браслаўскага пав.
   *Выключаны праз адзін месяц.*
18. Павел Гаеўскі, 20 гадоў, сын Яна, з Палтаўскай губерні.
19. Севярын Маціlевіч, 20 гадоў, сын Яна, з Полацкага пав.
   *Атрымаў ступень магістра філасофіі.*

---

[1] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс дагматычнай тэалогіі.
[2] Пропуск у дакуменце.
[3] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс дагматычнай тэалогіі, а ў 1818/1819 – на 4 курс тэалогіі.
[4] Joannes Barszczewski, Annorum 23, filius Joannis, ex distr. Polocensi.
[5] Магчыма, Язэп Суржэдзеўскі. Гл. спіс за папярэдні год.
[6] У 1817/1818 і 1818/1819 навучальныя гады запісаны на курс фізікі.
[7] Узрост не пададзены.

20. Вінцэнт Цеханоўскі, 24 гады, сын Андрэя, з Браслаўскага пав.

**Фізікі**

21. Базыль Лужынскі, 23 гады, сын Стафана. Клерык грэка-ўніяцкі.
22. Ігнат Мацкевіч, 24 гады, сын Ёахіма. Клерык грэка-ўніяцкі.
23. Ян Ігнатовіч, 21 год, сын Базыля. Клерык грэка-ўніяцкі.
24. Мікодым Нікановіч, 25 гадоў, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі.
25. Павел Слонімскі, 24 гады, сын Пятра. Клерык грэка-ўніяцкі.
26. Адам Дэмідовіч, 20 гадоў, сын Міхала, з Ігуменскага пав.
27. Канстанцін Сербіновіч, 19 гадоў, сын Стафана, з ….. пав.
28. Канстанцін Жаброўскі, 20 гадоў, сын Канстанціна, з Дынабургскага пав.
29. Ян Ігнатовіч, 21 год, сын Мацея, з Себежскага пав.
30. Язэп Маеўскі, 20 гадоў, сын Язэпа, з Полацкага пав.
31. Язэп Мірскі, 20 гадоў, сын Міхала, з Дзісенскага пав.
32. Ісідор Мадзалеўскі, 19 гадоў, сын Вінцэнта, з Браслаўскага пав.
33. Міхал Камароўскі, 19 гадоў, сын Язэпа, з Сененскага пав.

**Логікі**

34. Язэп Касоўскі, 26 гадоў. Ордэн S. B. M.
35. Себасцьян Баброўскі, 25 гадоў. Ордэн S. B. M.
36. Уладзіслаў Кажычка, 23 гады. Ордэн S. B. M.
37. Адам Тамкавід, 20 гадоў, сын Язэпа. Клірык грэка-ўніяцкі[1].
38. Міхал Лукашэвіч, 20 гадоў, сын Сымона. Клірык грэка-ўніяцкі[2].
39. Міхал Шалепін, 20 гадоў, сын Адама. Клірык грэка-ўніяцкі[3].
40. Сільвестар Заблоцкі, 20 гадоў, сын Яна. Клірык грэка-ўніяцкі[4].
41. Антон Сяткоўскі, 19 гадоў, сын Антона, з Лепельскага пав.[5].
42. Базыль Кактанскі, 20 гадоў, сын Габрыэля, з Аршанскага пав.[6].
43. Казімір Свадкоўскі, 17 гадоў, сын Бернарда, з Клімавіцкага пав.
44. Фелікс Казакоўскі, 19 гадоў, сын Георгія, з Невельскага пав.
45. Габрыэль Дукшынскі, 18 гадоў, сын Рафаэля, з Лепельскага пав.
46. Гіляры Тамкавід, 19 гадоў, сын Мартына, з Невельскага пав.
47. Ёахім Самуйла, 18 гадоў, сын Льва, з Лепельскага пав.[7].
48. Ян Камароўскі, 17 гадоў, сын Язэпа, з Сенненскага пав.[8].
49. Ян Ланчын, 17 гадоў, сын ……..,[9] з Маскоўскага пав.
50. Ян Кадзіеўскі, 18 гадоў, сын Казіміра, з Мазырскага пав.

---

[1] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс дагматычнай тэалогіі, у 1818/1819 – на 2 курс тэалогіі, у 1819/1820 – на 3 курс дагматычнае тэалогіі. У 30-я гг. інспектар Полацкае семінарыі, адзін з арганізатараў пратэстаў супраць скасавання Уніі. Пасля акцыі пратэсту 14 верасня 1838 г. у вёсцы Царкоўня Дрысенскага павета арыштаваны і сасланы ў праваслаўны манастыр Курскае губерні..

[2] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс матэматыкі.

[3] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс дагматычнай тэалогіі. У 30-я гг. асэсар уніяцкай кансісторыі і рэктар Полацкай семінарыі. Напачатку праціўнік аб’яднання, але пазней падпісаў Акт уз’яднання з праваслаўнаю царквою

[4] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс матэматыкі. У Акадэміі вучыліся два ягоныя браты Базыль і Тэадор.

[5] У 1818/1819 і 1819/1820 н. гг. запісаны на курс права.

[6] У 1817/1818 і 1818/1819 н. гг. запісаны на курс права.

[7] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1818/1819 – на курс матэматыкі. 30 сакавіка 1818 г. абараняў працу з нябеснай механікі.

[8] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс матэматыкі.

[9] Напісана неразборліва.

51. Язэп Керкела, 19 гадоў, сын Яна, з Браслаўскага пав.[1].
52. Язэп Корсак, 19 гадоў, сын Ігната, з Дрысенскага пав.
53. Ігнат Мірановіч, 19 гадоў, сын Паўла, з Себежскага пав.[2].
54. Язэп Пажэцкі, 17 гадоў, сын Ануфрыя, з Дрысенскага пав.
55. Язэп Свадкоўскі, 19 гадоў, сын Бярнарда, з Клімавіцкага пав.
56. Лео Дружына, 19 гадоў, сын Паўла, з Лепельскага пав.[3].
57. Міхал Бруевіч, 18 гадоў, сын Паўла, з Суражскага пав.
58. Мікалай Ефімовіч, 15 гадоў, сын Дзмітрыя, з …… пав.[4].
59. Павел Бялінскі, 19 гадоў, сын Яна, з Мсціслаўскага пав.
60. Пятро Якукевіч, 18 гадоў, сын Язэпа, з Полацкага пав.[5].
61. Тамаш Чэскі, 14 гадоў, сын Казіміра, з Аршанскага пав.
62. Гаўдэнты Шапялевіч, 17 гадоў, сын Язафата, з Невельскага пав.[6].
63. Генрык Віткоўскі, 17 гадоў, сын Язэпа, з Аршанскага пав.[7].

## Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

VII. Арк. 14–15 **1817–1818 год**

У Акадэмію запісаны наступныя:

Дзень / Месяц[8]

**Дагматычная тэалогія**

1. R. D.[9] Язафат Войдак, сын Антона. Орд. S. B. M. Канд. філасоф. 1. 09.
2. R. D. Язафат Стычынскі, сын Георгія. Орд. S. B. M.[10].
3. R. D. Максімільян Шыманоўскі, сын Язэпа. Орд. S. B. M.
4. R. D. Мікодым Нікановіч, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі.
5. R. D. Ігнат Мацкевіч, сын Ёахіма. Клерык грэка-ўніяцкі.
6. R. D. Адам Тамкавід, сын Язэпа. Клерык грэка-ўніяцкі.
7. R. D. Міхал Шалепін, сын Адама. Клерык грэка-ўніяцкі.
8. E. M. D.[11] Казімір Кардамовіч, кандыдат тэалогіі.

**Маральная тэалогія**

9. R. D. Ян Аляшкевіч, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі[12].
10. R. D. Канстанцін Мальчэўскі, сын Бярнарда. Клерык грэка-ўніяцкі[13].

---

[1] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс фізікі, у 1818/1819 – на курс права.
[2] У 1817/1818 н. г. запісаны на курс матэматыкі.
[3] У 1817/1818 і 1818/1819 н. гг. запісаны на курс права, а ў 1819/1820 – на 1 курс дагматычнай тэалогіі.
[4] Напісана неразборліва.
[5] У 1817/1818, 1818/1819 і 1819/1820 н. гг. запісаны на курс права. 1 красавіка 1818 г. абараняў працу, параўноўваючы рымскае права з расійскім і польскім.
[6] У 1818/1819 і 1819/1820 н. гг. запісаны на курс права.
[7] У 1817/1818 і 1818/1819 н. гг. запісаны на курс права. Быў сярод аўтараў, заснаванага Э.Т. Масальскім рукапіснага літаратурнага штотыднёвіка.
[8] Відавочна, дата запісу.
[9] R. D. (Reverendissimus Dominus) – Вялебны (Преподобный) Пан. Зварот да святара ці клерыка.
[10] У 1818/1819 н. г. запісаны на 2 курс тэалогіі, а ў 1819/1820 – на 3 курс тэалогіі.
[11] E. M. D. (E. D.) (Eminentissimus Dominus) – Высакародны Пан.
[12] У 1818/1819 н. г. запісаны на 1 курс тэалогіі.
[13] У 1818/1819 н. г. запісаны на 1 курс тэалогіі.

### Права

11. E. D. Антон Фіялкоўскі, сын Антона[1]. 15. 09
12. E. M. D. Антон Эльяшэвіч, сын Рыгора.
13. E. M. D. Базыль Ракланскі, сын Габрыэля[2].
14. E. M. D. Канстанцін Жаброўскі, сын Канстанціна.
15. E. M. D. Фелікс Гайдамовіч, сын Яна.
16. E. M. D. Язэп Мірскі, сын Міхала.
17. E. M. D. Лео Дружына, сын Паўла.
18. E. M. D. Пятро Якукевіч, сын Язэпа.
19. E. M. D. Генрык Віткоўскі, сын Язэпа. 2. 10

### Матэматыкі

20. R. D. Міхал Лукашэвіч, сын Сымона. Клерык грэка-ўніяцкі. 15. 09
21. R. D. Сільвестар Заблоцкі, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі.
22. E. M. D. Ян Камароўскі, сын Язэпа. 17.09
23. E. M. D. Ігнат Міранович, сын Паўла. 09.09

### Фізікі

24. R. D. Антон Зубка, сын Рыгора. Клерык грэка-ўніяцкі. 17.09
25. R. D. Раймунд Баршчэўскі, сын Аляксандра. Клерык грэка-ўніяцкі.
26. R. D. Бенядыкт Радзімінскі, сын Паўла. Клерык грэка-ўніяцкі[3].
28. R. D. Ян Мальчэўскі, сын Бенядыкта. Клерык грэка-ўніяцкі.
29. R. D. Ян Падэрня, сын Антона. Клерык грэка-ўніяцкі[4].
27. R. D. Тамаш Акаловіч, сын Міхала. Клерык грэка-ўніяцкі[5].
30. E. M. D. Станіслаў Жаброўскі, сын Язэпа[6]. 25.09
31. E. M. D. Язэп Керкела, сын Яна. 15.09
32. E. M. D. Аляксандар Мяжынскі, сын Фаўста. 07.10
33. E. M. D. Юліян Віткоўскі, сын Язэпа[7]. 12.10
34. E. M. D. Карл Ванькович, сын Мельхіёра[8]. 15.10
35. E. M. D. Валенты Ванькович, сын Мельхіёра[9].
36. E. M. D. Мікалай Літынскі, сын Яна. 15.09
37. E. M. D. Ёахім Самуйла, сын Льва.

---

[1] Антон Фіялкоўскі (1798–1883) у 1809 г. быў выдатнікам у Полацкім калегіуме, пазней вучыўся ў Акадэміі. Доктарам тэалогії стаў у Віленскай духоўнай семінарыі. Быў прафесарам Віленскага ўніверсітэта, а пасля Віленскай духоўнай акадэміі (з 1842 Пецярбургскай). У 1872–1882 гг. – магілёўскі мітрапаліт.

[2] У наступным н. г. запісаны на той самы курс.

[3] У 1818/1819 н. г. запісаны на 1 курс тэалогіі, а ў 1819/1820 – на 2 курс тэалогіі.

[4] У 1818/1819 н. г. запісаны на 1 курс тэалогіі, а ў 1819/1820 – на 2 курс тэалогіі.

[5] У 1818/1819 н. г. запісаны на 1 курс тэалогіі, а ў 1819/1820 – на 2 курс тэалогіі. Меў ступень кандыдата багаслоўя. У 1830-я гг. прызначаны засядацелем Беларускай кансісторыі (замест "ненадзейнага" Яна Ігнатовіча). Падпісаў Акт уз'яднання уніятаў з праваслаўнымі.

[6] Станіслаў Жаброўскі быў аўтарам шматлікіх навуковых прац. 11 сакавіка 1818 г. абараняў працу з галіны механікі („Miesięcznik Połocki", 1818, t. 1, s. 221).

[7] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс матэматыкі.

[8] Малодшы брат мастака Валенты Ваньковіча. У „Miesięczniku Połockim" змешчана *Rozprawa o samobójstwie* (t. II, s. 172). Быў сярод аўтараў, заснаванага Э.Т. Масальскім рукапіснага літаратурнага штотыднёвіка.

[9] Маецца на ўвазе Валенты Ваньковіч (1800–1842), вядомы мастак, прадстаўнік віленскае мастацкае школы. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі (з 1811 г.) і Акадэміі (відавочна, з 1816 г.). З 1818 г. – студэнт Віленскага ўніверсітэта.

38. E. M. D. Павел Красоўскі, сын Міхала[1].
39. E. M. D. Вінцэнт Ліпскі, сын ……[2].

**Логікі**

| | |
|---|---|
| 40. R. D. Парфіры Войдак, сын Антона. Орд. S. B. M.[3]. | 15.09 |
| 41. R. D. Язафат Даўгяла, сын ……[4]. Орд. S. B. M.[5]. | |
| 42. R. D. Тадэвуш Мацкевіч, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі. | 17.09 |
| 43. R. D. Сымон Асоўскі, сын Паўла. Клерык грэка-ўніяцкі[6]. | 17.09 |
| 44. R. D. Базыль Заблоцкі, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі[7]. | |
| 45. E. M. D. Ян Малевіч, сын Піліпа[8]. | |
| 46. E. M. D. Вінцэнт Ігнатовіч, сын Базыля[9]. | |
| 47. E. M. D. Андрэй Цеханоўскі, сын Андрэя[10]. | |
| 48. E. M. D. Здзіслаў Патрыкоўскі, сын Язэпа. | 20.09 |
| 49. E. M. D. Валеры Мілашэўскі, сын Язэпа[11]. | |
| 50. E. M. D. Пятро Ляйкоўскі, сын Барталамея[12]. | 12.09 |
| 51. E. M. D. Антон Харушынскі, сын Юстына[13]. | |
| 52. E. M. D. Язэп Несядовіч, сын Антона[14]. | |
| 53. E. M. D. Георгі Дзеражынскі, сын Мікалая[15]. | |
| 54. E. M. D. Леапольд Аскерка, сын …….[16] | |
| 55. E. M. D. Раман Ванькові, сын Каспара[17]. | |
| 56. E. M. D. Міхал Ванькові, сын Каспара[18]. | 19.09 |

**1818 год**

| | |
|---|---|
| 57. Тамаш Масальскі, сын Ануфрыя, 18 гадоў, Ігумен. | 12.01 |
| 58. Язэп Масальскі, сын Ануфрыя, 17 гадоў, Ігумен[19]. | |

---

[1] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс матэматыкі.
[2] Імя бацькі не пададзена.
[3] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі. Брат Язафата Войдака. У 1814 г. стаў базыльянінам, у 1825–1828 гг. вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі.
[4] Імя бацькі не пададзена.
[5] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[6] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[7] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі, а ў 1819/1820 – на 1 курс дагматычнай тэалогіі.
[8] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[9] Брат студэнта Акадэміі Яна Ігнатовіча.
[10] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[11] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[12] У 1818/1819 н. г. запісаны на той самы курс.
[13] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[14] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[15] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[16] Імя бацькі не пададзена.
[17] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[18] У 1818/1819 н. г. запісаны на курс фізікі.
[19] Язэп Масальскі (1800–1844) – малодшы брат Э.Т. Масальскага.

# Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

VII. Арк. 16–17 **1818–1819 год**

У Акадэмію запісаны наступныя:

**Тэалогія**

**4 год**

1. E. M. D. Казімір Кардамовіч, сын Тамаша. Кандыдат тэалогіі.

**3 год**

2. R. D. Ігнат Мацкевіч, сын Ёахіма. Клерык гр.-уніяцк. Канд. тэалогіі.
3. R. D. Мікодым Нікановіч, сын Яна. Клерык гр.-уніяцк.

**2 год**

4. R. D. Язафат Войдак, сын Антона. Ордэн S. B. M. Канд. філасоф. і тэалогіі.
5. R. D. Язафат Стычынскі, сын Георгія. Ордэн S. B. M..
6. R. D. Адам Тамкавід, сын Язэпа. Клірык гр.-уніяцк. Кандыдат тэалогіі.

**1 год**

7. R. D. Міхал Шчыт, сын ………[1].
8. R. D. Міхал Корсак, сын ………[2].
9. R. D. Вінцэнт Ліпскі, сын ………[3].
10. R. D. Ян Падэрня, сын Антонія. Клерык грэка-ўніяцкі.
11. R. D. Тамаш Акаловіч, сын Міхала. Клерык грэка-ўніяцкі.
12. R. D. Бенядыкт Радзімінскі, сын Паўла. Клерык грэка-ўніяцкі.
13. E. M. D. Ігнат Мацілевіч, сын ………[4].
14. R. D. Канстанцін Мальчэўскі.
15. R. D. Ян Аляшкевіч.

**Права**

1. E. M. D. Лео Дружына, сын Паўла.
2. E. M. D. Язэп Керкела, сын Яна.
3. E. M. D. Базыль Ракланскі, сын Габрыэля.
4. E. M. D. Язэп Мірскі, сын Міхала.
5. E. M. D. Пятро Ксяневіч, сын Бярнарда[5].
6. E. M. D. Якуб Лісоўскі, сын Вінцэнта.
7. E. M. D. Генрык Віткоўскі, сын Язэпа.
8. E. M. D. Стафан Пяткевіч, сын Пятра.
9. E. M. D. Гаўдэнты Шапялевіч.
10. E. M. D. Антон Сяткоўскі.
11. E. M. D. Пятро Якукевіч.

**Матэматыкі**

1. R. D. Ёахім Самуйла.
2. E. M. D. Павел Красоўскі.
3. E. M. D. Юліян Віткоўскі.

---

[1] Імя бацькі не пададзена. У 1819/1820 н. г. запісаны на 2 курс дагматычнае тэалогіі.
[2] Імя бацькі не пададзена. У 1819/1820 н. г. запісаны на 2 курс дагматычнае тэалогіі.
[3] Імя бацькі не пададзена.
[4] Імя бацькі не пададзена.
[5] У наступным н. г. запісаны на той самы курс.

### Фізікі

1. E. M. D. Антон Харушынскі, сын Юстына.
2. E. M. D. Андрэй Цеханоўскі, сын Андрэя.
3. R. D. Базыль Заблоцкі, сын Яна. Клерык грэка-ўніяцкі.
4. E. M. D. Юльян Валасевіч, сын Георгія.
5. E. M. D. Ян Малевіч, сын Піліпа.
6. E. M. D. Георгі Дзеражынскі, сын Мікалая.
7. E. M. D. Павел Вялічка, сын Яна.
8. E. M. D. Раман Ванькові́ч, сын Каспара.
9. E. M. D. Міхал Ваньковіч, сын Каспара.
10. E. M. D. Станіслаў Велямовіч, сын Язэпа.
11. E. M. D. Гіпаліт Есіповіч, сын Стафана[1].
12. R. D. Сымон Асоўскі, сын Паўла. Клерык грэка-ўніяцкі.
13. E. M. D. Валеры Мілашэўскі, сын Язэпа.
14. Язафат Даўгяла. Орд. S. B. M.
15. Парфіры Войдак. Орд. S. B. M.
16. E. M. D. Язэп Несядовіч.
17. E. M. D. Язэп Сурын[2].
18. Мікалай Літынскі.

### Логікі

1. E. M. D. Людвік Стахоўскі, сын Мікалая[3].
2. E. M. D. Язэп Парашынскі, сын Антона[4].
3. E. M. D. Язафат Яхімовіч, сын Феліцыяна[5].
4. E. M. D. Ян Ігнатовіч, сын Яна[6].
5. E. M. D. Ян Абух, сын Сымона.
6. E. M. D. Дамінік Шырын, сын Юстына[7].
7. E. M. D. Цэзар Жолудзь, сын Юстына[8].
8. E. M. D. Юстын Поль, сын Адама[9].
9. E. M. D. Раман Ляхніцкі, сын Барталамея[10].
10. E. M. D. Пятро Ляйкоўскі, сын Барталамея.
11. E. M. D. Ян Радзевіч, сын Ян.

---

[1] У наступным н. г. запісаны на той самы курс.
[2] Быў сярод аўтараў, заснаванага Э.Т. Масальскім рукапіснага літаратурнага штотыднёвіка.
[3] У Акадэміі вучыўся брат Канстанцін.
[4] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[5] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[6] У 1819/1820 н. г. запісаны на той самы курс.
[7] У 1819/1820 н. г. запісаны на той самы курс.
[8] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[9] Зусім верагодна, маецца на ўвазе Юстын Рамуальд Поль (1802–1831), які пазней вывучаў права ў Віленскім універсітэце; філарэт, прататып аднаго з эпізадычных герояў *Дзядоў* А. Міцкевіча. Загінуў падчас паўстання 1830–1831 гг.
[10] Раман Ляхніцкі паходзіў з Гродзенскага пав., сын маршалка Віленскай губ. Служыў у войску, быў маршалкам Гродзенскага пав. (1854–1859). У „Miesięczniku Połockim” (t. II, s. 66–67) надрукаваны ягоны пераклад твора Франсуа Жозэфа Дэсбілонса (1711–1789), французскага езуіта, астранома і літаратара, *Апельсіны*. Быў сярод аўтараў, заснаванага Э.Т. Масальскім рукапіснага літаратурнага штотыднёвіка. Яго родны брат – Ігнацы Ляхніцкі (1793–1826) – публіцыст, выдавец, заснавальнік часопіса “Pamiętnik Magnetyczny Wileński”, парапсіхолаг, даследчык гіпнозу.

12. E. M. D. Казімір Ласкі, сын Вінцэнта[1].
13. R. D. Ян Тачыцкі, сын ………[2].
14. R. D. Язафат Шалепін, сын ………[3].
15. R. D. Рыгор Заблоцкі, сын ………[4].
16. R. D. Антон Свідэрскі, сын ………[5].
17. R. D. Клеменс Хруцкі, сын ………[6].
18. R. D. Ёахім Вішнеўскі, сын ………[7].
19. Язафат Пакаш[8].
20. Эўзебіуш Снарскі.
21. Ян Сыцянка.

## Расія. – Міністэрства Народнай Асветы

IX. Арк. 18–20 **1819–1820 год**

У Акадэмію запісаны наступныя:

**Дагматычная тэалогія. 4 год**

1. A. Язафат Войдак, сын Антона, 25 гадоў, з Полацкага пав. Ордэн S. B.
2. Ігнат Мацкевіч, сын Ёахіма, 27 гадоў, з Лепельскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
3. Мікодым Нікановіч, сын Яна, 29 гадоў, з Лепельскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.

**3 год**

4. Адам Тамкавід, сын Язэпа, 24 гады, з Себежскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
5. Язафат Стычынскі, сын Георгія, 29 гадоў, з Лепельскага пав. Ордэн S. B. M.

**2 год**

6. Бенядыкт Радзімінскі, сын Паўла, 24 гады, з Мсціслаўскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
7. Тамаш Акаловіч, сын Міхала, 24 гады, з Віцебскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
8. Міхал Шчыт, сын Фелікса, 33 гады, з Дрысенскага пав. Клерык каталіцкі.
9. Міхал Корсак, сын Міхала, 25 гадоў, з Дзісенскага пав. Клерык каталіцкі.
10. Вінцэнт Ліпскі, сын Язэпа, 23 гады, з Клімавіцкага пав. Клерык каталіцкі.

**Маральная тэалогія**

11. Ян Падэрня, сын Антона, 26 гадоў, з Гарадоцкага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.

**1 год Дагматычная тэалогія**

12. Базыль Заблоцкі, сын Яна, 23 гады, з Гарадзецкага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
13. Лео Дружына, сын Паўла, 22 гады, з Лепельскага пав.

**Права**

14. Тамаш Масальскі, сын Ануфрыя, 20 гадоў, з Ігуменскага пав.
15. Гаўдэнты Шапялевіч, сын Язафата, 21 год, з Невельскага пав.

---

[1] У Акадэміі вучыўся ягоны брат Мартын.
[2] Тут і далей імя бацькі не пададзена. У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[3] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі. У Акадэміі вучыўся ягоны брат Міхал.
[4] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[5] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[6] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[7] У 1819/1820 н. г. запісаны на курс фізікі.
[8] У 1819/1820 н. г. запісаны на той самы курс.

16. Пятро Якукевіч, сын Язэпа, 20 гадоў, з Полацкага пав.
17. Антон Сяткоўскі, сын Антона, 21 год, з Сенненскага пав.
18. Пятро Ксяневіч, сын Бярнарда, 20 гадоў, з Беліцкага пав.

**Матэматыкі**

19. Каятан Адамовіч, сын Язэпа, 22 гады, з Барысаўскага пав.
20. Максімільян Гімбут-Рылло, сын Фартуната, 17 гадоў, з Веліжскага пав.

**Фізікі**

21. Язафат Яхімовіч, сын Феліцыяна, 18 гадоў, з Гарадзецкага пав.
22. Язэп Парашынскі, сын Антона, 20 гадоў, з Полацкага пав.
23. Гіпаліт Есіповіч, сын Стафана, 21 год, з Аршанскага пав.
24. Цэзар Жолудзь, сын Юстына, 21 год, з Дынабургскага пав.
25. Ян Тачыцкі, сын Антона, 21 год, з Себежскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
26. Антон Свідэрскі, сын Пятра, 23 гады, з Сененскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
27. Язафат Шалепін, сын Адама, 22 гады, з Копыскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
28. Рыгор Заблоцкі, сын Сымона, 24 гады, з Лепельскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
29. Ёахім Вішнеўскі, сын Леона, 21 год, з Мсціслаўскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.
30. Клеменс Хруцкі, сын Язэпа, 18 год, з ……… пав.[1] Клерык грэка-ўніяцкі.
31. Лангін Сянкевіч, сын Стафана, з Сененскага пав. Клерык грэка-ўніяцкі.

**Логікі[2]**

32. Аляксей Ермаловіч, сын Адама, 15 гадоў, з Полацкага пав. Орд. S. B. M.
33. Канстанцін Сташэўскі, сын Пратаза, 20 гадоў, з Дзісенскага пав. Орд. S. B. M.
34. Табіяш Герцык, сын Ігната, 21 год, з Лепельскага пав.
35. Канстанцін Стахоўскі, сын Мікалая, 17 гадоў, з Аршанскага пав.
36. Аркадзь Рашкоўскі, сын Серафіма, 16 гадоў, з Сененскага пав.[3].
37. Стафан Буевіч, сын Ігната, 18 гадоў, з Рэжыцкага пав.[4].
38. Адольф Козел, сын Тамаша, 18 гадоў, з Лепельскага пав.
39. Міхал Нікановіч, сын Тодара, 20 гадоў, з Полацкага пав.
41. Эдвард Кадзевіч, сын Яна, 19 гадоў, з Люцынскага пав.
40. Урбан Беніслаўскі, сын Міхала, 17 гадоў, з Дынабургскага пав. [5].
42. Язэп Вяржэнскі, сын Юлія, 18 гадоў, з Невельскага пав.
43. Ігнат Радзіеўскі, сын Казіміра, 18 гадоў, з Мазырскага пав.
44. Ануфры Залескі, сын Фелікса, 17 гадоў, з Полацкага пав.

---

[1] Напісана неразборліва.

[2] У снежні 1817 г. шмат хто з ніжэй пералічаных студэнтаў, тады як вучань IV класа калегіума, быў адзначаны ўзнагародамі за поспехі ў навуцы. Сярод іх быў і Маўрыцый Корбут, бацька паэта Ялегі Пранціша Вуля. Апошні, аднак, не згадваецца сярод студэнтаў Полацкай акадэміі, хоць у следчай справе “Дело временного аудиториата виленского военного округа о дворянах Анастасии Козловском, Болеславе Улинском, Александре Василевском, Элегию Франце Караффе Корбуте, Болеславе Вичульском, Станиславе Гелвановском, Антоне Каминском и других” (Гл.: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1248-2-394, c. 295 v) захаваўся *Формулярный список о службе переводчика Витебской Палаты Уголовного суда Маврикия Корбута*, у якім пазначана, што ў 1820 г. ён закончыў (sic!) Акадэмію (“По окончании курса в Полотской иезуитской академии в 1820 году в службу вступил Витебского Главного Суда во 2-й Департамент, что ныне Палата Гражданского Суда на вакантную должность с чином канцеляриста”).

[3] Быў сярод аўтараў, заснаванага Э.Т. Масальскім рукапіснага літаратурнага штотыднёвіка.

[4] Аўтар байкі *Nowe rzemiosło* (Miesięcznik Połocki, 1818, t. 2, nr 8, s. 280–281).

[5] Урбан Беніслаўскі (1804–1880) пасля выгнання езуітаў вучыўся за мяжою. Быў жанаты з дачкою Казіміра Буйніцкага. Займаў доўгі час пасаду куратара дынабургскіх школ.

45. Антон Яхімовіч, сын Феліцыяна, 16 гадоў, з Гарадзецкага пав.
46. Ян Эльяшэвіч, сын Яна, 19 гадоў, з Полацкага пав.
47. Язэп Пшэсмыцкі, сын Антона, 17 гадоў, з Невельскага пав.
48. Ігнат Дэмбскі, сын Тамаша, 18 гадоў, з Дынабургскага пав.
49. Ігнат Шпакоўскі, сын Апанаса, 22 гады, з Дрысенскага пав.
50. Емяльян Аскірка, сын Паўла, 19 гадоў, з Рэжыцкага пав.
51. Мартын Ласкі, сын Вінцэнта, 20 гадоў, з Полацкага пав.[1].
52. Стафан Слепсць, сын Язэпа, 19 гадоў, з Полацкага пав.
53. Мацей Камароўскі, сын Язэпа, 19 гадоў, з Сенненскага пав.
54. Францішак Нікановіч, сын ……,[2] 17 гадоў, з Аршанскага пав.
56. Аляксандар Ляхлановіч, сын Гіпаліта, 17 гадоў, з Дрысенскага пав.
55. Вінцэнт Вейтка, сын Валерыяна, 20 гадоў, з Дзісенскага пав.
57. Антон Гарбацкі, сын Фаўста, 17 гадоў, з Мсціслаўскага пав.
58. Ян Грушэўскі, сын Антона, 18 гадоў, з Сенненскага пав.
59. Язафат Пакаш, сын Яна, 20 гадоў, з Лепельскага пав.
60. Адам Ваньковіч, сын Міхала, 17 гадоў, з Аршанскага пав.
61. Феліцыян Лютападскі, сын Францішка, 17 гадоў, з Рэжыцкага пав.
62. Сымон Скібнеўскі, сын Даменіка, 18 гадоў, з ………… пав[3].
63. Дамінік Шырын, сын Юстына, 18 гадоў, з Дзісенскага пав.
64. Фаўстын Петрачэўскі, сын Міхала, 18 гадоў, з Упіцкага пав.
65. Людвік Гаеўскі, сын Міхала, 19 гадоў, з Люцынскага пав.
66. Якуб Зянковіч, сын Даніеля, 20 гадоў, з Невельскага пав.
67. Ян Ігнатовіч, сын Яна, 22 гады, з Дрысенскага пав.
68. Ігнат Руткоўскі, сын Язэпа, 20 гадоў, з Себежскага пав.
69. Вінцэнт Мяніцкі, сын Францішка, 19 [гадоў], з Дзісенскага пав.[4].
70. Ян Цытовіч, сын Вінцэнта, 17 гадоў, з Гарадзецкага пав. Кл[ірык] гр[эка]-ўніяц[кі].
71. Лукаш Кацкевіч, сын Мацея, 21 год, з Копыскага пав. Кл[ірык] гр[эка]-ўніяц[кі].
72. Тэадор Заблоцкі, сын Яна, 18 гадоў, з Гарадзецкага пав. Кл[ірык] гр[эка]-ўніяц[кі].

[1] Мартын Ласкі (1799–1853) пасля выгнання езуітаў вучыўся ў магілёўскай семінарыі. У Вільні стаў магістрам, а пазней доктарам тэалогіі. Апошнія гады жыцця звязаны з Магілёвам.
[2] Напісана неразборліва.
[3] Напісана неразборліва.
[4] Паводле кнігі *Rodowód domu Mienickich* (Варшава 1928) Вінцэнт Мяніцкі нарадзіўся ў 1802 г. Яго бацька, Францішак, суддзя гранічны дзісенскі, быў уладальнікам вёсак Заўтця, Слабкі і Клімят.

# ЗАГАДКІ ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА

## Віленскі каляндар 1817 года

Важнае значэнне дзеля інтэрпрэтацыі *Шляхціца Завальні* Яна Баршчэўскага мае мастацкі час твора. Выяўленне аўтарскіх падказак, што акрэсліваюць храналогію падзей у кнізе, не з'яўляецца складаным, бо тэкст, напісаны і выдадзены ў сярэдзіне 40- гг. XIX ст., так ці інакш адсылае чытача да рэалій пачатку XIX ст., пісьменнік няраз „дапамагае" чытачу. Напрыклад, вучоба сыноў тытульнага героя ў езуітаў сведчыць пра тое, што дзеянне адбываецца да вясны 1820 года. Тым не менш, аўтар палічыў патрэбным дакладна акрэсліць час знаходжання маладога паніча Янкі ў доме свайго дзядзькі. У фінальнай частцы кнігі прыезд арганіста Андрэя не прыводзіць да „з'яўлення" яшчэ аднаго апавядання. Яно лагічна замяняецца віленскім календаром на „цяперашні" 1817 год: „Po skończonéj wieczerży rżekł Andrżej: – Teraz zawdzięczając gospodarżowi za jego uprzéjmość, przed snem dobrżeby było opowiedzieć cokolwiek ciekawego, ale w tym czasie nic mi nie przychodzi na pamięć. Więc ofiaruję panu książeczkę, która ciekawsza i pożyteczniéjsza niż wszystkie powieści, a ta jest wilenski kalendarż na teraźniejszy tysiąc osimset siedemnasty rok, tu przeczytasz wiele rzeczy rozumnych, pożytecznych i ciekawych, tu są przestrogi dla gospodarzy, tu objawione sekrety, o których pewnie jeszcze pan Zawalnia niewiedział; jako to, sposoby zastrżeżenia kapusty od robaków, o bieleniu płutna, o hodowaniu domowego ptastwa, o robieniu octu, o sposobach jak ulepszyć rozmaite fruktowe drżewa, a do tego są tu zagadki, anegdoty i powiesci.

– Bardzo wdzięczny jestem, dla gospodarża jest to rzecz koniecznie potrzebna, tu piszą o zmianach pogody i niepogody, chociaż nie zawsze trafnie, jednak że nie kiedy bardzo się dobrże udaje rozporżądzić się w gospodarstwie w zględem sianożęcia i żniwa po przestrogach kalendarża.

– Ale, powiedz mi panie Adrzeju, co znaczą te figurki, byk, lew, rak, panna, waga, bliznięta, zawsze spotykam ich w kalendarżach, a nie rozumiem dla czego one mogą tu być potrzebne.

– To są planety na niebie pod któremi rodzą się ludzie, i które mają wpływ na ich życie. A zreszta nie wiem dobrże szkoł wszystkich nie kończyłem i jeszcze po niebie nie wojażowałem. Janko może o tym lepiéj wiedzieć.

– W tym roku będzie zaćmienie słońca rżekł stryj, czytając daléj kalendarż"[1].

Адразу ўзнікае пытанне: чаму Я. Баршчэўскі называе менавіта 1817 г.? Можам дапусціць, што ў гэтым годзе сам аўтар, як і яго герой, пакінуў родны край і накіраваўся на Поўнач – у сталіцу Расійскай імперыі Пецярбург. Відавочна, што гэты год ён

[1] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, t. IV, Petersburg 1846, s. 67–68.

мусіў памятаць. І, так бы мовіць, пажадаў „увекавечыць" факт свае біяграфіі. Або, магчыма, пісьменнік меў прычыны свядома сфальшаваць гэтую дату. Мы маем права так гаварыць, бо, па-першае, Эдвард Тамаш Масальскі, трапіўшы восенню 1816 г. у Полацкую акадэмію называе Я. Баршчэўскага студэнтам гэтае навучальнае ўстановы[1]; па-другое, Юльян Барташэвіч сцвярджаў, што Я. Баршчэўскага прыняў у Пецярбургу яго прыяцель Гаўдэнты Шапялевіч, які сам апынуўся ў Пецярбурзе ў 1820 г.[2]; па трэцяе, звернем увагу на тую сакрэтную, пачутую ад ксяндза пракуратара інфармацыю, якую перадае шляхціцу Завальні арганіст Андрэй: ці не пра выгнанне езуітаў з Расіі ішла там гаворка? А г. зн. зноў з'яўляецца 1820 год. Праўда, калі "давяраць" мастацкаму тэксту, ад'езд Янкі (і самога Яна Баршчэўскага) на Поўнач не мог адбыцца пазней за 1820 г., бо ў іншым месцы пісьменнік акрэслівае час адсутнасці свайго героя (і, верагодна, сваю ўласную адсутнасць) на Бацькаўшчыне сямнаццаццю гадамі[3], а першая дакладна „зафіксаваная" (ліст да Юлі Корсак ад 4 жніўня 1837 г.) паездка Яна Баршчэўскага на радзіму адбылася летам 1837 г. Хоць, вядома, у Рудню, маёнтак Гаўдэнты Шапялевіча і яго сястры Юлі Корсак, ён мог трапіць і раней.

Аднак – як бы там не было – аўтар дакладна акрэслівае мастацкі час твора (мы называлі гэта „ўласназавальнеўскі" ўзровень тэксту, г. зн. восень-вясна 1816–1817 г. – час, калі ў фальварку шляхціца Завальні збіраюцца госці і падарожныя, каб апавядаць гісторыі пра мінулае[4]).

А таму прыгледзімся да таго „інструмента", з дапамогаю якога пісьменнік „датуе" падзеі, што адбываюцца ў фальварку шляхціца Завальні. Гаворка пра гэтак званы „віленскі каляндар".

Дадзеная Я. Баршчэўскім „характарыстыка" календара паказвае, што ён мае на ўвазе выданне, якое друкавалася ў Вільні, дзе ў той час выходзілі ажно два календары: „Kalendarzyk polityczny"[5] і „Kalendarz gospodarczy". Цікава, што ў 20-я гг. XIX ст. (пасля 1823 г.) „Kalendarzyk polityczny" друкаваўся пад тытулам „Kalendarzyk wileński"[6]. Што датычыць „Kalendarzyka politycznego" (і, вядома, „Kalendarzyka wileńskiego"), дык адразу варта сказаць, што яго змест не адпавядаў „заяўленым" у *Шляхціцы Завальні* інфармацыям: у „Kalendarzyku politycznym" падаваліся звесткі пра асоб, якія займалі высокія пасады ў сістэмах дзяржаўнага кіравання, суда, адукацыі і інш. Ён апавядаў пра кадры адміністрацыі шасці губерняў – Літоўска-Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Валынскай і Беластоцкай. (Фактычна, „Kalendarzyk polityczny" часткова дубляваў „Месяцослов", выдаваны Расійскай акадэміяй навук з сярэдзіны XVIII ст. „Месяцеслов" падаваў звесткі пра адміністрацыю ўсяе Расійскае імперыі). Аднак у такіх выданнях ніколі не друкаваліся парады сельскаму гаспадару.

---

[1] E. T. Massalski, *Z pamietnikow...*, s. 248.

[2] Ю. Барташэвіч, *Ян Баршчэўскі* [у:] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Мінск 1990, с. 360.

[3] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia*..., t. II, Petersburg 1846, s. 10; J. Barszczewski, *Drewniany Dziadek i Kobieta Insekta. Powieść*, „Niezabudka" 1844, t. V, s. 91.

[4] М. Хаўстовіч, *Шляхамі да беларускасці. Нарысы, эсэ, артыкулы*, Варшава 2010, с. 90.

[5] Выдаваўся ў Вільні з 1805 па 1823 г. Напрыклад: *Kalendarzyk polityczny na rok 1805*. Druk. Imperatorskiego Uniwersytetu, (1804), w 12[ce], s. 282 nl.

[6] Мы змаглі пазнаёміцца толькі з выданнем на 1828 г.: „Kalendarzyk wileński na rok 1828. Dla wydziału naukowego wileńskiego", w Wilnie, w drukarni Manesa Romma i komp., przy ulicy Niemieckiej pod N. 296.

А таму не выклікае сумнення, што Ян Баршчэўскі пад „віленскім календаром" меў на ўвазе „Kalendarz gospodarski", які ўпершыню быў выдадзены ў Вільні ў 1803 годзе Акадэмічнай друкарняй[1] у 4[ce] на 20 старонках[2]. Хто рыхтаваў выданне – невядома. Пэўна, нехта з супрацоўнікаў Галоўнае школы ВКЛ па ўзору „Kalendarza dla kraju rosyjskiego", які выдаваўся ў Бярдзічаве з 1800 да 1851 года на тых жа 20 старонках і ў тым жа фармаце. Зрэшты, гаспадарчым (у тытуле) гэты каляндар будзе названы толькі на 1804 год. А таму больш верагодна, што віленскія аўтары мелі ў сваім распараджэнні кракаўскі „Kalendarz gospodarski, na rok pański 1802", выдадзены ў 1801 годзе ў „4[ce] małej" на 32 старонках.

Другі выпуск „Kalendarza"[3] выйшаў без пазначэння друкарні (у сувязі з утварэннем Віленскага ўніверсітэта Акадэмічная друкарня страціла сваё ранейшае найменне, а новага яшчэ не атрымала). Пачынаючы з трэцяга выпуску (1805) і па 1819 год ёю была тыпаграфія Віленскага ўніверсітэта[4]. На 1820 г. „Kalendarz" выдаваўся піярамі ў Аляксандра Жулкоўскага (пад тытулам „Kalendarz gospodarski litewski" на 24 старонках у 4[ce])[5]; на 1821–1824 гг. у друкарні пры „Ulicy Święto-Jańskiej pod N. 431" (у тым жа самым фармаце), на 1825–1830 гг. у друкарні „Zymiela i Manesa" (у 4[ce], колькасць старонак вагалася ад 24 да 40); на 1831–1841 гг. у друкарні „Manesa Romma i Zymela" ў Вільні і Гродне (у тым самым фармаце, колькасць старонак звычайна раўнялася 36).

У 1835 годзе на вокладцы, апрача польскамоўнага з'явіўся і расійскамоўны тытул: „Месяцослов хозяйственный на 1835 год"[6]. А з 1842 г. „Kalendarz" стаў двухмоўным[7]:

---

[1] Маецца на ўвазе друкарня былой Віленскай езуіцкай акадэміі, якая працягвала называцца па-ранейшаму, хоць навучальная ўстанова пасля скасавання ордэта езуітаў стала Галоўнаю школаю Вялікага Княства Літоўскага.

[2] „Kalendarz Gospodarski. Na rok Pański 1803. Z przydaniem Dni Galowych, Wschodu i Zachodu Słońca, Odmian Xiężyca, Powietrza i niektórych wiadomości", Wilno, Drukarnia Akademicka, (1802), w 4[ce], str. 20 nl.

[3] „Kalendarz Gospodarski na rok przybyszowy 1804. Zawierający w sobie dni 366. Oraz Święta Rzymskie i Ruskie", Wilno, (1803), w 4ce, str. 20 nl.

[4] „Kalendarz Gospodarski na rok 1805. Z przydaniem Dni Galowych, Wschodu i Zachodu Słońca, Odmian Xiężyca, Powietrza, i niektórych wiadomości", Wilno, Druk. Imperatorskiego Wileń. Uniwersytetu, (1804), w 4[ce], str. 16 nl.; „Kalendarz Gospodarski na rok Pański 1806. Zawierający w sobie dni 365. Oraz Święta Rzymskie i Ruskie. Tudzież z oznaczeniem dni Galowych, Wschodu i Zachodu Słońca, Odmian Xiężyca i zaćmienia, Prognostyk, oraz inne ciekawe wiadomości", Wilno, Druk. Imperatorskiego Wileń. Uniwersytetu, (1805), w 4ce, str. 20 nl.

[5] „Kalendarz Gospodarski litewski, na rok przestępny 1820 zawierający w sobie dni 366, oraz święta rzymskie i ruskie, z oznaczeniem dni galowych, wschodu i zachodu słońca, odmian xiężyca, powietrza, tudzież innych ciekawych i pożytecznych wiadomości gospodarskich", Wilno, Druk. XX. Pijarów u Alexandra Żółkowskiego, (1819), w 4ce, str. 24 nl.

[6] „Kalendarz Gospodarski na Rok Pański 1835. Zawierający w sobie dni 365, oraz Święta Rzymskie i Ruskie z oznaczeniem dni galowych; Epochy znakomitsze; tabelę wschodu i zachodu słońca; odmiany xiężyca, wiadomość historyczną od stworzenia świata, ciekawe i pożyteczne wiadomości gospodarskie i astronomiczne, odchod poczt w Grodnie, pryncypalniejsze jarmarki, doświadczenia gospodarskie, i anekdoty, oraz święta i posty Staro-Zakonnych. Месяцослов хозяйственный на 1835 год. Который есть простым, заключайщий в себе 365 дней", Wilno i Grodno, druk. Manesa Romma i Zymela Typografa, (1834), w 4[ce], str. 35, 1 nl.

[7] „Месяцослов хозяйственный на лето Христово 1842, которое есть простое, содержащее в себе 365 дней. С означением в оном Праздников Православных и Римско-Католических, по старому и новому стилю, Табельных дней, примечательнейших Эпох, указателя восхождения и захождения Солнца, перемен Месяца, разных астрономических наблюдений, хозяйственных, земледельческих и исторических сведений, хода Почты в Вильне, знатнейших Ярмарков, праздников и постов Еврейских. Kalendarz Gospodarski na Rok Pański 1842, który jest rokiem prostym, zawierającym w sobie dni 365. Z oznaczeniem w onym Świąt Prawosławnych i Rzymsko-Katolickich według starego i nowego stylu, dni galowych; Epoch

расійскі і польскі тэксты падаваліся паралельна, прычым расійскі тэкст ішоў першы[1].

Бясспрэчна, Ян Баршчэўскі добра ведаў гэтае выданне, бо „Kalendarz gospodarczy" выходзіў вялікімі накладамі, трапляў ці не да кожнага адукаванага гаспадара. Пісьменнік мог пазнаёміцца з ім і ў доме бацькі, і ў тых дамах, дзе ён служыў перад ад'ездам у Пецярбург, і ў доме Гаўдэнтыя Шапялевіча, куды ён штолета прыязджаў, пачынаючы з сярэдзіны 30-х гг.

Звернем увагу, што фрагмент тэксту *Шляхціца Завальні*, дзе вядзецца гаворка пра „Віленскі каляндар на 1817 год" Ян Баршчэўскі пісаў, не маючы дадзенае кніжачкі перад вачыма. Бо „Kalendarz gospodarski na rok Pański 1817" не мае тых матэрыялаў, пра якія гаворыць пісьменнік[2]. Так, пасля абавязковае „календарнае" часткі – Святаў рымскіх і рускіх, Святочных і ўрачыстых дзён, Табліцы ўсходу і заходу сонца – знаходзіўся абавязковы для ўсіх выпускаў „Дадатак", дзе даваліся парады гаспадару, а таксама іншая інфармацыя. У гэтым годзе выдаўцы падалі ў „Дадатку" толькі „różne powieści zabawne i ciekawe" (тут, між іншым: *Anegdoty różne*: *O Królu Midasie*, *Czyn umiarkowania*, *Nieszczęście stopniowane*[3], *Więzień angielski*, *Ciekawość zaspokojona*), а таксама 11 вершаваных загадак. Аднак не было ані слова пра "sposoby zastrżeżenia kapusty od robaków, o bieleniu płutna, o hodowaniu domowego ptastwa, o robieniu octu, o sposobach jak ulepszyć rozmaite fruktowe drżewa". Не было ў „Kalendarzu gospodarskim na rok Pański 1817" і інфармацыі пра зацьменне сонца.

---

znakomitszych, Tabelii wschodu i zachodu Słońca, odmian xiężyca, rożnych obserwacyi astronomicznych, doświadczeń gospodarskich i agronomicznych, wiadomości historycznych, chodu Poczt w Wilnie, znaczniejszych Jarmarków, świąt i postów Starozakonnych", Вильно, в Типографии Зимеля Типографа и Манеса Ромма, (1841), w 4$^{ce}$, str. 36.

[1] У гэтым выпуску "Календара" змешчаны артыкул *О всеобщем употреблении русского языка до XVIII столетия в Виленской и прочих Западных губерниях*, у які ўключаны верш Яна Казіміра Пашкевіча *Польска квитнет лациною*.

[2] „Kalendarz Gospodarski na rok Pański 1817 zawierający w sobie dni 365. Oraz Święta Rzymskie i Ruskie. Tudzież z oznaczeniem dni Galowych, Wschodu i Zachodu Słońca, Odmian Xiężyca i zaćmienia, Prognostyk, oraz inne ciekawe wiadomości", Wilno, Druk. Imperatorskiego Wileń. Uniwersytetu, (1816), w 4ce, str. 20 nl.

[3] Звернем увагу на адну паказку, сюжэт якое надзвычай папулярны ў фальклоры: „Пэўнага маладога студэнта аднойчы наведаў адзін з лёкаяў бацькі. Ён прывёз паклоны ад усяе сям'і.

– Ну, як жа там жывуць нашыя? Якія навіны мне прывёз?
– Аніякіх, апрача таго, што наша фаварытка сарока здохла.
– І нічога больш? Але з якое прычыны здохла тая бедная птушка?
– Аб'елася мясам.
– А хто ж ёй столькі даў?
– Хто? Чатыры кані карэтныя!
– Што? Здохлі? Кажы далей!
– Вох! Бедныя клячы можа доўга б яшчэ жылі, каб іх не замучылі, возячы ваду.
– Ваду? А навошта вада?
– Каб патушыць агонь, калі гарэў наш дом.
– Дык і наш дом згарэў! А з якой гэта прычыны, о Божа?!
– Ад няшчасця, якога б не было, каб нашы людзі не былі такія неасцярожнымі з паходнямі.
– А навошта ім былі патрэбныя паходні?
– На пахаванні Еймосці.
– Неба! Мая матуля памерла!
– Так, на жаль, матка памерла.
– Божа! Якуб, кажы, што стала прычынаю гэтага?
– Вох! Слушнае. Разалія, што нядаўна служыла ў Еймосці, з'явілася на адным балі ў больш прыгожай, чым ва ўсіх іншых, сукенцы. І была яна самаю гожаю, дык нябога Еймосць і памерла".

Нам не ўдалося пазнаёміцца са зместам „Дадаткаў” да ўсіх „Kalendarzy gospodarskich”. Але ў выпусках 1811–1812, 1815–1817, 1819, 1822–1835, 1837–1845 мы не знайшлі аніводнае парады як абараніць капусту ад чарвякоў і як бяліць палатно. Пра гадаванне хатняе птушкі можна пачытаць у календарах на 1822 і 1840, пра выраб воцату – у 1828, 1830, 1835, 1839 і 1844, пра паляпшэнне садовых дрэў – у 1828, 1830, 1835 і 1838. Магчыма, напісанаму Янам Баршчэўскім адпавядае адзін з выпускаў календара на 1813–1814, 1818, 1820–1821 ці на 1836 год (не называем першыя выпускі календара, бо да вайны 1812 года ні сам Ян Баршчэўскі, ні яго герой Янка не маглі ад’язджаць на Поўнач). Але больш верагодна, што пісьменнік скампанаваў інфармацыю пра змест „Віленскага календара” на падставе прачытаных „Kalendarzy gospodarskich” сярэдзіны 30-х – пачатку 40-х гг. XIX ст.

Найважнейшае тое, што Ян Баршчэўскі прынцыпова называе менавіта 1817 год як год ад’езду Янкі на Поўнач. Відаць, каб засцерагчыся ад памылак пры наборы пісьменнік падае год словамі, а не лічбамі, хоць як варыянт можам дапусціць, што зроблена было гэта з тае прычыны, каб лічбы не вылучаліся ў тэксце, не звярталі на сябе ўвагу.

## „Жук, Жаба Кошку судзіла”

Асобныя фрагменты „рэалістычнага” пласту *Шляхціца Завальні* ўтрымліваюць празрыстыя алюзіі на пэўныя гістарычныя выпадкі на Беларусі. Яны неабходны пісьменніку, каб належным чынам ілюстраваць ідэю кнігі, каб „фантастычны” пласт не ўспрымаўся чытачом як нешта „казачнае”, цалкам не спалучанае з жыццём краю. І гэта адзін з мастацкіх прыёмаў Я. Баршчэўскага: супастаўляючы, зближаць неверагоднае з рэальным.

Прыгледзімся да раздзела *Вечар перад Новым годам*, які тэматычна блізкі да папярэдніх апавяданняў (*Белая Сарока* і *Пакутны Дух*), бо ставіць усё тыя ж праблемы. У першую чаргу закранаецца праблема „свае–чужыя”, якая выяўляецца праз кантрастнае адлюстраванне мінулага і сучаснага жыцця. Сам Завальня канстатуе карэнныя перамены ў жыцці беларускага грамадства: “– Przeżyliśmy i ten rok dzięki Bogu, – rzekł Zawalnia; ja rodziłem się i wyrosłem w tych stronach, nieodbywając podróży dalekich, jednak dość widziałem w życiu; ile to odmian było! ile rozmaitych pamiętam kolej! Jeśliby wstał z grobu którykolwiek z dziadów naszych, widząc teraźniejsze obyczaje, niepoznałby swojéj rodziny. Jemu by się zdawało, że on zmartwychwstał gdziekolwiek w obcéj krainie, – jakich to czasów dożyją dzieci moje? Nieżałuję wydatków na wychowanie, czynię co mogę, lecz gdy wyjdą na świat z pod dozoru mego i nauczycieli, niech już Bóg ma w swojéj opiece i broni ich dusze od złych i bezbożnych ludzi”[1].

Прычым, ён прадбачыць (відавочна, дзякуючы пісьменніку, які мог скарыстаць і свой жыццёвы вопыт) пагаршэнне сітуацыі: толькі на Бога застаецца спадзявацца, каб дзеці, нават належным чынам выхаваныя, не трапілі пад уплыў „злых і бязбожных людзей” – чарнакніжнікаў, пасланцаў Белае Сарокі, асташоў. Цікава, што Я. Баршчэўскі бачыць і „ўнутраныя” прычыны пагаршэння. Адзін з гасцей шляхціца Завальні – пан Сівоха – называе іх: “– At, Panie Zawalnia, – rzekł Siwocha, – sami jesteśmy winni, że djabli rozmnożyli się w naszych stronach; wszystkiemu przyczyną, jest głupstwo szlachty, chciwość i niezgoda Panów[2]; nie będę o tém długo rosprawiać, ta historja wszystkim wiadoma, do tychczas jeszcze niezapomnieli tych wierszów:

---

[1] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia*..., t. III, Petersburg 1845, s. 42.

[2] Відавочна, пан Сівоха (а пазней і пан Латышэвіч) спрабуюць вытлумачыць палітычныя перамены ў краі (падзелы Рэчы Паспалітай) „глупствам шляхты, хціваcцю і нязгодаю паноў”.

Koszka Cialicu zabiła,
Żuk, Żaba, Koszku sudziła;
A że sprawa była kiepska
To przenieśli do Witebska[1].

A w Witebsku cóż zrobili? Koszka była ze strony panów, którzy będąc nienasyceni bogactem, chcieli więcéj tego nabyć. Koszka zaszczycony ich protekcją, nie przestał tu, ale jeszcze brnął daléj podtrzymując sprawę dla uszkodzenia wszystkim; Cielica zaprawdę skończył życie i o nim tylko jak o dobrym człowieku, zostało na zawsze dobre wspomnienie"[2].

Згаданая гісторыя павінна была праілюстраваць сцвярджэнне пана Сівохі, але, пададзеная ў агульных словах (бо была вядомаю слухачам), аніяк не тлумачыла ні прычыну „размнажэння" д'яблаў, ні хто такія д'яблы ўвогуле. Пісьменнік спадзяваўся на ўдумлівага, дасведчанага чытача, хто ўмеў у іншым месцы твора знайсці тлумачэнне асобных цьмяных мясцін, хто ўмеў адшукаць патрэбны ключ дзеля дэкадзіроўкі зашыфраванага.

Зрэшты, сёння чытач неабавязкова мусіць „прыслухоўвацца" да аўтара. Згодна з тэорыямі постмадэрністаў, цяпер можна стаць і сааўтарам Я. Баршчэўскага. Дапісаць твор, даць сваё разуменне тэксту. Асабліва ў тым выпадку, калі цябе не задавальняюць ідэі пісьменніка, калі гэтыя ідэі пярэчаць тваім перакананням.

Вышэйпададзены фрагмент *Шляхціца Завальні* стаўся аб'ектам пільнае ўвагі пецярбургскага даследчыка творчасці Я. Баршчэўскага Дз. Вінаходава, які прысвяціў яму сваё выступленне на XIX канферэнцыі „Санкт-Петербург и белорусская культура", якая адбылася 17 чэрвеня 2011 г.

Праўда, з вышэйпададзенага фрагмента даследчык адкідае надзвычай важную частку – пачатак размовы (словы шляхціца Завальні). А ў іх жа своеасаблівае тлумачэнне „з'яўлення" ў тэксце „справы Кошкі і Цяліцы": у краі ўсё карэнным чынам змянілася, калі б падняўся з магілы хто-небудзь з нашых дзядоў і ўбачыў цяперашнія звычаі, дык не пазнаў бы свае радзімы. Яму б здалося, што ўстаў з мёртвых недзе ў чужой краіне. Менавіта пацвярджэннем сказанага шляхціцам Завальняю становіцца „справа Кошкі і Цяліцы".

Іншым, наступным пацвярджэннем думкі, выказанае шляхціцам Завальняю, павінна магла стаць гісторыя пана Латышэвіча: "– Tak zawsze u nas[3], – rzekł Pan Łotyszewicz, – za Dzwiną w Uszacu zebrali się dla rady".

Але нехта (ці то шляхціц Завальня, ці то пан Сівоха, ці то сляпы Францішак) перапыняе пана Латышевіча. Не дае яму выказацца. Відавочна, Я. Баршчэўскі палічыў тэму дастаткова раскрытай.

Атрымліваецца: па-першае, пан Сівоха не „вскользь упоминает о неком происшествии", а падтрымлівае надзвычай важную думку шляхціца Завальні. Па-другое, пан Латышевіч, сапраўды, „охотно включается в обсуждение", ён відавочна хоча яшчэ раз праілюстраваць і пацвердзіць думку гаспадара. Але ў нас няма аніякіх падстаў казаць пра тое, што ён хоча больш падрабязна расказаць пра выпадак, згаданы панам

[1] Складальнікі хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (1988) залічылі „песню" *Не будзем жыці...* да твораў Я. Баршчэўскага. Думаецца, у іх было не менш падстаў, каб і гэты верш далучыць да спадчыны пісьменніка.
[2] J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia...*, t. III, s. 42.
[3] Гэтыя словы сведчаць, што аповед пана Латышэвіча не будзе звязаны са справай „Кошкі і Цяліцы".

Сівохаю. Ва Ушачах таксама, відаць, здарылася падзея, якая спрыяла „размнажэнню д'яблаў у нашым краі".

Дарэчы, пра Раду ва Ушачах. Зусім верагодна маецца на ўвазе пэўны Полацкі соймік ва Ушачах. Бо менавіта там, ва Ушачах у 1776–1793 гг. адбываліся соймікі Полацкага ваяводства.

Гісторыя пана Латышэвіча застаецца нерасказанаю. Але чаму даследчык спрабуе аб'яднаць два выказванні гасцей шляхціца Завальні ў адну „справу"? Можа, ён ужо мае звесткі пра пэўную справу „Кошкі і Цяліцы" на Ушаччыне, а цяпер „падганяе тэкст" Я. Баршчэўскага пад сваю знаходку?

У абраным дзеля аналізу фрагменце (адвольна, заўважым, вылучаным) даследчык выяўляе ажно 12, як ён называе, „событий", якія "1) на момент повествования (1816 г.) хорошо известны во всей Полоцкой округе; 2) произошли задолго до момента повествования; 3) стали причиной того, что „*дьяволы размножились в наших краях*"; 4) имели отношение к местечку Ушачи (в 35 километрах к югу от Полоцка); 5) явились следствием „*глупости шляхты, жадности и распрей панов*"; 6) вылились в убийство неким Кошкой некого Телицы. Далее произошли: 7) местный суд, ведущую роль в котором играли некие Жук и Жаба, и 8) суд более высокой инстанции в Витебске. Также утверждается, что 9) на этих судах Кошка пользовался покровительством высокопоставленных лиц, „*ненасытных до богатства*", что привело к вынесению несправедливого, по мнению рассказчика, решения; 10) Телица умер, отстаивая правое дело; 11) после суда Кошка не прекратил бесчинства; 12) история на этом не закончилась, а её отдалённые последствия в окрестностях Ушачей тянулись и на момент повествования"[1].

Сапраўды, асобныя з „событий" вынікаюць з тэксту Я. Баршчэўскага, іх можна „заўважыць" у гісторыі пана Сівохі. Аднак некаторыя з'яўляюцца яўна выдуманымі даследчыкам.

Так, першае „событие" не выклікае пярэчання, бо, як кажа пан Сівоха, „гісторыя ўсім вядомая". А вось ужо другое „событие" даследчыка не мае „базы" ў тэксце Я. Баршчэўскага. Словы пана Сівохі: „да сённяшняга дня не забылі гэтых вершаў" аніяк не сведчаць, што „события" „произошли задолго до момента повествования". „Задолго" – гэта калі? Пяць, дзесяць, дваццаць ці можа 200 гадоў таму? Калі „гісторыя ўсім вядомая", то адбылася яна нядаўна. Ну, не больш за 10 гадоў таму! Навошта патрэбна гэтае „задолго"?

Трэцяе і пятае, калі можна так сказаць, „события" патрабуюць спецыяльнага даследавання: а менавіта, каго мае на ўвазе пан Сівоха, кажучы пра „д'яблаў, што размножыліся ў нашых краях"? Сваіх ці чужынцаў?

„Событие" чацвёртае падаецца нам прыцягнутае ў справу „Кошкі і Цяліцы" беспадстаўна. Аніякіх інфармацый пра тое, што гісторыя, апавяданая панам Сівохаю, адбылася на Ушаччыне, у нас няма. Тэкст Я. Баршчэўскага аніяк не прывязвае гісторыю забойства Кошкі Цяліцаю да Ушачаў.

„События" ад шостага па адзінаццатае сапраўды вынікаюць з тэксту Я. Баршчэўскага.

Апошняе, дванаццатае „событие" даследчыка зноў выводзіцца з памылковай, на наш погляд, пасылкі пра „ўшацкую" прывязку гісторыі пана Сівохі.

---

[1] Д. Виноходов, *Загадки Яна Барщевского: «Не назвать ли нам Кошку Кошкой?»* http://dl.dropbox.com/u/41965546/Barszczewski/papers/Paper-04.pdf.

Вядома, і сэнс усяе кнігі Яна Баршчэўскага, і сэнс асобных яе эпізодаў можна вытлумачыць гістарычнымі падзеямі на Полаччыне. Так, на падставе навуковага даследавання Я. Анішчанкі *Беларусь у часы Кацярыны II*, а таксама шэрагу іншых навуковых прац гістарычнага характару мы прыйшлі да думкі, што мастацкі час *Шляхціца Завальні* можна суаднесці з другой паловай XVIII – першай паловай XIX ст. Пецярбургскі даследчык не пагаджаецца з дадзенай гіпотэзай. Прычына зразумелая: ён не хоча заўважаць у творы Яна Баршчэўскага антыцарскія (а г. зн. і антырасійскія) матывы і тэндэнцыі. А таму імкнецца давесці, што „*дьяволы размножились в наших краях*” не пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, а, скажам, у XVI ст. Менавіта гэта мусяць пацвярджаць выяўленыя ім у гістарычнай літаратуры звесткі пра канфлікт паміж Багданам Кошкаю і Багданам Цяліцаю, што адбыўся ў 1571 годзе[1].

Што ж, гісторыя канфлікту даволі цікавая. Вартая пяра раманіста, які б, пэўна, павярнуў справу так, што Багдан Кошка, пакрыўджаны Багданам Цяліцаю, адпомсціў свайму крыўдзіцелю – забіў бы яго. Раманісту гэта можна, нават калі ў рэальнасці так і не было. Але ці можам мы дастасаваць пададзеную гісторыю да гісторыі пана Сівохі?

Грамата Жыгімонта Аўгуста сведчыць, што справу „Кошкі і Цяліцы” разглядаў полацкі кашталян Юры Зяноўевіч і дзісенскі староста Баркулаб Корсак. А не Жук і Жаба.

З прозвішчаў, якія згадваюцца ў вершы, адно надзвычай распаўсюджана на Полаччыне. Маем на ўвазе – Жаба. Шматлікі прадстаўнікі гэтага роду займалі высокія пасады ў судах рознай інстанцыі. Пададзім найбольш характэрныя прыклады:

| **год** | **імя і прозвішча** | **Тытул** | **пасада** |
|---|---|---|---|
| 1780 | Казімір Жаба | былы лоўчы віцебскі | засядацель II дэпартаменту Полацкага верхняга суда |
| | Францыск Жаба | | засядацель Павятовага суда ў Гарадку |
| | Дамінік Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| | Антоні Жаба | чашніковіч віцебскі | засядацель Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Франц Жаба | былы чашнік віцебскі | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| 1781 | Казімір Жаба | надворны саветнік | засядацель II дэпартаменту Полацкага верхняга суда |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Антоні Жаба | калежскі сакратар | засядацель Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Францыск Жаба | тытулярны саветнік | засядацель Павятовага суда ў Гарадку |
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | засядацель Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| 1782 | Аляксей Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Суражы |
| | Казімір Жаба | надворны саветнік | засядацель II дэпартаменту Полацкага верхняга суда |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Антоні Жаба | калежскі сакратар | засядацель Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Францыск Жаба | тытулярны саветнік | засядацель Павятовага суда ў Гарадку |

[1] Падзеямі гэтае самае эпохі (полацкіх войнаў Івана Грознага) даследчык спрабуе (заўважым: больш удала) вытлумачыць яшчэ адзін фрагмент *Шляхціца Завальні* – паданне пра волата, якога звалі Княжа. Але зусім забывае, што героі кнігі амаль нічога не памятаючы пра гісторыю горада Нешчарда, добра ведаюць пра „справу Кошкі і Цяліцы”. Гл.: Дз. Вінаходаў, *Як Нешчарда стала легендай*, „Arche” 2011, № 5, с. 128–143.

| год | імя і прозвішча | Тытул | пасада |
|---|---|---|---|
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | засядацель Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| 1783 | Казімір Жаба | надворны саветнік | засядацель II дэпартаменту Полацкага верхняга суда |
| | Францыск Жаба | тытулярны саветнік | засядацель Павятовага суда ў Віцебску |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| | Аляксей Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Суражы |
| 1784 | Антоні Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Францыск Жаба | тытулярны саветнік | засядацель Павятовага суда ў Віцебску |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| | Аляксей Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Суражы |
| 1785 | Антоні Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| 1786 | Антоні Жаба | калежскі сакратар | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Веліжы |
| | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Дземенцей Жаба | калежскі сакратар | засядацель Ніжняга земскага суда ў Гарадку |
| 1788 | Франц Жаба | калежскі асэсар | суддзя Павятовага суда ў Веліжы |
| | Дамінік Жаба | калежскі сакратар | засядацель Павятовага суда ў Гарадку |
| 1790 | Антоні Жаба | калежскі сакратар | засядацель I дэпартаменту Верхняга земскага суда ў Полацку |
| | Ануфры Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| 1791 | Антоні Жаба | калежскі сакратар | засядацель I дэпартаменту Верхняга земскага суда ў Полацку |
| | Ануфры Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| 1796 | Антоні Жаба | | засядацель Совеснага суда ў Полацку |
| | Ануфры Жаба | | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| | Аляксей Жаба | | спраўнік Ніжняга земскага суда ў Суражы |
| 1802 | Іосіф Жаба | былы лоўчы брацлаўскі | падкаморы ў Гарадку |
| 1803 | Якаў Жаба | | падсудак у Гарадку |
| | Іосіф Жаба | былы лоўчы брацлаўскі | падкаморы ў Гарадку |
| | Жаба | | падсудак у Лепелі |
| 1804 | Іосіф Жаба | былы лоўчы брацлаўскі | падкаморы ў Гарадку |
| 1805 | Іосіф Жаба | былы лоўчы брацлаўскі | падкаморы ў Гарадку |
| 1807 | Якаў Жаба | | засядацель I дэпартаменту Галоўнага суда ў Віцебску |
| | Іосіф Жаба | былы лоўчы брацлаўскі | падкаморы ў Гарадку |
| 1808 | Якаў Жаба | | засядацель I дэпартаменту Галоўнага суда ў Віцебску |
| | ***Іосіф Жаба*** | ***былы лоўчы брацлаўскі*** | ***падкаморы ў Гарадку*** |

| год | імя і прозвішча | Тытул | пасада |
|---|---|---|---|
| | Нарцыз Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| 1809 | Якаў Жаба | | падкаморы Віцебскага павета |
| | Каятан Жаба | | падсудак Павятовага суда ў Віцебску |
| | Нарцыз Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| | ***Іосіф Жаба*** | ***былы лоўчы брацлаўскі*** | ***павятовы маршалак ў Гарадку*** |
| | ***Ільья Жук*** | | ***пісар Павятовага суда ў Гарадку*** |
| 1810 | Каятан Жаба | | падсудак Павятовага суда ў Віцебску |
| | Нарцыз Жаба | | засядацель Ніжняга земскага суда ў Віцебску |
| | Якаў Жаба | | павятовы маршалак у Віцебску |
| | ***Ільья Жук*** | | ***пісар Павятовага суда ў Гарадку*** |
| | ***Іосіф Жаба*** | ***былы лоўчы брацлаўскі*** | ***павятовы маршалак ў Гарадку*** |
| 1811 | Якаў Жаба | | павятовы падкаморы ў Віцебску |
| | ***Іосіф Жаба*** | ***былы лоўчы брацлаўскі*** | ***павятовы маршалак ў Гарадку*** |

Аналіз складу судовых органаў Полачыны-Віцебшчыны другой паловы XVIII – пачатку XIX ст. дазваляе сцвердзіць, што толькі аднойчы, у 1809–1810 гг. у штаце павятовага суда ў Гарадку сустракаецца прозвішча Жук. Цягам двух гадоў Ільля Дзяменцьевіч Жук быў пісарам[1]. Разам з ім „вяршылі правасуддзе" суддзя Хрыстафор Ластоўскі і два падсудкі Мікалай Бесарабскі ды Людвік Шышка. У гэты час Іосіф Антонавіч Жаба, былы лоўчы брацлаўскі, быў у Гарадку павятовым маршалкам (1809–1811). Пэўна, тады і адбылося здарэнне, якое стала для Я. Баршчэўскага падставаю дзеля развагаў пра амаральнасць сваіх суайчыннікаў, з-за чаго стала пашырацца зло ў краі.

Прычыны забойства Кошкаю Цяліцы маглі быць зусім не звязаны з новай палітычнай сітуацыяй у краі, але пісьменнік казаў пра тое, што нязгода панства спрыяла памнажэнню д'яблаў на Беларусі.

Такім чынам, ёсць падставы казаць, што „справа" Кошкі і Цяліцы адбывалася ў Гарадку напачатку XIX ст.[2] А радок верша: *То пиэнесьлі до Вітэбска* азначае: з суда павятовага горада справу накіравалі на разгляд у суд вышэйшай інстанцыі ў губернскі Віцебск, г. зн. пасля ліквідацыі пры Паўлу І Полацкай губерні і ўтварэнні Віцебскай.

## Ян Баршчэўскі ў Пецярбурзе

Праглядаючы газету „Tygodnik Petersburski", мы звярнулі ўвагу на паведамленне, надрукаванае 15 лістапада 1839 г.: "Хутка будзе аддадзены ў друк альманах "Niezabudka". Выдавец Ян Баршчэўскі, хоць ведамы дасюль толькі ў коле знаёмых ды прыяцеляў, цешыць сябе думкаю, што чытацкая публіка не будзе ашукана густам, з якім зроблены падбор твораў. Зборнік гэты, аб'ём якога складае да 230 старонак, – арыгінальныя творы ў вершах і прозе. Выданне завершыцца да новага 1840 года альбо крыху пазней на як можна лепшай паперы. Плата за асобнік – 6 злотых і 20 грошаў польскіх –

[1] На шляхецкіх выбарах маршалкаў, падкаморых, суддзяў, падсудкаў, засядацеляў і пісараў выбіралі на тры гады. Мы пакуль не ведаем, чаму Ілля Жук знаходзіўся на пасадзе пісара толькі два гады.
[2] Значыць, мае сэнс шукаць гэтую справу ў матэрыялах не XVI ст., а XIX ст.

прымаецца да 15 снежня ў Пецярбурзе ў выдаўца на вуліцы Кананерскай у доме купчыхі Касаткінай № 14[3], у шматлікіх прыватных асобаў і ў кнігарні Графэ на Адміралцейскім пляцы. Кошт пасля выхаду будзе павялічаны. Асобы як у сталіцы, так і на правінцыі, якія жадаюць заняцца зборам аплаты, на 10 асобнікаў атрымаюць адзін у дадатку"[4].

Відавочна, з'явілася магчымасць гаварыць пра першы вядомы адрас Яна Баршчэўскага ў Пецярбурзе[5]. У 1995 г. Г. Кісялёў[6] звярнуў увагу, што ў трэцім томе даведніка К. Ністрэма на 1844 год у раздзеле *Алфавит гг. неслужащих чиновников, купечество, артистов и ремесленников* згадваецца Іван Іванавіч Баршчэўскі, адстаўны чыноўнік 10-га класа, які жыве ў 4-м квартале III Адміралцейскай часці на Пад'ячаскай вуліцы ў доме Тацішчавай („Барщевскій Иванъ Иванов. чин. 10 кл., III Адм. ч. 4 кв. въ Подъяч. д. Татищевой"[7]). Больш дакладна лакалізаваць адрасы Я. Баршчэўскага ў той час не атрымалася[8].

У 2009 г. Дз. Вінаходаў і М. Нікалаеў, па-першае, давялі, што дом, у якім жыў Я. Баршчэўскі ў 1839 г. (вул. Кананерская 14) захаваўся да нашага часу, але ў 1858 г. ягоны нумар быў зменены (у сувязі з тым, што левы бок вуліцы стаў цотным, а правы – няцотным), сёння дом купчыхі Касаткінай значыцца пад нумарам 11; па-другое, у даведніку К. Ністрэма на 1837 г. яны выявілі інфармацыю, што чыноўнік 10-га класа Іван Баршчэўскі, які служыць у Санкт-Пецярбургскай гімназіі[9], жыве па адрасе вул. Грязная, дом 113, што знаходзіўся ў IV Адміралцейскай частцы ў 4-м квартале (дом нумар 337 паводле старое нумарацыі)[10]. У апошнім выпадку даследчыкам не ўдалося дакладна вызначыць адрас Я. Баршчэўскага: па вуліцы Гразнай дома нумар 113 быць не магло, бо на ёй у дадзеным квартале размяшчалася ўсяго 20 жылых (г. зв. „даходных") будынкаў. А таму яны прапанавалі лічыць домам Я. Баршчэўскага дом нумар 3 пры вуліцы Гразнай, тым больш, што ён і па старой нумарацыі меў падобны нумар – 327.

Звернем увагу, што дом нумар 3 пры вуліцы Гразнай паводле даведніка К. Ністрэма на 1844 г. лічыцца „домам Ціханава". Ён не захаваўся. У другой палове XIX ст. на месцы двух дамоў Ціханава (вул. Грязная 1 і 3) і дома Радзімцава (вул. Грязная 5) быў пабудаваны трохпавярховы даходны дом. Сёння гэта Лермантаўскі праспект 12.

Месцазнаходжанне дома Тацішчавай (апошні вядомы адрас Я. Баршчэўскага ў Пецярбурзе) вызначыць нескладана: вул. Вялікая Пад'ячаская 18 – сёння гэта вул. Вялікая Пад'ячаская 17 ці пр. Рымскага-Корсакава 21. Цікава, што адрас Я. Баршчэўскага ў трэцім томе К. Ністрэма пададзены як „д. Татищевой". У той жа час у першым томе на схеме вуліцы Вялікай Пад'ячаскай ён пазначаны як дом „Татищева". Супярэчнасці тут няма, бо ў 1822 годзе участак на рагу вуліцы Вялікая Пад'ячаская і Кацярынгофскага праспекта належаў Тацішчавай, жонцы надворнага саветніка.

[3] Дом належаў жонцы купца 3 гільдыі Васіля Сяргеевіча Касаткіна, які ў 1837 г. жыў па адрасе Неўскі праспект 139 (дом Красілава), а ў 1844 г. – ва ўласным доме (вул. Ганчарная 13).

[4] *Uwiadomienie literackie*, „Tygodnik Petersburski" 1839, nr 86.

[5] М. Хаўстовіч, *Ля вытокаў беларускае ідэі*, „Полымя" 1994, № 11, с. 163–175.

[6] Г. Кісялёў, *Ян Баршчэўскі – спрэчкі біёграфаў*, „Полымя" 1995, № 11, с. 266–275.

[7] К. Нистрем, *Адрес-календарь санктпетербургских жителей*, т. 3, *Календарь частных лиц*, Санкт-Петербург 1844, с. 159.

[8] Цікава заўважыць, што на гэтай самай вуліцы (Вялікая Пад'ячаская 26) у 1844 г. жыў чыноўнік 14-га класа Ігнат Іванавіч Дунін-Марцінкевіч у доме Марцінкевічавай.

[9] Я. Баршчэўскага няма ў штаце пецярбургскіх гімназій на 1825, 1831–1833, 1835–1838, 1840–1841 гг.

[10] „Борщевскій Иванъ, чин. 10 класса служ. въ С. Петерб. Гимназіи по Грязной ул. № 113. – 4 ч. 4 кв. № 337." Гл.: К. Нистрем, *Книга адресов С. Петербурга на 1837 год*, С. Петербург 1837, с. 388.

У 1828 г. тут ужо стаяў каменны будынак. У 1844 г. уладальнікам дома быў Тацішчаў. Хутчэй за ўсё Я. Баршчэўскі жыў у доме, які належаў сям'і надворнага саветніка (з 1822 г., пазней – сапраўдны стацкі саветнік), удзельніка вайны 1812 г. Аляксея Мікалаевіча Тацішчава (1792–1851). Яго жонка Ганна Іванаўна Тацішчава (з дому – Гарноўская), верагодна, паходзіла з Віцебшчыны[11]. Магчыма, напачатку 40-х гг. XIX ст. дом быў перададзены ва ўладанне іх сына Іпаліта Аляксеевіча Тацішчава (1821–1893), таксама надворнага саветніка.

Такім чынам, зусім магчыма, што да снежня 1837 г. Ян Баршчэўскі жыў па адрасе вул. Гразная 3 у доме Ціханава. Гэта адлюстравана ў даведніку К. Ністрэма, які складаўся да 1837 г. (дазвол цэнзара – 3 мая 1837 г.). У лісце ад 3 снежня 1837 г. пісьменнік паведамляе Юлі Корсак, што "цяпер пераехаў на новую кватэру, наблізіўся да цэнтра горада[12], да тых мясцін, дзе маю сваіх вучняў. Мой гаспадар – немец руплівы, добры лекар, маючы вялікія прэтэнзіі да філасофіі, узброіўшыся аргументамі, вечарамі нападае на мяне і часта вольны час, што такі рэдкі ў мяне, гвалтам выдзірае"[13].

Дадзены адрас нам невядомы. Пазней (з 1839?) ён жыве па адрасе вул. Кананерская 14 у доме купчыхі Касаткінай. І, урэшце, у 1840-я гг. Я. Баршчэўскі пераязджае ў дом Тацішчавай (пазней – Тацішчава) па адрасе вул. Вялікая Пад'ячаская 18.

P. S. Нядаўна выяўлены яшчэ адзін пецярбургскі адрас пісьменніка: у заяве на імя рэктара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта ад 26 верасня 1834 г. Ян Баршчэўскі паведамляе, што жыве "в Большой Коломне на Экатериновском канале между Грязной улицей и Канонерским переулком в доме кап. Плеханова"[14].

## Полацкі Красьнік

У кнізе *Шляхціц Завальня* двойчы згадваецца полацкі кірмаш Красьнік. Напачатку Рамуальд Падбярэскі ва ўступным артыкуле называе яго адным з „вялікіх" на Беларусі, сцвярджае, што „і цяпер пачуеш за вясёлай бяседай урыўкі з беларускай *Энеіды навыварат* і дае свае тлумачэнне: „Tak nazwany z powodu kraśnych nosów jarmarkujących pod czas mrozów przed samem Bożem-Narodzeniem". Мажліва, нават ён сам наведаў гэты кірмаш у 1843 г. падчас свайго падарожжа па Беларусі і менавіта там пачуў і "ўтрымаў у памяці двухрадкоўе, у якім паэт малюе бажка Эола, калі той сядзіць на печы і пляце лапці, як сапраўдны беларускі селянін, і да яго прыходзіць Юнона, просячы, каб узняў буру на азёрах; як толькі ўбачыў багіню –

Заткнуў за пояс кацатых
І зваліўся с печкі в один міх!"[15]

У самім *Шляхціцы Завальні* раздзеле *Куцця* пра Красьнік згадвае Ян Баршчэўскі: яго герой пан Марагоўскі вяртаецца з Полацка і апавядае "пра кошт жыта, аўса і ячменю, пра свойскіх птушак, якіх там шмат прадаецца з розных краёў; пра кошт ільну, пянькі і пра купцоў, што прывезлі з іншых гарадоў хусткі, сукно, ядваб, баваўняную

[11] Па-першае, паходзіла з сям'і ротмістра; па-другое, жыццё яе дзяцей – Алімпіі, Ганны, Любові і Клеапатры – было звязана з Віцебшчынай.

[12] Пераезд з вул. Гразнай 3 на вул. Кананерскую 14 не даваў мажлівасць сказаць „наблізіўся да цэнтра горада", бо дадзеныя дамы размяшчаліся адзін ад аднаго літаральна ў сотні-другой метраў.

[13] Я. Баршчэўскі, *Выбраныя творы*, Мінск 1998, с. 406.

[14] На карце 1844 г. дом Пляханава лакалізаваны па адрасе: вул. Прадзільная 18.

[15] Р. Падбярэскі, *Беларусь і Ян Баршчэўскі*, [у:] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня...*, с. 339.

крамніну ды іншыя тавары дзеля ўбораў; пра знаёмых гаспадароў, што прыехалі за сваімі справамі ды каб набыць патрэбныя ў гаспадарцы рэчы”[16].

Таксама палічыў патрэбным пісьменнік даць свой каментар: „Tak się nazywa jarmark Połocki, odbywający się przed Bożym Narodzeniem”.

За сваю гісторыю Полацак няраз мяняў гандлёвыя дні.

Паводле Магдэбургскага прывілею (1498) горад меў права на тры кірмашы: у дзень святога Якуба, на Вадохрышча і пасля Велікоднага тыдня. Кожны цягнуўся два тыдні. Напрыканцы XIX ст. у Полацку гандлявалі ў сераду і пятніцу, а кірмашы адбываліся 20 студзеня і 1 ліпеня.

Доўгі час нам не ўдавалася знайсці інфармацыю пра Красьнік. Нават віленскі „Kalendarz Gospodarski” „не ведае” такога кірмашу: у раздзеле „Jarmarki pryncypalniejsze krajowe i zagraniczne” Полацак не згадваецца. І толькі ў „Miesięczniku Połockim” чытаем: “Гандлююць у горадзе тры разы на тыдзень: у нядзелю, сераду і пятніцу. Ёсць два ў год слаўныя кірмашы; адзін у трэцюю нядзелю Адвэнту[17], завецца *Красьнік*, другі ў першую нядзелю паста, званы *Збор*. На іх звычайна прадаюцца коні, быдла, зямныя дары, гаспадарскае глінянае і драўлянае начынне і г. д.”[18].

Застаецца дадаць, што трэцяя нядзеля Адвэнту ў 1816 г. прыпадала на 17 снежня. Г. зн., што пан Марагоўскі, едучы ў Полацак, спыняўся ў хаце шляхціца Завальні ў ноч на 15 снежня. Пасля кірмашу ён бавіўся ў Полацку да таго часу, пакуль у Полацкіх школах не закончацца іспыты (popisy) – да 21 снежня. І, відавочна, выехаўшы 22 снежня з Полацка, раніцаю 24 снежня быў у Завальні.

## “Боб” і “перац”

У нарысе Рамуальда Падбярэскага *Беларусь і Ян Баршчэўскі* ёсць цікавая характарыстыка студэнцкіх – вядома бедных і галодных – гадоў пісьменніка: “Biednego bursaka szlachta porywała z rąk do rąk i wynagradzała podług ubogiéj swéj możności, to miarką pszenicy, to miarką grochu, to gryki, to czasem dała bobu!”

Вячаслаў Рагойша (1971), Генадзь Кісялёў (1977) і Сцяпан Александровіч (1978) перакладалі гэты фрагмент наступным чынам: “Беднага бурсака шляхта рвала з рук у рукі і ўзнагароджвала паводле сваёй невялікай магчымасці то меркай пшаніцы, то меркай гароху, грэчкі, а часам давала бобу!”

У нашым перакладзе (1990) мы “ішлі” следам за сваімі настаўнікамі, хоць у дыпломнай працы і звярнулі ўвагу на гэтае, відавочна, насмешлівае “а часам давала бобу!” І нават спрабавалі на падставе “бобу” вывесці пэўную “тэорыю”, за што былі раскрытыкаваны кіраўніком (С. Александровіч) і рэцэнзентам (А. Лойка).

Рыхтуючы новае выданне *Шляхціца* (2012), пераклад дадзенага фрагмента мы паправілі. Цяпер ён гучыць так: “Беднага бурсака шляхта рвала з рук у рукі і ўзнагароджвала паводле беднае свае магчымасці то меркаю пшаніцы, то меркаю гароху, то грэчкі, а часам задавала перцу!”

[16] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня...*, с. 168.
[17] Чатырохтыднёвы пост перад Божым Нараджэннем. Г. зн. *Красьнік* адбываўся за тыдзень перад Калядамі.
[18] *Krótka wiadomość o Połocku*, „Miesięcznik Połocki” 1818, t. I, nr 3, s. 175.

Менавіта так трэба перакладаць польскую ідыёму “dać bobu”. Як варыянт – шляхта “давала прыкурыць” ці “задавала лазню”. Але, вядома, у суседстве “пшаніцы”, “гароху” і “грэчкі” найлепш выглядае “перац”. Беларускія слоўнікі ідыёму “даць (задаць) перцу” тлумачаць як “насварыцца, даць наганяй”.

А менавіта гэта хацеў падкрэсліць Р. Падбярэскі: за свае малюнкі і вершы Я. Баршчэўскі атрымліваў не толькі пахвалу і падзяку, але меў і крытыку да нараканні. Пэўна ж, калі нешта з твораў Я. Баршчэўскага каму не падабалася, то і вылаяць магла маладога паэта і мастака засцянковая шляхта.

## Ці чыталі полацкія студэнты *Вульгату*?

У езуіцкім Архіве Малапольскай правінцыі захаваліся шматлікія звесткі, датычныя навучальнага працэсу ў полацкіх школах. Але не сустракаецца пацвярджэнняў, што студэнты знаёміліся з лацінамоўнай *Бібліяй*. Напрыклад, чытаць Стары Запавет рэкамендавалася паводле полацкага выдання 1799 года на польскай мове: *Krótkie zebranie historyi świętej, w księgach Starego Testamentu zawartej, aż do Narodzenia Chrystusa Pana*.

З лацінамоўных падручнікаў, апрача *Альвара*, можна згадаць наступныя:

1. *Praelectiones ex probatis autoribus selectae. scilicet: epistolae Ciceronis et Plinii, commentarius Julii Caesaris, Comelius Nepos, elegiae P. Ovidii Nasonis, fabulae Phaedri etc. ad usum studiosae juventutis pro I-ma, II-da et III-tia classe*, Polociae 1800.
2. *Arithmetica de fractionibus et proportionibus pro II da et III tia classe*, Polociae.
3. *Institutiones styli utriusque, soluti et ligati ex optimis in utroque orationis genere scriptoribus pro IV classe*, Polociae 1800.
4. *Orationes Ciceronis pro IV et V classe*, Polociae.
5. *Qmnti Horatii Flacci odae, satyrae, epistolae pro IV et V classe*, Polociae.
6. *De arte rhetorica libri quinque, lectissimis veterum autorum exemplis illustrati pro V classe*.

Не *Вульгату*, а Цыцэрона, Гарацыя, Вергілія і інш. тлумачылі вучні езуітаў у калегіі. Расклад прадметаў у Полацку практычна не змяняўся дзесяцігоддзямі.

## Мурзінка

Санеты *Jako gdy w chmurach orzeł w czasie niepogody* і *Pokryły błękit nieba obłoków tumany*[19] Ян Баршчэўскі напісаў 25 чэрвеня і 14 жніўня 1845 г. у “Мурзінцы ў ваколіцах Пецярбурга”.

Мы не ведаем, якім чынам пісьменнік трапіў у гэтую мясцовасць. Але ведаем, каму належала Мурзінка.

У 1793 г. мызу Мурзінку ля Нявы ў ваколіцах Пецярбурга (сёння – пр. Абухаўскай абароны, 230) атрымала па спадчыне Анна Вяземская (1770–1840), жонка неапалітанскага пасланніка герцага Антоніа дэ Марэска дэ Серра-Капрыёла (1750–1822). Да 1839 г. тут жыў іхні сын Нікола дэ Серра-Капрыёла (1790–1870). Пасля сядзіба перайшла да яго пляменнікаў – Фёдара, Антона, Алены і Лізаветы [дзяцей сястры – Алены

[19] Апублікаваныя ў кнізе J. Barszczewski, *Proza i wiersze*, cz. I, Kijów 1849.

Антонаўны дэ Серра-Капрыёла (пам. 1820) – і генерал-маёра графа Сцяпана Апраксіна (1792–1862)].

Відавочна, Ян Баршчэўскі быў знаёмы з сям'ёй герцага Антоніа дэ Серра-Капрыёла. Вось тады можна зразумець словы Рамуальда Падбярэскага: "Здарылася аднойчы, што вучыў латыні нейкую графіню, якая ехала ў Італію".

У 1840-я гг. у Мурзінцы жылі генерал-маёр Сцяпан Апраксін (1792–1862) і ягоныя сыны Фёдар і Антон (1818–1899).

## "Niezabudka" ў Парыжы

Адам Міцкевіч быў сярод тых, хто падпісаўся на "Niezabudkę" 1840 і 1841 гг. Лагічна было б дапусціць, што менавіта ягоныя асобнікі захоўваліся калісь у Парыжы ў Польскай бібліятэцы. Бо Уладзіслаў Міцкевіч перадаў бацькоўскі кнігазбор у гэтую бібліятэку. Аднак асобнікі 1840 і 1841 гг. трапілі ў Парыж нейкім іншым шляхам. На тытульнай старонцы абодвух альманахаў пазначана толькі: "Od Katarzyny Klementynie". Высветліць "гісторыю" падарожжа кніжак з Пецярбурга ў Парыж пакуль не ўдалося.

## "Ах чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?"

29 верасня 1892 года Вікенці Мяніцкі запісаў у вёсцы Селішча на Лепельшчыне ад селяніна Караля Багушэвіча прымаўку: "Stralec i dudar nie wialikij haspadar"[20].

Сёння, хіба, немагчыма высветліць: гэта даўняе народнае выслоўе, выкарыстанае напачатку XIX ст. Янам Баршчэўскім у сваім вядомым вершы, ці радок з верша паэта, які захаваўся ў народнай памяці.

## Сербіновіч і Руска

У 1818 годзе К. Сербіновічу дапамог "знайсці працу" Хведар Руска, брат славутага прыдворнага архітэктара Luigi Rusca (у Расіі яго называлі Алаіз Іванавіч Руска). У сувязі з тым, што сярод студэнтаў Акадэміі прозвішча Руска не сустракаецца, можам думаць, што Хведар вучыўся ў калегіуме, а пасля жыў у Пецярбурзе ў доме брата.

Зрэшты, калі даць веры К. Сербіновічу, то атрымліваецца, што Хведар быў малодшы за брата больш чым на 30 гадоў.

К. Сербіновіч падае ва *Успамінах*, што ён выпадкова сустрэў Х. Руска, але больш верагодна: ён, прыехаўшы ў Пецярбург, сам шукаў (бо меў рэкамендацыйныя лісты?) езуіцкіх выхаванцаў, якія жылі ў сталіцы.

Ян Баршчэўскі таксама, відаць, шукаў у Пецярбурзе езуіцкіх выхаванцаў.

Алаіз Руска (1762–1822) прыехаў у Расію ў 1783 годзе. Ім пабудаваны Дом езуітаў (Езуіцкі калегіум) у Пецярбурзе на сённяшняй Набярэжнай канала Грыбаедава (1801–1805), Нікольская вежа Маскоўскага Крамля (1806) і інш.

[20] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F 599-1-3, k. 401.

## Белая Сарока

Хто быў прататыпам вобраза Белае Сарокі – сумненняў няма. Больш складанае пытанне: чаму менавіта ў вобліку Белай Сарокі Ян Баршчэўскі падае Кацярыну II?

Першасную версію (Кацярына II у лістах называла сябе белаю воронаю) давялося адкінуць: малаверагодна, што пісьменнік ведаў карэспандэнцыю імператрыцы.

Больш пэўна, што на Я. Баршчэўскага паўплывалі верш Г. Дзяржавіна *Видение Мурзы* і карціна Д. Лявіцкага *Екатерина-Законодательница в Храме богини Правосудия*.

З вершам Г. Дзяржавіна Я. Баршчэўскі пазнаёміўся на лекцыях расійскай літаратуры ў Полацкай акадэміі, а карціну Д. Лявіцкага пабачыў у Пецярбурзе.

Сиянье вкруг меня небесно;
Сокрылась, побледнев, луна.
Виденье я узрел чудесно:
Сошла со облаков жена, –
Сошла – и жрицей очутилась
Или богиней предо мной.
Одежда белая струилась
На ней серебряной волной...
(“Видение Мурзы”)

## Кацярына II і езуіты

Кнігі панегірыкаў езуіты выдалі ў гонар трох расійскіх імператараў, але найбольш ушанаванаю імі была Кацярыны II. Апрача пяці твораў Міхала Карыцкага, уключаных у 1817 г. у зборнік[21], вядомы асобныя выданні:

*Augustissimæ Catharince II totius Rossiæ Imperatrici, Turcarum Triumphatrici, regnorum Pacatrici, publicæ felicitatis Propagatrici, Societatis Jesu Servatrici clementissimæ cum Albæ Russiæ oras inviseret, ab eisdem religiosis sociis imperatoriæ Maiestati subditis eiusque præsidio tutis carmen oblatum*. Vilnæ. Typis Regiis penes Academiam[22].

*Serenissimis imperatoriis principibus, augustissimæ ac potentissimæ Rossiarum Imperatricis Catharinæ II, Dominæ nostræ clementissimæ, filio Paulo ac eius consorti Mariæ, magnis imperii ducibus, in eorum auspicatissimo in Albam Russiam adventu carmen a clericis regularibus Societatis Jesu clementissime in Alba Russia servatæ ac infinitis nominibus obstrietæ*. D. D. D. Anno Domini 1781. Mohiloviæ[23].

---

[21] Michaelis Korzcki Societatis Jesu Sacerdotis, *CARMINA*. Polociæ. Typis Academicis SJ. 1817. (*Песні* Міхала Карыцкага, святара Таварыства Ісуса, Полацак 1817).

[22] *Песня, Аўгусцейшай Кацярыне II, Валадарцы ўсяе Расіі, Пераможцы туркаў, Міратворцы, Носібіту ўсеагульнага шчасця, Найласкавай Захавальніцы Таварыства Ісуса, у час наведвання Беларусі ахвяравана законнікамі, сябрамі гэтага Таварыства, падданымі Яе Імператарскае Вялікасці, што цешацца пад Яе апекаю бяспекаю, Вільна*. У акадэмічнай каралеўскай друкарні. Твор напісаны Міхалам Карыцкім у чэрвені 1780 г. падчас наведвання Кацярынаю II Полацка.

[23] *Найяснейшым Валадарам-Імператарам: Аўгусцейшай і Наймагутнейшай Валадарцы Расіі Кацярыне II, нашай Найласкавай Спадырыні, Сыну Паўлу і Яго Жонцы Марыі, Вялікім Валадарам Расіі з аказіі і памыснага побыту на Белай Русі – песня ахвяраваная законнікамі Таварыства Ісуса, захаванага найласкавей на Белай Русі, а таму ўсім абавязанага*. 1781. Магілёў. Верш невядомага аўтара напісаны ў 1781 г. падчас наведвання Паўлам і яго жонкаю Полацкага калегіума.

# Арцём Вярыга-Дарэўскі

- *Шукаючы рукапісы...*
- *Вершаваныя творы*
- *З карэспандэнцыі і дзённікаў*
- *Рэцэнзія на першую кніжку*

# ШУКАЮЧЫ РУКАПІСЫ АРЦЁМА ВЯРЫГІ-ДАРЭЎСКАГА…

Арцёма Вярыгу-Дарэўскага гісторыкі літаратуры нярaз называлі адным з самых значных беларускіх пісьменнікаў сярэдзіны XIX ст.[24]. Адзін пералік назваў ягоных твораў упэўнена гэта пацвярджае. Праўда, толькі невялікая іх колькасць была надрукавана ў свой час, мала захавалася і ў рукапісах. Да вершаваных твораў можна дадаць колькі артыкулаў у газетах “Ruch muzyczny” і “Słowo”, лісты да У. Сыракомлі і А. Кіркора, а таксама фрагменты *Успамінаў*, апублікаваныя М. Янікам. І ўсё. Іншыя тэксты не захаваліся (можа, лепш: не адшуканы?).

У адрозненне ад Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча літаратару з Віцебшчыны не ўдалося надрукаваць свае беларускія творы ў дапаўстанцкі час. Арышт і высылка фактычна спынілі нармальную літаратурную дзейнасць паэта і спрычыніліся да страты ягонага архіву (у матэрыялах следства адсутнічаюць літаратурныя творы. Відавочна, яны былі знішчаны ці схаваны перад арыштам). Аднак трэба мець на ўвазе, што А. Вярыга-Дарэўскі мусіў паклапаціцца пра пакінуты на Віцебшчыне архіў.

А таму варта яшчэ раз уважліва прыгледзецца да перыпетый жыццёвага лёсу і самога літаратара, і яго нашчадкаў, каб паспрабаваць адшукаць хоць фрагменты багатай спадчыны Арцёма Вярыгі-Дарэўскага.

Звесткі пра ўдзел А. Вярыгі-Дарэўскага ў паўстанні, а таксама пра сібірскі этап ягонага жыцця трапілі ў друк ужо напрыканцы XIX ст.[25]. Але толькі Г. Кісялёў, апавядаючы пра ролю пісьменніка ў грамадскім і культурным жыцці Віцебска, здолеў падаць больш-менш дакладную інфармацыю[26].

6 мая 1863 г. Арцёма Вярыгу-Дарэўскага арыштавалі. У канцы лістапада следства было закончанае і матэрыялы перадалі ў ваенны суд пры Віцебскім батальёне ўнутранай варты. Вырак арыштаваны пачуў 16 студзеня 1864 г. (бестэрміновая катарга), а яго справу паслалі ў Часовы палявы аўдытарыят у Вільні на заключэнне. Аўдатарыят разгледзеў яе 21 мая 1864 г. і выдаў заключэнне 12 жніўня 1864 (8 гадоў катаржных работ на заводах), што было зацверджана 13 жніўня 1864 г. памочнікам камандзіра войскамі Віленскай ваеннай акругі генералам Патапавым. Пастановай Віцебскай шляхецкай (дваранскай) дэпутацкай зборні ад 30 кастрычніка 1864 г. імя А. Вярыгі-Дарэўскага было выкраслена з шляхецкай радаводнай кнігі[27]. У студзені 1865 г. віцебскі губернатар генерал У. Вяроўкін паведаміў у Вільню пра выкананне канфірмацыі[28].

---

[24] *Ліст Рамуальда Зямкевіча ад 10.05.1913 г.* [у:] ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405, к. 13v.

[25] Гл.: M. Dubiecki, *Edmund Różycki: Szkic biograficzny*, Kraków 1895, s. 82–85.

[26] Г. Кісялёў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі* [у:] Г. Кісялёў, *Загадка беларускае* Энеіды, Мінск 1971, с. 144–212.

[27] Канфіскаваным маёнткам Стайкі у XIX ст. валодалі Багалепавы. Гл.: A.I.Veryha, *Acta et chronica. I. Kaunas 1934*. *Вериги. Weryhowie. Verugos*, Kaunas 1934, s. 58.

[28] Г. Кісялёў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі…*, s. 197–207.

Пісьменнік у гэты час быў адпраўлены чыгункаю ў арыштанцкіх вагонах праз Маскву ў Ніжні Ноўгарад, каб пазней этапамі кіравацца ва Усходнюю Сібір.

8 красавіка 1865 г. А. Вярыга-Дарэўскі быў ужо у Табольску і 9 чэрвеня адасланы на параходзе "Работнік" з партыяй арыштантаў па Іртышы ў Томск. 16 ліпеня 1865 г. ён на падводзе прыязджае ў Краснаярск, а 24 ліпеня з партыяй у 70 чалавек накіроўваецца на падводах у Іркуцк, дзе апынуўся 25 жніўня[29]. Асобныя даследчыкі сцвярджаюць, што катаргу беларускі літаратар адбываў на саляварным заводзе ва Усоллі, аднак гэта недакладна: перш чым трапіць ва Усолле ён мусіў амаль два гады працаваць на бровары ў Аляксандраўску[30]. Тут, дарэчы, улады размяшчалі адзінокіх ссыльных, тады як ва Усоллі – пераважна сямейных[31]. Паводле амністыі ад 16 красавіка 1866 г. тэрмін катаржных работ А. Вярыгі-Дарэўскага скарачаецца напалову. У 1867 г. яго пераводзяць на саляварны завод ва Усоллі. Гэты перыяд ссылкі паэта знайшоў пэўнае адлюстраванне ў мемуарнай літаратуры. Яго згадваюць у сваіх успамінах Якуб Гейштар[32] і Вацлаў Ласоцкі[33].

У маі 1868 г.[34] па амністыі катарга А. Вярыгу-Дарэўскаму заменена на пасяленне (сяло Урык[35]), але фактычна ён пасяляецца ў Іркуцку. Дзеля гэта патрэбен быў дазвол генерал-губернатара М. Корсакава, пазней – М. Сінельнікава, якія, заўважым, былі даволі прыхільныя да выгнаннікаў. Апрача таго, А. Вярыга-Дарэўскі павінен быў звяртацца да паліцмайстара па білет: "Представляя вид, выданный мне на проживание в г. Иркутске, впредь до получения установленного билета от исправника, имею честь покорнейше просить ваше высокородие о сделании распоряжения выдать мне билет новый"[36]. Білет – своеасаблівы від на жыхарства – даваў магчымасць жыць і працаваць у Іркуцку: "Предъявитель сего, состоящий под надзором полиции, политический ссыльный Уриковской волости Иркутского округа Артемий Вериго вследствие предписания г. начальника губернии от 17 сентября 1873 года за № 3869 уволен мною на проживание в городе Иркутске сроком от нижеписанного числа на один год с тем,

---

[29] W. Śliwowska, *Syberia w życiu i pamięci Gieysztorów – zesłańców postyczniowych. Wilno–Sybir–Wiatka–Warszawa*, Warszawa 2000, s. 357.

[30] Яшчэ з XVIII ст. у сяле Аляксандраўскім (80 км ад Іркуцка) дзейнічаў бровар (винокуренный завод), на якім працавалі катаржане.

[31] Р. Зямкевіч, а пасля і асобныя беларускія літаратуразнаўцы сцвярджалі, што на высылку А. Вярыга-Дарэўскі быў адпраўлены разам са сваёй дачкою Габрыэляю. Аднак з мемуарнай літаратуры яшчэ ў 1930-я гг. было вядома, што не толькі ў Аляксандраўску, але і ва Усоллі беларускі паэт не меў сям'і: у В. Ласоцкага ён змешчаны ў спісе *"Wygnańcy z Litwy, Żmudzi, Inflant i Białej Rusi, którym nie towarzyszyli rodziny"* пад нумарам 54: "Weryho Artemjusz z Białej Rusi, spisywał dziennik". Гл.: W. Lasocki, *Wspomnienia z mojego życia*, t. II: *Na Syberji*, Kraków 1937, s. 335.

[32] W. Śliwowska, *Syberia w życiu*..., s. 357.

[33] W. Lasocki, *Wspomnienia z mojego życia...*, s. 335.

[34] У маі 1868 г. споўнілася 4 гады з дня арышту А. Вярыгі-Дарэўскага. А гэта азначае, што ў адносінах да яго ў тэрмін катаргі залічылі не ад прыезду на месца катаргі (такія былі патрабаванні), а з дня арышту.

[35] Сяло Урык Кудзінскае воласці (сёння – сяло ў Іркуцкім раёне, 1300 жыхароў) знаходзілася на Аляксандраўскім тракце (20 км ад Іркуцка) пры вусці рэчкі Урык у раку Куда. Вядома з 1673 г. як Урыкаўская слабада, землі якой былі прыпісаны да Іркуцкага астрога. Назва паходзіць з бурацкае мовы (*ууpaг* – малодзіва). Тут у 1835–1844 гг. адбывалі ссылку (пасля звальнення з катаргі на пасяленне) дзекабрысты: Міхал Лунін (1787–1845), Сяргей Валконскі (1788–1865) і яго жонка Марыя з Раеўскіх Валконская (1805–1863), якая арганізавала школу для сялянскіх дзяўчат, Мікіта Мураўёў (1795–1843), Аляксандар Мураўёў (1802–1853), Мікалай Панін (1803–1850). Ля Спаскае царквы, пабудаванае ў 1771–1779 гг., – магіла Мікіты Мураўёва.

[36] Цыт. па: З. Тагаров, *Каторжанин*, "Неман" 1969, № 9, с. 188.

чтобы он билет этот предъявил местной полиции; по истечению же вышеозначенного срока должен явиться к месту причисления, а билет сей предъявить ко мне”[37].

Відавочна, у Іркуцку лягчэй можна было знайсці працу. Ва ўспамінах К. Зялёнкі сцвярджаецца, што нехта Вярыга заняў пасля яго пасаду прыказчыка ў краме купца Кузняцова[38]. Зусім верагодна, што гаворка пра літаратара з Віцебску, а не пра Эдмунда Вярыгу[39], які быў сасланы на Нерчынскую катаргу. Іншыя крыніцы падаюць, што з 1868 г. Арцём Вярыга-Дарэўскі працаваў у Іркуцку ў якасці канцылярскага чыноўніка[40], хоць паводле агульнага правіла выгнаннікам да 1874 года не дазвалялася займаць пасады ў дзяржаўных установах[41].

Пасля таго, як А.Вярыга-Дарэўскі быў пераведзены з катаргі на пасяленне, яго дачка Габрыэля, якая жыла ў маёнтку А. Палініцкага на Віцебшчыне, звярнулася 26 лютага 1869 г. да шэфа жандараў П. Шувалава з просьбаю перавесці бацьку з Іркуцка ў Цюмень. Яе просьбу разглядала Міністэрства ўнутраных спраў, якое адказала наступным чынам: “Пребывание политических ссыльных в городах, находяшихся, подобно Тюмени, на главном ссыльном тракте, уже признано неудобным”[42]. Габрыэля, імкнучыся ўсё ж дабіцца пераводу бацькі бліжэй да еўрапейскай часткі Расіі, просіць перавесці яго ў Кунгур ці Екацерынбург, але зноў ёй было адмоўлена. Відаць, з гэтай прычыны Габрыэля напачатку 1870-х гг. выехала ў Іркуцк.

Пра жыццё А. Вярыгі-Дарэўскага ў Іркуцку звестак амаль не захавалася. Хіба толькі тое, што ён у 1876–1878 гг. у якасці кума прысутнічаў на хросце сваіх унучак – Вікторыі, Венцаславы і Марыі.

Зусім невядомая старонка жыцця Арцёма Вярыгі-Дарэўскага – ягоныя дачыненні пад час высылкі з прыхільнікамі вучэння Андрэя Тавяньскага. Г. Кісялёў толькі словам згадаў пра гэта, хоць ведаў артыкул М. Яніка *Towiańczycy na Syberji* ў газеце “Przegląd Współczesny” (1930, nr 98–99)[43].

Тавяньчыкам беларускі літаратар стаў пад уплывам Юзафа Нядзінскага (1821–1901), які яшчэ ў 1848 г. выехаў з Польшчы на эміграцыю, дзе далучыўся да А. Тавяньскага і яго паслядоўнікаў[44]. У 1863 г. вярнуўся на радзіму, каб стаць у шэрагі паўстанцаў. М. Янік лічыў, што на выгнанне Юзаф Нядзінскі трапіў пасля бітвы пад Маскалёўкаю на Валыні, дзе змагаўся ў аддзеле Эдмунда Ружыцкага.

Цытуючы фрагменты *Успамінаў* А. Вярыгі-Дарэўскага М. Янік нідзе не падае датаў. У выніку немагчыма сказаць, калі пазнаёміўся беларускі выгнанец з Ю. Нядзінскім. Адбылося гэта, праўдападобна, ва Усоллі. На думку М. Яніка, запісы А. Вярыгі-Дарэўскага нагадваюць лісты да сям'і ў краі. Ён нават дапускае, што гэта – копіі лістоў, бо на гэта паказвае “прапагандысцкі” характар нататак. І яшчэ вельмі важнае назіранне М. Яніка: нататкі А. Вярыгі-Дарэўскага – гэта “dosłowny prawie odgłos rozmów

---

37 *Ibidem*.

38 K. Zielonka, *Wspomnienia z powstania 1863 roku i z życia na wygnaniu w Syberyi*, Lwów 1913, s. 158.

39 W. Śliwowska, *Syberia w życiu...*, s. 358.

40 *Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy: Katalog fotografii ze zbiorów Muzeum Histerycznego m. st. Warszawy*, cz. II: *Zesłańcy syberyjscy*, oprac. Elżbieta Kamińska, Warszawa 2005, s. 216.

41 Паводле пастановы ад 9.01.1874 г. на дзяржаўную службу маглі быць залічаныя тыя, каго ўжо раней вызвалілі ад паліцэйскага нагляду.

42 Цыт. па: З. Тагаров, *Каторжанин*, “Неман” 1969, № 9, с. 188.

43 Пазней выдадзены асобна: M. Janik, *Towiańczycy na Syberji*, Kraków 1930 (odbitka z „Przeglądu Współczesnego”, nr 98–99, Czerwiec-Lipiec 1930, czcionkami drukarni „Czasu” w Krakowie).

44 Дакладнае месца нараджэння невядома. Вярнуўшыся з высылкі жыў і працаваў на цукровым заводзе ў Кельцах. Вызнаваў сваю веру да канца жыцця.

propagandowych Niedzińskiego, prowadzonych z wybranymi towarzyszami wygnania"[45]. У іншай публікацыі польскі гісторык даводзіў, што Ю. Нядзінскі меў у сябе (можа, нават у літаграфаваным выглядзе) тэкст асноўных маральных прынцыпаў навукі А. Тавяньскага. Бо якраз тое, што занатаваў А. Вярыга-Дарэўскі ў 1866–1867 гг., было ўпершыню надрукавана толькі ў 1882 г.[46].

Да тавяньчыкаў М. Янік залічыў даволі вялікую колькасць выгнанцаў. Ён слушна сцвярджае, што Ю. Нядзінскі, А. Вярыга-Дарэўскі і Ю. Лазінскі ўтваралі шчыльнае кола аднадумцаў. Але адначасна гаворыць і пра тое, што да гэтага кола былі блізкімі шматлікія выгнанцы – Якуб Гейштар, Вацлаў Навакоўскі, Юзаф Каліноўскі, Юльян Кянджыцкі і інш. Бо, маўляў, Арцём Вярыга-Дарэўскі піша пра іх у сваіх *Успамінах* з вялікай сімпатыяй і пахваламі: „Czytamy, że nie tylko kleryk kapucyński Wacław Nowakowski, ale i ludzie świeccy, Gieysztor i Kalinowski, przyklękali zawsze do modlitwy wieczornej w kazamacie sypialnej katorżników"[47].

Аднак варта засумнявацца ў гэтым хоць бы з тае прычыны, што А. Вярыга-Дарэўскі не належаў да кола блізкіх сяброў Я. Гейштара, а Юльян Кянджыцкі даволі крытычна выказваўся пра творчасць беларускага паэта. Напрыклад, ва ўспамінах В. Ласоцкага захавалася г. зв. *Усаліяда* Ю. Кянджыцкага, дзе чытаем:

Dalipan, że to krzyż pański!
Sarka na mnie pan Charmański,
Że w moich lichych ramotach
Milczę o usolskich cnotach.
Racja. – Lecz niech się nie żali,
Pewno je Weryha chwali,
I pewne ma coś słodkiego
Na pochwałę Charmańskiego.

Аўтар успамінаў дадаў сваё тлумачэнне: ліцвін Харманскі абвінавачваў Кянджыцкага, што той у сваіх вершах не згадвае пра "цноты ўсольскія". У сваю чаргу В. Ласоцкі "апраўдваў" Ю. Кянджыцкага тым, што "kolega nasz Artemjusz Weryha, w swym pamiętniku mieścił panegiryki dla osób, które posiadały jego względy. Do niego też odsyła Kędrzycki Charmańskiego"[48].

Польскія гісторыкі пазнейшага часу аспрэчылі выснову М. Яніка: кола тавяньчыкаў на Сібіры было нешматлікае і не аказала вялікага ўплыву на выгнанцаў. Для нас жа надзвычай істотным з'яўляецца тое, што А. Вярыга-Дарэўскі быў сярод іх, што занатаваныя ім думкі А. Тавяньскага былі блізкія яму.

У 1881 г., маючы 65 гадоў, А. Вярыга-Дарэўскі быў прыняты на службу "на залатыя промыслы Алекмінскай сістэмы, у Мачынскую рэзідэнцыю Андрэя Адамавіча Букоўскага[49]. Іркуцкае губернскае праўленне сваёй адносінай № 2340 ад 25 красавіка 1881 года прасіла іркуцкага паліцмайстра «выдаць названаму Вярыгу 'від' з гадавым тэрмінам для пражывання на вышэйзгаданых промыслах», зрабіць адпаведнае распараджэнне «аб усталяванні за ім належнага паліцэйскага нагляду»[50] і паведаміць

[45] *Ibidem*, s. 6.
[46] M. Janik, *Wołyniacy na Syberji*, „Rocznik Wołyński" 1931, t. II, s. 308.
[47] M. Janik, *Towiańczycy na Syberji*, Kraków 1930 (odbitka z „Przeglądu Współczesnego", nr 98–99, Czerwiec-Lipiec 1930, czcionkami drukarni „Czasu" w Krakowie), s. 15.
[48] W. Lasocki, *Wspomnienia z mojego życia...*, s. 193.
[49] З. Тагараў прозвішча золатапрамыслоўца падае як Бухоўскі.
[50] Г. зн., яшчэ ў 1881 г. паліцэйскі нагляд не быў зняты.

пра гэта якуцкаму губернатару”[51]. Паводле архіўных матэрыялаў, апублікаваных П. Казаранам, А. Вярыга-Дарэўскі якраз у 1881 г. атрымаў дазвол на “временную отлучку в Якутскую область” [52]. У гэтым жа спісе і прозвішчы Эдмунда Вярыгі (дазвол на 1874 г.) і Валяр’яна Вярыгі, пляменніка (?) Арцёма (дазволы на 1877–1878).

Праз два гады, паводле дадзеных З. Тагарава, А. Вярыга-Дарэўскі працаваў на залатых промыслах Базілеўскага[53]. І толькі тады, у 1883 г. з яго быў зняты паліцэйскі нагляд.

Памёр А. Вярыга-Дарэўскі хутчэй за ўсё у Іркуцку ў 1884 г. Яго архіў, відавочна, трапіў у рукі дачкі, Габрыэлі Скакоўскай.

### Дачка і ўнучка Арцёма Вярыгі-Дарэўскага

Габрыэля нарадзілася каля 1851 года. Метрыка, хіба, не захавалася, а таму меркаваць можна адно толькі па ўскосных сведчаннях. Так, у Атэстаце, выдадзеным у 1857 г. А. Вярыгу-Дарэўскаму, пазначана, што ягонай дачцэ пяць гадоў, а ў пратаколе следства ад 1.06.1863 г. бацька ўласнаручна напісаў, што ён мае “дачку гадоў 13”[54].

Пасля арышту А. Вярыгі-Дарэўскага Габрыэля гадавалася ў сям’і А. Палініцкага, відавочна, сваяка ці апякуна непаўнагадовае дзяўчынкі.

Напрыканцы 1860-х гадоў Габрыэля неаднаразова рабіла спробы перавесці бацьку бліжэй да еўрапейскай часткі Расіі, што, аднак, не ўдалося. Відавочна, гэта і стала прычынаю яе прыезду ў Сібір. Вясною-летам 1872 г. яна выехала з Віцебска. У жніўні была ў Пярмі: яе тут бачыў (магчыма, чуў пра яе[55]) Юзаф Каліноўскі, які вяртаўся з Іркуцка на радзіму. А гэта значыць, што восенню 1872 г. пасля дзевяцігадовае расстані дачка ўбачыла бацьку[56]. Прыкладна ў 1875 г. Габрыэля[57] выйшла ў Іркуцку замуж за Вацлава Скакоўскага.

Шляхціц Аўгустоўскай губерні Вацлаў Скакоўскі, паводле дакументаў, выдадзеных магілёўскім губернатарам, паходзіў з Магілёўскай губерні, але нарадзіўся ў горадзе Аўгустаў у 1842 г. Яго бацькі – Вінцэнт і Вікторыя з Тапольскіх – пад Аўгуставам мелі маёнтак Улацлавак, дзе нарадзіліся іх дзеці – сыны Вацлаў і Віктар Апалінары. Вацлаў быў студэнтам Варшаўскае Галоўнае Школы, удзельнічаў у паўстанні, за што яго асудзілі на 8 гадоў цяжкіх работ у крэпасці з пазбаўленнем правоў і канфіскацыяй маёнтку[58]. У Іркуцк па этапу прыйшоў 2 верасня 1864 г., а 10 верасня накіраваны на Нерчынскі завод (дакладней: на Акатуйскі руднік).

---

[51] Цыт. па: Г. Кісялёў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі…*, с. 209.

[52] П.Л. Казарян, *Численность и состав участников польского восстания 1863–1864 гг. в Якутской ссылке*, Якутск 1999, с. 35.

[53] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе сапраўдны стацкі саветнік М.Ф. Базілеўскі ці І.Ф. Базілеўскі, якія валодалі кампаніяй “Справа Базілеўскіх” у 1858–1896 гг., дабываючы каля 43 пудоў золата ў год.

[54] *Пачынальнікі...*, с. 281, 283.

[55] У лісце да Якуба Гейштара ад 10 верасня 1872 г. Ю. Каліноўскі напісаў: “Дачка Арцёма Вярыгі таксама нядаўна была ў Пярмі ў дарозе да бацькі” (J. Kalinowski, *Listy*, t. 1, cz. 1, Lublin 1978, s. 424.

[56] Юзаф Каліноўскі выехаў з Іркуцка 12 ліпеня, а 6 жніўня быў ужо ў Пярмі. Але сумнеўна, што Габрыэля за 26 дзён магла адолець гэты самы шлях у адваротным напрамку: Ю. Каліноўскі і ягоныя спадарожнікі рухаліся вельмі хутка, дзякуючы таму, што дорага плацілі: на дарогу да Пярмі Ю. Каліноўскі выдаткаваў 150 руб. срэбрам.

[57] Звесткі пра Габрыэлю Вярыга-Дарэўскую, а таксама пра яе дачку Марыю Скакоўскую падаюцца паводле: А. Коркмасов, *Имена в истории и история в именах* [у:] “Дагестан” 2005, № 2 (17), с. 5–11, а таксама нашай карэспандэнцыі з унукам Джалала Каркмасава – Анатолем Джалал-Эраставічам Каркмасавым.

[58] Гл.: *Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy...*, s. 131.

Па амністыі 1868 г. В. Скакоўскаму спачатку скарацілі тэрмін, а пасля 15 лістапада 1868 г. перавялі на пасяленне ў Яндынскую валасць Балаганскае акругі, але ён, як і шмат якія іншыя "пасяленцы", жыў у Іркуцку. Паводле "Высочайшего Повеления" 13.06.1871 г. яму вярнулі шляхецтва.

У 1878 г. В. Скакоўскі звярнуўся да генерал-губернатара Усходняй Сібіры з просьбай пра вызваленне яго ад нагляду паліцыі. Дзякуючы станоўчаму заключэнню барона Платона Фрэдэрыкса, 13 сакавіка 1879 г. паводле "Монаршей Воли" шляхціц Вацлаў Скакоўскі вызваляўся ад нагляду паліцыі, але яму аб'яўлена, што "дозволено жительство повсеместно, за исключением столиц и губерний: Столичных, Западного Края, Царства Польского и Таврической, а равно воспрещено было вступление в государственную и общественную, по выборам, службу".

У Іркуцку В. Скакоўскі займаўся гандлем, працуючы ў Юзафа Шленкера, які ў 1873 г. заснаваў краму "Магазін варшаўскіх тавараў". Выйгрышы ў карты (у тым ліку – у свайго працадаўцы), дазволілі сабраць значную суму грошай. Стаў купцом II гільдыі, атрымаў дазвол вольнага перамяшчэння па Забайкаллі і Прыамур'і, а ў 1876 г. – і па Якуцкай губерні. Пазней стаў уладальнікам залатога прыіска ў Якуціі.

У Вацлава і Габрыэлі Скакоўскіх нарадзілася тры дачкі. Старэйшая Вікторыя[59] прыйшла на свет 10 сакавіка 1876 г. Яе ахрысцілі 25.03.1876 г. у Іркуцкім касцёле Успення Найсвяцейшай Панны Марыі, хроснымі былі Арцём Вярыга і Геранім Тумскі. Сярэдняя дачка Венцаслава нарадзілася ў сакавіку 1877 г., а памерла праз чатыры месяцы і 16 чэрвеня 1877 г. пахавана на іркуцкіх могілках. Малодшая дачка Марыя нарадзілася 2 сакавіка 1878 г., а 18 сакавіка была ахрышчана святаром Іркуцкага каталіцкага касцёла (хросныя – Арцём Вярыга і Кацярына Шленкер).

Пад час вучобы ў гімназіі Марыя Скакоўская, паводле паведамленняў іркуцкае паліцыі, удзельнічала ў спатканнях моладзі на кватэры палітычнага ссыльнага Рухлінскага. Магчыма, з-за праследу паліцыі Скакоўскія прынялі рашэнне выехаць за мяжу[60]. Палічылі патрэбным ехаць праз Варшаву, дзе жылі сваякі – брат Вацлава Віктар Апалінары і яго сям'я[61]. З гэтага часу захаваўся фотаздымак, зроблены ў варшаўскім атэлье Яна Мячкоўскага (вул. Мядовая, 1), на якім знята ўся сям'я Скакоўскіх – Вацлаў, Габрыэля, Вераніка, Марыя, а таксама нехта са стрыечных братоў Марыі. Вацлаў, відаць, у хуткім часе вярнуўся ў Сібір, а Габрыэля з дочкамі накіраваліся ў Швейцарыю. Праўда, у 1896 г. яны мусяць зноў ехаць у Іркуцк (А. Каркмасаў лічыць, што з-за хваробы. Праўда, не ўдакладняе: каго? Дапускаем, што гаворка ішла пра хваробу Вацлава). Верагодна, пахаваўшы мужа і ўладкаваўшы справы з яго спадчынай, Габрыэля з дочкамі зноў едзе ў Жэневу (1898–1899), а пасля ў Парыж (1899), дзе пасяляюцца ў Шарантоне, паўднёва-ўсходнім прыгарадзе сталіцы Францыі. Марыя вывучае філалогію ў Сарбоне. Сярод яе знаёмых – Максімільян Валошын[62], які пазначае ў сваім

---

[59] Вядома, што яна жыла разам з маці ў Парыжы, а пасля ў Варшаве. Марыя наведвала яе хворую ў 1923 г.

[60] Гэтая паездка датуецца 1895 г., г. зн. пасля "Высочайшего манифеста" ад 14.11.1894 г., па якому "всем лицам, отбывающим ещё наказание за участие в польском мятеже 1863 года, даровано освобождение от полицейского надзора с предоставлением им права повсеместного жительства и с возвращением прав".

[61] Віктар Апалінары меў дзесяцёра дзяцей: з Феліцыяй Юзэфаю Барэцкаю (шлюб у 1871) – Вінцэнта Вацлава (нар. 1872), Рамуальда (нар. 1873), Тамаша Ежы (нар. 1875), Казіміру Рэгіну (1876–1944), Рэгіну (нар. 1879), Вітольда Станіслава (нар. 1882), Стафана (нар. 1885), Збігнева (1888–1943, масона; займаў высокую пасаду ў Міністэрстве працы Рэчы Паспалітай), а таксама двух сыноў з невядомаю кабетаю – Ежы (1875–1921, вядомага адваката) і Вацлава (каля 1890 г. н.).

[62] У адраснай кнізе М. Валошына захаваўся запіс: "Мария Вацлавовна Скаковская". Менавіта з напісаннем прозвішча *Скаковская*, а не *Скоковская*.

дзённіку, што ў маі 1902 г. штодзённа бываў у Скакоўскіх[63]. Габрыэля мае ў Парыжы рэстаран, дзе збіралася "ўся польская калонія".

Крыху пазней Марыя Скакоўская пазнаёмілася з Джалалам Каркмасавым (1876–1937), вядомым дзеячам сацыялістычнага руху з Дагестану. Разам з ім ў 1905 г. накіроўваецца ў Расію і прымае актыўны ўдзел у рэвалюцыі. Але хутка яны зноў вяртаюцца ў Парыж, дзе бяруць шлюб (паводле іншых інфармацый – жылі ў грамадзянскім шлюбе); пасяляюцца ў двухпавярховым доме ў Лацінскім квартале недалёка ад Пантэона і Сарбоны. У гэты час наладжваюць дачыненні з младатуркамі (праз студэнта Сарбоны Мустафу Субхі) і пасля таго, як младатуркі атрымліваюць перамогу на выбарах у парламент, пераязджаюць у Канстанцінопаль. Разам з маладымі паехала і Габрыэля. Больш за тое, яна, як і Марыя, працуе ў заснаванай Дж. Каркмасавым расійскамоўнай газеце "Стамбульские новости" (1909–1910)[64].

Ва ўспамінах Джафара Сейдамета (Кырымера, 1889–1960), крымска-татарскага літаратара, аднаго з ідэолагаў нацыянальна-вызваленчага руху ў першай палове XX ст., так апавядаецца пра гэты этап жыцця Марыі Скакоўскае: "У 1910 г. у Стамбуле я меў шчасце пазнаёміцца з двума выдатнымі асобамі. Адзін з іх быў Джалал Каркмас, з паўночнакаўказскіх цюркаў. Выдатна валодаючы французскай, расійскай мовамі, Джалал належаў да левых сацыялістаў. Ён разам са сваёю грамадзянскаю жонкаю, рэвалюцыянеркаю Марыяй, што паходзіла з сям'і польскіх арыстакратаў, утрымліваў на Дыван-йолу пансіён <…> Сяброўка ягоная палячка Марыя была кабетаю аграмадных ведаў і шляхетнага выхавання. Быць карысна іншым (блізкім) да самазабыцця – было яе асноўным жыццёвым інстынктам і філасофіяй. Джалал у спрэчках быў залішне гарачы і эмацыянальны, Марыя ж поўнасцю кантралявала свае думкі і пачуцці. Ва ўсім – у выхаванні, пачуццях, думках была бачна яе грунтоўнасць, узвышанасць. Ніколі не забуду, як у час аднае з такіх спрэчак Марыя, крытыкуючы Джалала сказала: «Ты не маеш рацыі; каб было так, як лічыш ты, г. зн. юрыдычныя асновы буржуазнага грамадства прыйшлі ў заняпад, вычарпаліся яго творчыя крыніцы і рухнулі маральныя асновы – наша справа была б вельмі простаю … Не, праціўнік не скінуты, ён яшчэ моцна стаіць на нагах. І не толькі ў эканамічным, юрыдычным, але і, асабліва, – у грамадска-разумовым». Анахранізм Джалала не ведаў межаў. І гэта было прычынаю бясконцых пакутаў Марыі, што не давалі спакойна жыць ні самому Джалалу, ні ёй"[65].

У 1912 г. Джалал і Марыя (відавочна, і Габрыэля) вяртаюцца ў Парыж. Марыі ў спадчыну ад маці[66] дастаецца пансіён і рэстаран (своеасаблівы цэнтр польскай і расійскай эміграцыі).

У 1915 г. Марыя Скакоўская і Джалал Каркмасаў разыходзяцца, але захоўваюць прыязныя сяброўскія дачыненні да канца жыцця. Хутка яна выходзіць замуж за сябра

---

[63] "Я ярко помню те весенние майские дни 1902 г. в Париже. Я ждал письма от Мухи и переживал первое счастье красок. Потому ежедневно я ездил по Сене в Шарантон к Скаковским по поручению Качереца (Рыгор Качэрац – аўтар кнігі *Чехов*, Масква 1902. – М. Х.) и рисовал в Венсенском лесу". Гл.: М. Волошин, *Дневник: 1901–1903* [online], http://www.maxvoloshin.ru/?page=eadc6087-71d9-4cdc-b93a-978d98f6848f&item=ab2cc411-5171-42d0-9d43-9074543d7caf&type=page [доступ: 10.12.2012].

[64] У сталіцы Турцыі Джалал Каркмасаў і Марыя Скакоўская выдалі таксама ў 1912 г. ілюстраваны *Путеводитель по Константинополю, окрестностям и провинциям*, у якім знаёмяць чытача з гісторыяй Асманскае дзяржавы.

[65] Сейдамет Джафар (Кырымер), *Некоторые воспоминания*, "Полуостров" 2009, 9–15 янв. [online], www.milli-firka.org [доступ: 03.02.2013].

[66] Габрыэля памерла ў Парыжы прыкладна ў 1912 г. Пра гэта ведаў Р. Зямкевіч, які ў 1913 г. пісаў пра смерць Габрыэлі ў лісце да С. Касцялкоўскага і Б. Тарашкевіча.

Джалала Сямёна Львовіча Больца, які напачатку 1920-х гг. становіцца савецкім разведчыкам-шпіёнам і ўцягвае ў гэтую працу Марыю.

Па заданні Разведвальнага ўпраўлення Штабу РККА (Разведупра) Марыя Скакоўская пераязджае ў Варшаву і распачынае актыўную шпіёнскую дзейнасць, фактычна кіруе сеткаю савецкіх рэзідэнтаў у Польшчы. Пасля правалу аднаго з рэзідэнтаў Марыя была арыштавана і асуджана на чатыры гады турмы. Але праз два з паловаю гады бальшавікі абмянялі М. Скакоўскую на выяўленых польскіх шпіёнаў.

У СССР яна атрымала ўзнагароду (ордэн Чырвонага Сцяга), працу (была сакратаркай Дж. Каркмасава, які займаў пасаду намесніка сакратара Савета нацыянальнасцяў краіны), але ў 1937 г. яе арыштавалі органы НКУС і 10 снежня т. г. расстралялі.

Пра лёс іншых нашчадкаў А. Вярыгі-Дарэўскага звестак пакуль не выяўлена.

Мы не ведаем, што ўзяла Габрыэля з сабою ў паездку ў Швейцарыю ў 1895 г. з архіва свайго бацькі. Але можам выказаць думку, што гэта яна перадала ў Варшаве ці Кракаве знанаму ўжо публіцысту і гісторыку паўстання Мар'яну Дубецкаму *Успаміны* А. Вярыгі-Дарэўскага. Зрэшты, відавочна, і іншыя матэрыялы бацькоўскага архіва. Ад Габрыэлі М. Дубецкі мог даведацца і пра год смерці беларускага паэта, і пра яго ўдзел у культурным жыцці на Віцебшчыне, і пра напісанне ім беларускіх песняў. Праўда, недакладнасць М. Дубецкага – паэт пераклаў *Конрада Валенрода*, а не *Пана Тадэвуша* – даводзіць, што гаварыць пра перадачу Габрыэляй рукапісаў мастацкіх твораў будзе перабольшаннем.

### Фотаздымкі Арцёма Вярыгі-Дарэўскага

Г. Кісялёў сцвярджаў, што "фатаграфію Арцёма Вярыгі-Дарэўскага расшукаў у 1913 г. яшчэ Рамуальд Зямкевіч"[67]. Можам пагадзіцца, што з нейкіх крыніц вядомы беларускі гісторык літаратуры ведаў пра наяўнасць у Р. Зямкевіча фотаздымка літаратара з Віцебска. Аднак не зусім зразумела, чаму ўсё той жа Р. Зямкевіч у лісце ад 10.05.1913 г. да Станіслава Касцялкоўскага і Браніслава Тарашкевіча просіць: "Ці не мог бы я дастаць фатаграфічную копію партрэта Арцёма? Кошт фатаграфіі вярну з глыбокай удзячнасцю"[68].

Здавалася б, менавіта Р. Зямкевічу найпрасцей было адшукаць фота: у варшаўскага гісторыка паўстання Аўгуста Крэнцкага (1843–1920) меўся найбагацейшы збор здымкаў. Але, думаецца, фота А. Вярыгі-Дарэўскага трапіла ў Вільню нейкім іншым чынам. Зрэшты, можа, нават і не фота, а г. зв. партрэт – графічная перамалёўка даволі добрай якасці. Тая перамалёўка, якую выкарыстаў Максім Гарэцкі ў першым выданні *Гісторыі беларускае літэратуры* (1920) і якая змешчана ва ўсіх пазнейшых падручніках і энцыклапедыях.

У 60-я гг. XX ст. Г. Кісялёў выявіў у судова-следчай справе віленскага палявога аўдытарыята групавы здымак 12 асобаў, у тым ліку А. Вярыгі-Дарэўскага, а таксама вядомага гітарыста М. Сакалоўскага, піяніста А. Хадэцкага і інш. На адвароце рукою беларускага паэта пазначана: "Дня 18 студзеня 1860 г. Віцебск" і пералічаны знятыя асобы. Здымак быў упершыню апублікаваны ў кнізе *Загадка беларускай* Энеіды (1971).

---

[67] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча*, Мінск 2003, с. 146.

[68] *Ліст Рамуальда Зямкевіча ад 10.05.1913 г.* [у:] ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405, к. 15.

Ужо ў наш час былі выяўлены два фотаздымкі А. Вярыгі-Дарэўскага ў зборах Гістарычнага музея Варшавы. Паходзілі яны з калекцыі А. Крэнцкага, калісь прыгатаванай дзеля львоўскай выставы, прысвечанай 50-й гадавіне Студзеньскага паўстання. Адзін з іх – якраз той, з якога напачатку XX ст. была зробленая графічная перамалёўка; другі – зняты прыкладна ў той самы час, відавочна, у Іркуцку – партрэт у поўны рост.

**Некаторыя высновы**

На нашу думку, верагоднасць таго, што літаратурная спадчына А. Вярыгі-Дарэўскага захавалася, даволі вялікая. Па-першае, паэт вёў актыўную перапіску з многімі вядомымі літаратарамі і грамадскімі дзеячамі ў дапаўстанцкі перыяд. Найбольш цікавая постаць – Апалон Кажанёўскі (1820–1869), польскі паэт і драматург, які ў верасні-кастрычніку 1861 г. прасіў прыяцеля з Віцебска: "Прысылайце, што маеце нават найменшага на беларускай мове: я павінен паглядзець, што гэта такое. Так, не прачытаўшы рашыць не магу… Асабліва хацеў бы мець драмку, думка якой невымоўна мне падабаецца"[69]. Не выклікае сумнення, што А. Вярыга-Дарэўскі пераслаў свае творы варшаўскаму выдаўцу. А г. зн., беларускія творы могуць быць у паперах бацькі вядомага англійскага літаратара Джозэфа Конрада.

Лісты і творы віцебскага паэта могуць захоўвацца ў архіве "Gazety Codziennej", бо з Янам Грыгаровічам, яе рэдактарам, ён перапісваўся; тое самае можна сказаць і пра архіў "Kroniki wiadomości krajowych i zagranicznych" – захаваліся лісты ў Віцебск ад рэдактара Францішка Дмахоўскага; толькі з выдавецкімі прапановамі мог звяртацца А. Вярыга-Дарэўскі да выдаўцоў у Варшаве – Самуэля Генрыка Мэрцбаха, у Вільні – Маўрыцыя Аргельбранда і ў Мінску Аляксандра Валіцкага.

Не да канца высветлены дачыненні паэта з газетаю "Słowo" і яе рэдактарамі Язафатам Агрызкам і Эдвардам Жалігоўскім. А менавіта ў Э. Жалігоўскага ён пытаўся: "Што мне рабіць са сваім *Конрадам* і іншай пісанінай?"

І самае важнае: Габрыэля Скакоўская, дачка А. Вярыгі-Дарэўскага, перадаўшы *Успаміны* бацькі М. Дубецкаму, магла перадаць яму і іншыя рукапісы з сямейнага архіва. Толькі вось беларускамоўнае не магло стаць каштоўным матэрыялам для гісторыка Студзеньскага паўстання: ён ніколі ў сваіх працах не згадваў паэта з Віцебску. Не сталі рукапісы А. Вярыгі-Дарэўскага істотнаю знаходкаю і для М. Яніка, хоць ён і выкарыстоўваў іх некалькі разоў у сваіх публікацыях, але – характэрна – часам дазваляў сабе, цытуючы арыгінал, замяняць ці прапускаць беларускія выразы. Сёння лёс "сібірскіх матэрыялаў" А. Вярыгі-Дарэўскага невядомы: адно няпэўны след вядзе з Кракава ў Вільню.

Маглі быць і іншыя шляхі рукапісаў беларускага паэта. Яны маглі трапіць да аматараў беларускага пісьменства ў Сібіры, у краі і за мяжою. Напрыклад, да Максімільяна Маркса. Бо ж не мог Р. Зямкевіч на пустым месцы сцвярджаць, што паэма *Тарас на Парнасе* належыць пяру А. Вярыгі-Дарэўскага.

Пошук архіва Арцёма Вярыгі-Дарэўскага працягваецца…

[69] Цыт. па: Г. Кісялёў, *Загадка беларускай* Энеіды..., с. 193.

# ВЕРШАВАНЫЯ ТВОРЫ

З паэтычнай спадчыны А. Вярыгі-Дарэўскага захавалася – цалкам ці ў фрагментах – невялікая колькасць тэкстаў (усе яны друкуюцца ў нашым выданні). Іншыя – усё яшчэ пакуль не выяўлены. Але мы ведаем, што яны існавалі. Тытулы дзевяці сваіх твораў А. Вярыга-Дарэўскі пералічае ў лісце да У. Сыракомлі ад 22.10.1857 г. (Гл.: *Пачынальнікі*..., с. 225). Прычым – першыя восем дасылае славутаму паэту, а пра дзявяты паведамляе, што ён знаходзіцца ў ксяндза Люцыяна Гадлеўскага, высланага ў 1840-я гг. у Кіеўскую губ.: 1. *Паўрот Міхалка*, 2. *Бедны наш Лукаш*, 3. *Дзіця дзвюх матак*, 4. *Бяседа над Нёманам*, 5. *Нешта аб нейкім*, 6. *Скрамней у бяседзе – не страцьце Быхава*, 7. *Здабыццё Ахульго*, 8. *Яшка і Цімошка*, 9. *Некалькі абразкоў з ваколіц Каростышава*. На адзін з іх – *Яшка і Цімошка* – нават быў атрыманы дазволены цэнзуры дзеля выдання (ліст Віленскага цэнзурнага камітэта ад 29 сакавіка 1860 г. Гл.: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1240-1-156-12), але, здаецца, не быў надрукаваны. Тытулы пяці твораў падаюцца ў лістах да А. Кіркора ад 26.01.1859 г. і 19.08.1859 г. (Гл.: *Пачынальнікі*..., 228–229, 235): 10. *Заснаванне Магілёва над Дняпром* (на аснове простанароднага падання), 11. камедыя *Хцівасць,* 12. пераклад паэмы А. Міцкевіча *Конрад Валенрод*, 13. драма *Гордасць*, 14. *Гутарка з пляндроўкі па зямлі Латышскай*. Пра 15 тэкст – камічную оперу *Грэх 4-ры – гнеў* – згадваецца (друкуецца і фрагмент твора) у артыкуле-карэспандэнцыі паэта ў газеце “Ruch muzyczny” (1859, nr 49) (гл.: *Пачынальнікі*..., 220–221). Звесткі пра яшчэ адзін твор А. Вярыгі-Дарэўскага – *Думка хлопка з околіц Вітэбска на одглос вольносьці* – падае Р. Зямкевіч у лісце да С. Касцялкоўскага ад 10.05.1913 г. (Гл.: ЦНБ імя Я. Коласа НАН Беларусі, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405, к. 14), а Я. Карскі нават сцвярджаў, што існуе ягоны рукапіс, датаваны 1858 г., і цытаваў першы радок: “Świecić sonca, świecić sonca!” (Гл.: Е.Ф. Карский, *Белорусы*, Петроград 1922, т. 3, вып. 3, с. 66).

## *Гутарка пра сваяка*

Твор завершаны ў 1856 г. у фальварку Стайкі. 19 чэрвеня 1857 г. магілёўскі кнігагандляр Сыркін падаў рукапіс у віленскі цэнзурны камітэт. Павел Кукальнік, выкрасліўшы дваццаць адзін радок, 28 чэрвеня напісаў на ім звыклае ў той час: “Pozwolono drukować z obowiązkiem złożenia w Komitecie Cenzury prawem oznaczonej liczby exemplarzy”. Узяўшы на сябе кошт друку, Сыркін адвёз ці пераслаў рукапіс у віленскую тыпаграфію Юзафа Завадскага, просячы надрукаваць 1000 асобнікаў у такім самым фармаце, такім самым друкам і на такой самай паперы як была выдадзена кніжка Аляксандра Грозы *Trzy palmy: powieść ze Wschodu*, што выйшла ў свет у Вільні ў 1857 г. Кніжка А. Вярыгі-Дарэўскага (пад псеўданім Białoruska Duda) на тытульнай старонцы пазначана 1858 годам, але толькі ў верасні 1859 г. трапіла ў варшаўскую кнігарню пры вуліцы Мядовай Самуэля Мэрцбаха (1798–1874), які прадаваў яе па 45 капеек (гл.: „Gazeta Warszawska 1859, nr 256). (Разам, дарэчы, з кнігаю перакладаў У. Сыракомлі і В. Каратынскага *Piosenki Bérangera*, Wilno 1859). Два асобнікі гэтага выдання захаваліся ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (sygn. I.89.163; I.2.005.948A), адзін – у бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы імя Урублеўскіх (sygn. R 19–179). Аўтарскі рукапіс, верагодна, з архіву друкарні Завадскіх трапіў у бібліятэку Урублеўскіх, цяпер – бібліятэка АН Літвы імя Урублеўскіх (sygn. F. 9–453). Перадрук паводле першавыдання з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў. Пераклад на беларускую мову Ігара Сіроткіна паводле выдання “Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта”, вып. трэці, Мінск 2002, с. 154–161; вып. чацвёрты, Мінск 2003, с. 163–181.

## *Gawędka o Swojaku*

## *Гутарка пра Сваяка*

przez
Białoruską Dudę
(z Teki Białoruskich Obrazków) N. 1.

Mohylew. Nakładem J. Sirkina
1858
Wilno, drukiem Józefa Zawadzkiego.

**JOZAFATOWI KOWALEWSKIEMU**
jako hołd wzorowym cnotom:
syna, brata, męża i przyjaciela,
poświęcam.

*Deus me adjuvat*![1]

Bracia moi! jabym z duszy
Brząknął w lirę i piosenkę
Wam zaśpiewał choć maleńkę,
Gdy nie w serce, to choć w uszy;
Lecz po ciężkim, gorzkim trudzie,
Gdym nie zgodził z lirą ręki,
Posłuchajcież mej piosenki,
Choć przy Białoruskiej dudzie,
Że ni celu, ani wątku,
Ni tęczowych barw, ni treści,
Ni eposu, ni powieści,
Niema w końcu, ni z początku;
Przebaczcie: – pod biedy strzechą,
Gdzie rodzicom boli głowa,
Jak się dziatwa ich wychowa;
Prawda lepszą jest pociechą.
Posłuchajcież jej choć z nudy:
Żywa, własna, bez ułudzeń;
Może wesprze wśród utrudzeń,
Jaką duszę, siostrę dudy.

Браты мае! Я б, здаецца,
Ад душы па гуслях брэнькнуў,
Песень спеў вам хоць маленькіх,
Хоць у душы, як не ў сэрцы,
Ды па цяжкай працы рукі
Не прыладзіў я да гусляў
І спяваць вам песні мусіў
Хоць на дудцы беларускай.
Дзе ні мэты, ні парадку,
Ні прыгожых фарб, ні сэнсу.
І не повесць, і не эпас
Не ў канцы і не ў пачатку.
Выбачайце – ў хатах бедных,
Дзе бацькам баляць галовы,
Як сваіх дзяцей выхоўваць,
Праўда перш за ўсё патрэбна.
Слухайце ж яе хоць з гора:
Не пачуеце падману,
Мо, мацней у горы стануць
Чыесь душы, дудкі сёстры.

*A czuwając, nie ustawajmy w pracy.*
Sł. Pis.

I

Na krawędzi Rusi Czarnej,
Co tam z Dźwiną szepce ścicha;
Co to w wielkiej... a nie marnej
Jakiejś myśli, ciężko wzdycha
Do swej siostry rusi Białej;
Ta tle złotem miękkich piasków,
W wieńcu: skromnych wspomnień, chwały.
W czystem polu, nie wśród lasków,
Stoi miasto; – i w ramionach
Rzek sióstr: Dźwiny i Dziśnieńki,

I

На ўскрайку Русі Чорнай,
Дзе ў цішы Дзвіна булькоча
Ды ў трывожных думках зморна
Уздыхае неаднойчы
Да сястры, да Русі Белай…
З глебаю з пяскоў сыпучых,
Дзе славы памяць ацалела,
У чыстым полі, не між пушчаў,
Стаіць места і ў абдымках
Рэк-сясцёр – Дзвіны з Дзісною –

[1] Бог дапамагае мне! (Кніга Псалмаў, 53: 6).

Siedzi westchnień na ich łonach,
Słucha w szmerze ich, piosenki...

II

W mieście tem jest mały domek,
Niegdyś wesół, dziś zasmucon;
Dawne niebo mu zamierzchło,
Bo już mieszka w nim nie ziomek,
Bo od swojch już porzucon,
Bo co kochał, to rozpierzchło.
Boli serce po rodzinie;
Po dziecinie tęskni matka;
Po wczorajszem smutna chatka,
Bo nie wraca co przeminie.
Smutno brzozce tam u progu:
W pączku chowa liść zazdrośnie,
I płacząca, na cześć Bogu,
Strój przywdziewa w poźnej wiośnie.
Szczęście zwiastował Jehowa[2],
Żóraw ciągnie, bocian w domu;
Ona jeszcze listki chowa,
Kogoś czeka pokryjomu.
Dziwno jej, że od lat tyla
Rannych pączków nikt nie zbiera[3];
Czeka próżno, czoło schyla,
Lecz że czeka, nie umiera.
Ciemnych ocząt czekasz biedna,
Co z nich świeci rzewność twoja?
O! napróżno! będziesz jedna!
Bo te oczki: własność moja.
O napróżno biedna brzozko!
Moje cięższe niż twe grzechy:
Ty zielenisz ze swą troską,
A ja uschnę bez pociechy! –
Błyszczą łezki w twym warkoczu,
I mnie tęskno do tych oczu!

III

W tej niewielkiej, schludnej chatce,
Mieszkał niegdyś ojciec, matka,
A przy ojcu i przy matce,
Liczna dziatwy ich gromadka.
Bez przepychu a w cichości,
Bez szemrania a w niedoli,
Bez błyszczenia a we cnocie,
Rosła dziatwa z Bożej woli.
I tulona matki tchnieniem,
I krzepiona ojca trudem;
I z roskoszą, i z cierpieniem,

Шэпт іх слухае няспынны,
Песні ўсякаю парою.

II

Ёсць малы ў тым месце домік,
Быў вясёлы, сёння ў смутку;
Не зямляк жыве ў ім зараз,
Землякі цяпер ў закутку.
Ад сваіх ён адарваны,
Што кахаў – разрабавана.
Па радзіне поўна болю,
Па дзіцяці сохне матка,
Па былому тужыць хатка,
Час назад не йдзе ніколі.
На’т бярозка ля парога
Ліст збярэ ў пупышкі-слёзкі,
Каб хоць з сумам, дзякуй Богу,
Апрануцца вясной позняй.
Нам Бог шчасцейка звястуе,
Ляціць жораў, бусел – дома,
Ды бярозка не спяшае,
А чакае пакрыёму.
Дзівіцца: ніхто пупышак
Гадоў колькі не збірае, –
І чакае, твар схіліўшы,
Скрушна ёй, ды не ўмірае.
Ці вачэй чакае нечых,
Каб красой іх поўніць яснай?
Будзеш жа адна ты вечна!
Тыя вочы – мая ўласнасць.
Не чакай дарма, бярозка!
За цябе я болей грэшны:
Ты распусціш свае коскі,
Я ж – змарнею несуцешны!
І бярозка плача ўпотай,
Згледзеўшы ў вачах самоту.

III

У халоднай цеснай хатцы
Калісь жылі бацька, матка.
А пры бацьку і пры матцы –
Іх дзяцей малых грамадка.
Ды жылі яны без бляску,
Не ў раскошы, а ў нядолі,
Ціха, сціпла, нібы краскі,
Падрасталі з Божай волі.
Саграваў іх матчын подых,
Хлеб з бацькоўскіх рук дзяліўся.
Непрыкметна, год да году,

[2] Na święto Zwiastowania Najświętszej Panny Marii przylatują bociany (заўвага аўтара). На свята Звеставання Прачыстае Маці прылятаюць буслы.

[3] Zwyczaj zbierania nierozpękłych brzozowych pączków, na które nalane wódkę, ważną stanowi przysługę w domowem wiejskiem leczeniu (заўвага аўтара). Ёсць звычай збіраць нераспушчаныя бярозавыя пупышкі. Настоеныя на гарэлцы, яны з’яўляюцца важным сродкам у хатнім вясковым лекаванні.

Pięknie jakoś zrosła cudem; –
Cudem zrosła: bo w miernocie
Dziesięciorgóm starczyć dziatek;
To cud żywy w matek pocie!
To cud serca polskich matek!

IV

Wśród tej dziatwy, jak na świecie,
Rozdzielając Pan Bóg dary,
Wybrał sobie jedno dziecię,
Do prób cięższych i ofiary:
Starość ojca, troski matki,
Sióstr dzieciństwo, braci dolę,
Smutki, trudy, niedostatki,
Zdał na jedno to pacholę.
I w niewinną myśl młodzieńczą,
Tchnąwszy ważne, święte cele;
Siedmiobarwną nadziej tęczą,
Spowił dusze na trosk wiele.
Matka dziecię gdy spowije,
Śpi spokoju, szczęścia syte;
Cicho w sercu choć już bije,
Gdy w nadzieję upowite.
Czemuż z pieluch dziecię rwie się?
Słabe rączki ściąga, sili?
Czemuż sercu rwać tak chce się
Wciąż do jakiejś przyszłej chwili?
Dumny rozum sięga marnie,
Bo dla serca ta zagadka; –
Gdy wszechmiłość świat ogarnie,
Powie to nam, sam Bóg-matka;
Co nas pieści, wiedzie skrycie,
Tam, gdzieś w inne, lepsze życie.

V

Wieluż z naszych, przyjaciele!
We trzynastym życia roku,
Gdy ryb tyle, gniazd tak wiele,
Miało przyszłość swą na oku? –
Któż z nas wówczas, bracio nasza!
By mieć prędzej szczygła w klatce,
Albo zhasać konia w paszę,
Nie zapomniał i o matce? –
O szlachcicu! mój braciszku!
Boże odpuść! my i teraz
Grzeszni ludzie! przy kieliszku…
Prawda, – dajem na *Seicvereis*. –
A panowie? – dudo! cicho!
Bo już na tych naszych braci,
Jakieś modne wstało licho;
Wszak i *demo*, zawsze *kraci*.
Wszak *arysto* w herbach, mieniu,
W koniach, służbie i lornetach;
Już po *wiecznem odpocznieniu*
W całym świecie, nie w poetach.

Дзеці гожыя ўзняліся.
Дзевяць дзетак цудам Боскім
Выраслі ў той бядноце.
Цуд жа – у сэрцы маці польскай!
Цуд у польскіх матак поце!

IV

Міласэрны Бог хацяЬ
Дзелячы дзятве той дар,
Выбраў ўсё ж адно дзіця
Для цярпення і ахвяр:
Старасць бацькі, маці слёзы
Ды братоў, сясцёр нястачы,
Працы бездань, бед пагрозы –
Вось такім быў шлях юначы.
Але ў срэбных снах младзенца
Ужо агмень свяціўся веры.
Ён зблудзіў на пошук сэрца
Ды на клопат непамерны.
Маці сына спавівае –
Спі спакойна, будзь жа шчасны…
Толькі сэрца ўжо хавае
Промень тых надзей нязгасны.
Чаму рве дзіця сувоі?
У слабых ручках чуе сілу?
Сэрца ўбачыла жывое
Нашай будучыні хвілю.
Розум адказаць не можа,
І для сэрца – таямніца:
Мы калі з крыніцы Божай
Зможам шчасця ўсе напіцца.
З ручая, што сонцам грае,
Дзесь у іншым, лепшым краі.

V

Многа хто з нашага брата
У трынаццаты год далёкі,
Дзе віроў, як рыб, багата,
Прышласць меў сваю на воку.
Хто з нас тады, брацці нашы,
Каб шчыгла ў клетцы трымаці,
Ці каня на добрай пашы,
Дык забыўся і на маці.
Шляхціцы, мае брацішкі.
Даруй, Божа! Мы й цяпер мы
Грэшны людзі, пры кілішку,
Праўда, даём на секвестры.
А панове! – Дуда, ціха. –
На таго нашага брата
Моднае напала ліха:
Тут і “дэма”, яшчэ “краты”,
Тут “арыста” ў гербах, йменнях.

Ўжо няма супакаення
Ў гэтым свеце для паэтаў.

A gdy jeszcze, gdzieś, tam, w głębi,
Po spuściźnie z ojców, dziadów,
Serca bratnie kurczy, ziębi;
Leczcie biedne od tych gadów:
Śmielszą wolą, czystszą duszą,
Czynem prawdy; – a w przyszłości
Wszyscy w *demo* zstąpić muszą,
Dla wszechszczęścia, wszechmiłości.
O nasz kraik, Chwała Bogu!
Stąpa w *demo*: za ssudami[4],
Za stanowym[5] ciągłym w progu,
Jak u Boga za plecami.
Szlachcic u drzwi, kmieć za drzwiami,
Jak za starych dni pogaństwa:
„Hrabię! jedzie ktoś z dzwonkami!”
Nos na kwincie wszystkich państwa[6].
Szkoda bracie, żeś ty jaśnie!
Jam do ciebie cóś nie śmiały,
I ty patrzysz jakoś kwaśnie,
Jakbyś myślał: „ot zuchwały!”
A gdy dusza w ciepłem drżeniu,
Po bratersku przejdzie w usta;
Pocałujesz, lecz w spojrzeniu
Słyszę: “eh! wąs! pieprz! kapusta!”
I dla pieprzu, dla kapusty,
Skłonne serca miną siebie?
Żem chudzina, ty żeś tłusty,
Być nam obcym tu i w niebie?
Obcość nawet boli z tymi,
Co niewinną barwę noszą,
Ramionami strudzonymi;
Co tak szczerze robią, głoszą,
Wszystko na cześć i potęgę
I krajowi i koronie,
Że jak spojrzysz w prac ich księgę:
Aż wstyd życia! aż człek spłonie!
Co szlachetne swoje duchy
I swe piersi mężne, czyste,
Zdobią w krzyże i łańcuchy,
Drogo-szczyro-pozłociste.
A u serca Czapek-Patek,
Łeb wytknąwszy z za guzików,
Czuwa pilnie gdzie zadatek[7],
I wciąż szepce: „podradczyków”[8].
Co to każdy w bileciku
Zawsze francuz; i pieniążki
By mieć w szafie lub stoliku,

Калі яшчэ патаемна
Па спадчыне бацькі, дзеда
Сэрца брата сохне, чэзне,
Лекуйце яго ад бедаў
Чыстай душой, праўды чынам,
Смелай воляй – у хуткім часе
Волю мы спазнаць павінны
Дзеля згоды, дзеля шчасця…
О, ўжо край наш, дзякуй Богу,
У “дэма” ўступіў: за пазычкай,
За станавым ля парогу,
Як у Бога за плячыма.
Кмет у шляхты пад дзвярамі,
Бы ў старыя дні паганства.
Графы едуць са званкамі,
“Нос на квінце” ўсяго панства.
Шкода брата, што ж ты мілы?
Я з табой ня смелы штосьці,
І ты глядзіш неяк кісла,
Бы падумаў: “Зух знайшося”.
Калі ж цяпло ў душу зойдзе
І расчуліць твае вусны,
Пацалуеш, а ў паглядзе
Толькі “перац і капуста.”
І з-за перцу, з-за капусты
Схільныя мінаеш сэрцы.
Я худнелы, а ты тлусты
Тут ці ў небе нам не стрэцца.
Табе з тымі не спаткацца,
Хто чыстыя фарбы носіць
На плячах, струджоных працай,
Шчыра робіць і галосіць.
Дзеля моцы, дзеля славы
Свайго краю і кароны;
Што, як зірнеш на іх справы,
Сам аж зробішся чырвоны,
Бо свой дух, шляхетны, годны,
Шыр грудзей мужчынскіх моцных
Мноствам крыжыкаў аздобіў
У багатай пазалоце.
Хабарнік, гандляр без сэрца
Лоб з таго мундзіра выткнуў,
Тады ў вернасці клянецца,
Калі чуе, дзе прыбытак.
А з іх кожны на паперцы
Заўжды француз. Грошай крышку,
Ў стале каб ці ў шафе мецi

---

[4] Ssuda – pożyczka rządowa (заўвага аўтара). Ссуда – дзяржаўная пазыка.
[5] Stanowy – dawniej Assesor – głowa ziemskiej policji w pewnym wydziałe, stanie (заўвага аўтара). Станавы – даўней асэсар – кіраўнік земскае паліцыі пэўнага аддзелу, стану.
[6] Urzędnizy zwykle jeżdżą z dzwonkami (заўвага аўтара). Чыноўнікі звычайна ездзяць са званкамі.
[7] Zadatkowa summa pieniędzy, pobierana zwykle przez kontragentów wraz po zawarciu umowy ze Skarbem (заўвага аўтара). Грашовы задатак, які звычайна бралі контрагенты пасля заключэння ўмовы з казначэйствам.
[8] Слова ўзноўлена па рукапісе. У кнізе – “po.......ów”.

Żywy rozum, da na książki;
Bo z tem lepiej: choć nie czyta,
Choć jak Guizot[9] liczy słowa,
Choć *vox dei*: sybaryta!
*Vox populi*[10]: tęga głowa!
Biednyś bracie mój, szlachcicu!
Gdy na chleba kęs dla matki,
Z hańbą w sercu, z wstydem w licu
Chcesz tu zaleźć po dostatki!
Nie wiesz co pod tym uśmiechem,
Co ta grzeczność, to cygaro!
Wróć kochany! bo to z grzechem
Straszyć ciebie tą poczwarą.
Idź drwa rąbać na chleb matce!
Dźwigać taczkę na strój siostrze!
Wróć do żony, co ci w chatce
Da chleb z wodą i łzę otrze!
Wróć do domu, żony, dziecka,
Bądź pastuchem, kołodziejem,
Boś za prosty byś z niemiecka
Stał się żydem i złodziejem!
Brudna hańba! ciemność gruba!
Gdy je w czasie w grób nie złożym;
Stanie ciężka nam rachuba,
Tam, na strasznym sądzie Bożym!

Жывы розум, дасць на кніжкі.
З імі лепш. Хоць не чытае,
Хоць як Гізо словы лічыць,
Модныя ж запамінае.
Глядзіш, розуму пазычыць.
Бедны браце мой ты, шляхціц!
На тым хлебе, што для маткі,
Ды праз сорам, што твар паліць,
Хочаш тут займець дастатку.
Не знаеш, што пад тым смехам,
Пад спакусай, пад цыгарай.
Лепш вярпніся. Гэта ж грэхам
Зманьвае цябе пачвара.
Сячы дровы на хлеб матцы,
Цягай воз сястры на строі,
Ідзі к жонцы. Яна ў хатцы
Есці дасць і супакоіць.
Дома будзь, дзе дзеці, жонка,
Гаспадаром, дабрадзеем.
Бо тут станеш дужа лёгка
Ты падманшчыкам, зладзем.
Бруднай ганьбы, цемры грубай
Калі ў час ў труну не зложым,
Стане страшнаю рахуба,
Там, на страшным судзе Божым!

VI

W jeden piękny letni dzionek,
Gdy odliczył czas dwunastą,
I przed skwarem ścichł skowronek,
I przycichło trocha miasto:
I rodzice i ich dziatwa,
Do obiadu siedli w kółko;
A jeść w półdnie, bardzo łatwo
Poczciwemu, co wystał z pszczółką.
Śmiechy, żarty z siostrzyczkami,
I swobodnie i wesoło,
U obiadu zawsze z nami,
Póki czyste nasze czoło;
Zwłaszcza gdy obiadu chwila,
Kto ma lepszy głos i oczy,
Czyta: „Pielgrzym z Dobromila”[11],
Albo: „Pan Jan ze Świsłoczy”[12].
A te żarty, a te śmiechy,
Na trud ojca, łzy matczyne;
To ratunek i pociechy,
W czarną doli ich godzinę.
Czemuż tylko w twej radości
Przymus taki, dobre dziecię?

VI

Летнім днём, на строме спёкі,
Як праб’е гадзін дванаццаць,
Месца сцішвае гаворкі
Ды жаўрук ляціць хавацца,
Бацькі з дзецьмі у палудзень
Цесна ў кола ўсе садзяцца.
Рады ж той пад’есці будзе,
Хто з пчалой паспеў падняцца.
У час абеду ў нашым коле
Той жартуе, той смяецца,
Хто з сястрычкамі сваволіць, –
Чысцінёю ззяюць сэрцы.

І запояць яны смехам
Маці слёзы, бацькі слёзы.
Смех – ратунак іх і ўцеха
Той гадзінай лёсу чорнай.
Што ж, дзіця, пад весялосцю
Нейкі смутак ты хаваеш?

[9] Маецца на ўвазе Франсуа Гізо (1787–1874) – французскі гісторык, палітычны і дзяржаўны дзеяч.
[10] Vox populi, vox Dei (лац.) – голас люду – (гэта) голас Бога.
[11] Аповесць Ізабэлы Чартарыскай (1746–1835) напісана ў 1819 (ч. 1) і 1821 (ч. 2).
[12] Zwyczaj i dziś po wielu dworkach na Rusiach zachowany (заўвага аўтара). Звычай, які і сёння існуе на Русі (Белай і Літоўскай). Аповесць Яна Ходзькі (1777–1851) напісана ў 1821 г.

Kogoż żal ci? – Wy w mierności
Taki smutek odgadniecie!
„Już na ojca drogiej twarzy,
Trud co chwilę starość szerzy,
Już i matka nie tak marzy,
I w swe siły nie tak wierzy”;
Myślał w duszy syn poczciwy,
Wśród pustoty w miłem kole,
I wnet zamiar jakiś żywy
Błysł na wzniosłem jego czole;
W duże oko łza wybiegła;
W czyste serce skra zapadła,
I na duszy troska legła;
I tęsknotą twarz pobladła.

Ці шкада табе кагосьці?
Ці таемны клопат маеш?
“Я на бацькі родным твары
Бачу працы след бязмернай.
Маці ўжо не мае мараў
Ды ў сябе згубіла веру”, –
Думаў, гледзячы на блізкіх,
Гэты сын у гурце звычным.
Раптам нейкі промень бліснуў
На жывым яго абліччы.
Кропля жалю з вока збегла,
Йскра надзеі ў сэрца пала.
А ў душу трывога легла,
Беллю сумны твар заслала.

VII

Któż to przy zachodzie słońca,
Rzeźwy, cichy i milczący,
Od ulicy tamtej końca
Spojrzał w orła, co lecący
Do białego przybit gmachu?
***I tak prędko go omija***
***Z ogniem wstydu, wzgardy, strachu,***
***Przeczytawszy: „policya”?***
***I mknie dalej: orzeł nowy.***
***Czyta: „tu ziemski sąd niższy”,***
***A tam znów: „Sąd powiatowy”,***
***I ucieka bardziej chyższy?***[13].
Orzeł jeszcze, nadpis jeszcze:
„Kaznaczejstwo powiatowe”.
„Westchnął i rzekł: „tu się wmieszcze,
„Bo utrudzę tylko głowę”.
Biednyś bracie! duszę twoję,
W tej stanowczej, gorzkiej chwili,
Walka, trwoga, niepokoje,
Straszno, ciężko, nawiedzili:
Bo śnić, droga gdzie wskazana,
Czuć się godnym świętej woli,
A ugrząznąć po kolana;
Oh to boli!.... ciężko boli!....

VII

Хто ж там у вечаровым змроку,
Задуменны ды маўклівы,
Паглядзіць няраз здалёку
На арла, што ўзняўшы крылы,
На будынку прымасціўся?

Надпіс над арлом тым гучны:
“Казначэйства павятова”.
Хто ўздыхае: “Тут змясціўся
Думак вір, даўно не новых”.
Мне ж знаёма, брат мой родны,
Што душа твая шукае,
Што вятроў там, мар нязводных,
Ды трывога ж не знікае:
Дзе дарога, – сніць ты будзеш, –
Што вядзе да святой волі…
Сам жа па калена ў брудзе,
Колькі болю!.. Колькі болю!..

VIII

Za dzioneczkiem bieży dzionek;
Wiosna wiosnę co rok goni;
Za skowroneczkiem skowronek
Po piosence piosnkę dzwoni.
Dokąd wieczór i co rano
Śpieszysz po jednej ulicy,
Z twarzą jasną, choć stroskaną,
Mój młodzieńcze blado-licy?
Czyż dla ciebie świat tam cały?
Młode orle, rozpuść pióra!

VIII

Дзянёк за дзяньком мінае,
У нябыт сыходзяць вёсны.
Над зямлёй жаўрук лунае,
Тчэ з чароўных песень кросны.
Куды ўвечары ды ўранні,
Хлопец, вуліцай адною
З тварам бледным, усхваляваным,
Ты спяшаешся парою?
Для цябе ці свет там цэлы?
Юны птах, раскінь жа крылы

[13] Вылучаныя радкі, выкасаваныя цэнзарам, узноўлены па рукапісе.

Tam ku niebu, po nad skały;
Głąb' twej myśli, oczóm góra.
Nie chcę myśleć ja głęboko,
Nie chcę patrzeć ja wysoko:
Ojciec, matka: me głębiny;
Bracia, siostry: me wyżyny.
Po tej jednej, po ulicy,
Tam, do bióra ze świetlicy;
Do kościoła, po nad wody,
W pola, w gaje, dla ochłody;
Po nad Dźwinę, nad Dziśnienkę,
Na słowiczą tam piosenkę;
Po nad jary, nad parowy,
Bo tam w cieniu kwiat różowy;
Do sąsiada i sąsiadki,
Bo tam jeszcze milsze kwiatki....
Po piasczystej tam ulicy
Co się zwija u świątnicy
I ku Dźwinie zbiega chyża;
Patrzeć w kościoł bliżej krzyża,
Jak od rzeki, jedna ściana
Grzesznym śpiżem ubryzgana…
I do domu, do kolegi,
Oto mego świata brzegi;
A modlitwa, a czytanie,
To me na świat zaglądanie.
Ale serce nie kalina; –
Ale dusza nie malina; –
Serca kwiat coraz piękniejszy,
Duszy blask coraz jaśniejszy:
Serce rośnie, dusza rośnie;
Rośnie młodzian w wieku wiośnie;
A jak wzrośnie, to i znudzi
Pośród cichych swoich ludzi;
A jak znudzi, to i pnie się
Dalej, dalej… choć nie chce się,
Choć nie chce się wagą ziemi,
Pnie się skrzydły duchowemi:
Aż do samych niebios progu,
Aż popatrzeć w oczy Bogu,
I dla świętej, dla miłości,
Podnieść serce we wdzięczności;
I na ojczą pierś Jehową,
Przytulić się całą głową.
Żal mu ojca, żal mu matki;
Żal mu braci, i sióstr szkoda;
Orlik przywykł już do klatki,
Lecieć musi dusza młoda.
Śmiało dziecię! śmiało synu!
Tam, do góry... do wawrzynu!
Matka ciebie błogosławi:
„Zawsze z nami! zawsze z niemi!...
Jako w niebie, tak na ziemi!
Ojciec z Synem niech to sprawi!"

Ды ляці да неба смела
За сваёю думкай мілай.
Не хачу мысліць глыбока,
Не хачу глядзець высока:
Бацька, маці – мне глыбіні,
Сёстры, брацця – мне вышыні.
Вулкай гэтаю адною
Ды да бора, ды з пакояў,
Да касцёла над ракою,
У гай і поле – свет спакою.
Дзе Дзвіна з Дзісною хвалі,
Там, у салаўіных далях,
Па-над ярам над глыбокім
Цуда кветка лашчыць вока…
Да суседа і суседкі,
Бо яшчэ мілей іх кветкі.
Па той вулцы апусціцца,
Дзе пясок на сонцы йскрыцца
Ды к Дзвіне мне шлях пасцеле.
Там зірнуць на крыж касцельны,
На сцяну з высокім спіцам,
Што ў раку заўжды глядзіцца.
Потым да свайго парога –
З таго берага святога.
А малітвы, а чытанне –
Маё свету сузіранне.
Толькі сэрца – не каліна,
А душа вам – не маліна.
Бляск душы штораз яснейшы,
Росквіт сэрца – прыгажэйшы.
Душы й сэрцу дома цесна,
Бо юнак у веку веснім
І на ўсё глядзіць у суме,
Знудзіўшыся ў цішым тлуме.
І не хоча – ды ўсё рвецца
Куды яго кліча сэрца.
Хай бы важкасць знікла ў целе,
Душы крылы моц займелі,
Неслі б да нябёс парога,
Каб зірнуць у вочы Бога
І аддаць яму ў падзяку
Сэрца, што кахае палка.
Каб на грудзі ў Яговы
Галаву схіліць з прамовай:
"Бацькі мне шкада і маці,
За братоў, сясцёр так горка.
Я бы птах, што волю страціў
Ды праз краты бачыць зоркі".
Дык давай жа, смелы сыне!
Там, да гор… і да вяршыняў!
Маці выправіць у дарогу:
"Заўжды з намі! Заўжды з імі!...
На зямлі, як і на небе!
Айцец з сынам дапамогуць!"

IX

Mkną czasy, zwłaszcza nasze, i ginąć w ich męcie
Ciężko byłoby duszy; ... lecz gdy serce Boże
Oświeciło swe dzieci i stale i święcie:
Że się nadarmo ludzkość posuwać nie może; –
Więc do olbrzyma czasu lepiąc wiek po wieku,
I siejąc po nim ziarna dłońmi cnotliwemi;
Przyklękniem, może jutro, dziś jeszcze, w zmian cieku,
Przed niebem przychyłonem z rajem swym ku ziemi.
Lećcież czasy! Lecz czemuż na sercu grzesznego,
Choć ono już widzi przez lazur poniebny
W dniu pogodnym swe jutro; a tęskno dla tego,
Jakby nam dzień wczorajszy i dziś był potrzebny…
Już się i w naszem mieście kilka lat przesnuło
Od owego obiadu, w którym dobre dziecię
W chlebie do ust przytkniętym ojczy trud poczuło,
I wziąwszy słodkie brzemię poszło z nim po świecie.
I nikt nie wie co w duszy cichego młodzieńca
Burz przeszło, walk przetrwało; bo jego nałogiem:
Nikomu nie dać ciernia z życiowego wieńca,
Wszystkim kwiaty podrzucać; resztą? znać się z Bogiem.
Dzięki Tobie o Panie! kiedy myśl skrzepiona
Błogosławieństwem matki; dziecię człek i z błota
Szatą lilii błyśnie, i dusza strudzona
Westchnie do Cię, jak z krzyża umęczona cnota!
Dzięki Tobie o Ojcze! Tyś z nas najlichszemu
Pozwolił smutne serca pocieszać tam w górze!
Tyś jest samą miłością! kiedy sercu Twemu
Nie brzydniem nawet służąc i w… biórze.

IX

Бягуць часы найбольш нашы; гінуць ў іх імпэце
Цяжка было бы душы, …але ж сэрца Божае
Асвяціла дзяцей сваіх, з той пары і свеціць:
Бо сам сябе чалавек пасоўваць не можа.
Бог да вялікага часу век да веку лепіць
Чыстымі далонямі зерне ў іх кідае;
Дык між спраў укленчым заўтра, а сення шчэ лепей
Прад ласкавым да нас небам, перад яго раем.
Ляцяць часы! Чамусь толькі у грэшнае сэрца
Хоць яно ужо і бачыць праз блакіт у небе
Ў дні пагодным сваё заўтра, сум затым крадзецца
Што быў бы дзень учарашні й сёння нам патрэбен
Вось ужо і ў нашым месце колькі год мінула
Ад абеду на якім дзіця сэрцам добрым
Ў хлебе што крануўся вуснаў бацькаў пот пачула
Ды з сваёй салодкай ношай пайшло ў свет пакорна.
Сціплай шлях душы юначай сёння невядомы,
Колькі бур стрываў юнак; ён закон меў строгі:
Церняў са свайго вянка не даваць нікому,
Толькі кветкі ўсім дарыць. Яшчэ знацца з Богам.
Дзякуй жа табе, о Пані! Як дух змацаваны
Бласлаўленнем матчыным, дзіця і з балота
Ўборам лілеі блісне, а душа ўся ў ранах
Да Цябе ўздыхне, бы з крыжа змучаная цнота.
Дзякуй жа Табе, о Бацька! Ты ўсім нам дазволіў
Сэрца вышнёй пацешыць, кожнаму даў крылы,
Ты ёсць сама міласць. Таму мы ніколі
Не пакінем цябе слухаць. Нават і ў магіле.

X

Wszyscy w domu, a nie gwarno; –
Czy nie smutni? czy ulękli?
Że się cóś tak w kółko garną?
I za matką cóś poklękli?
Oczy, twarze wszystkich wróżą,
Że to chwila przed podróżą.
Matka Boska Pocieszenia,
Z podniesionych ram wyziera;
Oczy, oczki, łzy, westchnienia,
Wszyskie widzi, wszystko zbiera:
Bo gromadka w grono zrosła,
Wspólne modły jej poniosła.
I to oko Świętej Matki
Zda się pieści, zda się tuli
Matkę, ojca, i ich dziatki;
Tylko częściej, tylko czulej
Wdzięczy Boskie oczy swoje,
Gdzie tych ciemnych ocząt dwoje....
Może wówczas w tem dziewczęciu,
Co z uwitych drobnych rączek
Kwitło jak o Wniebowzięciu
Pierwiastkowy wątły pączek,

X

Дома ўсе, ды ціха ў хатцы;
Смутак тут ці хто спужаў іх,
Змусіў купкаю сабрацца?
Вось і маці ўжо пазвалі.
Вочы, твары тут варожаць:
Хвіля перад падарожжам.
Матка Боска з абразочка
Суцяшальна пазірае,
Слёзы, шэпты, вочы, вочкі
Бачыць яна, ўсіх збірае,
Бо грамадка ў кола стала
І малітвы ёй паслала.
Святой Маткі позірк светлы,
Што, здаецца, песціць, туліць
Маці, бацьку ды іх дзетак;
Толькі часцей грэе, больш чула
Божы позірк той куточак,
Дзе тых цёмных двое вочак.
Можа, у дзяўчынцы гэтай,
Што з абдымкаў ручак нечых
Зззяе, нібы раю кветка,
Неба кволенькі праменьчык,

Zapisało przeznaczenie
Przyszłość moją i zbawienie! –
Może jeszcze tam dziecinę,
Niezbadany wyrok Boski,
Przez swą miłość, za mą winę,
Na łzy skazał, trudy, troski!
By i cnotę w niej przechować,
I mnie dziecię poratować!
Boże Dobry! łez tych kilka,
Przyjm na wsparcie jej i moje!
Wszak duch nasz, to mdłość motylka;
I grzesznicyż dzieci Twoje!
Przyjm, gdy czyste to kropelki,
Na los naszej Gabryelki;
Na los wrogów i rodziny,
Na radość matki i brata;
Na szczęście naszej krainy,
I na szczęście wszego świata;
Tul o tul wszystkich do siebie!
Jak na ziemi, tak i w Niebie!

Запісана прызначэнне,
Прышласць мая і збавенне.
Можа быць, каго з тых дзетак
Абракае воля Бога
За мае грахі на здзекі,
Ды на слёзы і трывогі,
Каб святло ў ім захаваці
Ды дзіцяя паратаваці.
Прымі, Божа, слёз тых жменьку,
Каб яе, мяне суцешыць.
Наш дух – матылёк слабенькі,
Дык і дзеці твае грэшны.
Прымі чыстых кропель жменьку
На лёс нашай Габрыелькі,
На лёс ворагаў, радзіны,
На радасць брата з маці,
На шчасце нашай краіны,
Ды на свету ўсяго шчасце.
Тулі ўсіх да свайго сэрца
На небе і на зямельцы.

XI

W domku rodzina głowę w modłach schyla;
Przed gankiem pocztarz już stanął z dwukonną;
Prostuje duhę, batem armiak spyla,
Nastraja dzwonek na pieśń monotonną;
I coraz do drzwi zwraca mu się szyja,
Bo czas już w drogę, półgodziny mija.
Do wozu znieśli: walizkę, płaszcz, lulkę;
Wybiega młodzian rzeźwy i spłakany;
Lato; – więc jakąś wdział lekką koszulkę,
W nią się otulił zlekka przepasany;
Siostry i bracia smutni z nim na progu,
A ojciec z matką gdzieś modlą się Bogu.
Wskoczył młodzieniec, na dóm rzucił okiem,
Na swoich spojrzał; spojrzała nań brzozka;
Na dóm sąsiadki coś popatrzał bokiem
I rzekł: „ruszajmy! taka wola Boska!"
I pocztarz spójrzał: po lejcach, po biczu,
Znać że rad z pana; – „trzy rzeczy paniczu."
I mkną; a w kilku oknach, tam, z uboczy
Jakieś mu główki kłaniają na drogę:
„Do nas! na chwilkę!" krzyczą, robią oczy;
„Żegnam" rzekł: „nie mogę! dalibóg nie mogę!"
A jedna rączką buziak z ust koralu
Szle i zawoła: „w Mińsku: tam! na balu!"
Sczerwieniał młodzian: bo i rączka ż biała!
I usta ż świeże, jak świeża malinka!
Lecz myśl już męzka; choć młodzieńczość wrzała,
I jechał dalej choć mu ciecze ślinka;
Coś błękitnego czyta pomaleńku;
Na szyi krzyżyk, a książeczka w ręku.
A z domku bracia, siostry, na cypeczkach,
Śledzą go w dali, zda się proszą Boga

XI

У хатцы радзіна маліцца ўзялася;
Пачтар ужо з паркай стаіць ля варотаў.
Вупраж падправіў, сам падперазаўся,
Настроіў званочак на песню журботную.
Толькі ў бок дзвярэй часта паглядае,
Бо час у дарогу, паўгадзіны мае.
Вось да возу знеслі плашч, валізкі, люльку,
Юнак выбягае, гожы ды няшчасны;
Лета – апрануты ў легкую кашульку,
Яна вакол яго злёгку прыхоплена пасам.
Сёстры і браты смуткуюць з ім каля парогу,
А бацька і маці дзесь моляцца Богу.
Вось юнак ускочыў, дом акінуў вокам,
На сваіх зірнуў, зірнуў на бярозку.
На хату суседкі чагось зірнуў бокам
Ды сказаў: "Ну, рушым, калі воля Боска".
А пачтар на пугу ды на лейцы глянуў,
"Гэта мы як відзіш". Знаць жа, рад за пана.
І пайшлі. А ў колькіх вокнах, там, з узбочын,
Якіясь галоўкі ўсё яму ківаюць.
"Да нас, на хвілінку", – крычаць, строяць вочкі.
"Не магу", – ён кажа. "Не магу, бывайце".
І шле адна ручка з вуснячак – каралаў
Пацалунак й словы: "Ў Мінску, пад час балу".
Счырванеў юнак наш, бо і ручка ж бела,
І свежыя вусны, што тая малінка.
Мужчынская думка юнака здалела,
І ехаў далей ён хоць і цякла слінка.
Чытае блакітную кніжку памаленьку –
Крыжык на шыі, кніжка на каленях.
Браты, сёстры ў хатцы – усе ў адзін подых,
Сочачы за братам, моляцца да Бога.

O głębsze piaski, głębszą wodę w rzeczkach,
O kół złamanie: bo nie dobra droga
Wzięła im brata; – i choć tak płakali:
I podrażniła i skryła go w dali.
I długo dziatwa to pod cieniem brzozki,
To tam na ganku, siedziała, patrzała,
Błyszczą im oczki, na licach ich troski,
A matka z ojcem gdzieś skrycie płakała;
Lecz gdy majowy chrząszcz ku dzieciom źleci,
„Żuk! żuk!” i łowić żuka zbiegli dzieci.
Dobrze wam dziatki! lecz nie myślcie przecie,
Że już starszemu żuk, lub mała szczurka,
Rzecz obojętna! są ludzie na święcie,
Którym zajączek, gołąbek, wiewiórka,
Lub ten cudowny ślimaczy futerał,
Stokroć ciekawszy niż w krzyżach generał;
O bywa człowiek co w perełce rosy,
Z całą swą duszą i swem wielkiem ciałem,
Wolny od troski, zgodny zawsze z losy,
Skąpie się cały; o! takiego znałem
Co patrząc w blask ten perełki uroczy,
Widział ogromne jak świat Boże oczy.
I wiecie ż dziatki jaki to był człowiek?
Wielki, już wyrósł; a serce miał takie
Jak dobre dzieci: łza z pod jego powiek
Biegła na cudze troski aby jakie;
Żyda, cygana, turka, myszy, żuka;
Ot moje dziatki! co cnota! nauka!
Świat jego czasem nazywał warjatem;
A on za świat ten wieczorem i zrana
Bogu się modlił; bo pragnął by z światem
Mieszkał jak w domu duch Chrystusa Pana,
By jego wspierał, oświecał, kierował,
By on był mędrzec, a świat sam warjował.
Tak lube dziatki: gdy w serce Bóg zajdzie.
Tak wszystko sercu i miłe i drogie,
Że się ni chwilki gniewu w niem nie znajdzie,
Ni mu dokuczą jakie biedy srogie;
A tylko boli gdy brata jak żuka
Kto w młynek wkręci; ot cnota! nauka!

XII

Po szerokim szlaku
Pył w górę się wzbija;
Nie wstydź się mój ptaku,
Że cię ktoś wymija.
A od brzózek bokiem drogi
Cień jak siatka się wykręca;
Ściele się pod końskie nogi,
Co unoszą nam młodzieńca.
Napróżno mój cieniu,
Nie ujmiesz ty ptaka,
Choćbyś po imieniu
Wołał na junaka,

Мо, пяскі глыбокія, або ў рэках воды,
Ці кола зламалася: кепская ж дарога
Узяла іх брата; хоць так уздыхалі,
Падражніў іх шлях і скрыў яго ў далях.
І доўга дзятва ў засені бярозкі
На ганку сядзела, усё назіралі,
Трывога на тварах, у іх вочках слёзы.
Маці ж з бацькам недзе смутак свой хавалі.
Але вось між дзетак хтось хрушча прыкмеціў,
“Жук! Жук!” – і лавіць яго кінуліся дзеці.
Добра яшчэ дзеткі вам не разумеці,
Што ўжо для старэйшых жук або сініца –
Нявартыя рэчы; ды ёсць людзі ў свеце,
Для якіх вавёверка, зайчык ці гарліца,
Або той слімачы дзіўны футарал,
Стокраць цікавейшыя, чым сам генерал.
О, быў чалавек, што ў кропельцы росаў
З душой сваёй цэлай і з вялікім целам,
Вольны ад трывогаў, згодны заўжды з лёсам,
Змяшчаў сябе цалкам. О! Такога мелі,
Што, на бляск зірнуўшы кроплі той прыгожай,
Бачыў свет бязмежны у ёй вачэй божых.
Ведаеце, дзеткі, быў ён чалавекам,
Што вялікі вырас, сэрца ж меў такое,
Як добрыя дзеці: сляза з-пад павека
Бегла прад бядою хоць якой чужою –
Жука або мухі, цыгана ці турка.
Вось дзе, мае дзеткі, чысціня, навука.
Хоць яго вар’ятам называў свет часам,
Ён за свет маліўся вечарам і рана.
Бо хацеў ён моцна, каб у свеце нашым
Жыў заўжды як дома, дух Хрыстуса Пана,
Каб свет падтрымаці, адкрыць яму вочы,
Каб даць яму мудрасць, а свет сам хай крочыць.
Так, мілыя дзеткі, дзе ў сэрца Бог зойдзе,
Усё таму сэрцу дорага і люба.
Ты ўжо ні крупінкі гневу ў ім не знойдзеш,
Ніякія беды яго не загубяць.
Баліць яно толькі: брат, бы жук гаротны,
Што ў млынок крыжуюць; вось навука, цнота.

XII

Па шырокім па шляху
Вецер пыл падымае.
Не саромся, мой птаху,
Што цябе хтось мінае.
Ад бярозак ля дарогі
Цень кладзецца, бы краты,
Ды пад конскія ногі,
Што нясуць нас ад брата.
Цень, сказаў бы ты птахам:
“Вы ж яго не кідайце,
Крылам месца для ўзмаху
Птаху новаму дайце,

Шостак Юзаф, сын Палікарпа, № 1272, у мястэчка Сенна (Сянно. – М.Х.) Магілёўскай губ.

Цеханоўскі Алексы, сын Фелікса, № 1273, у Віцебск.

Біруля Андрэй, сын Сімпліцыяна[1], № 1274, у Віцебск.

Стафаноўскі Канстанты, сын Адама, № 1280, Віцебс. губ, Лепельскі пав. у мястэчка Камень.

За гэтых паручуся і папрашу дасылаць.

Брат мой Шыман нагадвае пра сябе, напрошваецца на братэрскую міласць і абдымае Цябе. Францішак Корбут дзякуе і давяраецца Вашай апецы.

**№ 2**

Віцебск, 12 студзеня 1859 г.

Дарагі наш Эдвард!

На “Słowo” яшчэ адзін білет прадаў – Юліушу Багартоўскаму з Віцебска[2]. Дык увесь збор за шэсць білетаў – 102 руб. ср. Адымаю 50 руб. ср. для сябе, в 52 адсылаю. Першы нумар, прысланы Браніславу, а іншыя, здаецца, яшчэ не маюць, Віцебск прывітаў з цікавасцю і захапленнем незвычайным: фармат, шрыфт, структура і дух усім да душы. Дай Бог, каб запалілася сімпатыя, ужо пачутая.

Сялянскі камітэт[3] ужо ў нас закончыў працу, у гэтыя дні адсылае паводле парадку свае матэрыялы. З-за Інфлянтаў, якія жывуць паводле іншых законаў, чым Белая Русь, бо і суседняе княства[4] сваёю адміністрацыяй значна на іх паўплывала, – у аніводным раздзеле (главе), няма ў нас еднасці думкі; з гэтай прычыны дэпутаты ад пачатку былі падзеленыя на два лагеры, а напрыканцы на тры разбіліся, – і адсылаюць кожны сваё. Падобная дыскусія як вынік жыцця, хоць і не сфармуляванага яшчэ, не засмуціў бы нас, калі б мы не бачылі і тут гульню страсцей. Што ж рабіць! Пераканаваннямі кіраваліся ўсе, а тым самым не грашылі. Ласка Божая, можа, і з гэтай каламуці праўду дабудзе.

Цяпер гарым трохгадовымі выбарамі. Шляхта звіваецца, інтрыгуе, выхваляецца, а ўсе гэта на нашым шляхетным Юр’евічу[5], гэтым апостале праўды, гэтым чалавеку сэрца, што любіць шляхту бескарэтную і бездапаможных, г. зн. шануе псеўдапаноў. У лагеры апошніх ён мае шмат непрыяцеляў, – і вельмі натуральна: бо ў ім ажыла і ўзмацнілася галота. Ягоная цярплівасць захапляе нас: сярод выбарчай буры ён спакойны і такі пэўны кожнага свайго кроку, як той, хто прызвычаіўся быць усёю душою дзесьці там у чысцейшым свеце, спаўняе на зямлі, як можа, усё тое, што яму дыктуе Воля Божая. Зважаючы прытым на яго сціплыя сродкі, з якімі пры прыгожым сэрцы найхутчэй бы ў сябе ў Бершадзе[6] дасягнуў бы мажлівага на зямлі спакою, мы здзіўляемся і захапляемся ім.

---

[1] Андрэй Біруля-Бялыніцкі служыў у губернскім статыстычным камітэце і ў губернскай канцылярыі па сялянскіх справах (присутствии).

[2] Юлій Багартоўскі (нар. каля 1822 – ?) вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Правізар, разам з братам Генрыкам утрымліваў вольную аптэку ў Віцебску, быў дырэктарам дзіцячага прытулку. Жыў у доме Гінзбурга.

[3] Гаворка пра Віцебскі губернскі камітэт па распрацоўцы ўмоваў правядзення сялянскай рэформы.

[4] Маецца на ўвазе былое герцагства Курляндыя і Семігалія (Курлядская губерня).

[5] Станіслаў Юр’евіч, сябра Яна Баршчэўскага па Полацкай езуіцкай акадэміі, быў віцебскім губернскім маршалкам у 1853–1859 гг. Выбраны на трэці тэрмін у 1859 г., але не быў зацверджаны ўладамі.

[6] Бершадзь – павятовы горад Падольскай губерні, дзе С. Юр’евіч меў маёнтак.

Тэатр, артысты, клуб – гэта ажыўляе сёння наш Віцебск, пра што ў меру маіх сіл дам справаздачу. Дарагі мой! Ты ведаеш чалавечую натуру, умееш бачыць душу наскрось, а ў мяне Ты майстар! Скажы ж мне слова такое, якое б абараняла ад сумненняў, а надзеяў нашых прыспорыла, якое б мяне запэўніла, што Вам для "Słowa" карысны быць магу. Што мне рабіць з *Конрадам* маім і іншаю пісанінаю? А гэтым і з Вільняю і Вамі хацеў бы дзяліцца[1], але да Вас нешта больш сумую.

Пад час выбараў жыву з Браніславам. Дзякуем Вам за яго. З ім так нам добра. Працы Ты маеш шмат, аднак не забывай падтрымліваць час ад часу наш дух, а перадусім адданага Табе душою і сэрцам Арцёма.

Нагадваю пра сябе Зыгмунту Сыракузе. Напрашваюся на знаёмства Краневічу[2] і ўсім Вашым. Нашыя перадаюць прывітанні.

Прашу Цябе даслаць "Słowo" мне. Няхай будзе ў чытальні, разлічымся як скажаш.

---

[1] У гэты самы час А. Вярыга-Дарэўскі карэспандаваў з Адамам Кіркорам, рэдактарам часопіса "Teka Wileńska" (1857–1858).

[2] Маецца на ўвазе Павел Круневіч, медык, супрацоўнік газеты "Słowo". Відавочна, быў у ссылцы, дзе пазнаёміўся з Э. Жалігоўскім і Т. Шаўчэнкам.

# Апублікавана ў газеце “Słowo”

Артыкул апублікаваны без подпісу ў сёмым нумары газеты “Słowo” (24 студзеня/5 лютага 1859 г.). Зусім верагодна, што гэта скарочаная і перапрацаваня паводле рэкамендацыі рэдакцыі версія ліста А. Вярыгі-Дарэўскага ад 20 лістапада 1858 г. Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы.

**Карэспандэнцыя “Słowa”**

Віцебск, у студзені 1859 г.

Мала вядома чытачам пра беларускія правінцыі. Публічныя выданні пакуль амаль не цікавіліся імі. “Rubon” – колішні орган гэтых правінцый – даўно ўжо перастаў выходзіць[1]; аднак хіба ж ёсць хоць якая-небудзь частка краю, хоць які-небудзь куток, што не мае сваіх адметных рысаў ды асаблівасцяў, і не выклікае цікавасці ў сэрцах і думках адукаваных людзей, а тым больш у сэрцах суайчыннікаў?

Без ладу і абранае дарогі апавядаць вам пра наш край будзем, бо не ўмеем інакш. Нашыя грудзі, што доўга былі самотныя і закрытыя самі ў сабе, не высушылі крыніцы сваіх пачуццяў і думак, але нашыя вусны ад гучнай гаворкі адвыклі.

У наступных лістах сваіх раскажу пра куткі нашай правінцыі, пра нашы вёскі ды шляхецкія двары і фальваркі, але пачну з нашае сталіцы – Віцебску.

Прапушчу ўсё тое, што ў першым-лепшым падручніку геаграфіі прачытаць можна: пра цэрквы і каталіцкія касцёлы, суды, шпіталі, гімназіі, дамы прытулку *etc*.; буду лепш казаць пра тое, што чытацкую публіку можа цікавіць і пра што не ўсе пакуль ведаюць.

Мы маем тут адну невялікую публічную кнігарню з чытальняю, заснаванаю адным віленскім жыдком, бо пан Вольф сваю ўжо зачыніў, а яшчэ – дзякуючы некалькім асобам – імёны якіх называць не маю адвагі[2] – чытанне ў нас вельмі распаўсюджанае. Не толькі белетрыстычная літаратура, але і творы сур’ёзнага навуковага зместу, творы палітычнай эканомікі, гістарычныя, мемуары маюцца ў некалькіх кнігазборах, якімі могуць карыстацца ўсе на ўмовах вельмі выгодных для больш заможных і зусім без аплаты для тых, хто мазольна працуе на кавалак хлеба. Апроч гэтых некалькіх большых кнігазбораў у шмат якіх дамах ёсць кніжкі, якія ахвотна пазычаюцца іншым, бо мець кніжкі і даваць іх пачытаць – гэта ў нас ужо стала маральнай патрэбай і абавязкам. Маем у гэтым сэнсе некалькі сапраўды заслужаных асоб, якія ахвяруючы неабходным, набываюць кніжкі (гэткія дарагія ў нас) і адорваюць імі іншых. Таму чытанне, як мы раней казалі, вельмі ў нас распаўсюджанае. За выняткам запляснелых службістаў, ліхвяроў і салонных львоў (якіх у нас амаль няма) – усе цікавяцца краёвай літаратуры. Маем таксама ў самім Віцебску некалькі асобаў, што пішуць, з якіх гэтым

[1] Гаворка пра альманах “Rubon”, які ў 1842–1849 гг. выдаваў у Вільні Казімір Буйніцкі (1788–1878). Выйшла 10 томікаў.

[2] Яшчэ ў 1840-я гг. чытальню ў Віцебску заснаваў малодшы брат А. Вярыгі-Дарэўскага Сымон. Утрымліваў чытальню і сам А. Вярыга-Дарэўскі.

разам назавём Гераніма Марункевіча[1], вядомага сваімі зборнікамі вершаў і празаічнай кніжкай *Pisemka dorywcze*, якая адзначаецца высакароднымі і пачцівымі намерамі.

Ёсць іншыя маладыя і не без таленту людзі, якія скрытна працуюць і пішуць, перш як выступяць публічна. Гэта павярхоўны агляд нашага разумовага руху. Дадам яшчэ, што ёсць тут і невялічкая друкарня пана Неймана, перанесеная з Дынабурга, якое дастаткова для патрэб судоў.

Што тычыцца таварыскага жыцця, дык там значна менш заўважаецца кантактаў. Няцяжка, зрэшты, здагадацца пра прычыны гэтага ў нашым грамадстве. Але калі таварыскі дух мала развіты сярод жыхароў Віцебска, дык затое больш заўважны дух рэлігійны. А 6-й гадзіне на ранішняй імшы, даўней званай *прымарыя*, убачыш чыноўніка, які шчыра моліцца, рамесніка, маці з напаўсоннымі яшчэ дзецьмі. Нават і на імшы больш позняй можна пацешыць сэрца, бачачы тых; хто моліцца, адно варта крыху паблажліва паставіцца да тых моднікаў і модніц, якія не дзеля таго, каб маліцца ў касцёл прыходзяць; але ж дзе іх няма, Божа? Не толькі, праўда, у касцёлах і малітве выяўляецца ў нас рэлігійны дух. Раніцаю тыя, каго нястача і галеча падняли з ложка, бачаць часта каля аднаго дому шляхетную постаць у шэрым плашчы, акружаную ўбогімі. Я не ведаю, хто гэта такі, але ведаюць пра яго сэрца, якім ён палёгку ў нядолі прыносіць; а гэта крыху большага вартае, чым нейкі розгалас.

Нельга не сказаць, што ўжо больш за год як маем сталую рэсурсу, хоць бы з-за таго, што выпісвае яна “Czas Krakowski” і “Bibliotekę Warszawską”; маем і дом тэатральны, у якім час ад часу граюць вандроўныя артысты. Ёсць тут і добры тракцір, але, выбачайце, не буду пра яго пісаць, а прыгадаю лепш гаркухню, якую ўтрымлівае адна з самых убогіх кабет, кормячы бедных, у якіх і гроша няма. Бедны, бо пазбаўлены пасады чыноўнік, настаўнік танцаў, які застаўся без працы, актор альбо нехта іншы, хто зазнаў пэўную зменлівасць лёсу, знаходзіць тут гасціннасць, якую дарэмна шукаць у іншым месцы. Прашу не абвінавачваць мяне ў сентыментальнасці або перадузятасці, што знайшоў дабрачыннасць у гаркухні.

Цяпер мы занятыя выбарамі чыноўнікаў[2] на тры наступныя гады; пра вынікі іх пасля напішу.

---

[1] Маецца на ўвазе Геранім Марцінкевіч (1816 – пасля 1864), аўтар паэтычных зборнікаў *Poezye* (Wilno 1845), *Poezye*, tomik II (Wilno 1848), а таксама томіка прозы *Pisemka dorywcze* (Wilno 1857).

[2] Шляхецкія выбары адбываліся ў студзені–лютым 1859 г.

# Словы прызнання і падтрымкі

Пасля смерці гісторыка Студзеньскага паўстання Мар'яна Дубецкага ў 1926 г. ягоны архіў трапіў у Бібліятэку Чартарыскіх у Кракаве. Тут з рукапісам беларускага літаратара пазнаёміўся гісторык Міхал Янік, які некалькі разоў спасылаўся на яго у сваіх публікацыях. Адна з іх прысвечана "асобнаму аркушу", ці адмысловай памятцы – своеасабліваму *Альбому* А. Вярыгі-Дарэўскага. Навуковец надрукаваў гэты *Альбом* "w całości, ponieważ podaje kilka nazwisk, nieznanych z dotychczasowych spisów, przedwojennych wygnańców syberyjskich i jedno szczególnie drogie, własnoręcznie nakreślone, nazwisko Jakóba Reinera z Lublina, rozstrzelanego wraz z czterema kolegami w r. 1866 w Irkucku za głośne w historii martyrologii syberyjskiej tzw. powstanie zabajkalskie"[1]. Ніжэй мы падаём *Сібірскі альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага ў перакладзе на беларускую мову з кароткімі інфармацыямі пра тых, хто напісаў пажаданні або паставіў у ім свае подпісы. Большасць запісаў зроблена 24 мая (4 чэрвеня) 1866 г. напярэдадні выхаду катаржан з Аляксандраўска за Байкал (Култук – Мішыха). Усяго ў *Альбоме* адзінаццаць запісаў, пад якімі свае прозвішчы паставілі 36 чалавек.

### [*Сібірскі альбом*]

Сардэчнаму прыяцелю маладосці, з пачуццём усяго таго, што прыгожае і шчырае, цярпліваму да недахопаў бліжніх, вечна маладому душою і сэрцам, засумаванаму па свайму дзіцяці бацьку, каханаму, высакароднаму і стойкаму ў няшчасці таварышу – таварышы нядолі ў дзень ростані на доўга, а можа і назаўсёды, запісваюцца на памятку колькімесячнага супольнага побыту на Александраўскай катарзе, з надзеяй на лепшую будучыню, калі не нашую, дык нашых асноваў!..

24 мая/4 чэрвеня

Аляксандар Ланчынскі[2] з Валыні.
Аляксандар Будзынскі[3] з Кароны.
Антоні Касцюшка[4].

[1] M. Janik, *Imionnik sybirski Artemiusza Weryhy*, „Sybirak" 1939, nr 3, s. 35.

[2] Звестак пра А. Ланчынскага з Валыні знайсці не ўдалося. "Сябрамі маладосці" яны маглі быць у часы вучобы ў Забельскай дамініканскай гімназіі ў мястэчку Валынцы на Полаччыне.

[3] Гаворка пра Аляксандра Будзынскага (1833 ці 1837 – 1896) з Люблiншчыны, удзельніка паўстання, сасланага напрыканцы 1865 г. у Аляксандраўск. На падставе царскага маніфесту ад 16.04.1866 г. яму зменшылі напалову пакаранне і накіравалі на будаўніцтва Забайкальскай дарогі. За ўдзел у Кругабайкальскім паўстанні асуджаны паўторна, зноў накіраваны ў Аляксандраўск, а 20.01.1867 г. – ва Усолле, дзе ён зноў мог сустрэцца з А. Вярыгам-Дарэўскім, як, дарэчы, і пазней, бо абодва былі пераведзены на пасяленне ў вёску Урык ля Іркуцка.

[4] Маецца на ўвазе Антоні Касцюшка (нар. каля 1842) з Кіеўскай губ., студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, сасланы за ўдзел у паўстанні на катаргу ва Усходнюю Сібір. У чэрвені 1865 г. прывезены ў Іркуцк, пазней, відавочна, у Аляксандраўск, адкуль у маі 1866 г. накіраваны на будаўніцтва Кругабайкальскай дарогі. Зноў сустрэўся з А. Вярыгам-Дарэўскім на катарзе ва Усоллі, а пасля ў Іркуцку, дзе займаўся кравецтвам у майстэрні Вітольда Гейштара.

Антоні Мёдушэўскі[1] з Украіны.
Пётр Лукашэвіч[2].

Вайдэлоту Беларусі аптэкар з Кароны на памятку шчырага сяброўства.
В. Багуслаўскі[3].
Мікалай Рашкоўскі[4] з Украіны.

Маркотна ў Сібіры польскім выгнанцам, а калі нават часам якое вяселле прабяжыць праз сэрцы нашыя, то Вам толькі за яго ўдзячны – Вашым песням, простым і шчырым. Дык прыміце, п. Арцём, падзяку і прызнанне глыбокае пашаны ад свайго таварыша па нядолі, які ідзе, гнаны ў стэпы Забайкальскія, цярпець новыя пакуты.
Альбін Паплаўскі[5] з Украіны.
Эдвард Міхалоўскі[6] з Украіны.

На памятку пры ростані:
Тафіль Мышкоўскі[7].
Якуб Райнер[8].
Януш Касакоўскі[9].
Адрыян Памарнацкі[10].
Тэафіль Гіжынскі[11].

---

[1] Антоні Мёдушэўскі, студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, сасланы за ўдзел у паўстанні на катаргу. Заўзяты ўкраінафіл. Пакаранне адбываў за Байкалам; відавочна, у маі 1866 г. быў у Аляксандраўску. Паўторна асуджаны за ўдзел у Кругабайкальскім паўстанні і накіраваны на бровар у Аляксандраўску; у 1867 г. пераведзены на саляварны завод ва Усоллі. У 1874 г. выехаў на пасяленне ў Екацерынаслаўскую губ., а пазней атрымаў дазвол вярнуцца ў край.

[2] Звестак пра Пятра Лукашэвіча не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксавана 17 асоб, якія мелі такое прозвішча.

[3] Віктар Багуслаўскі (нар. каля 1842 г.), шляхціц з Радамскай губ., за ўдзел ў паўстанні аддадзены ў салдаты, а за адмаўленне ад прысягі асуджаны на 16 гадоў цяжкіх работ. Пакаранне адбываў у Аляксандраўску, пасля ва Усоллі. Працаваў у аптэцы ссыльных, а пазней у прыватнай аптэцы ў Іркуцку. Вярнуўся ў Варшаву, але хутка выехаў у Стаўрополь.

[4] Мікалай Рашкоўскі з сакавіка 1868 г. па 1871 г. адбываў ссылку ў Вяцкай губ. Звестак пра яго побыт ва Усходняй Сібіры не выяўлена. Гл.: *Библиографический справочник участников восстания 1863–1864 гг., находившихся под надзором полиции в Вятской губернии* [у:] П.Н. Луппов, *Политические ссыльные в Вятской губернии в 1825–1905 гг.*, Киров 1947.

[5] Альбін Паплаўскі (нарадзіўся каля 1841 г.), шляхціц з Кіеўскай губерні, за ўдзел у паўстанні асуджаны на 8 гадоў цяжкіх работ. На думку В. Слівоўскай, катаргу адбываў за Байкалам, але *Сібірскі альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага сведчыць, што ў маі 1866 г. быў у Аляксандраўску. Паўторна асуджаны на бестэрміновую катаргу за Кругабайкальскае паўстанне, у якім мужна змагаўся.

[6] Звестак пра Эдварда Міхалоўскага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксавана 3 асобы, якія мелі такое прозвішча.

[7] Звестак пра Тэафіля Мышкоўскага не выяўлена.

[8] Якуб Райнер (нарадзіўся каля 1840 г.), варшаўскі аптэкар, удзельнік паўстання 1863 г., сасланы ва Усходнюю Сібір. Паводле *Сібірскага альбому* А. Вярыгі-Дарэўскага ў маі 1866 г. быў у Аляксандраўску. Адзін з арганізатараў Кругабайкальскага паўстання летам 1866 г. Расстраляны ў Іркуцку 15(27) лістапада 1866 г.

[9] Януш Касакоўскі, шляхціц Вількамірскага пав. Ковенскай губ. Асуджаны на 4 гады катаргі на заводах.

[10] Звестак пра Адрыяна Памарнацкага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксавана 3 асобы, якія мелі такое прозвішча.

[11] Тэафіль Гіжынскі, шляхціц, асуджаны на высылку з пазбаўленнем правоў, у 1865 г. знаходзіўся ў Ялутароўску. Гл.: *Список участников восстания 1863–1864 гг., сосланных в Западную Сибирь* [у:]

Караль Дырмант[1].
Аляксандар Галіноўскі[2].
Уладзіслаў Круковіч[3].
Адольф Аніхімоўскі[4], беларус.

З Каралеўства Польскага, губерні Любельскай, павету Лукаўскага:
Леон Каняшоўскі[5].
Норберт Багдановіч[6].

Кракус прыхільны
Ксавэры Рушкоўскі[7].
Вінцэнты Марцінкоўскі[8] з Украіны.
Браніслаў Раднеўскі[9], Беларусь.
Александар Ляшчынскі[10] з Валыні.
Тамаш Энджэеўскі з Валыні[11].
Юліян Монтаўт[12] з Коўна.
Аляксандар Янішэўскі[13] з Жытоміра.
Ксавэры Светлік[14], мінчук.

---

С.В. Мулина, *Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке*, Омск 2005. *Сібірскі альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага сведчыць, што ў маі 1866 г. ён быў у Аляксандраўску.

[1] Звестак пра Караля Дырманта не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання вядомы толькі Канстанцін Дырмант, сын Казіміра, (нар. каля 1848 г.), шляхціц Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ.

[2] Звестак пра Аляксандра Галіноўскага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання вядомы толькі Юльян Галіноўскі, шляхціц Магілёўскай губ., тытулярны саветнік, і Аляксандар Галінскі, які з 1872 г. знаходзіўся пад наглядам паліцыі ў Якуцкай губ.

[3] Уладзіслаў Круковіч, шляхціц Аршанскага пав. Магілёўскай губерні. Высланы на 8 гадоў катаржных работ на заводах. Быў спачатку ў Аляксандраўску, пасля ва Усоллі. Паўторна асуджаны за Кругабайкальскае паўстанне.

[4] Аніхімоўскі Адольф, шляхціц Аршанскага павета Магілёўскай губерні. Сын Рафала. Меў брата Сігізмунда. Разам з калегамі з Горы-Горыцкай земляробчай школы далучыўся да аддзела Тапара (Людвіка Звяждоўскага). Асуджаны на 4 гады цяжкіх работ, высланы на руднік Кутамара (Нерчынск). Але, відаць, спачатку пакаранне адбываў у Аляксандраўску.

[5] Звестак пра Леона Каняшоўскага не выяўлена.

[6] Норберт Багдановіч, шляхціц Віцебскай губ. Служыў ў канцылярыі Віцебскай Палаты дзяржаўных маёмасцяў.

[7] Звестак пра Ксавэры Рушкоўскага не выяўлена. У спісах удзельнікаў паўстання ёсць як Рушкоўскія, так і Рашкоўскія.

[8] Вінцэнты Марцінкоўскі, сын Антона (нарадзіўся каля 1833 г.), шляхціц Валынскае губерні; за ўдзел у паўстанні асуджаны на 10 гадоў цяжкіх работ. Спачатку быў у Аляксандраўску, адкуль накіраваны на будаўніцтва Кругабайкальскае дарогі. Паўторна асуджаны за паўстанне летам 1866 г. Ад 1867 г. ва Усоллі, дзе працаваў як скульптар і ювелір.

[9] Браніслаў Раднеўскі (каля 1845 – каля 1906), шляхціц Горыцкага павета Магілёўскай губерні. Вучыўся ў Горы-Горыцкай земляробчай школе (на таксатарскіх курсах), быў у аддзеле Тапара; асуджаны на 6 гадоў цяжкіх работ, якія адбываў у Аляксандраўску. На пасяленне накіраваны ў Балаганскую акругу, але жыў у Іркуцку, дзе і памёр.

[10] Аляксандар Ляшчынскі, шляхціц Трокскага павета Віленскае губерні.

[11] Звестак пра Тамаша Энджэеўскага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксаваны тры асобы, якія мелі такое прозвішча.

[12] Звестак пра Юліяна Монтаўта не выяўлена.

[13] Звестак пра Аляксандра Янішэўскага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксаваны чатыры асобы, якія мелі такое прозвішча.

[14] Ксавэры Светлік, шляхціц Барысаўскага пав. Мінскай губ. Быў уладальнікам фальварку Чмялевічы.

Гаргоні Сухорскі[1] з Валыні.

На памятку дарагому прыяцелю занатоўваю сваё імя:
Юзаф Грыневіч.[2]

Evviva Polonia!!![3]

Альфонс Недэрмайер.[4]
Ян Нотдорф[5].

Юльян Пацкевіч[6] на памятку ў час ростані 23 мая 1866 г.

В. Асінскі[7], верны таварыш, 12-гадовы катаржнік.

Якуб Ушакоў[8], 23/11 ліпеня 1866 г. Дай Бог пабачыць цябе як найхутчэй… але толькі шчаслівым у сваім краі.

Казімір Лаўдын[9], д. 17/29 студзеня 1867 г.

---

[1] Гаргоні Сухорскі, сын Вінцэнта (нарадзіўся каля 1819 г.), шляхціц Валынскае губерні; за ўдзел у паўстанні асуджаны на 8 гадоў цяжкіх работ ва Усходняй Сібіры. Пакаранне адбываў у Аляксандраўску. Паўторна асуджаны за Кругабайкальскае паўстанне і накіраваны ва Усолле. У 1870 г. пераведзены на пасяленне ў Ілгінскую акругу, а ў 1877 г. атрымаў згоду на перасяленне ў еўрапейскую частку Расіі.

[2] Звестак пра Юзафа Грыневіча не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксаваны шэсць асоб, якія мелі такое прозвішча.

[3] Няхай жыве Польшча! (італьян.).

[4] Альфонс Недэрмайер – актыўны ўдзельнік Кругабайкальскага паўстання. Ужо пасля расправы над паўстанцамі высветлілася, што быў ён ініцыятарам (разам з Я. Рэйнерам) падпалу Ліханаўскай паштовай станцыі, калі яе не ўдалося захапіць. Тэрмін пакарання павялічаны. Быў адзін з трох (таксама Арцімовіч, Эльяшэвіч), каго не датычыла амністыя 18.05.1873 г. пра звальненне з катаргі (ім адно зменшылі яе да 10 гадоў). Гл.: H. Skok, *Polacy nad Bajkałem. 1863–1883*, Warszawa 1974, s. 298.

[5] Звестак пра Яна Нотдорфа не выяўлена.

[6] Юльян Пацкевіч, шляхціц Свянцянскага павета Віленскай губерні.

[7] Звестак пра В. Асінскага не выяўлена. Сярод удзельнікаў паўстання зафіксаваны шэсць асоб, якія мелі такое прозвішча.

[8] Якуб Афанасьевіч Ушакоў (1840–1912), дваранін Яраслаўскай губерні. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, пазней паручнік 16 стралковага батальёна. Арыштаваны ў 1862 г. у сувязі са справай г. зв. "нядзельных школаў", дзе ён быў выкладчыкам. Сасланы ў Сібір як палітычны злачынец на чатыры гады катаржных работ. Быў спачатку ва Усоллі, пасля ў Аляксандраўску. (Даведнік "*Деятели революционного движения в России*" [Москва 1928, т. I, ч. II] падае, што ў жніўні 1865 г. ён атрымаў дазвол пасяліцца ў маёнтку маці ў Яраслаўскай губерні, але *Сібірскі альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага паказвае, што яшчэ ў ліпені 1866 г. Я. Ушакоў знаходзіўся ў Аляксандраўску.) У 1873 г. вызвалены ад паліцэйскага нагляду. Дзед вядомага савецкага паэта і перакладчыка Мікалая Ушакова (1899–1973).

[9] Казімір Ландын (Лаўдын), землеўласнік Ковенскай губерні; за ўдзел у паўстанні асуджаны на катаржныя работы. Быў спачатку ў Аляксандраўску, пасля ва Усоллі. Пераведзены па амністыі на пасяленне, займаўся гандлем у Іркуцку і Якуціі. Пазней атрымаў дазвол жыць і працаваць у Маскве, дзе цешыўся прызнаннем у асяроддзі тамтэйшых суайчыннікаў. Памёр у 1908 г.

# Нататкі тавяньчыка

Гісторык М. Янік двойчы ў сваіх працах выкарыстоўваў нататкі А. Вярыгі-Дарэўскага, у якіх апавядалася пра дачыненні літаратара з Віцебска з невялікаю групаю выгнанцаў, што вызнавала ідэі Андрэя Тавяньскага. Верагодна, гэтыя нататкі – копіі лістоў, якія дасылаліся ім на бацькаўшчыну. Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: M. Janik, *Towiańczycy na Syberji*, Kraków 1930, s. 10 (odbitka z „Przeglądu Współczesnego”, nr 98–99, Czerwiec-Lipiec 1930). Канцовы фрагмент (у першай публікацыі ён крыху зменены) падаецца паводле: M. Janik, *Wołyniacy na Syberji*, „Rocznik Wołyński” 1931, t. II, s. 310–312.

### [Фрагменты *Успамінаў*]

Тыдзень як пасяліўся з намі трэці калега[1], Юзаф Нядзінскі. Эмігрант з Кангрэсоўкі ў 1848 г., пасля 15 гадоў туляцтва далучыўся на роднай зямлі да агульнае нацыянальнае барацьбы. Адсюль, як і іншыя, ён быў высланы на цяжкія работы. У туляцтве па Францыі і іншых краінах Захаду займаўся як духоўнаю працаю дзеля маральнага ўдасканалення, так і іншаю дзеля кавалка хлеба, хоць ад французскага ўраду атрымліваў 25 франкаў дапамогі. Добрая галава і несапсаванае сэрца лёгка знайшлі шлях да сваіх у эміграцыі. Пазнаёміўся ён з вядомым і несправядліва ў краі з-за няведання справы пакрыўджаным Андрэем Тавяньскім і яго паплечнікамі: Адамам, генераламі Скрынецкім і Каралем Ружыцкім, кс. Дуньскім, Стафанам Занам, братам Тамаша, і шматлікімі іншымі[2]. Моцаю хрысціянскіх пачуццяў і яснасцю праўды прыцягнуты, ён стаў іх паслядоўнікам і сёння сярод нас вядомы як тавяньчык…

На колькі цікавы мне такі чалавек, вы лёгка зразумееце, бо ведаеце, што я хапаўся з запалам за ўсё, што ў нашай эміграцыі ў мае часы вылучалася. Пра тавяньшчыну чуў вельмі многа. Чытаў *Biesiadę*[3], якую працаю Тавяньскага ў краі лічылі, чытаў *Mickiewicz odsłoniony i towiańszczyzna*[4] і іншыя брашуркі, што ганьбавалі тавянізм. Яснага паняцця пра ўсё гэтае мецць, вядома, не мог, ажно цяпер тут, у Сібіры з радасцю магу закончыць у сабе тое, ад чаго, стрыманы сардэчнаю абачнасцю Тамаша Зана[5], быў яшчэ так далёка. Сёння з радасцю адчуў, што я з рук дарагое матулі выйшаў з навукаю Тавяньскага, якая ўся цалкам належыць да асноў вучэння Хрыста і ўвядзеннем яго ў жыццё.

Баламуцяць тыя, што хочуць давесці, нібы тавянізм адмаўляе чын. Наадварот, без чыну няма ў яго нічога. Найлепшыя словы, самае ўзнёслае імгненнае пачуццё, не

[1] Невядома якога часу гэты запіс. Ю. Нядзінскага не было сярод тых, хто пакінуў свае нататкі ў *Сібірскім альбоме* А. Вярыгі-Дарэўскага, а г. зн., што пазнаёміцца яны маглі толькі пасля таго, як беларускі паэт быў пераведзены на Усольскі саляны завод. Гэта магло здарыцца напрыканцы 1866 г. ці напачатку 1867 г. Другім калегам быў, бясспрэчна, Юзаф Лазінскі.

[2] А. Вярыга-Дарэўскі пералічае сяброў “Кола божай справы”.

[3] Тэасафічная праца А. Тавяньскага, напісаная ў 1839 г. у Парыжы пасля другога “аб’яўлення”.

[4] Гаворка пра кнігу-памфлет Уладзіслава Галамбёўскага *Mickiewicz odsłoniony i towiańszczyzna* (Paryż 1844).

[5] Гэтыя словы А. Вярыгі-Дарэўскага сведчаць, што ён быў знаёмы з Тамашом Занам, апошнія гады жыцця якога прайшлі ў маёнтку Кахачын на Аршаншчыне.

ўзведзенае ў чын – гэта, на яго думку, нават абраза Бога. Усё гэта бачым у апошнім паўстанні, у шарэнгах якога сталі тавяньчыкі. Ксяндзы Ялавецкі і Семяненка, як тыя з духавенства апошніх часоў, неахвотныя да чыну, навуку Тавяньскага спарадзіравалі. Сама *Biesiada*, якая ўласна ёсць зборам нататак Скрынецкага, запісаных паводле думак, слоў і ідэй Тавяньскага, у шчырых размовах выказаных, чаму ўласна і *Biesiadą* названая, імі як выдаўцамі пакалечаная да непазнавальнасці; да такое ступені былі нядобрасумленнымі з чужою працаю, што нават арфаграфічныя знакі дзеля зацьмення і скрыўлення сэнсу перастаўлялі і пераіначвалі. Праўда, і гэтым не маглі Тавяньскаму шкодзіць, бо ён сам нічога зусім не піша, а толькі тым, хто шукае парады ў разнастайных клопатах і разнастайных засмучэннях душы, пацеху дае з усёй шчырасцю, братэрствам і пакораю. І не дзіўна, што духавенства, а нават і троны перад прастаком затрывожыліся, пачуўшыся слабымі перад ягонаю моцаю настолькі, наколькі маною былі прасякнуты.

З трывогі найчасцей альбо ад здзіўлення пачынаецца рэакцыя ў чалавеку і рэвалюцыя ў народзе. Імкненне да праўды, якое выяўляў Тавяньскі, не мела рысаў таго спакою, якім дыхае грунтоўнае перакананне; саманадзейныя і ганарыстыя бачылі ў ціхім і пакорным саманадзейнасць і ганарыстасць. Напрыклад, закідалі яму, што называе людзей божымі дзецьмі. На што незацікаўлены кс. Дуньскі, які яшчэ не належаў да таварыства Тавяньскага, звярнуў іх увагу на першыя два словы Панскае малітвы *Ойча наш*. А колькі фальшывых дадаткаў прырасло да таго аповеду пра бытнасць Тавяньскага ў Людвіка Філіпа, пра збліжэнне яго з Адамам і вылекаванне яму жонкі! Ва ўсім бачна злосць устрывожаных і зайздрасць ды чуваць неспакой узрушанага сумлення.

Дзіўная справа: невялікая колькасць асоб, у спакоі, цішыні і пакоры ўдасканальваючыся ў хрысціянстве і ахвотным збаўленчых прынцыпаў удзяляючы, столькіх абурыла ў той час, калі кожны, хто іх даткнуўся, адчуў сапраўдную свабоду і найпрыемнейшае ўзрушэнне. Севярын Гашчынскі, вядомы сваёй паслядоўнасцю паэт самых чыстых звычаяў і шляхетны чалавек, ці ж дакрануўся б ён да фальшу і бруду? Ці ж у чыстай душы Караля Ружыцкага не з’явілася б адчування, што ён хіліцца да подласці? Сам таварыш мой Нядзінскі кожнага з разважных хрысціянаў з навукаю Тавяньскага лёгка пагодзіць, калі толькі з ім пажыве, калі толькі ў душу яго глыбей зазірне.

Усе прыземленыя мудрагелі закідаюць Тавяньскаму найвялікшую саманадзейнасць і ганарыстасць у тым, што называе сябе прарокам. Запытаемся: дзе ён так сябе называе? Калі і дзе займаецца прароцтвамі? А калі тым, хто просіць рады, даверліва паказвае ў прастаце духа наступствы іх учынкаў і прадбачыць іх, дзеля чаго дастаткова чыстага розуму і чыстага хрысціянскага сэрца, дык жа яшчэ не прарочыць, яшчэ не саманадзейны і не ганарысты. Аднак тое, што маем ў сабе, такім ці іншым чынам, бо жывыя, мусім і павінны выяўляць. Толькі ад духа, у якім выяўляем, моц нашае ахвяры і яе святасць залежыць.

Што да мяне, дык збаўленчай я лічу навуку, якая як вучонага, так і прастака на шлях мажлівага спакою шчасця скіраваць можа, што людзей збліжае, лучыць вузлом духоўным адзінства ідэі, надзеі і веры, што ў адну сям’ю іх горне і агнём братняе міласці запальвае. Чаго яшчэ мы патрабуем? У чым бы іншым можам убачыць тое Божае Каралеўства на зямлі? Я ведаю пра хатняе, сямейнае жыццё Тавяньскага і з усёй шчырасцю прымаю ягоную навуку. З-за такіх вось шчаслівых збліжаецца і чаканае Божае Каралеўства, і нашая Айчына. Рыцар на полі бою ў святой справе мусіць быць перш за ўсё пераможцам самога сябе. Інакш змарнуюцца ўсе нашыя высілкі, як

змарнаваліся ранейшыя. А навука Тавяньскага ўласна дзеля знаходжання самога сябе вядзе. Паглыбляйма яе, а не наракайма на чысты дар брата; будуць гэта пярліны, кінутыя свінням, а мы яшчэ доўга і доўга тымі апошнімі[1]...

Вечар Новага году[2] я правёў у таварыстве двух калегаў як запрошаны госць. Юзаф Нядзінскі, званы ў нас людзьмі простымі «тавяньчыкам», запрасіў мяне на гэты вечар да сябе. Трэцім нашым таварышам быў Юзаф Лазінскі, што жыў разам з Нядзінскім і які апавядаў смешныя гісторыі з жыцця ганарыстых украінцаў, да чаго меў вялікі дар.

Гаварылі мы, натуральна, нямала пра Тавяньскага, пра іх хрысціянскае братанне. Аніякае там секты, аніякіх зямных мэтаў. Аніякая нават дактрына, штучна выведзеная пыхаю і зазнайствам з рэлігіі, каб дурманіць прастакоў і цягнуць з іх матэрыяльную ці маральную карысць для сябе. Я думаю, што Андрэй Тавяньскі як глыбокі мысляр-хрысціянін, не заплямлены нічым у жыцці: калі спаўняў абавязкі грамадзяніна, ці ўсякія іншыя, Ласкаю Божаю, як мы кажам, ці розумам, як кажуць мудрагелі, заглыбіўся ў шчырую, адвечную праўду, з лепшым вынікам, чым тлумы тэолагаў і кожнаму жывому, г. зн. хто шукае святла гэтае праўды, хто ваюе з самім сабою, – адкрывае яе лёгка і ясна, дакладна стасуючыся да развіцця кожнага, бо ж да ўсіх мае міласць і з-за мыслення над жыццём дасканалую, глыбокую яго знаёмасць.

Таму, адыходзячы, пацешаныя называюць яго настаўнікам, а сябе – колам братоў, што ўзяўшы моцы ў духа, бо грунтоўна перакананыя, як тыя апосталы, без інструкцыі, без згоды на нейкі раней складзены кодэкс, адчуваюць абавязак рупліва ўвасабляць навуку Хрыста і, самі зазнаўшы шчасця, намагаюцца бліжніх гэтаму шчасцю навучыць. Адсюль натуральным наступствам – і ўзаемная дапамога, і зацікаўленасць, і падтрыманне пастаянных адносінаў, як між тымі, што зразумелі і палучыліся ў духу. Што тут дзіўнага, што шкоднага грамадству? А так абураюцца і ксяндзы, і іншыя касты, якія іх падтрымліваюць, бо баяцца нараджэння чалавека сумленнага, дасканалага. Ці гэтае самае абурэнне аж да калечання шчырых і ясных слоў Андрэя, для шмат каго так зразумелых, не даводзіць устрывожанасці і неспакою ў адносінах да чыстага сумлення зганьбаванае істоты?

Тавяньскі, хоць і непрызнаны за сумленнага Слугу Божага усім сваім народам, аднак шмат у сваім брацтве знакамітых налічвае, напрыклад, Караля Ружыцкага, Севярына Гашчынскага, Адама і шматлікіх іншых, апрача здарэнняў у жыцці, годных увагі, і вартага падзіву прыроднага развіцця, мае адметнасці матэрыяльныя, для прыхільнікаў ягоных цікавыя. Выпукласць, напрыклад, на галаве, на якую калі аднойчы цікавы і глыбокі нямецкі фрэнолаг зірнуў, дык ад здзіўлення аслупянеў. Вы ўжо ведаеце, што падобныя гузы запавядаюць тыя альбо іншыя здольнасці. Дык вось немец-вучоны, а быў гэта нейкі знакаміты вучоны, у той выпукласці на галаве Андрэя заўважыў нечуваную маральную моц і развітаўся з ім глыбока задуманы. Вока, скажу так, псіхічна праніклівае, жывое і да сэрца сягае.

А той жа выхад у свет з эпохаю? Невядомы суд Божы. А што калі патлумачаная ім місія нашага народу і паказаныя для выканання яе шляхі ў будучым акажуцца праўдзівымі? Калі пакаранне Божае тлумачыць праўдзіва, як поўны Божае Ласкі, на думку

[1] M. Janik, *Towiańczycy na Syberji*, Kraków 1930 (odbitka z „Przeglądu Współczesnego", nr 98–99, Czerwiec-Lipiec 1930, czcionkami drukarni „Czasu" w Krakowie), s. 10.

[2] Апісанне навагодняга вечару М. Янік падаў у двух сваіх публікацыях. Адна з іх больш поўная.

нас, прастакоў, а глыбокі мысляр, на думку мудрых, дык каму будзе сорамна за адкіданне сапраўднай хрысціянскай мудрасці?

Ніколі мяне не вабілі (…) аніякія секты, таварыствы, купкі, бо харугва Збавіцеля павінна і мусіць адно згуртаваць і аб'яднаць усё чалавецтва як сям'ю. Не спакушае мяне тавяньшчына як, на думку шмат каго, таварыства, чаго я не заўважаю. Аднак бачу ў Тавяньскім нейкую моц і сілу вышэйшую, а хутчэй адчуваю яе. Мне здаецца, што ён – адзін з тых, што ўласна шчаслівей і бліжэй гэтае харугвы сталі і іншых да яе прыцягваюць, перакананыя, што тут бяспека і спакой ды будучы лад грамадскі. Не ўдаюся ў разважанні, а толькі па ўзору вось гэтых слоў нашага люду, пачутых у часе нашага руху, "***помажы Божэ таму, хто аб нас думае***"[3], скажу: "памагай Божа таму, у кім праўда і прага дабра чалавецтва".

На вячэры ў Нядзінскага не скрыўдзілі мы і цела. Гарбатка з цукрам, малаком і хлебам, да яе вяндлінка і сала, шмат печанае бульбы з соллю – гэта ледзь не абжорства на страўнікі выгнаньчыя[4].

[3] Словы пададзены па-беларуску. Заўважым: яны сведчаць пра прыхільнае стаўленне сялян да паўстанцаў.
[4] M. Janik, *Wołyniacy na Syberji*, „Rocznik Wołyński" 1931, t. II, s. 310–312.

# РЭЦЭНЗІЯ НА ПЕРШУЮ КНІЖКУ

Нататка без подпісу пра кніжку А. Вярыгі-Дарэўскага *Gawędka o Swojaku* надрукавана ў № 283 "Gazety Codziennej" (Варшава 1859, 13/25 кастрычніка). Газету рэдагаваў у той час Ю.І. Крашэўскі, які – хутчэй за ўсё – і з'яўляўся аўтарам дадзенай рэцэнзіі. А. Вярыга-Дарэўскі ведаў пра гэтую публікацыю (газету г. зв. віцебская рэсурса стала выпісвала) і нават згадаў пра яе ў сваім лісце да А. Кіркора/"Kurjera Wileńskiego" ад 23 снежня 1859 г. Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы.

## Айчынная літаратура[5]

***Gawędka o Swojaku* pr. Białoruską Dudę. (Z *Teki Białoruskich obrazków Nr 1*). Mohylew. Nakładem J. Sirkina 1858. – *Moja Teka i jej zasoby w różnych chwilach zbierane,* przez Feliksa Romanowskiego. Nakładem autora. Warszawa 1860.**

Два аўтары – маладыя, на колькі можна меркаваць – адчынілі нам свае партфелі. У адным з іх – паэзія, часта яшчэ як нераплаўленая ў чысты і шляхетны метал руда, у другой – проза, здаецца, проста руда, з якой немагчыма атрымаць карысны метал.

Ахарактарызуем іх сцісла.

Зусім не гутарку праспяваў нам беларускі дудар. Нібы на апавядальнай аснове тчэцца тут шэраг шчырых выказванняў, лірычных развагаў пра чалавека небагатага, пачцівага, але які не шукае ў свеце славы, які ціха памёр; развагаў, звязаных з эгатычным выяўленнем духу. Гэты лірычны фон нейкаю цёмнаю і туманнаю барваю ахінае песню пра сваяка Беларускае Дуды; гэтая чуллівасць, падыктаваная пачуццём, складае адзіную, можа, досыць, аднак, рэдкую ў наш час вартасць гэтае маленькае кніжкі, якая змяшчае першы нумар з *Партфеля беларускіх малюнкаў*. Чаму беларускіх? – мы насамрэч не ведаем. Край, аточаны берагамі Дзвіны і Дзіснянкі, даў паэту няшмат характэрных рысаў, а, зрэшты, не ставіў ён задачу яго ахарактарызаваць, гэта відавочна; людзі, хоць тут мала людзей, такія, як і ўсюды, пачуцці, хоць без вялікае любові, што прагне даць цэламу свету лепшае жыццё адным палкім пацалункам, але, перадусім, не павятовыя.

Хоць сціплы палёт і не абяцае, што аўтар *Беларускага Партфеля* можа заняць месца побач з арламі нашае паэзіі, аднак з часам, калі талент, што відочна прабіваецца з гэтых, недастаткова добра палучаных між сабою фрагментаў, дойдзе да ўсведамлення ўласнага "я" і мастацкіх мэтаў, мы будзем яго з прыемнасцю слухаць, як жаўрука, што чулліваю ранішняю песняю вітае вясну, якая дыхае цяплом спакою і пачцівасці.

Разам з патрэбаю мастацкіх мэтаў, веры ў сябе і ўсведамлення свайго таленту, на недахоп якіх паказвае ўжо апавядальны змест гэтае кніжкі, менш адпаведны і патрэбны лірычным песням, просім у будучым больш чыстае мовы.

Гэта ўсё пра Беларускую Дуду [...].

---

[5] Назва газетнай рубрыкі.

# ШЛЯХАМІ І СЦЕЖКАМІ ПАЭТА

Ялегі Пранціш Вуль (Элегій Францішак Карафа-Корбут) спакваля заняў сталае месца ў гісторыі беларускае літаратуры. І гэта нягледзячы на тое, што ў ягоным паэтычным даробку толькі адзін беларускамоўны верш. Але, праўда, які! Твор з *Альбома* Арцёма Вярыгі-Дарэўскага *K Dudaru Arciomu at naddźwińskaha mużyka*, хіба, найлепшы ва ўсёй беларускамоўнай паэзіі XIX стагоддзя.

Гісторыкі літаратуры звярнулі ўвагу на гэты тэкст напачатку XX ст.: Браніслаў Тарашкевіч выявіў *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага ў зборах Віленскага таварыства сяброў навук і апублікаваў верш Ялегі Пранціша Вуля ў газеце "Наша ніва" (1912, 9 лістапада). Сапраўднае імя паэта было яшчэ невядома[6]. І толькі Яўхім Карскі, які працаваў над трэцім томам свайго даследавання *Белорусы*, з дапамогай Рамуальда Зямкевіча давёў: "Его имя Franciszek Elegiusz Karaffa-Korbutt. Умер в Варшаве в 80-х г. У него в Варшаве собирался белорусский кружок: Плуг (Петкевич А.), Коротынский и др. Сообщение Р. Земкевича"[7]. Абазнаны Р. Зямкевіч з невядомай крыніцы правільна расшыфраваў псеўданім Э.Ф. Карафа-Корбута[8]. Аднак беларускае літаратуразнаўства "вярнулася" да Элегія Пранціша Вуля толькі ў другой палове XX ст. Па-першае, у 1965 г. твор быў перадрукаваны з "Нашай нівы ці хрэстаматыі М. Гарэцкага (*Дзень*

---

[6] Рэдакцыя "Нашай нівы", каментуючы публікацыю, фактычна, не звярнула ўвагі на мастацкія асаблівасці гэтага верша. Для яе больш важным была асоба ўладальніка *Альбома*: "Верш гэты напісаны Арцёму Вэрызе Дарэўскаму у яго *Альбум*. Вэрыга-Дарэўскі ў сярэдзіне XIX сталецьця быў цэнтрам беларускаго руху; сам ён шмат пісаў па беларуску, але з яго твороў цяпер вядомы адны, бадай што, загалоўкі. А. Вэрыга-Дарэўскі шмат пісаў: – вядома колькі загалоукау, напісаных ім паэм і пераклад *Конрада Валенрода* А. Міцкевіча. Калі-б хто з нашых чытачоу і прыхільнікоу ведаў што аб А. Вэрызе-Дарэўскім, ці меу-бы якіе творы яго у сябе, то вельмі-бы мы прасілі прыслаць у Рэдакцыю, для апрацаваньня яго біографіі". Мажліва, водгукам на гэтую публікацыю стаў ліст Р. Зямкевіча ад 10 мая 1913 г. Б. Тарашкевічу і Станіславу Касцялкоўскаму, у якім падаваліся звесткі пра А. Вярыгу-Дарэўскага, а таксама верш *Litwinam zapisauszymsia u moj* Albom *na pażegnańnia*. Гл.: ЦНБ НАН Беларусі, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405: *Письмо Ромуальда Земкевича со сведениями о жизни и творчестве Артема Вериги и стихотворение А. Вериги* Літвінам, запісаўшымся ў мой альбом на пажэгнане*, переписанное Ромуальдом Земкевичем. 1913, май 10. Листов 15.*

[7] Гл.: Е.Ф. Карскій, *Белорусы*, т. III: *Очерки словесности белорусскаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народном языке*, Петроград 1922, с. 296. Яшчэ раней фрагменты гэтае працы з'явіліся ў беларускай перыёдыцы, адкуль звесткі пра Вуля-Корбута трапілі ў *Гісторыю беларускае літэратуры* (Вільня 1920) і *Хрыстаматыю беларускае літэратуры* (Вільня 1922) Максіма Гарэцкага.

[8] Праўда, Аляксандар Цвікевіч, не раскрываючы крыніц, сцвярджаў іншае: "Па нашых звестках, ён [верш *K Dudaru Arciomu at naddźwińskaha mużyka*. – М. Х.] быў напісаны А. Плугам у *альбум* Вяр.-Дарэўскаму, які (*альбум*) да вайны знаходзіўся ў Віленскім Muzeum T-wa Przyjaciół Nauk". Гл.: А. Цьвікевіч, *"Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.*, Мінск 1993, с. 106]. Беларускія даследчыкі, аднак, пацвердзілі правільнасць інфармацыі Р. Зямкевіча: "Уласнаручныя паказанні Корбута <...> напісаны тым жа почыркам, што і верш *К дудару Арцёму*. Такім чынам пацвярджаецца справядлівасць меркавання Зямкевіча: «Вуль» – псеўданім Корбута" (Г. Кісялёў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі* [у:] Г. Кісялёў, *Загадка беларускай* Энеіды, Мінск 1971, с. 166–167). Сёння маем яшчэ адно дакументальнае сведчанне: ліст Э.Ф. Карафа-Корбута да Эдварда Жалігоўскага ад 12 лютага 1859 г. Гл. ніжэй.

*паэзіі – 65*, Мінск 1966). Па-другое, шэраг навукоўцаў (Ісідар Бас[1], Адам Мальдзіс[2], Мікола Грынчык[3], Віктар Каваленка[4] і інш.) у сваіх даследаваннях пачалі згадваць пра пра таленавітага паэта і аналізаваць ягоны верш, а Генадзь Кісялёў змог з дапамогай архіўных дадзеных узнавіць асобныя старонкі ягонай біяграфіі[5]. У сваіх публікацыях, вывучаючы праблему атрыбуцыі паэмы *Тарас на Парнасе*, навуковец звярнуў ўвагу, што "беларускі верш Вуля *К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка* (1859 год) па чысціні гучання, па бездакорнай культуры сілаба-танічнага верша з усёй беларускай паэзіі XIX стагоддзя, бадай што, найбольш блізкі да *Тараса на Парнасе* <...> Сваім талентам Вуль настолькі блізкі да таленту аўтара *Тараса на Парнасе*, што міжволі прыходзіць у галаву, а ці не Вуль напісаў паэму"[6]. Але адразу ж дадзеную гіпотэзу даследчык адкідае па наступных прычынах: 1. "*Тараса* напісаў чалавек, цесна звязаны з рускай культурай"[7]; 2. "Калі б Вуль напісаў Тараса, пра гэта, мабыць, ведаў бы праз Вярыгу Аляксандар Рыпінскі і не прыпісваў бы яе Канстанціну Вераніцыну"[8]; 3. "Пад канец жыцця, у 80-х гадах, Вуль жыў у Варшаве, падтрымліваў сувязі з Вінцэнтам Каратынскім, Адамам Плугам, якія, думаецца, данеслі б да нас таямніцу аўтарства"[9]. Гэтых аргументаў, сфармаваных ў 1970-я гг., Г. Кісялёў прытрымліваўся ўсё жыццё. І нават, нягледзячы на тое, што ён так і не знайшоў "галоўнага аргумента"[10] для пацвярджэння свае гіпотэзы, усё ж лічыў Канстанціна Вераніцына асноўным прэтэндэнтам на аўтарства славутае паэмы. Праўда, адказваючы на аргументы апанентаў[11], навуковец часам адступаўся ад сваіх сцверджанняў: "Аддаючы перавагу

---

[1] І. Бас, *Забытыя імёны*, "Літаратура і Мастацтва" 1956, 13 кастр.

[2] А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1966, с. 82–84.

[3] М. Грынчык, *Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі*, Мінск 1969, с. 85.

[4] В. Каваленка, *Уплывы. Вытокі. Паскоранасць: Развіццё беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў*, Мінск 1975, с. 122–124.

[5] Упершыню звесткі пра Ялегі Пранціша Вуля Г. Кісялёў падаў у артыкуле *Арцём Вярыга-Дарэўскі* ("Полымя" 1966, № 4, с. 143–154 і № 5, с 163–174), адкуль яны (з памылкамі, праўда) трапілі ў хрэстаматыю *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (Мінск 1971, с. 352). Гэты артыкул стаў пазней раздзелам кнігі Г. Кісялёва *Загадка беларускай* Энеіды (Мінск 1971, с. 144–212). Асобны раздзел прысвечаны Ялегі Пранцішу Вулю ў кнізе *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.* (Мінск 1977, с. 367–376). Звесткі пра беларускага паэта дапаўняліся і ўдакладняліся ў наступных публікацыях Г. Кісялёва: *Пошукі імя* (Мінск 1978), *Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия* (Мінск 1989), *Хто вы, Карафа-Корбуты*? ("Полымя" 1992, № 3, с. 172–187), *Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы* Энеіда навыварат *і* Тарас на Парнасе (Мінск 2005).

[6] Г. Кісялёў, *Пошукі імя*, Мінск 1978, с. 244–245.

[7] Г. Кісялёў, *Не ўсё так проста, калега*!, "Чырвоная змена" 2005, № 20.

[8] Г. Кісялёў, *Пошукі імя...*, с. 245.

[9] *Ibidem*.

[10] Гэты аргумент, паводле слоў самога Г. Кісялёва, – літаратурны талент: "Разам з тым трэба прызнацца, што для пераканаўчасці намаляванай намі карціны не хапае адной «дробязі»: пакуль што ў нас няма аніякіх дадзеных аб літаратурнай адароннасці Вераніцына" (*Пошукі імя...*, с. 246). За сорак пошукавых гадоў "дробязь" так і не знайшлася. Цяжка сабе ўявіць, што чалавек таленту аўтара *Тараса на Парнасе* ўсё жыццё будзе займацца адно ці то сельскаю гаспадаркаю, ці то служыць у дзяржаўных установах (Пецярбургскім па сялянскім справах прысутстве, у апараце Міністэрства шляхоў зносін), ці працаваць выкладчыкам (геаграфія, прыродазнаўства, гісторыя ў Маладзечынскай настаўніцкай семінарыі). Не выяўлена аніякіх дачыненняў К. Вераніцына з літаратураю ці журналістыкаю.

[11] Адметны пункт гледжання на пытанне атрыбуцыі паэмы *Тарас на Парнасе* мелі: Сцяпан Александровіч, Уладзімір Казбярук, Пятро Шаўцоў. За апошнія два дзесяцігоддзі з'явіліся публікацыі (М. Хаўстовіч, *Класік*, "Літаратура і Мастацтва" 1995, № 36; І. Запрудскі, *Ялегі Пранціш Вуль і пытанне атрыбуцыі паэмы* Тарас на Парнасе, "Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта",

аўтарству Вераніцына, я заўсёды стаўлю побач Вуля. У шырокім сэнсе *Тарас на Парнасе* – плён тагачаснай віцебскай паэтычнай школы, яскравым прадстаўніком якой быў Вуль. Несумненны ўзаемаўплыў Вераніцына і Вуля, магчымыя і розныя формы сааўтарства”[1]. Аднак, нягледзячы на той факт, што Г. Кісялёў згодны ў пытанні атрыбуцыі паэмы прызнаць нават “сааўтарства”, большасць сучасных літаратуразнаўцаў і публіцыстаў, нібыта не заўважаючы гэтага, адназначна называе “класікам” К. Вераніцына.

Апрача Г. Кісялёва аніхто з даследчыкаў не займаўся вывучэннем перыпетый жыццёвага лёсу К. Вераніцына. Вядома, тая “дробязь”, якую шмат гадоў шукаў навуковец, можа, некалі і будзе выяўлена. Малаверагодна, праўда, але катэгарычна адмаўляць такую магчымасць нельга. Аднак у першую чаргу нашы пошукі павінны быць скіраваны ў кірунку Ялегі Пранціша Вуля. Мы да крыўднага мала ведае пра ягонае жыццё, а пра асобныя яго этапы – нічога. Здавалася б, ці ж складана адшукаць матэрыялы пра сібірскую ссылку Э.Ф. Карафа-Корбута? Ён жа быў пад наглядам паліцыі і без адпаведнага дазволу не мог пакінуць месца свайго побыту, пераехаць у Варшаву. А ці мог загубіцца ў Варшаве нестары яшчэ чалавек? І няўжо дачыненні з Адамам Плугам і Вінцэнтам Каратынскім не мелі аніякага выяўлення (апрача цьмянае згадкі Р. Зямкевіча)?

Беларускае літаратуразнаўства, вядома, спакваля адкажа на гэтыя ды іншыя пытанні. Нашы пошукі, нягледзячы на шэраг знаходак, пакуль не дазваляюць сцвярджаць, што аргументаў на карысць аўтарства Ялегі Пранціша Вуля стала значна больш. Але бясспрэчна тое, што колькасць такіх аргументаў павялічылася.

Нам падаецца, што аргументы гэтыя выяўляюцца не толькі там, дзе ўводзяцца ва ўжытак новыя дакументы, але і пры ўважлівым прачытанні вядомага раней. Пачнём, аднак, з радаводу, які можна скласці на падставе апублікаваных дакументаў, а таксама архіўных матэрыялаў[2].

Літоўскі шляхецкі род Карафа-Корбутаў карыстаўся гербам Корчак: у чырвоным полі тры срэбраныя гарызантальныя бэлькі, прычым кожная наступная (ніжэйшая) бэлька карацейшая за папярэднюю. Кляйнот – наверсе шляхецкае кароны ў залатой чашы палова срэбранага сабакі. Герб належаў князям Славеніі, пасля Венгрыі, адкуль у XIII ст. трапіў у Рэч Паспалітую, дзе ім карысталіся прадстаўнікі 270 радоў.

I. **Пратаплястам** (родапачынальнікам) Ялегі Пранціша Вуля, паводле выяўленых на сённяшні дзень матэрыялаў, з’яўляецца Казімір Карафа-Корбут, які жыў у першай палове XVIII ст.

**II. Сын Казіміра – Восіп (Юзаф, Іосіф)** быў быў чашнікам Аршанскага павету. Памёр да 1795 г. Жонка Восіпа – Брыгіда жыла ў 1795 г. у Гродна ва ўласным доме, падараваным каралём, на Басняцкай вуліцы № 560.

---

вып. 5, Мінск 2004, с. 49–63; вып. 6, Мінск 2005, с. 60–71 і інш.), у якіх сцвярджаецца, што Ялегі Пранціш Вуль мае больш падстаў лічыцца аўтарам славутага твора, чым К. Вераніцын.

[1] Г. Кісялёў, *Не ўсё так проста, калега!*, “Чырвоная змена” 2005, № 20.

[2] *Посемейный список коллежского секретаря Маврикия Фомина сына Караффа-Корбутта, жительствующего Витебской губернии в городе Витебске (Января 31 дня 1844 года)* [у:] Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1248-2-394: *Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о дворянах Анастасии Козловском, Болеславе Улинском, Александре Василевском, Эмилии Франце Караффе Корбуте, Болеславе Вичульском, Станиславе Гелвановском, Антоне Каминском и др., сужденных за участие в мятеже. Начато 28 марта 1864 г. Кончено 11 августа 1867 г.* На 491 листе, с. 295 v.

**III. Дзеці Восіпа і Брыгіды**:

а). Фама (Тамаш) вучыўся ў Віленскім шляхецкім кадэцкім корпусе. Атрымаў ад караля Станіслава Аўгуста грамату, а ў 1791 г. – патэнт на пасаду пінскага каморніка. Жонка Фамы – Барбара, Восіпава дачка з дому Палонская, 1778 г. н. У 1840-я гг. жыла ў сям'і старэйшага сына Маўрыцыя.

б). Фларыян. Памёр у 1831 г. Займаўся справамі шляхецкага паходжання роду Карафа-Корбутаў[1].

в). Антон, паручнік польскіх. Меў дачку Аляксандру, жонку адстаўнога капітана і кавалера Казіміра, сына Вікенція Карафа-Корбута. Іх сыны – Вацлаў Уладзімір і Вікенцій Антон. Апошні ў 1863 г. быў высланы ў Сібір, дзе нарадзіліся яго дзеці – Казімір і Уладзіслаў, што былі прафесарамі Віленскага ўніверсітэта ў міжваенны перыяд.

г). Элеанора. Жыла ў Курляндыі.

д). Ігнат. Ці не самы старэйшы. Жыў у Варшаве.

е). Уршуля. Жыла ў Мсціслаўскім ваяводстве.

ж). Апалонія. Выйшла замуж за Вольфальтэра. Жыла ў Францыі.

**IV. Дзеці Фамы і Барбары:**

а). Маўрыцый, 1800 г. н. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, а ў 1819–1820 н. г. у Акадэміі. Відаць, атрымаў дыплом аб заканчэнні Акадэміі (езуіты, атрымаўшы загад пакінуць межы імперыі, шмат каму са сваіх вучняў выпісалі дыпломы аб заканчэнні Акадэміі). Служыў у дзяржаўных установах Віцебскае губерні (апошні час – перакладчыкам Віцебскае палаты крымінальнага суда). З 1847 г. лічыўся тытулярным саветнікам (IX клас). Ажаніўся на пачатку 1830-х гг. з Антанінаю, дачкою Яна, Сабалеўскаю[2]. Жыў у Віцебску на Трынітарскай плошчы ў доме сталяра Баўтуты. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання на Віцебшчыне. 22 красавіка 1863 г. са зброяй у руках выйшаў з горада, каб далучыцца да паўстанцаў, але на наступны дзень быў арыштаваны блізу станцыі Дыманова. На следстве Маўрыцый Корбут называўся "галоўным бунтаўшчыкам" (як і Арцём Вярыга-Дарэўскі). І хоць улады не здолелі давесці віну падсуднага, аднак вырак ваеннага суда пры Віцебскім батальёне ўнутранай варты – бестэрміновая катарга. Праўда, заключэнне Часовага палявога аўдытарыята ў Вільні (12 жніўня 1864 г.) было лягчэйшым: А. Вярыга-Дарэўскі і Маўрыцый Карафа-Корбут атрымалі па 8 год катаржных работ на заводах.

б). Брыгіда, 1805 г. н.

в). Пляцыда, 1807 г. н.

г). Пятро, 1809 г. н. Лічыўся шляхціцам Пінскага павета Мінскае губерні. Меў жонку Ганну, 1821 г. н. У 1840-я гг. – настаўнік французскае мовы Гродзенскай гімназіі.

д). Ігнат, 1811 г. н. Меў жонку Рэгіну, 1816 г. н. У 1840-я гг. жыў у маёнтку Угрынічы Пінскага павету.

е). Восіп, 1814 г. н.

ж). Ян, 1816 г. н. У 1840-я гг. быў настаўнікам матэматыкі Віцебскага павятовага вучылішча.

з). Мар'яна, 1819 г. н.

**V. Дзеці Маўрыцыя і Антаніны:**

а). Элегі Францішак. Нарадзіўся 9 красавіка 1835 г.

---

[1] Дарэчы будзе заўважыць, што М. Карафа-Корбуту ўдалося давесці сваё шляхецкае паходжанне: у матэрыялах следства ён і яго сыны нязменна называюцца шляхціцамі.

[2] У 1845 г. падпісалася на кніжку Гераніма Марцінкевіча *Poezije*.

б). Людгард Люцыян, 1837 г. н.[1].

в). Паўлін Вільгельм, 1845 г. н.

Як сведчыць метрычная кніга Віцебскага парафіяльнага фарнага касцёла[2], Элегій Францішак Карафа-Корбут нарадзіўся 9 красавіка 1835 года ў Віцебску[3]. У метрыцы першае імя падаецца як "Францішак". У пазнейшых дакументах (напрыклад, школьных ці матэрыялах следства) паэт называўся па-рознаму: часцей выступаў пад двума імёнамі – "Франц (Францішак) Элегій" ці "Элегій Франц (Францішак)", хоць часам называўся проста "Франц". А вось у тэкстах, напісаных самім літаратарам, абавязкова падаваліся два імя – "Эл*і*гі[4] Францішак" ("Ялегі Пранціш").

У 1846 г. бацька запісаў Элегія Францішка ў Віцебскую гімназію, папярэдне звярнуўшыся да апекуна Беларускае навучальнае акругі ў Вільні Эварэста Андрэевіча Грубера (1792–1859) з просьбаю вызваліць сына ад платы за навуку. Дзякуючы дырэктару вучылішчаў Віцебскае губерні Антону Антонавічу Бернгофу, які даў прыхільную рэзалюцыю ("проситель, служа в канцелярии здешней Палаты уголовного суда, получая весьма умеренное жалование и не имея никакого состояния, действительно находится в бедном положении, а потому и мог бы быть освобожден от платежа за учение сына, с самого поступления в Витебскую гимназию"[5], згода была атрымана.

Вучыўся Э.Ф. Карафа-Корбут дастаткова добра. Напрыклад, у 1850/1851 н. г., нягледзячы на працяглую хваробу (не хадзіў на заняткі са снежня да красавіка), год закончыў паспяхова: здольнасці настаўнік рускае славеснасці ацэньваў на "5", паводзіны – на "5", стараннасць – на "3,75". У V класе было 43 гімназісты, з іх толькі чатыры мелі лепшыя адзнакі[6].

У 1851 г. вучань VI класа Э.Ф. Карафа-Корбут жыў на Селязнёўскай вуліцы. Ён часта наведваецца да свайго аднакласніка Пятра Мальчэўскага (з нейкай прычыны гімназічнае кіраўніцтва з заклапочанасцю глядзела на гэтыя візіты)[7].

Хвароба ("страдает сильным удушьем") давала пра сябе знаць і ў наступным навучальным годзе: Э.Ф. Карафа-Корбут часта прапускаў заняткі. Аднак гэта не перашкодзіла яму вызначыцца на літаратурных гутарках, заведзеных у Санкт-Пецярбургскай навучальнай акрузе[8] яе апекуном Міхалам Мікалаевічам Мусіным-Пушкіным (1795–1862). У кастрычніку 1851 г. ён прачытаў сваё сачыненне *Успаміны дзяцінства і юнацтва* (*Воспоминания детства и юности*), якое было адзначана апекуном акругі 15 чэрвеня 1852 г.: "В 1851/1852 академическом году на литературных беседах в гимназиях вверенного мне округа прочитано 260 сочинений, а именно: в Могилевской – 35, Ви-

---

[1] Згадваецца ў *Посемейном списке коллежского секретаря Маврикия Фомина сына Караффа-Корбутта, жительствующего Витебской губернии в городе Витебске ад 31 студзеня 1844 г.* Верагодна, памёр у дзіцячым узросце.

[2] Гаворка пра фарны касцёл Найсвяцейшай Тройцы (пабудаваны ў 1749 г.), які знаходзіўся на левым беразе Дзвіны (Ніжні Замак). З тае прычыны, што стаяў побач з царквой Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы, зачынены ў 1844 г. Парафіяльным у 1845 г. стаў бернардзінскі касцёл святога Антонія, які знаходзіўся каля Ратушы.

[3] Гл.: *Пачынальнік...*, с. 368.

[4] Менавіта ў такой форме.

[5] Цыт. па: Г. Кісялёў, *Хто вы, Карафа-Корбуты*? [у:] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва*, Мінск 1994, с. 122–123.

[6] ЦДГА ў Мінску, ф. 2554, воп. 1, спр. 112: *Ведомость об успехах и поведении учеников Витебской гимназии по русской словесности. 1850–1851*.

[7] ЦДГА ў Мінску, ф. 2507, воп. 1, спр. 482: *Журнал надзирателя за учениками Витебской гимназии*.

[8] Віцебская гімназія ў 1850–1864 гг. была ў складзе Санкт-Пецярбургскае навучальнае акругі.

тебской – 17 <...> Сочинения воспитанников Витебской гимназии тщательно обработаны и в отношении правильности языка имеют преимущество перед сочинениями Могилевской гимназии; все правила литературных бесед здесь соблюдены в точности. К отличным сочинениям можно отнести: *Воспоминания о детстве и юности* г. Караффа-Корбута и *Час, проведенный перед памятником генералу Кульневу в Сивошне* г. Фиалковского”[1].

11 кастрычніка 1852 г. дырэктар вучылішчаў Віцебскай губерні Сцяпан Іванавіч Краснавумаў накіраваў М.М. Мусіну-Пушкіну тры сачыннені, прачытаныя на літаратурных гутарках 29 і 30 верасня. Адно з іх – вучня VII класа Элегія Франца Карафа-Корбута (“рыма-каталіцкага веравызнання, 17 гадоў, са шляхты”) *Віцебск* (*Витебск*) “с разбором ученика VII класса Павла Вожевича”.

12 мая 1853 года з Віцебска ў Пецярбург дасланы яшчэ два сачыненні вучняў гімназіі, сярод іх – вучня VII класа Элегія Франца Карафа-Корбута (“рыма-каталіцкага веравызнання, 17 гадоў, з патомнае шляхты”) *Хрэсьбіны ў беларускіх сялян* “с разбором ученика VII класса Иосифа Пуликовского”.

І зноў М.М. Мусін-Пушкін адзначыў працу Э.Ф. Карафа-Корбута: “В отношении правильности и точности языка сочинения учеников Витебской гимназии стоят выше сочинений воспитанников Могилевской; выбор тем приличен и самые темы обработаны старательно по источникам. Заслуживают похвалы сочинение *Витебск* ученика VII класса Карафф-Корбута, *Предслава, княжна Полоцкая* ученика VII класса Моннерота-дю-Мэна, *Георгий Конисский* ученика VI класса Потрыковского и *Тарас Бульба* ученика VII класса Кожевникова”[2].

Захавалася і рэцэнзія на ўсе 24 сачыненні вучняў Віцебскай гімназіі, якую напісаў дырэктар вучылішчаў Санкт-Пецярбургскай губерні:

“7. *Крестины у белорусских крестьян*, ученика VII класса Караффа-Корбута. Местные темы сообщают особый интерес этим сочинениям, в первых двух автор нередко увлекается, взгляд односторонний; но теплое участие к предмету <...> легкость языка заслуживают одобрения, последнее составлено вообще дельно и изложено последовательно.

8. *Витебск*, ученика VII класса Караффа-Корбута. Сочинение весьма дельное. Кроме вступления оно заключает в себе 4 отделения. 1. *Историю города Витебска*; 2. *Внешнее состояние Витебска*; 3. *Предание о Николаевском соборе*; 4. *Предание о проклятой княгине*. Первый отдел несколько сух; лучше всего обработан четвертый отдел; язык правильный и лёгкий, способ изложения – самостоятельный и своеобразный”[3]. Рэцэнзент адзначыў гэтае сачыненне Э.Ф. Карафа-Корбута як лепшае.

12 лютага 1854 г. дырэктар Віцебскае гімназіі высылае ў Пецярбург сачыненні, якія чыталіся 28 і 29 студзеня. Сярод іх – працу вучня VII класа Элегія Франца Карафа-Корбута (“рыма-каталіцкага веравызнання, 18 гадоў, з патомнае шляхты”) *Пра Дзяржавіна наогул і пра оду* Бог *у прыватнасці* (*О Державине вообще и об оде* Бог *в особенности*) “з разборам вучня VII класа Пятра Мальчэўскага”. На гэты раз рэцэнзія дырэктара вучылішчаў Пецярбургскае губерні была непрыхільная, а таму ў лік лепшых

[1] ЦДГА ў Мінску, ф. 2507, воп. 1, спр. 462, ар. 49: *Дело Витебской дирекции училищ о литературных и читательских беседах; тут же о ходе преподавания русского языка и словесности*, с. 49.
[2] *Ibidem*, с. 72.
[3] *Ibidem*, с. 74–75.

сачыненняў тэкст Ф.Э. Карафа-Корбута не трапіў: “13. *О Державине вообще и об оде Бог в особенности* ученика VII класса Элегия Франца Караффа-Корбута. Мысли, высказанные автором о Державине, вообще верны; язык оживленный, но не везде; точный от наклонности к гиперболам; кроме того, бросается в глаза неприятный способ соединения отдельных частей сочинения, как бы насильно сшитых между собой на живую нитку”[1].

Чатыры сачыненні за тры школьныя гады – гэта, у першую чаргу, сведчанне літаратурнага дару Э.Ф. Карафа-Корбута. Аніхто з віцебскіх гімназістаў-аднакласнікаў не мог пахваліцца такімі здольнасцямі. (Канстанцін Вераніцын (Васільеў) увогуле не ўдзельнічаў у “литературных и читательских беседах”[2]).

Звяртаем, аднак, увагу на рэч больш важную: у студзені 1854 г. Э.Ф. Карафа-Корбут лічыцца вучнем VII класа гімназіі, г. зн. ён другі год запар вучыцца ў VII класе. Г. Кісялёў меркаваў, што з-за беднасці[3] паэт выбыў з гімназіі. Аднак “з-за беднасці” не вучацца два гады ў апошнім, выпускным класе. Зусім верагодна Э.Ф. Карафа-Корбут не атрымаў дыплом гімназіі ў 1853 г. з-за хваробы, але, прагнучы атрымаць яго, паўтараў курс у наступным годзе. І ўсё ж закончыць адукацыю не атрымалася. Чым займаўся паэт цягам двух наступных гадоў? Бо ж толькі 20 красавіка 1856 г. ён будзе прыняты на службу ў Віцебскую палату дзяржаўных маёмасцяў пісарам сярэдняга разраду гаспадарчага аддзелу[4].

Паводле г. зв. рукапісаў А. Рыпінскага, менавіта ў гэты час (да 15 красавіка 1855 г.[5]) узнік *Тарас на Парнасе*. Цікава, што прыкладна ў адзін і той самы час (1854–1856 гг.) і Э.Ф. Карафа-Корбут, і К. Вераніцын не маюць пэўных заняткаў. Думаецца, калі мы высветлім перыпетыі жыцця былых аднакласнікаў гэтага перыяду, дык наблізімся да таго, каб разгадаць таямніцу аўтарства паэмы.

Маючы роўна дваццаць адзін год, Э.Ф. Карафа-Корбут пачаў працаваць ў Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцяў. Асноўная функцыя Палаты – кіраванне дзяржаўнаю зямлёю і лясамі (а менавіта: здаванне скарбовых зямель у арэнду і вядзенне лясной гаспадаркі)[6]. Штаты Віцебскай палаты налічвалі некалькі дзесяткаў чыноўнікаў: на чале стаяў кіраўнік (управляющий). Ім на пачатку 1860-х гг. быў палкоўнік Уладзімір Бенекэ фон Дувэ (1822–1884). У падпарадкаванні кіраўніка было некалькі аддзелаў: гаспадарчы, лясны, агульны, кантрольны, люстрацыйны, “судны”. Кіраўніком

[1] *Ibidem*, с. 110 v.

[2] Ён, зрэшты, у сакавіку 1852 г. “выбыў” з VI класа гімназіі, каб у жніўні г. г. стаць студэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі.

[3] “Можа, хто знае, дадаліся і яшчэ якія прычыны” (Г. Кісялёў, *Хто вы...*, с. 125).

[4] Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1248-2-394: *Дело Временного полевого аудиториата...*, с. 284.

[5] Можна меркаваць, што паэма была напісана пасля смерці (18 лютага 1855 г.) цара Мікалая I у сакавіку–красавіку 1855 г.

[6] Ігар Запрудскі, імкнучыся давесці, што Ялегі Пранціш Вуль напісаў паэму *Два д’яблы*, памылкова сцвярджае, што “гаспадарчы аддзел палаты дзяржаўных маёмасцяў <...> займаўся якраз і акцызнымі пытаннямі, зборам і ўлікам падаткаў ад продажу гарэлкі. Такім чынам, спецыфіка працы магла даць «удзячны» матэрыял і паслужыць штуршком для напісання скіраванай супраць п’янства і спойвання жыхароў гутаркі”. Гл.: І. Запрудскі, *Па дарозе на Парнас: Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 2012, с. 52. Заўважым: акцызнымі пытаннямі займалася Казённая палата, у склад якое ўваходзіў піцейны аддзел (Отделение питейное).

(г. зв. саветнікам) гаспадарчага аддзела спачатку быў калежскі саветнік Уладзімір Мілаў, а пасля калежскі асэсар Іван Налівайка[1]. Непасрэднымі кіраўнікамі Э.Ф. Карафа-Корбута маглі быць: справаводы гаспадарчага аддзела (Піліп Папенчанка, Лявонцій Баброўскі[2]), столаначальнікі (Леў Стокаліч, Уладзіслаў Кавалеўскі, Пётр Мальчэўскі[3], Аляксандар Козіч), памочнікі столаначальнікаў (Баляслаў Вічульскі[4], Іван Чарняхоўскі, Нікандр Забелін, Іван Гжыбоўскі).

Пасаду губернскага ляснічага ў Палаце дзяржаўных маёмасцяў (з 1860 г.) займаў капітан Аляксандар Семянтоўскі-Курыла (1821–1893), вядомы публіцыст, краязнаўца і этнограф. Яго першы артыкул пра Віцебшчыну *Статистическое описание Витебской губернии в лесном отношении*, апублікаваны ў часопісе "Труды Вольного экономического общества" (Санкт-Пецярбург 1862, жнівень–кастрычнік). Служыў у Палаце (відаць, на пасадзе пісара) Станіслаў Акрэйц (1836–1922), публіцыст, літаратар, выдавец[5]. Ягоны, пэўна, сваяк Аўгусцін Восіпавіч Акрэйц узначальваў кантрольны аддзел Палаты.

Нягледзячы на тое, што ў штаце Палаты пераважную большасць (да 1864 г.) складалі чыноўнікі мясцовага паходжання ("палякі"), але гэта была расійскай дзяржаўная ўстанова, дзе панаваў рускі дух, расійскай культура ўпэўнена спаборнічала з польскаю культураю. А таму невыпадкова не так шмат чыноўнікаў губернскіх і павятовых устаноў належала да паўстанцкіх арганізацый. Тое, што Э.Ф. Карафа-Корбут апынуўся ў лагеры паўстанцаў, было хутчэй выключэннем. І не сям'я адыграла тут сваю ролю, не веравызнанне (каталікамі былі амаль усе мясцовыя шляхціцы), а ўплыў Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Пацвярджэнне сказанаму – верш, які Э.Ф. Карафа-Корбут занатаваў у *Альбом* Беларускае Дуды.

Калі пазнаёміліся віцебскія беларускія паэты – мы не ведаем. Дакументальныя сведчанні датаваны толькі канцом 1850-х гг. Аднак можам дапусціць, што ўжо ў гімназічныя гады[6] дапытлівы юнак мусіў звяртацца, перадусім, у бібліятэку-чытальню,

---

[1] Менавіта ён (замест "управляющего") падпісаў 30 ліпеня 1862 г. *Атэстат* Э.Ф. Карафа-Корбута. Гл.: *Пачынальнікі*..., с. 368–369.

[2] Быў спачатку справаводам ляснога аддзела, а пасля – гаспадарчага. *Атэстат* Э.Ф. Карафа-Корбута падпісаў "замест" саветніка гаспадарчага аддзела.

[3] Школьны сябра Э.Ф. Карафа-Корбута.

[4] Баляслаў Вічульскі абвінавачваўся "за составление вооруженной партии с целью присоединиться к шайке мятежников" разам з Э.Ф. Карафа-Корбутам. Праўда, ён меў сваю "легенду" – стараўся апраўдацца (і Э.Ф. Карафа-Корбут яго падтрымліваў) "по совершенной неспособности в этом деле как увлеченного силою в инсургенты не известными нам и ему лицами". Гл.: *Пачынальнікі*..., с. 370.

[5] С. Акрэйц пасля смерці бацькі пераехаў з Пецярбурга ў Віцебск, дзе закончыў гімназію (1856), пасля вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце і працаваў у Палаце дзяржаўных маёмасцяў (1859–1862). Ягоны беларускі дапаўстанцкі досвед лёг у аснову раманаў *Последние язычники* (1871–1872), *Далёкие годы* (1898), а досвед часоў Паўстання – *Воспоминания инсургента*, *Как я избежал виселицы*, *Уголок восстания 1863* (пад псеўданімам С. Арліцкі). У асобных біяграмах С. Акрэйца падаецца месца ягонае службы не Віцебская, а Магілёўская Палата дзяржаўных маёмасцяў.

[6] І. Запрудскі выказаў меркаванне, што "недзе да 1856 г. можна адносіць знаёмства маладога чыноўніка з беларускім пісьменнікам Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім" (І. Запрудскі, *Па дарозе на Парнас*..., с. 52). З вышэй пададзеных слоў незразумела, што азначае "да 1856 г.": ці знаёмства адбылося раней 1856 г. (але ж Э.Ф. Карафа-Корбут чыноўнікам стаў толькі ў 1856 г.), ці менавіта ў 1856 г.? На падставе чаго мы мусім прыняць гэтую дату? Бо ліст рэдактара "Gazety codziennej" Яна Грыгаровіча ад 22 студзеня 1857 г., які далей цытуе даследчык, аніяк не стасуецца да Э.Ф. Карафа-Корбута як да маладога пісьменніка. Тут, хутчэй, сам А. Вярыга-Дарэўскі прылічаны да кагорты маладых пісьменнікаў. Прыгадайма: у лісце да Уладзіслава Сыракомлі ад 22 кастрычніка 1857 г. Беларуская Дуда піша: "Вось

якую заснаваў яшчэ ў 1840-я гг. Сымон Вярыга-Дарэўскі. Менавіта з бібліятэкі Вярыгаў ён мог прачытаць *Jordana*, выдадзеную ў 1846 г. у Вільні драматычную паэму Эдварда Жалігоўскага (Антона Савы). *Jordan* і яго аўтар карысталіся аграмаднай папулярнасцю сярод тагачаснай моладзі. Невыпадкова так захоплена пісаў Э.Ф. Карафа-Корбут у жніўні 1858 г. пасля знаёмства з былым выгнанцам, які пасля атрымання дазволу на выданне ў Пецярбургу "Słowa" прыехаў у Віцебск[1], каб сустрэцца з будучымі карэспандэнтамі газеты:

O! znałem cię i przedtem, nim ujrzałem ciebie;
Bom cząstkę ducha twego pożywał duchowo; –
I zawszem cię poznawał w tym duchowym chlebie:
Czy byłeś Onegdajskim, czy Antonim Sową[2].

Гэты верш, увогуле, – першы вядомы сёння твор Ялегі Пранціша Вуля. Ён сведчыць, што дваццацітрохгадовы малады чалавек ужо мае псеўданім, якім будзе падпісваць свае тэксты – па-польску і па-беларуску. Які сэнс укладваў у яго паэт – мы не ведаем. Але не можам цалкам пагадзіцца з тлумачэннем Г. Кісялёва: "Абраны маладым паэтам псеўданім (Вуль – вулей) добра суадносіцца з народнай сімволікай і сведчыць аб сур'ёзным стаўленні яго да свайго таленту. «Так рупная пчала // Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак», – скажа праз паўстагоддзя М. Багдановіч. І ў Купалы чытаем: «Нібы пчолы ў соты з мёдам // Да свайго вулля, // Мы вяртаемся дадому, // Як адна сям'я». Ды і задоўга да гэтага ў сваім ўзнёслым гімне любові да роднай зямлі Скарына не прамінуў сказаць: «...пчелы и тым падобная боронять ульев своих...»"[3]. Прыгожае тлумачэнне, але не аўтарскае, не літаратара сярэдзіны XIX стагоддзя. Тут, усё ж такі, трэба браць пад увагу значэнне польскага слова "ul". Бо ў спадчыне Э.Ф. Карафа-Корбута больш тэкстаў польскіх, чым беларускіх; бо ягоная польская мова – гэта мова касцёла, мова прачытаных кніг з бібліятэкі братоў Вярыгаў, мова ягонае Рэчы Паспалітае-Польшчы. Слоўнікі "даўняй пальшчызны" даводзяць, што "ul" – гэта не толькі "памяшканне для пчол". (Трэба ведаць, што ў даўнія часы вуллі часам рабілі "człekokształtne w postaci św. Jana", а таксама ў постацях людзей і звяроў: жыдоў, шляхціцаў, сялян, мядзведзяў і інш.). Другое значэнне слова "ul" – "вязніца, арыштанцкая, халодная"; трэцяе – "шафа са скрынкамі, якія высоўваюцца; шафа для каталогаў". Пэўна ж, ведаў паэт і польскі фразелагізм са словам "ul" – "szumi (bręczy) jak w ulu", і польскую прыказку "kto w ul dmuchnie, temu pysk spuchnie". Што датычыць прыказкі, дык яна была, як кажуць, у той час на слыху: камедыю Аляксандра Фрэдры (1793–1876) *Pan Jowialski* (1833) добра ведалі на Беларусі. Магчыма, нават, што ў Віцебскім тэатры яе можна было паглядзець у 1850-я гг. Ва ўсякім выпадку, у бібліятэцы братоў Вярыгаў было адно са шматлікіх выданняў гэтага твора.

На нашу думку, Э.Ф. Карафа-Корбут дзеля свайго псеўданіма выкарыстаў семантыку польскае прыказкі: ён той літаратар, які будзе актыўна ўдзельнічаць у грамадскім

---

уручаю табе большую частку маіх грызмоляў: што мне з імі рабіць? <...> Або пасвяці мяне ў пісакі ва ўсім значэнне гэтага слова, або забі ва мне гэта фальшывае імкненне" (*Пачынальнікі...*, с. 225).

[1] Прыезду Э. Жалігоўскага ў Віцебск папярэднічала сустрэча ў ліпені 1858 г. А. Вярыгі-Дарэўскага з супрацоўнікамі "Słowa" на дачы графа Грыгора Кушалёва-Безбародкі Палюстрова пад Пецярбургам.

[2] Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6974: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Twórczość poetycka. Bruliony wierszy. Wiersze osób różnych*, s. n. n.

[3] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва...*, с. 126.

жыцці краю, ён той, хто будзе бараніць сябе і свой край[1]. І зусім мажліва, што і ў гэтым пытанні для паэта быў прыкладам яго старэйшы амаль на дваццаць гадоў прыяцель А. Вярыга-Дарэўскі, ягоная грамадска-асветніцкая дзейнасць.

Пра шчыльныя дачыненні Э.Ф. Карафа-Корбута з Беларускаю Дудою ў другой палове 1858-га года можа сведчыць іх супольнае супрацоўніцтва з пецярбургскаю газетаю "Słowo": трапіўшы (пакуль невядома якім чынам) у асяроддзе ініцыятараў выдання, А. Вярыга-Дарэўскі дбае не толькі пра сябе, але і спрыяе навязванню кантактаў з рэдакцыяй малодшаму калегу.

Пра супрацоўніцтва магла быць гаворка 8 жніўня 1858 г., калі Э. Жалігоўскі адмыслова прыязджаў у Віцебск. А. Вярыга-Дарэўскі, які яшчэ ў кастрычніку 1857 г. у лісце да У. Сыракомлі выказваў жаданне стаць распаўсюджвальнікам "Teki Wileńskiej"[2], разам з Львом (Леанам) Сулістроўскім у верасні-кастрычніку 1858 г. збіраюць на Віцебшчыне падпіску на "Słowo". Дачыненні Э.Ф. Карафа-Корбута з пецярбургскаю газетаю не зусім зразумелыя. Беларуская Дуда ў лісце да Э. Жалігоўскага піша: "Францішак Корбут дзякуе і давяраецца Вашай апецы"[3]. Як трэба гэта разумець? За што дзякуе паэт і чаго ён чакае ад рэдакцыі? Не можа гэта вытлумачыць і адзіны ліст Э.Ф. Карафа-Корбута да Э. Жалігоўскага ад 12 лютага 1859 г. Адзінае, што можна сказаць: справамі падпіскі паэт не займаўся. Хутчэй за ўсё на яго ўсклалі абавязкі аднаго з карэспандэнтаў на Віцебшчыне. Праўда, ягоны першы допіс у форме верша-пажадання з просьбаю змясціць "дзе-небудзь у кутку, у вольным зацішным месцы"[4], стаў і апошнім: пасля выхаду ў свет пятнаццатага нумару газета была забаронена, а ейны выдавец Язафат Агрызка арыштаваны.

Супрацоўніцтва скончылася, фактычна, так і не пачаўшыся. А вось пра супрацоўніцтва Э.Ф. Карафа-Корбута з іншымі мясцовымі выданнямі мы нічога не ведаем, у той час як А. Вярыга-Дарэўскі актыўна карэспандаваў з Адамам Кіркорам, дасылаў артыкулы ў часопіс "Teka Wileńska".

23 сакавіка 1859 г., "у панідзелак", *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага, распачаты 21 кастрычніка 1858 г., нарэшце трапіў у рукі Э.Ф. Карафа-Корбута. Трэба думаць, што сустракаліся віцебскія беларускія паэты часта, але вось толькі цяпер старэйшы просіць маладзейшага занатаваць колькі слоў на памятку. Гэта ўжо трэці (і адначасна чацвёрты) вядомыя нам вершаваныя тэксты паэта вітальна-віншавальнага жанру. Звернем ўвагу на тое, што – як і верш *Do Antoniego Sowy – K Dudaru Arciomu at naddźwińśkaha mużyka* вызначаецца адной цікавай асаблівасцю: іх аўтар з шанаваннем гаворыць пра творчыя дасягненні сваіх старэйшых калег і анічога не згадвае пра свае ўласныя. Здавалася б, аўтар нават некалькіх вершаў не мусіў бы сцвярджаць так катэгарычна:

Lecz ja, – wprzódy nieznany, – twój znajomy świeży, –
Czemże siebie utrwalę we twojej pamięci?
Łacno z niej moje imię nieznane wybieży,

[1] Выходзячы з дадзенага (фразелагізма і прыказкі) тлумачэння псеўданіма, можна зразумець сатырычную скіраванасць і *Тараса на Парнасе* і *Двух д'яблаў*.
[2] Гл.: *Пачынальнікі...*, с. 226.
[3] Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6976: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Korespondencja. Listy od osób różnych. B–Ż. Bruliony osób różnych*, s. n. n.
[4] *Ibidem*.

Gdy tyle świetnych Imion ona w sobie święci![1]

Аднак, усё ж, у гэтым няма нічога дзіўнага: абодва адрасаты вершаваных пасланняў Ялегі Пранціша Вуля значна старэйшыя за яго і, апрача таго, "маюць" друкаваныя творы, якія прынеслі ім славу. А можа, проста не любіў малады паэт выхваляцца сваім аўтарства? Можа, і псеўданімам з гэтай прычыны карыстаўся? Але, перадусім, А. Вярыга-Дарэўскі пасля 23 сакавіка 1859 г. мусіў звярнуць увагу на аўтара верша *K Dudaru Arciomu at naddźwińskaha mużyka*, нават калі раней анічога іншага вулеўскага на чытаў. Відавочна, звярнуў. І, відавочна, ведаў іншыя тэксты свайго маладзейшага калегі. Можа, таму, выгнаннікі, вярнуўшыся з Сібіры, называлі А. Вярыгу-Дарэўскага аўтарам *Тараса*?

Чатыры вядомыя сёння вершы Ялегі Пранціша Вуля напісаны прыкладна ў адзін час і дакладна датаваныя: першы з іх напісаны 8 ліпеня 1858 г., другі – 11 лютага 1859 г, а трэці і чацвёрты – 23 сакавіка 1859 г. У мастацкіх адносінах беларускамоўны твор на парадак вышэй за польскамоўныя. Што цікава, толькі два радкі верша-звароту да Антона Савы адпавядаюць паэтыцы беларускамоўнага твора:

Niech wszędy, – gdzie w ciemności przemkną skrzydła Sowy, –
Ciemność nocy – rozbiją jasne dnia promienie![2]

Што датычыць іншых радкоў гэтага верша, дык іхняе мастацкая вобразнасць не адрозніваецца ад вобразнасці іншых польскамоўных тэкстаў, якія дарэчы, нібы блізняты: адны і тыя ж вобразы-сімвалы Дабра, Прыгажосці, Цноты і інш. У вершы з *Альбома* паэт спрабуе даць адказ на пытанне "што ёсць нашае жыццё?", а ў прысвячэнні-пажаданні рэдакцыі "Słowa" – сфармуляваць сваё бачанне праграмы грамадска-асветніцкага выдання. Характэрна, што Ялегі Пранціш Вуль прыгадаў і пра "lud", г. зн. прасталюдзінаў:

Niech nakoniec Wasze "Słowo" będzie głosem Ludu[3].

Ці не просьба гэта да рэдакцыі друкаваць творы "наддзвінскага мужыка" і Беларускае Дуды?[4] Тым больш, што і А. Вярыга-Дарэўскі ў лісце да Э. Жалігоўскага ад 12 студзеня 1859 г. пытаўся: "Што мне рабіць з *Конрадам* маім і іншаю пісанінаю?"[5].

Пасля таго, як "Słowo" перастала выходзіць, Э.Ф. Карафа-Корбут не адмовіўся ад жадання займацца літаратурнаю працаю, супрацоўнічаць з перыядычнымі выданнямі. Нам вядома, што ў наступным годзе былі наладжаны сувязі з рэдакцыяй "Gazety Codziennej"[6], якая знаходзілася ў Варшаве. У нумары 188 (9/21 ліпеня) за 1860 г. тут публікуецца ягоная карэспандэнцыя з Віцебска, напісаная 21 чэрвеня. А ў нумары 196

---

1 Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6974: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Twórczość poetycka. Bruliony wierszy. Wiersze osób różnych*, s. n. n.

2 *Ibidem*.

3 Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6976: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Korespondencja. Listy od osób różnych. B–Ż. Bruliony osób różnych*, s. n. n.

4 Гаворка магла ісці не абавязкова пра газету. Бо ў планах рэдакцыі было і выданне літаратурных дадаткаў. Выйшлі два тамы.

5 Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6976: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Korespondencja. Listy od osób różnych. B–Ż. Bruliony osób różnych*, s. n. n.

6 Фінансіст і прамыслоўца Леапольд Крананберг (1812–1878) у 1859 г. купіў у Аляксандра Невяроўскага (1824–1892) "Gazetę Codzienną" і прапанаваў Юзафу Ігнацы Крашэўскаму (1812–1887) стаць літаратурным рэдактарам. Ю.І. Крашэўскі прыняў прапанову, пераехаў з Валыні ў Варшаву і, рэдагуючы

(17/29 ліпеня) рэдакцыя паведамляе: “P[anu] E. F. U. z Witebska. Tylko dziękować możemy, spełniając żądania. Korrespondencją z Witebska, choć nieco późno, umieściiiśmy”[1]. Відавочныя памылкі друку, а таксама прыватны характар паведамлення затуманьваюць ягоны змест. Аднак не выклікае сумнення, што сутнасць яго наступная: за допіс, які адпавядае жаданню рэдакцыі, яна дзякуе і дадае: дасланае ўжо надрукавана. Трэба думаць, што Э.Ф. Карафа-Корбут, даслаўшы 21–22 чэрвеня свой артыкул у Варшаву, прыкладна праз месяц (газета, выдадзеная ў Варшаве 9/21 ліпеня, у Віцебск магла прыйсці праз некалькі дзён) пацікавіўся ягоным лёсам. З гэтай прычыны і з’явілася інфармацыя для паэта на апошняй старонцы газеты Ю.І. Крашэўскага.

Ёсць надзея, што будуць выяўлены і іншыя публікацыі Э.Ф. Карафа-Корбута 1860–1863 гг. у польскамоўным друку, падпісаныя псеўданімам E.F. Ul.

Чым яшчэ займаўся ў дапаўстанцкі час малады віцебскі паэт? Служыў да 30 ліпеня 1862 г. у Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцяў, а пасля, зволіўшыся нібыта дзеля паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову, “занимался частными уроками с учениками гимназии, приготовляя их по всем предметам”[2]. Аднак, здаецца, няма падстаў, сцвярджаць (як гэта робіць І. Запрудскі), што “19 сакавіка 1859 г. у Віцебску быў наладжаны дабрачынны канцэрт на карысць бедных. Праз месяц, 19 красавіка, сродкі ад падобнай імпрэзы збіралі на парафіяльны пабернардынскі касцёл св. Антонія[3]. Чынны ўдзел у абодвух канцэртах браў Ф. Корбут, які як саліст, або адзін з выканаўцаў іграў на фартэпіяна санату Бетховена, варыяцыі Расіні, уверцюры з *Аберона* Вебэра і героіка-рамантычнай оперы *Вільгельм Тэль* Расіні, фантазію Тальберга, пра што паведамлялася ў вераснёўскай карэспандэнцыі А. Вярыгі-Дарэўскага ў варшаўскі “Ruch muzyczny”[4]. Усё ж “pan Korbutt”[5], як пазначана ў публікацыі А. Вярыгі-Дарэўскага, – гэта неабавязкова Э.Ф. Карафа-Корбут. З аднаго боку, меладычнасць верша *K Dudaru Arciomu at naddźwińskaha mużyka* нібыта можа сведчыць на карысць музычных здольнасцяў паэта, але, з другога боку, ніякіх звестак пра дадзены від ягоных заняткаў не захавалася. Названым у публікацыі музыкантам мог быць як нехта са сваякоў Э.Ф. Карафа-Корбута, так і нехта з віцебскіх аднафамільцаў паэта.

Застаючыся на пачатку 1860-х гг. у Віцебску, Э.Ф. Карафа-Корбут, пэўна ж, прымае актыўны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання. Вось толькі з тае прычыны, што і сам паэт, і яго сябры імкнуліся знівеляваць свае дачыненні з нацыянальна-вызваленчым рухам, дык узнавіць больш-менш дакладны ход падзей сёння не ўяўляецца магчымым. Што не выклікае сумненняў, дык гэта тое, што 22 красавіка (ст. ст.) 1863 г., у панядзелак, напярэдадні Юр’я, уся сям’я Карафа-Корбутаў выйшла з дому ў Віцебску і накіравалася па магілёўскай шашы ў бок Дыманоўскай станцыі. Дзе былі наступныя шэсць дзён Элегі Францішак і яго брат Паўлін Вільгельм – следства не высветліла, хоць і

---

газету ў 1859–1862 гг., здолеў зрабіць яе адным з самых папулярных тагачасных польскіх выданняў (наклад складаў каля 9000 асобнікаў).

[1] *Korrespondencya*, „Gazeta codzienna” 1860, nr 196, s. 4.

[2] *Пачынальнікі*..., с. 374.

[3] У *Пачынальніках*... (с. 215) не падаецца (хіба, з-за антыкаталіцкіх тэндэнцый у ідэалогіі савецкай эпохі) мэта правядзення другога дабрачыннага канцэрта. І. Запрудскі дапаўняе публікацыю Г. Кісялёва інфармацыяй з допісу Э.Ф. Карафа-Корбута ў “Gazetę Codzienną”.

[4] І. Запрудскі, *Па дарозе на Парнас*..., с. 56.

[5] *Korrespondencya*, „Ruch muzyczny” 1858, nr 41 (30 września/12 października), s. 358.

мела падазрэнне, што браты знаходзіліся ў аддзеле Ігната Будзіловіча[1] (на той падставе, што зброя арыштаваных была пашкоджана), а пасля разгрому 26 красавіка "шайкі" пад Пагосцішчам здолелі схавацца. 28 красавіка, у нядзелю, браты Карафа-Корбуты разам яшчэ з васьмю інсургентамі былі затрыманы сялянамі і жыдамі каля фальварка Новы Стан (Аршанскі павет) Яна Рагінскага, адведзены ў веску Ордзеж, а пасля ў мястэчка Высокае (сёння Высачаны).

1 мая ўсіх іх аршанскі павятовы спраўнік Антон Бобрык даставіў у Віцебскі замак. Следства доўжылася да канца лістапада[2], а пасля было перададзена ў Ваенны суд пры Віцебскім батальёне ўнутранай варты. Паводле выраку суда ад 23 снежня 1863 г. трынаццаць інсургентаў (Аляксандар Васілеўскі, Станіслаў Гелваноўскі, Элегій Франц і Вільгельм Карафа-Корбуты, Генрых Круковіч, Стафан Стафаноўскі, Баляслаў Улінскі, Баляслаў Шкленік, Баляслаў Вічульскі, Валяр'ян Вярыга, Антон Камінскі, Іван Вайцахоўскі, Міхал Дабрыкевіч) асуджаліся на катаржную працу ў рудніках на 15 гадоў, а Анастас Казлоўскі, які абвінавачваўся ў загадванні ў аддзеле гаспадарчаю часткаю, – на бестэрміновую катаргу.

17 сакавіка 1863 г. віцебскі ваенны губернатар генерал-маёр У. Вяроўкін, "соображая приговор Комиссии военного суда с обстоятельствами дела", прапануе Часоваму палявому аўдытарыяту Віленскае вайсковае акругі саслаць дванаццаць інсургентаў на катаржную працу ў рудніках на 8 гадоў, Анастаса Казлоўскага – на 12 гадоў, а Міхала Дабрыкевіча – у арыштанскія роты на тры гады.

Праз колькі дзён Часовы палявы аўдытарыят, "по соображении с летами и званием каждого из подсудимых и степенью принятия им участия в мятеже", прапануе саслаць на катаржную працу ў Сібіры: у крэпасцях на 10 гадоў А. Казлоўскага; на заводах на 8 гадоў Б. Улінскага, Б. Вічульскага, Б. Шкленіка; на заводах на 6 гадоў А. Васілеўскага; на заводах на 4 гады С. Гелваноўскага; Э.Ф. Карафа-Корбута – "на поселение в более отдаленные места Сибири"[3]; В. Карафа-Корбута, Г. Круковіча і С. Стафа-

---

[1] Гаворка пра Ігната Будзіловіча (1841–1863), які пасля завяршэння вучобы ў Кіеўскім кадэцкім корпусе (1859) служыў падпаручнікам у лейб-гранадзёрскім Кацярынаслаўскім палку ў Маскве (па іншых звестках: у Кастраме). У красавіку 1863 г. пакінуў полк і разам з Людвікам Звяждоўскім выехаў на Магілёўшчыну, дзе прыняў на сябе абавязкі камандзіра Аршанскага паўстанцкага аддзела. 22 красавіка аддзел рушыў на Бабінавічы і Лёзна. Аднак 25 красавіка спыніўся ў фальварку Ацкава, а пасля павярнуў на поўнач да фальварку Пагосцішча. Тут 26 красавіка паўстанцаў атакавалі расійскія войскі (разам з вялікаю групаю ўзброеных мясцовых сялян). Пасля непрацяглага бою паўстанцы ў большасці здаліся. І. Будзіловіч пасля чатырох месяцаў следства быў асуджаны на смерць і расстраляны 28 жніўня 1863 г. у Оршы.

[2] Асобныя матэрыялы следства (1. Просьба Аляксандра Васілеўскага, Станіслава Гелваноўскага, Анастаса Казлоўскага, Вільгельма і Франца Корбутаў, Генрыха Круковіча, Стафана Стафаноўскага, Баляслава Улінскага і Баляслава Шкленіка да начальніка Віцебскай губерні ад 10 мая 1863 г.; 2. Просьба Аляксандра Васілеўскага, Станіслава Гелваноўскага, Анастаса Казлоўскага, Франца і Вільгельма Корбутаў, Баляслава Улінскага і Баляслава Шкленіка да вайсковага начальніка Віцебскай губерні палкоўніка Смірнова ад 17 чэрвеня 1863 г.; 3. Пратакол допыту Э.Ф. Карафа-Корбута Следчаю камісіяй ад 20 ліпеня 1863) друкаваліся ў зборніку *Пачынальнікі* (с. 369–376).

[3] Матэрыялы справы не даюць адказу на пытанне: чаму вырак Э.Ф. Карафа-Корбуту аказаўся адрозным ад яго калегаў? Магчыма, паэт быў высланы на пасяленне з-за кепскага стану здароўя, г. зн. атрымаў больш мяккае пакаранне. Аднак вядома, што тыя, хто быў асуджаны на катаргу, меў магчымасць вярнуцца праз пэўную колькасць гадоў на радзіму; высланыя ж на пасяленне ці "житье" фактычна былі пазбаўленыя такога права.

ноўскага – на жыхарства (житье) у Табольскую губерню, а М. Дабрыкевіча – у разанскую арыштанцкую роту на 3 гады; А. Камінскага – у Казанскую, а В. Вярыгу – у Пермскую губерні “для водворение <...> на постоянное жительство”.

12 красавіка 1864 г. фактычна без зменаў вырак Часовага палявога аўдытарыяту зацвердзіў М. Мураўёў.

Трэба думаць, у хуткім часе (май–чэрвень 1864 г.) Э.Ф. Карафа-Корбут быў высланы з краю. У жніўні 1864 г., калі быў зацверджаны вырак аўдытарыята па справе г. зв. “дыманоўскае шайкі” (А. Вярыга-Дарэўскі, М. Карафа-Корбут і інш.), маці паэта Антаніна і жонка Ганна Талвінская, звярнуліся да ваеннага губернатара Віцебска з просьбай дазволіць ім “следовать за Маврикием”. Дазвол быў дадзены і 4 верасня Карафа-Корбуты з Віцебску этапамі накіраваліся ў Сібір. Магчыма, ехалі яны разам з А. Вярыгам-Дарэўскім, а г. зн. у красавіку 1865 г. былі ў Табольску, а ў жніўні – у Іркуцку. Зрэшты, Антаніна Карафа-Корбут або засталася ў малодшага сына ў Табольску, або памерла ў дарозе – ва Усоллі М. Карафа-Корбут, здаецца, быў без сям’і[1]. А вось Ганна Талвінская павінна была знайсці ва Усходняй Сібіры мужа – Э.Ф. Карафа-Корбута.

Да нядаўняга часу мы не мелі аніякіх інфармацый пра тое, як склаўся лёс беларускага паэта на высылцы. Зусім справядліва пісаў колісь Г. Кісялёў: “Уся сям’я Корбутаў, можна сказаць, у поўным складзе, апынулася ў Сібіры. І як у ваду канула”[2].

Сапраўды, няцяжка было загубіцца сярод некалькі дзесяткаў тысяч высланых у Сібір паўстанцаў 1863–1864 гг. Асабліва калі Корбутаў сярод іх было шмат[3]. Нам удалося вылучыць з масы выгнаннікаў 12 асоб, якія насілі прозвішча Корбут.

Па-першае, ажно пяцёра Корбутаў ёсць у *Списке политических преступников, лишенных по суду прав состояния, имущество коих надлежит конфискации в казну. 1864*[4]:

1. Корбут Антон, шляхціц Вілкамірскага павета Ковенскай губерні[5].

2. Корбут Уладзіслаў, шляхціц Мінскае губерні[6].

3. Караф-Корбут Маўрыцы, шляхціц Віцебскай губерні, тытулярны саветнік. Служыў перакладчыкам у Віцебскай палаце крымінальнага суда. Бацька паэта.

4. Караф-Корбут Франц, шляхціц Віцебскага павета Віцебскай губерні. Асуджаны на пасяленне “в более отдалённые места Сибири”.

5. Караф-Корбут Вільгельм, шляхціц Віцебскага павета Віцебскай губерні. Асуджаны на “житье в Тобольскую губернию”.

У дысертацыі Святланы Мулінай[7] згадваюцца:

---

[1] W. Lasocki, *Wspomnienia z mojego życia*, t. II: *Na Syberji*, Kraków 1937, s. 333.

[2] Г. Кісялёў, *Хто вы, Карафа-Корбуты*? [у:] Г. Кісялёў, *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі*, Мінск 1994, с. 127.

[3] Томскі губернатар на пачатку 1870-х гг. не мог зразумець, каго з сасланых павінен вызваліць з ссылкі, бо ў яго губерні адбывалі трое Пятроўскіх, якія мелі імя Францішак і аднолькавае імя па бацьку. Гл.: W. Śliwowska, *Kartoteka uczestników powstania styczniowego w Instytucie Historii PAN* [w:] *Powstanie styczniowe 1863–1864: Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiografia i tradycja*, Kielce 2005, s. 15.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Ф. 296: *Канцелярия минского гражданского губернатора.*

[5] Сасланы ў Іркуцкую губерню. Жыў у Аёкскай воласці. Быў прыняты на дзяржаўную службу. Магчыма, пра яго згадваецца ў даведніку *Деятели революционного движения в России* (Москва 1928, т. I, ч. II): “Корбут Антон, студэнт С.-Пецярбургскага ўніверсітэта. За ўдзел ў студэнцкіх хваляваннях 1861 г. пасаджаны 12 кастрычніка ў Петрапаўлаўскую крэпасць, адкуль 17 кастрычніка пераведзены ў Кранштат; вызвалены 6 снежня 1861 г.”.

[6] Здаецца, гэта сын Пятра Карафа-Корбута – Уладзіслаў Анзельм, 1839 года нараджэння, студэнт Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, сасланы ў Сібір. У 1880-я гг. жыў у Томску.

[7] С. Мулина, *Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке*, Омск 2005.

6. Корбут Вікенцій Каспераў, шляхціц, высланы без пазбаўлення правоў, з 1869 г. знаходзіўся ў Омску[1].

7. Корбут Вільгельм, "духовного сана, сослан с лишением прав; на жительство, с 1868 г. находился в Тобольской губ. г. Тюмени"[2].

У кнізе *Студзенскае паўстанне і сібірскія выгнаннікі*[3] згадваюцца пяць[4] Корбутаў (двух з іх падаюцца фотаздымкі):

8. Корбут Антон (? – да 1913), шляхціц з Ігуменскага павета Мінскае губерні; быў студэнт Кіеўскага ўніверсітэта. Асуджаны "на житье" ва Усходнюю Сібір. Працаваў у канцылярыі іркуцкага губернатара.

9. Корбут Мечыслаў, брат Антона. Таксама сасланы на "житье" ва Усходнюю Сібір.

10. Корбут Юзаф (каля 1843 – ?), сын Габрыэля, шляхціц з Ігуменскага павета Мінскае губерні. Асуджаны на пасяленне ў "более отдалённые места Сибири". Гэтым месцам стала Чарамхоўская воласць Балагонскае акругі. Дзеля працы ў 1873–1881 гг. выязджаў у Якуцкую губерню.

11. Корбут Ёрдан, брат Юзафа. Сасланы ў Сібір на 4 гады цяжкіх работ.

У запісных кніжках Якуба Гейштара маюцца звесткі пра:

12. Дамініка Корбута з Магілёўскай губерні. "Usole, Irkuck; starzec, zacny oryginał; w moim kółku; wp[isany w książce do naboż.], listy)[5]. В. Слівоўская дапоўніла звесткі пра Д. Корбута на падставе ўспамінаў В. Ласоцкага і архіўных дадзеных: "адстаўны маёр, землеўласнік са Слуцкага павета, як «неблагонадёжный» быў у 1864 г. адміністрацыйна высланы распараджэннем М. Мураўёва на «житье» ў Пензенскую губерню. Жыў у вёсцы Чэмбар"[6]. Гэта пацвярджаецца матэрыяламі В. Ласоцкага, якія сёння знаходзяцца ў зборах Бібліятэкі Чартарыскі ў Кракаве. Сярод тых, хто запісаўся на памятку "Koledzy wygnania w Czembrze d. 26.IV.1864" ёсць і прозвішча Д. Корбута. В. Слівоўская, праўда, дапускае, што магчыма гаворка пра іншую асобу. Сапраўды, малаверагодна, каб высланы ў Пензенскую губерню Д. Корбут апынуўся ў Іркуцкай губерні. На нашу думку, Я. Гейштар піша пра Маўрыцыя Карафа-Корбута, які быў сасланы на цяжкія работы ва Усходнюю Сібір і нейкі час знаходзіўся на саляварным заводзе ва Усоллі. Так, у спісе высланых (у ім – 401 асоба) ва Усолле Агатона Гілера[7] маецца інфармацыя толькі пра аднаго Корбута: "Nr 82. Корбут Маўрыцый з Літвы. Жонка і сыны разасланыя асобна. Ва Усоллі разносіў лісты палякам і меў за гэта некалькі рублёў у месяц"[8]. Вацлаў Ласоцкі змяшчае М. Карафа-Корбута ў сваім спісе *Wygnańcy z Litwy, Żmudzi, Inflant i Białej Rusi, którym nie towarzyszali rodziny* пад нумарам 29:

---

[1] Нехта Вікенцій Карафа-Корбут з Віцебскай губ. у 1860-я гг. быў сярод 80 выгнаннікаў у Валагодскай губ. Гл.: Н. Голикова, *Польские ссыльные в Вологодской губернии в 60-е годы XIX в.* [у:] *Powstanie styczniowe...*, s. 173.

[2] У Табольскую губерню "на житье" быў сасланы таксама Вільгельм Карафа-Корбут, брат Элегія Францішка. Зусім верагодна, што згадка пра "духоўны стан" Вільгельма – памылковая і, такім чынам, гаворка ідзе пра брата паэта.

[3] *Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy: Katalog fotografii...* s. 92, 205, 241.

[4] Адзін з іх – Вільгельм Карафа-Корбут.

[5] J. Gieysztor, *Towarzysze wygnania 1863–73, jak i ludzie, z którymi bliższe listowne miałem stosunki* [w:] W. Śliwowska, *Syberia w życiu i pamięci Gieysztorów...*, s. 230.

[6] *Ibidem*.

[7] Агатон Гілер (1831–1887) быў у высылцы ва Усходняй Сібіры ў 1854–1860 гг. З 1867 г. знаходзіўся ў Парыжы. Сасланых удзельнікаў паўстання ён не ведаў. Хто дапамагаў яму складаць спіс – невядома. У пазнанскі "Tygodnik Wielkopolski" яго пераслаў Ю.І. Крашэўскі.

[8] A. Giller, *Spis polaków będących w Usolu w ciężkich robotach od 17 kwietnia 1866 do września 1868 roku* [w:] *Stuletniej niewoli rok pierwszy: Dzieło zbiorowe*, Poznań 1872, cz. II, s. 170.

“Корбут Маўрыцый з Белай Русі, раздаваў калегам лісты, за што яму была прызначана невялікая пенсія з выгнаньчае касы”[1].

І ўсё ж поўнасцю “трансфармаваць” Дамініка ў Маўрыцыя не выпадае. Усё ж бацька паэта зваўся Маўрыцый, а не Дамінік.

Шасцёра Корбутаў называюцца ў спісе высланых у Іркуцкую губерню: Франц Корбут (Аёкская воласць)[2], Маўрыцый Корбут (Аёкская воласць, прыняты на цывільную службу), Антон Корбут (Аёкская воласць, прыняты на цывільную службу), Мечыслаў Корбут (Аёкская воласць, прыняты на цывільную службу), Юзаф Корбут (Балаганская воласць), Ёрдан Корбут (Балаганская воласць)[3].

Даволі шмат інфармацыі пра Вільгельма Карафа-Корбута, брата Элегія Францішка, пададзена ў кнізе Ежы Малішэўскага *Высланыя і інтэрнаваныя ўдзельнікі Студзеньскага паўстання* на падставе матэрыялаў Komisji Kwalifikacyjnej dla weteranów powstań narodowych (1831–1848 і 1863) przy Ministerstwie Spraw Wojennych: “Карафа-Корбут Вільгельм. Нарадзіўся ў 1844 г. у Віцебску. Браў удзел у працы цывільнай арганізацыі паўстання. У якасці кур’ера яго пасылалі ў Горы-Горыцкі аддзел, якім кіраваў Звяждоўскі (Людвік Тапор). Адначасна займаўся зборам падаткаў і ахвяраванняў для паўстанцаў. Быў сотнікам вярбоўшчыкаў. Пазней браў чынны ўдзел са зброяй у руках і ваяваў пад Пакасьмежам (Pakośmierzem). Паранены трапіў у палон і выракам Палявога суду высланы ў Сібір, дзе жыў 21 год. Зазначыць належыць, што ўся сям’я Корбута, г. зн. маці, брат, бабуля, былі арыштаваны і высланыя ў Сібір за дзейнасць на карысць Студзеньскага паўстання”[4].

Зусім верагодна, звесткі пра Вільгельма Карафа-Корбута падаў у Камісію яго сын Браніслаў, які вярнуўся на радзіму і жыў у Варшаве[5]. Магчыма, Б. Карафа-Корбут не ўтрымаў у памяці аповеды свайго бацькі, хоць не выключаем, што мясцовасць Пакасьмеж ў кнізе – гэта памылка друку. Хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе фальварак Пагосцішча, дзе 26 красавіка 1863 года быў разбіты Аршанскі паўстанцкі атрад, якім кіраваў І. Будзіловіч. Інфармацыя Б. Карафа-Корбута (?) пацвярджае здагадку следчых, што браты Корбуты разам з іншымі віцяблянамі былі ў атрадзе І. Будзіловіча, удзельнічалі ў баі пад Пагосцішчам, а пасля разгрому атрада, 28 красавіка былі захоплены сялянамі і жыдамі. Вось толькі ў матэрыялах следства анічога не гаворыцца пра параненага В. Карафа-Корбута.

Эльжбета Каміньска, аўтарка кнігі *Студзеньскае паўстанне і сібірскія выгнаннікі* на падставе архіўных матэрыялаў дапоўніла біяграфію Вільгельма Карафа-Корбута: “[яго] і ўсіх членаў ягонай сям’і асудзілі на пасяленне ў Сібіры. Трапіў у Іркуцк напрыканцы 1864 г., адтуль адасланы ў Аёкскую воласць Іркуцкай губерні. У 1867 г. атрымаў дазвол на выезд у Кастрамскую губерню, дзе мусіў жыць пад паліцэйскім наглядам. Пасля вызвалення вярнуўся праз некалькі гадоў у Іркуцк і яго фірма занялася будаўніцтвам Забайкальскае чыгункі[6]. Зарабіў на гэтым праекце шмат грошай. Яшчэ

[1] W. Lasocki, *Wspomnienia...*, s. 333.
[2] Першая згадка пра тое, што Э.Ф. Карафа-Корбут знаходзіўся ў Аёкскай воласці Іркуцкай губерні.
[3] BJ, F. 58/55: *Spis alfabetyczny imienny Polaków zesłanych do gub. Irkuckiej*, s. 53 v –54.
[4] J. Maliszewski, *Uczestnicy powstania styczniowego zesłani i internowani*, Warszawa 1931, s. 35.
[5] W. Moskalik, *Korbuttowa z Jakubowskich Ludmiła Anna Helena Karaffa* [w:] *Polski Słownik Biograficzny*, Wrocław i in. 1968–1969, t. XIV, s. 42–43.
[6] Забайкальскую чыгунку пачалі будаваць у апошнім дзесяцігоддзі XIX ст. Высветліць паходжанне звестак пра гэты від дзейнасці В. Карафа-Корбута не ўдалося.

ў 1910 г., жывучы ў Віцебску, судзіўся з Забайкальскаю чыгункаю за належны яму мільён злотых"[1].

На нашу думку, у біяграму В. Карафа-Корбута далучаны звесткі пра ягонага брата Элегія Францішка. (Магчыма, і пра нейкага іншага Корбута). Усё ж дакладна вядома, што В. Карафа-Корбут быў высланы ў Табольскую губерню. Там, у Табольскай губерні ён, відавочна, і адбываў тэрмін. Перадусім ягоны сын Браніслаў нарадзіўся ў 1870 г. у Табольску (больш дакладна, ахрышчаны ў тамтэйшым касцёле). Маці Браніслава – Браніслава Вінчэўская[2] – хутчэй за ўсё пасля нараджэння сына вярнулася ў Варшаву, дзе Браніслаў пайшоў у гімназію. Праўда, вучобу завяршаў у Табольску (хіба, тут усё яшчэ жыў бацька?), пасля чаго зноў апынуўся ў Варшаве (не пазней, чым у 1893 г.), дзе ў 1897 г. закончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля некалькі месяцаў працаваў у варшаўскім шпіталі св. Духа пад кіраўніцтвам Юзафа Павінскага. А ў 1898 г. заняў пасаду лекара чыгуначных сярэднеазіяцкіх ліній у Туркестане. Жыў у Ашхабадзе і Чарджуі да 1921 г.[3].

Найбольш верагодна, што звесткі пра высылку Вільгельма ў Аёкскую воласць Іркуцкай губерні датычаць Элегія Францішка. Бо менавіта ён, Э.Ф. Карафа-Корбут, паводле Карнэля Зялёнкі, жыў у 1865–1869 (?) гг. на пасяленні ў вёсцы Куяда Аёкскае воласці.

У Куяду К. Зялёнка прыехаў у студзені 1865 г. Ён быў першы з выгнаннікаў у гэтай вёсцы. У Аёку ў гэты час ужо жылі Дыянізы Гэнкель, Радушкевіч, Ян Кавалеўскі, Тадэвуш Рэгберг. Пазней пачалі прыязджаць іншыя. Сустрэча аўтара з Э.Ф. Карафа-Корбутам[4] ва *Успамінах* не датавана, але ўскосным чынам можна вылічыць, што адбылося гэта напачатку 1866 г. (Праўда, гэта не азначае, што якраз у той час Э.Ф. Карафа-Корбут толькі-толькі апынуўся ў Куядзе.)

Падставаю для апісання К. Зялёнкаю сустрэчы з Э.Ф. Карафа-Корбутам стала наступнае. Пэўны час аўтар успамінаў разам з Францішкам Ляшчынскім працаваў у заснаванай імі краме ў вёсцы Ялоўка (побач з Куядаю). На іх паспяховую дзейнасць звярнуў ўвагу багаты купец Кузняцоў, які прапанаваў выгнанніку пасаду крамніка (приказчика) у яго ў магазіне ў Іркуцку. Народжанаму ў Аўстрыі напачатку цяжка было парадзіць з расійскаю моваю, а таму К. Зялёнка вырашыў звярнуцца па дапамогу да Э.Ф. Карафа-Корбута, "прафесара вышэйшае школы ў Вільні", які жыў у Куядзе і наведваўся ў краму ў Ялоўцы. Пазначае аўтар і тое, што разам з Э.Ф. Карафа-Корбутам на выгнанне "добраахвотна" прыйшла жонка, якая была "надзвычайнай дабрыні, лічыла нас усіх, быццам мы да яе сям'і належалі. Кожнага з нас называла па імені, дадаючы слова «грамадзянін», а мы ўсе яе – «грамадзянка»"[5].

---

[1] *Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy: Katalog fotografii...*, s. 241.

[2] Сярод сасланых у Сібір сустракаецца прозвішча Віктара Вінчэўскага, якому ў 1868 г. было 30 гадоў. Быў ён высланы на "водворение", з 1869 г. знаходзіўся ў Марыінскай акрузе. Быў ён без сям'і, але ўзяў "пособие на домообзаводство". Магчыма, Браніслава Вінчэўская – гэта яго сястра, якая прыехала адведаць брата. Гл.: *Список участников восстания 1863–1864 гг., сосланных в Западную Сибирь* (по материалам диссертации Светланы Мулиной *Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке*, Омск 2005) – http://kdkv.narod.ru/1864/Ssilka-ZapSib.html#03.

[3] Два гады Браніслаў Карафа-Корбут і яго жонка Людміла Анна Галена з Якубоўскіх жылі ў Навагрудку, дзе ён быў галоўным лекарам эндымічнага шпіталю. З 1924 г. і амаль да самай смерці (8.10.1933) – лекарам у амбулаторыі „Kasy Chorych w Warszawie". Гл.: H. Czarkowski, *Ś. p. Bronisław Karaffa-Korbutt*, „Nowiny Społeczno-Lekarskie", R. VIII, Warszawa 1934, nr 5. Пахаваны Б. Карафа-Корбут у Кракаве.

[4] К. Зялёнка паўсюль называе паэта-выгнанніка Францам Корбутам.

[5] K. Zielonka, *Wspomnienia z powstania 1863 roku i z życia na wygnaniu w Syberyi*, Lwów 1913, s. 144.

Відавочна, у тэксце К. Зялёнкі ёсць памылкі: у Вільні, вядома, існаваў Шляхецкі інстытут, але выкладчыка з прозвішчам Корбут там не было[1]. Аднак гэтак захавалася ў памяці аўтара ўспамінаў. Віцебскі гімназіст, які адзначаўся калісь за напісанне творчых працаў па расійскай славеснасці, цяпер становіцца запатрабаваны: "Я пераехаў да Корбутаў і за адзін месяц падвучыўся расійскай мове настолькі, што сяк-так мог весці кнігі"[2].

У Кузняцова К. Зялёнка служыў каля двух гадоў. Калі ж у 1868 г. была аб'яўлена амністыя замежным грамадзянам, удзельнікам паўстання, ён выязджае з Сібіры. Не вельмі шмат прозвішчаў калегаў-ссыльных захавалася ў ягонай памяці, але Э.Ф. Карафа-Корбута ён вылучае сярод іншых: "Poznałem ludzi z wielkim sercem i zaparciem się. Co za śliczny, prawy charakter Franciszka Korbutta albo Dyonizego Henkla i wielu innych"[3].

Пра іншых сваіх прыяцеляў аўтар не згадвае. Толькі менавіта пра гэтых двух. І нават расказвае пра іх заняткі ў Сібіры: "Корбут адкрыў у Куядзе краму, а ягоная жонка, «грамадзянка» пякла смачны хлеб, які адпраўляла ў Іркуцк, дзе яго ахвотна куплялі"[4].

Не выклікае сумнення, што ва успамінах К. Зялёнкі гаворка ідзе пра нашага паэта Ялегі Пранціша Вуля. А г. зн. не згубіўся ён у Сібіры (а самае галоўнае – дайшоў этапамі да месца ссылкі: выгнаннікі часта паміралі пад час дарогі).

Маем яшчэ адно пацвярджэнне побыту Э.Ф. Карафа-Корбута ва Усходняй Сібіры: ён, ягоная жонка і бацька згадваюцца ў лістах Юзафа Каліноўскага (1835–1907). Корбуты не былі ў коле блізкіх знаёмых будучага айца Рафала, а таму ён піша пра іх толькі дзеля фону, толькі як апісанне выгнанніцкіх будняў. Спачатку ў лісце ад 15/27 лютага 1872 г. да бацькоў Ю. Каліноўскі апавядае пра М. Карафа-Корбута: "Пробашч яшчэ не вярнуўся, дык я ўсё яшчэ карыстаюся ягонымі пакоямі, вокны якіх выходзяць на поўдзень, а таму поўных сёння сонечнага святла. Гэта немалая выгода і няшмат хто тут пахваліцца высокім і светлым памяшканнем: побач са мною за адным сталом сядзіць старэнькі Корбут з Белай Русі; дзесьці ў сутарэннях (w podziemiach) ён ледзь знайшоў куток на свае старыя гады; раніцамі колькі ўжо часу карыстаецца маёй гасціннасцю, каб перапісваць нейкае сажнёвае прашэнне, якое дакладна ніхто чытаць не будзе. Але для яго – гэта род занятку, які цалкам яго захапіў; анічым не збіты з тропу ўсё новыя і новыя свае творы дасылае ў канцылярыю губернатара"[5].

Праз некалькі месяцаў у лісце ад 28 чэрвеня 1872 г. да Якуба Гейштара, які ўжо выехаў з Усходняе Сібіры, Ю. Каліноўскі, апавядаючы пра іркуцкія навіны, напіша: "Старэнькі Корбут у Іркуцку, дзе таксама жыве і ягоны сын з жонкаю. Бацька ў няспынных цяжбах з канцылярыямі пра нявыплачанае яму, належнае і неналежнае"[6].

Апошняе паведамленне каштоўнае тым, што даносіць інфармацыю пра побыт Э.Ф. Карафа-Корбута ў Іркуцку: як і большасць высланых ён, відавочна, перасяліўся ў сталіцу губерні, бо тут было значна больш магчымасцяў зарабіць сродкі на жыццё. Вядома, застаючыся "прыпісаным" да месца свае высылкі – Куяды і штогод прыязджаючы туды па "адпускны білет".

[1] Гл.: J. Godlewska, *Wileński instytut szlachecki (1834–1863)*, "Rozprawy z dziejów oświaty" 1985, t. XXVIII, s. 152–158.
[2] K. Zielonka, *Wspomnienia...,* s. 144–145.
[3] *Ibidem*, s. 188.
[4] *Ibidem*, s. 189.
[5] J. Kalinowski, *Listy*, t. I, cz. 1: *1856–1872*, Lublin 1978, s. 390.
[6] *Ibidem*, s. 408.

Калі і як Карафа-Корбуты змаглі пакінуць Сібір? Чаго дасягнуў М. Карафа-Корбут сваімі "сажнёвымі" просьбамі?

У адрозненне ад Я. Гейштара, Ю. Каліноўскага і шэрагу іншых заможных выгнаннікаў Карафа-Корбуты не мелі сваякоў, якія з дапамогаю хабару "шукалі" ў высокіх пецярбургскіх саноўнікаў палёгкі для сваіх родных. А таму спадзяванні на перамену ў сваім лёсе яны мелі мізэрныя. Хіба не датычыў сасланага на пасяленне (гэта фактычна азначала: назаўсёды) Э.Ф. Карафа-Корбута царкі *Указ* ад 9 студзеня 1874 года, што дазваляў многім катэгорыям ссыльных перасяліцца з Сібіры ва ўнутраныя губерні Расіі.

Праўда, *Высочайшее повеление* ад 15 мая 1883 года здымала ўсе абмежаванні *Указа* 1874 года (перадусім, абмежаванне месцаў пражывання). Былым удзельнікам паўстання дазвалялася жыць у Расіі "повсеместно", "без всяких ограничений". Менавіта толькі гэтую, на нашу думку, амністыю мог выкарыстаць Э.Ф. Карафа-Корбут, каб пакінуць Сібір. У той жа час мы ведаем, што да 1894 г. [1] ссыльным з Літвы-Беларусі забаранялі вяртацца ў родныя мясціны, дык найбольш верагодна, што ён накіраваўся ў Варшаву. А г. зн. звесткі Р. Зямкевіча адпавядаюць сапраўднасці; г. зн. сляды побыту віцебскага паэта ў Варшаве варта было шукаць асяроддзі В. Каратынскага і А. Плуга.

А гэта тэма новага даследавання.

[1] *Высочайшим манифестом 14 ноября 1894 года* ўсім асобам, "отбывающим ещё наказание за участие в польском мятеже 1863 года, даровано освобождение от полицейского надзора с предоставлением им права повсеместного жительства и с возвращением прав".

# ВЕРШАВАНЫЯ ТВОРЫ

Доўгі час Ялегі Пранціш Вуль лічыўся аўтарам двух вершаў – беларускамоўнага *K Dudaru Arciomu at naddźwińśkaha mużyka* і польскамоўнага *Myśl nienowa* (з трэцяга былі вядомы два радкі ў пераказе А. Мальдзіса). У тым, што ў ягонай спадчыне было значна больш твораў, пераконваюць нядаўна выяўленыя яшчэ два польскамоўныя вершы.

## *Да Антона Савы*

Верш Ялегі Пранціша Вуля *Do Antoniego Sowy* быў выяўлены А. Мальдзісам у 1960-я гг. у Бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве, але з тае прычыны, што была зменена сігнатура (архіўны шыфр), гэты тэкст, а таксама іншыя матэрыялы фонда Эдварда Жалігоўскага былі доўгі час недаступныя даследчыкам. Сёння ён захоўваецца: Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6974: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Twórczość poetycka. Bruliony wierszy. Wiersze osób różnych*, s. n. n. У левым верхнім куце алоўкам пазначана: *Korbutt*. Публікуецца ўпершыню.

### *Do Antoniego Sowy*

(Na znak czci i na pamiątkę)

Jakimsiś dziwnym trafem, sądzonym od BOGA,
Wczora mię nawiedziłeś, Rodzicu *Jordana*[1]:
Dzięki ci, szczęsny trafie! święć się, chwilo błoga,
Głęboko w mej pamięci, w sercu, zapisana!

O! znałem cię i przedtem, nim ujrzałem ciebie;
Bom cząstkę ducha twego pożywał duchowo; –
I zawszem cię poznawał w tym duchowym chlebie:
Czy byłeś Onegdajskim[2], czy Antonim Sową.

Wczora ciebie ujrzałem, rozmawiałem z tobą,
Ściskałem dłoń twą ciepłą – gorąco i szczerze;
Więc nie tylko z twym duchem, lecz i z twą osobą
Dusza moja zawarła wieczyste przymierze.

---

[1] Гаворка пра драматычную паэму Э. Жалігоўскага (Антона Савы) *Jordan: Fantazja dramatyczna*, выдадзеную ў Вільні ў 1846 г.

[2] Псеўданім Э. Жалігоўскага. Ім падпісаная аповесць *Wczoraj i dziś: Rysy biograficzno-obyczajowe i bajki*, выдадзеная ў двух тамах (Пецярбург 1858 г.).

Lecz ja, – wprzódy nieznany, – twój znajomy świeży, –
Czemże siebie utrwalę we twojej pamięci?
Łacno z niej moje imię nieznane wybieży,
Gdy tyle świetnych Imion ona w sobie święci!

Cóż ci dam na pamiątkę? – Próżny kłopot głowy!
Chyba ci dam ze serca to krótkie życzenie:
Niech wszędy, – gdzie w ciemności przemkną skrzydła Sowy, –
Ciemność nocy – rozbiją jasne dnia promienie!

5 sierpnia 1858 r.
Witebsk Eligi Franciszek Ul

## *Вітанне рэдакцыі „Słowa”*

Верш *Pozdrowienie: Do redakcyi „Słowa”* не згадваўся беларускімі літаратуразнаўцамі. Арыгінал захоўваецца: Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6976: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Korespondencja. Listy od osób różnych. B–Ż. Bruliony osób różnych*, s. n. n. Друкуецца ўпершыню.

### *Pozdrowienie do Redakcyi „Słowa”*

Niechajże Wam PAN BÓG szczęści, Pracownicy „Słowa!” –
W świętej sprawie oświecenia każda dźwignia nowa,
W Imię Boże zbudowana, ku chwale Narodu,
Niech się wspiera Łaską Bożą wśród swego zawodu,
I niech będzie wśród społecznej Braci pochwalona,
Od stron Warty, Wisły, Niemna, Dniepru i Rubona.
Niech mi tędy wolno będzie, na „Słowa” zrodziny,
Przesłać do Was kilka życzeń znad Zachodniej Dźwiny:

Niechaj Wasze czasopismo jutrznią Prawdy dnieje,
I rozświeca sprawy przeszłe i przyszłe nadzieje......,
I tłómaczy nam żywota zagadkę prastarą,
Łącząc wiedzę filizof'i z religijną wiarą. –
W czarodziejskie niech się zdobi estetyzmu blaski,
I święcone ideałów maluje obrazki;
I unosi nas w kraj Piękna, kędy rzeczywistość,
Przebóstwiona w integralną pierwowzoru czystość,
Z realności w idealne przeodziana szaty,
Dyszy niebem, z nieziemskimi godząc ziemskie światy. –
Niech Mam wciąż idea Dobra do celu przyświeca,
I niech ogień moralności w Waszem pismie wznieca,
Ku rozgrzaniu tych, co w mgłach samolubstwa drzemią,
I nie widzą jasnych niebios ponad szarą ziemią,
I nie widzą, że największem dobrem dla człowieka
Jest to tylko, za co jego jasna Wieczność czeka;
Że największem naszem dobrem – nie kruszec, nie para,
Ale Miłość, i Nadzieja, i gorąca Wiara,
Stała Cnota, i zupełne poświęcenie siebie –
Dla swych bliźnich, dla swej braci, w społecznej potrzebie
I w potrzebie osobistej pojedyńczych ludzi.

Niechaj Wasze czasopismo: – śpiące ze snu budzi,
Obojętne rozegrzewa, i ożywia skrzepłe,
I oświeca niewidome, i rozpala ciepłe.
Niechaj pismo Wasze spełnia posługę apteki,
Zkądby Naród miał skuteczne w swych słabościach leki; –
Niech lamusem i śpiżarnią będzie dla Narodu,
Jako skład zabytków dawnych i tarcza od głodu; –
Niechaj pismo Wasze będzie polem użyznionem,
A społeczność niech żywi zbieranym zeń plonem; –
Niechaj będzie piękną łąką, ustrojoną w kwiaty,
I niech nad nią jasnych niebios ścielą się bławaty;
A za tęcze barw, co kwiatkom udzielą niebiosy,
Niech ta łąka błyszczy łzami brylantowej rosy,
I niech każdy kwiatek wdzięcznie ku niebu oddycha
Kadzidłami wonnych westchnień z czystego kielicha.

Niech nareście Wasze "Słowo" będzie chybkim ptakiem
I obiega wszystkie ziemie napowietrznym szlakiem,
Wszędzie, wszędzie, gdzie rozsiane naszej mowy dźwięki; –
Niech tam dźwięczy pełną piersią rodowe piosenki,
I niech o nas wieść przynosi Braci oddalonej,
I wzajemną o nich wieścią karmi nasze strony.
Niechaj świeci zawsze jasno, rozlegle i czysto.
Niech nakoniec Wasze "Słowo" będzie głosem Ludu,
I niech Pan Bóg niezapomni Waszych prac i trudu.

11 lutego 1859 r.
Witebsk.

Eligi Franciszek Ul, znad Zachodniej Dźwiny

## *К Дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка*

Верш занатаваны ў *Альбом* Арцёма Вярыгі-Дарэўскага 23 сакавіка (хутчэй за ўсё старога стылю) 1859 г. Апублікаваны ўпершыню ў "Нашай ніве" (9 лістапада 1912 г.); з захаваннем моўных асаблівасцяў, але транслітараваны з лацінкі на кірыліцу – у 1977 г. (*Пачынальнікі...*, с. 262–263). Арыгінал *Альбома* захоўваецца: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1135-4-391a; копія: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21-722. Друкуецца з захаванне арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

### *K Dudaru Arciomu at naddźwińśkaha mużyka*

Szto tabie, dudar, pryśpieła
Śmieły pieśni zawadzić?
Ci to lohkaja, brat, dzieła
Naszu braćciu praświaćić?

Kryknuć na ciabie panoŭja,
Szto ty szkodnik i miściuk, −
Stracisz hołas i zdaroŭja
I dudu upuścisz z ruk.

I abmyiszsia ślizami,
I padumaisz niraz:
"Bożżaj Łaski niet nad nami,
I niet praŭdy siarot nas".

Ty miane adnak niasłuchaj:
Mało szto ja zawiadu! –
Cełaj hrudździaj duj i dmuchaj
U żulejku i ŭ dudu!

Ni hniawisia za abmyłku,
Szto zaczać ja nisumieŭ:
Kali BOH tabie daŭ siłku, −
Duj, jak duŭ, − piai, jak pieŭ!

Hrudździaj cełaj hudzi śmieła,
Na uwieś mużyckij świet, −
Szto pasieisz, budzić ceła,
Budzić niekaliś i ćwiet...

Tota radaść, radaść budzić,
Kali BOH, za mużykoŭ,
Dy wianok tabie prysudzić –
Z biełych roż i z wasilkoŭ!

Biełу rożу – to za heta,
Szto ty sowiść bielisz nam,
Szto nas wywieŭ at Jachweta,
Choć nasz baćka, każuć, Cham.

Wasilki – to, brat, niabiosy,
Atkul kożnyj Bożżyj dar!
Atkul sonća, dożdzik, rosy,
Atkul my i ty, dudar.

Tak, moj miłyj brat Arćiomka,
BOH ciabie błahasławi!
Ihraj szczyra, piai hromka
I żywi nam dy żywi!

23 marca 1859 hoda,
u panidziełak.
Wiciabsk.
U psiarni.

Jalehi Prancisz Wul

## *Няновая думка*

Верш занатаваны ў *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага 23 сакавіка 1859 г. Упершыню апублікаваны ў кнізе *Пачынальнікі...*, с. 263–264. Пераклад на беларускую мову Івана Чыгрына (*Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя*, Мінск 1998, с. 83, 85). Друкуецца з захаванне арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

### *Myśl nienowa*

Czemże jest nasze życie? – Stare to pytanie,
I trudno coś nowego odpowiedzieć na nie.

Życie ludzkie jest z raju przesadzonym kwiatem,
A cieplarnią jest ziemia; ogrodnikiem zatem –
Jest sam człowiek. A Pan Bóg z nieba wysokiego
Patrzy, jak ogrodnicy swoich kwiatów strzegą;
A widząc, żeśmy grzeszni, niedbali i marni,
Zesłał syna swojego do naszej cieplarni,
Dla rozwiązania ludziom tej trudnej zagadki, –
Jak mamy pielęgnować rajskie nasze kwiatki?
I wiemy już dokładnie, że rajska roślina
Wtenczas tylko i rosnąć i kwitnąć poczyna,
Gdy to, co ją otacza, niebo przypomina;
Że cieplarnię doczesną tak urządzić trzeba,
Aby w niej wszystko było, jak w przybytkach nieba:
A więc gorącą wiarą powietrze ogrzewać;
Świętą rosą Miłości każdy kwiat podlewać,
I oświecać przestrzenie złocistą nadzieją,
A gdy już wszystkie kwiatki Cnotą zawonieją,
Wtenczas Pan Bóg, ucieszon tym wzniosłym widokiem,
Zawiesi nad cieplarnią, pod niebem wysokiem,
Gwiazdę, o trzech promieniach, jasnych, wiekuistych:
Z dwóch promieni zaświecą, w swych pojawach czystych,
Nieznana dotąd Prawda i nieznane Piękno!
Patrząc na święte dziwa, ogrodnicy klękną
I dziękczynnie ku Niebu ramiona podniosą;
A wtenczas trzeci promień – jasną, ciepłą rosą,
Niby deszczyk majowy, pokropi cieplarnię;
Będzie to promień Dobra, co ziemię ogarnie?
I sam Pan Bóg już do nas przyjdzie ze świętemi,
Aby swoje królestwo założyć na ziemi.

23 marca 1859 r.,
w poniedziałek.
Witebsk.
W otchłani.

Eligi Franciszek Ul, znad Zachodniej Dźwiny

### *Няновая думка*

Што ёсць нашае жыццё? Даўняе пытанне.
Штосьці новае сказаць я, бадай, не ў стане.

Перасаджаная кветка з раю ў зямліцу,
Дзе садоўнік – чалавек, а зямля – цяпліца.
Вось жыццё што. Чалавек з ножніцамі ходзіць,
А Пан Бог з нябёс сваіх воч з яго не зводзіць.
Бачачы, што чалавек – грэшны ды нядбалы,
Кволы, сына на зямлю роднага паслаў ён
Памагчы, каб развязаць трудную задачу,
Што вырошчваць райскі квет трэба не на ўдачу.
Бо, дакладна знаем мы, райская расліна,
Каб квітнець, расці, заўжды вокала павінна
Боскае быццё сабе меці напамінам;
Што часовае жытло так абладзіць трэба,
Каб у ім усё было прадаўжэннем неба:
Наваколле саграваць вераю гарачай,
Квет каханнем атуляць – кожны, не іначай.
Далягляды асвячаць залатой надзеяй,
Аж пакуль ад кветкаў тых Цнотай не павее.
Менавіта Бог тады, ўражаны карцінай,
Над цяпліцаю людскай падвесіць ў вышынях
Зорку а праменнях трох, ясных ды вячыстых.
З двух праменняў зазіхціць у праявах чыстых,
Праўда, што ніхто не знаў, і Краса нязнана.
Дзіва вызнаўшы з вышынь, садоўнік аддана
Небу позірк узнясе ўдзячнасці людскае.
Трэці промень у той час цёплаю расою,
Нібы майскі дождж, пайдзе, акропіць цяпліцу,
Гэта промень Дабрыні абдыме зямліцу.
І да нас тады сам Бог прыйдзе са святымі,
Каб засведчыць свой пасад на зямлі тут з імі.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ

## Ліст да Эдварда Жалігоўскага

Адзіны, вядомы сёння ліст Э.Ф. Карафа-Корбута. Відавочна, адна з першых спробаў маладога літаратара наладзіць дачыненні з рэдакцыяй перыядычнага выдання. Можна разглядаць яго таксама як спробу паўплываць на “Słowo”, у першых нумарах якога публікаваліся інфармацыя пераважна пра падзеі грамадска-палітычнага жыцця ў Еўропе. Фактычна прапаноўваецца праграма газеты для краю, перадусім для Віцебшчыны. Арыгінал захоўваецца: Biblioteka XX Czartoryskich w Krakowie, sygn. 6976: *Archiwum Hotelu Lambert. Edward Żeligowski. Korespondencja. Listy od osób różnych. B–Ż. Bruliony osób różnych*, s. n. n. Друкуецца ўпершыню.

**Drogi Panie Edwardzie!**

Jak czajka za morze, tak ja z pozdrowieniem swojem zbierałem się do Waszego “Słowa”; nareście napisałem, a raczej: nareście skończyłem. Proszę się temu niedziwić: wszak życie nasze składa się nie z jednych natchnień! są ciężkie chwile trosk, smutków i cierpień, kiedy człowiek nie jest w stanie dopełnić – drogich dla serca jego – obowiązków (bo sercem jestem związany z tobą, Panie Edwardzie, i kocham serdecznie Wasze “Słowo”; – szczęść mu Boże!).

Dołączam tu tedy pozdrowienie. Jeśli potrzebnego miejsca na ważniejsze rzeczy będzie poddastatkiem w Waszem czasopismie, to umieśćcie tam, gdzie w kąciku, w lóźnej ustroni, te moje kilka rymów. Podyktowało mi je szczere serce, i wy też odpowiedźcie mi sercem; mówię Wy: bo, choć nieznani Panu Ohryzki, ale kocham i jego; wszakże to twój przyjaciel, jak sam będąc w Witebsku, mówiłeś; więc musi to być dobry człowiek.

Nim jednak przeczytasz moje wiersze, chciej przebiedz oczyma te kilka słów następnych, w których się wytłómaczę przed tobą, z jakiego stanowiska zupatruję się na czasopisma; będzie tego niewiele.

Czasopismo, jako organ spółczesnego społeczeństwa, ma ogromne pole do działania. Ono pomimo mieścić w sobie wszystko, co tylko żywiej i z większem znaczeniem a wpływem na przyszłość objawia się w spółczesnem społecznem życiu. Każda kwestyja żywotna, którą czas nam przynosi, w czasopismie winna znaleść należne swoje odbicie, wiernie sportretowanie dagierrotypem prawdy, ale tak, żeby społeczność mogła ją wyraźnie i ze wszech stron, w zwiększonym rozmiarze, obejrzeć, odgadnąć całą jej wagę i znaczenie i wcielić ją w życie albo odrzucić nazawsze, jako truciznę. Więc nietylko zagraniczne wiadomości poczestne miejsce mają zajmować w czasopismie, ale i wszystko to, co się wśród nas samych rozwija albo li jeszcze kiełkuje i zaradza się ledwie. Wszystko, co jest znacznego w dziedzinie prawdy, piękna i dobra, w czasopismie znajdzie odgłos, i rozgłos, i jeśli tego potrzeba, dalsze rozwiniecie się swoje.

Czasopismo jest nietylko niewolniczym odwzorowcem społecznego życia, ale i probierzem wszelkich innowacyj, i sprężyna umysłowego ruchu, i kamieniem węgielnym tego wszystkiego, co dobru powszechnemu posłuży. Czasopismo powinno odegrawać pełną trudności, ale wielką i świętą, najczynniejszą, rolę, na scenie życia społeczństwa, w wielkim dramacie pod napisem: „Walka ducha z materyją o jednaść rozumu z sercem i wiarą", czyli: „Zbliżanie się do zgotowanego dla nas Królewstwa Bożego!"

Takim jest mój pogląd, i takiemi są motyw mojego pozdrownego rymu do Was.

Nieprzyjmuj, Panie Edwardzie, tego wszystkiego, com tu powiedział, za radę jakąś ode mnie, którejbym tobie, jako starszemu bratu, nieodważył się dawać, ale przyjm to, jako credo mojego wiedzenia rzeczy; z czego powstało i moje serdeczne pozdrowienie.

Bądź zdrów, Panie Edwardzie, i pamiętaj o mnie: napisz do mnie choć kilka słówek, choć kilka literek. – Niech cię Pan Bóg wspiera.

Twój nazawsze Eligi Franciszek Ul (Korbutt).

12 lutego 1859 r.
Witebsk

Mój adres: *Францу Маврикиевичу Корбутту, служащему в Витебской Палате Государственных Имуществ*; albo: *Артемию Игнатьевичу Вериге*.

**Дарагі Пане Эдвард!**

Як чайка за мора, так я з віншаваннем сваім збіраўся да Вашага "Słowa"; нарэшце напісаў, а хутчэй: нарэшце закончыў. Прашу гэтаму не дзівіцца: бо наша жыццё складаецца не з адных толькі натхненняў! Ёсць цяжкія хвіліны клопатаў, смуткаў і пакутаў, калі чалавек не ў стане выканаць – дарагіх ягонаму сэрцу – абавязкаў (бо сэрцам мы звязаны з табою, Пане Эдвард, і любім сардэчна Ваша "Słowa", – памагай яму Божа!).

Далучаю тут віншаванне. Калі патрэбнага месца на важнейшыя рэчы будзе наддастатак у Вашай газеце, дык змясціце дзе-небудзь у кутку, у вольным зацішным месцы, гэтыя мае колькі радкоў. Прадыктавала мне іх шчырае сэрца, і вы таксама адкажыце мне сэрцам; кажу: Вы, бо, хоць і незнаёмы Пану Агрызку, але люблю і яго; бо ж гэта твой прыяцель, як сам, будучы ў Віцебску, казаў; дык гэта мусі быць добры чалавек.

Пакуль, аднак, прачытаеш мае вершаваныя радкі, май ласку прабегчы вачыма гэтыя некалькі ўступных слоў, у якіх я патлумачу табе, што думаю пра газеты; будзе іх няшмат.

Газета, як орган сучаснага грамадства, мае аграмаднае поле дзейнасці. Яна павінна змяшчаць усё, што толькі ярка і з большым значэннем і ўплывам на будучыню выяўляецца ў сучасным грамадскім жыцці. Кожнае жыццёвае пытанне, якое нам дае час, у газеце павінна знайсці сваё адлюстраванне, дакладнае фатаграфаванне дагератыпам праўды, але так, каб грамадства магло яго выразна і з ўсіх бакоў, у павялічаным памеры агледзець, зразумець усю ягоную вартасць і значэнне ды ўвасобіць яго ў жыццё альбо адкінуць назаўсёды як атруту. Дык не толькі замежныя весткі пачэснае месца мусяць займаць у газеце, але і ўсё тое, што сярод нас саміх развіваецца ці яшчэ адно прарастае, ледзь толькі зараджаецца. Усё, што ёсць значнага ў галіне праўды,

хараства і дабра, у газеце знойдзе водгук і розгалас, і калі тое трэба – сваё далейшае развіццё.

Газета з'яўляецца не толькі нявольніцкім адлюстраваннем грамадскага жыцця, але і крыніцаю ўсялякіх інавацый, і спружынаю разумовага руху, і кутнім каменем усяго таго, што будзе служыць грамадскаму дабру. Газета павінна адыгрываць поўную цяжкасцяў, але вялікую і святую, найчыннейшую ролю на сцэне грамадскага жыцця ў вялікай драме пад назваю "Барацьба духа з матэрыяй пра адзінства розуму з сэрцам і вераю" ці "Набліжэнне прыгатаванага для нас Каралеўства Божага!"

Такі мой погляд, і такія матывы віншавальнага Вам верша.

Не палічы, Пане Эдвард, усяго таго, што я тут сказаў, за нейкую параду ад мяне, якую б табе, як старэйшаму брату, не адважыўся б даваць, але прымі гэта як *credo* майго разумення справы; з гэтага ўзнікла і маё сардэчнае віншаванне.

Будзь здаровы, Пане Эдвард, і памятай пра мяне: напішы мне хоць некалькі слоў, хоць колькі літар. Няхай Пан Бог табе дапамагае.

Твой назаўсёды Элігі Францішак Вуль (Корбут).

12 лютага 1859 г.
Віцебск

Мой адрас: *Францу Маврикиевичу Корбутту, служащему в Витебской Палате государственных имуществ*; альбо: *Артемию Игнатьевичу Вериге*.

# Карэспандэнцыя “Gazety Codziennej”

Адзіны, вядомы сёння апублікаваны допіс Э.Ф. Карафа-Корбута (“Gazeta Codzienna” 1860, nr 188, Warszawa, dnia 9/21 lipca). У перакладзе І. Запрудскага друкаваўся: “Літаратура і мастацтва” 1993, 19 сакавіка, а таксама – *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік*, вып. пяты, Мінск 2004, с. 146–147. Друкуецца з захаваннем асноўных арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

## Korrespondencja “Gazety Codziennej”

Witebsk, 21 czerwca 1860 r. v. s.

Czem że się wam wyda głos z Witebska, w tak licznej orkiestrze głosów, które się zlatują do was ze wszystkich krańców Europy? Ale czemużby wam nie wiedzieć, jak i my tu żyjemy? Teatru stałego, gdziebyśmy mogli widzieć własne daguerotypy w komedji i wielkie przykłady w dramacie, nie posiadamy.

Zabłądzi kiedy niekiedy towarzystwo koczujących aktorów, truppą dramatycznych artystów szumnie się mieniące, pokaże, co umie i czego nie umie, niezadowolni ni nas, ni siebie, zadłuży się po uszy i po czuprynę, pokłóci się samo ze sobą i z publicznością i rozpełznie w różne strony, narzekając na miasto, że nie ceni talentów i woli uczęszczać do Brozego i Załmana na bawarka (i u nas bawarek, co za postęp!), i na kotlety, niż do teatru, gdzieby się mogło czegoś nauczyć, a przynajmniej przyzwoicie zabawić. Wielka to prawda zresztą, że bilard, likwory, kotlety i karty, mają większy powab dla nas, niż licha sztuka odegrywana często bardzo miernie, rzadko znośnie na prowincjonalnym teatrzyku. Nie dziw tedy, iż aktorowie, opuszczeni od wszystkich, bez grosza, żyją i piją z biedy na kredyt, aż się zrujnują do reszty i uciekną z miasta, starannie z pyłu otrząsłszy obuwie i suknie swoje, świecące dziurami.

A zaprawdę, moglibyśmy i my na coś dobrego się zdobyć: gdybyśmy tylko szczerze zechcieli, mielibyśmy i stały teatr i publiczne biblioteki, lepsze, niż księgarza, co kupcząc staremi powieściami (nowych bardzo niewiele) zdziera po rsr. 1 ¼ miesięcznie za czytanie, choć zresztą nie świetnie na tem wychodzi bo ma *summa summarum* pono 1 ½ czytelnika.

A i przykład żywy mamy przed oczyma. Przebywający w mieście naszem Białoruska-Duda (Artemjusz Darewski-Weryha), bez odpowiednich środków i pomocy możniejszych, sam jeden, otworzył dla publiczności biblioteczkę swoją, przez długie lata uzbieraną (do 700 dzieł) i od czasu do czasu, podług możności zasilaną nowościami i niezważając na to, że nie jedno i drogie dzieło padło ofiarą niedbalstwa i lekkomyślności niejednego czytelnika, przyciąga do szaf swoich młodzież, której mu tak zwana średnia klassa ludności naszej najwięcej dostarcza. Większa część czytelników, przez wdzięczność za to duchowe dobrodziejstwo, wspiera księgozbiór, jak może, dając naprzykład na rzecz książek po kop. 40 miesięcznie. Ale gdzież nam tego dokazać, kiedy nie mamy wytrwania, kiedy woli nie mamy, kiedy po

prostu jesteśmy leniuchy: większa część młodzieży naszej ma i serca poczciwe i zasady dobre, ale nie robi, już to wiele, bardzo wiele, że w chwilach wolnych od pracy biurowej, na chwilkę się oderwie od kart i kieliszeczka i przeczyta cokolwiek z wyrzeczonego księgozbioru, wyciągając się na materacu lub piernacie.

Klub, jaki mamy od niedawna, z żalem trzeba wyznać, do niczego nas tyle nie wdraża, ile do gry kartowej i bachusowych uciech. Tak tedy, śpiemy w najlepsze, gdy starsza bracia nasza kształci się i postępuję. Budziemy się wprawdzie do pracy, ale to trwa prawie literalnie przez jedną chwilkę tylko; poczem znowu zasypiamy, dowodząc jasno, jak na dłoni, że mamy ogień, mamy serca poczciwe, ale stałości nam braknie, ale ochoty do pracy jak na lekarstwo.

Co do płci pięknej, o tej – mówiemy ostrożnie a grzecznie, jak sama przyzwoitość a cześć dla kwiecistej –z róż i cierni – korony rodzaju ludzkiego nakazują. Piękne Panie nasze (nie można mówić inaczej) uczęszczają także na bale klubowe, tańcują z wielkiem poświęceniem, wydatkują rezolutnie ciężko i lekko zapracowany grosz swoich mężów, ojców i braci, na kronoliny, na kwiatki, świecidła, szale, koronki i inne niezbędne przedmioty; w domu w gronie przyjaciółek, bawią się przyzwoicie, spokojnie i cicho – w ploteczki, w celu wyrobienia stałej publicznej opinji o rzeczach i osobach, i czasem zaimprowizują amatorski teatr lub koncert, na korzyść biednych, lub na kościół parafialny po-Bernadyński, pod wezwaniem św. Antoniego.

Czegóż więcej żądać? Złośliwi Katonowie powiadają, że damy nasze chęć zabawienia się i pokazania, przystrajają w pozory dobroczynności, a za obrębem teatrów i koncertów, ich miłość bliźniego na laurach spoczywa. Ku pociesze powszechnej, muszę wyznać, że piękne (do ostatka jestem grzeczny), panie nasze lubią czytać książki i coraz gęstszą massą odstrychają się od lichych romansów francuzkich. Rozmawiają rodzinnym językiem może częściej i więcej, a nawet i lepiej, niż po francuzku, a tak, choć żółwim, pomimo swą lekkość eteryczną, krokiem, posuwają się na przód, pociągając za sobą rozespanych wąsatych i brodatych przedstawicieli siły, męztwa i woli naszego szczupłego społeczeństwa.

Dzięki wam i za to, co jest; z czasem może będzie lepiej.

E. F. Ul.

**Карэспандэнцыя “Gazety Codziennej”**

Віцебск, 21 чэрвеня 1860 г. н. с.

Якім жа вам падасца голас з Віцебска сярод аркестра шматлікіх галасоў, якія злятаюцца да вас з усіх куткоў Еўропы? Але чаму б вам не ведаць, як і мы тут жывём? Сталага тэатра, дзе б мы маглі бачыць уласныя дагератыпы ў камедыі і вартыя прыклады ў драме, у нас няма.

Заблудзіць калі-нікалі кампанія вандроўных актораў, якая гучна назавецца трупай драматычных артыстаў, пакажа, што ўмее і чаго не ўмее, не задаволіць ні нас, ні сябе, запазычыцца па вушы і па чупрыну, перасварыцца паміж сабой і з публікай ды распаўзецца ў розныя бакі, наракаючы на горад, які не цэніць талентаў і пераважна наведвае Броза і Залмана[1] з-за баваркі[2] (і ў нас баварка, што за прагрэс!) і катлет, а не тэатр, дзе

[1] Утрымальнікі віцебскіх шынкоў.

[2] Засалоджаная гатаваная вада ці гарбата з малаком.

можна нечаму навучыцца ды, прынамсі, прыстойна прабавіць час. Зрэшты, гэта шчырая праўда, што більярд, напоі, катлеты і карты больш прывабныя для нас за дрэнную п’есу, якую іграюць у правінцыйным тэатрыку часцей вельмі пасрэдна і рэдка калі ніштавата. Таму не дзіва, што акторы, пакінутыя ўсімі, без гроша, жывуць і п’юць з гора ў крэдыт, пакуль не збанкрутуюць дарэшты і не ўцякуць з горада, старанна атросшы ад пылу свой абутак і адзенне, якія свецяць дзірамі.

А сапраўды, маглі б і мы адважыцца на нешта добрае, калі б толькі шчыра захацелі, мелі б і сталы тэатр і публічныя бібліятэкі, лепшыя чым у кнігапрадаўца, які, гандлюючы старымі раманамі (новых вельмі няшмат), здзірае за чытанне штомесяц па 1 ¼ руб. ср., хоць, зрэшты, яму не вельмі многа з таго перападае, бо ў *summa summarum*[3], кажуць, мае нібы 1 ½ чытача.

Ды і жывы прыклад маем перад вачыма. Беларуская Дуда (Арцём Дарэўскі-Вярыга), які знаходзіцца ў нашым горадзе, без адпаведных сродкаў і дапамогі каго з больш заможных, сам, адзін адкрыў для публікі сваю бібліятэку, якую доўгія гады збіраў (каля 700 тамоў) ды час ад часу, па магчымасці, дапаўняў навінкамі і, не зважаючы на тое, што не адзін і дарагі твор стаўся ахвярай нядбальства і легкадумнасці не аднаго чытача, прыцягвае да сваіх шафаў моладзь, якую яму найбольш пастаўляе гэтак званы сярэдні клас нашага насельніцтва. Большасць чытачоў у падзяку за гэтае духоўнае дабрадзейства як можа падтрымлівае кнігазбор, даючы, напрыклад, на кнігі штомесяц па 40 кап. Але дзе ж нам таго дабіцца, калі не маем настойлівасці, калі не маем волі, калі папросту гультаі: пераважная частка нашай моладзі мае і шчырыя сэрцы, і добрыя прынцыпы, але нічога не робіць, ужо і тое вельмі добра, калі ў вольны ад службы час на хвілінку адарвецца ад картаў і кілішка ды прачытае што-небудзь з названага кнігазбору, выцягнуўшыся на матрацы ці пярыне.

Клуб, які нядаўна займелі, з жалем трэба прызнаць, на нішто нас больш не кіруе, а толькі да картачнай гульні ды бахусавых уцехаў. Так зараз, у лепшым выпадку, спім, калі старэйшая наша брацыя[4] вучыцца і прагрэсіруе. Абуджаемся, праўда, да працы, але гэта доўжыцца літаральна адну хвілінку; пасля чаго зноў засынаем, даводзячы ясна, як на далоні, што маем агонь, маем шчырыя сэрцы, але не хапае нам сталасці, але ахвоты да працы як на лякарства.

Што да прыгожага полу, пра яго скажам асцярожна і далікатна, як сама прыстойнасць ды павага да кveцістай – з руж і церняў – кароны роду людскага патрабуе. Пекныя нашы Пані (нельга сказаць інакш) таксама наведваюць клубныя балі, дзе танчаць з вялікай самаахвярнасцю, смела выдаткуючы цяжка і лёгка зароблены грош сваіх мужоў, бацькоў і братоў на крыналіны, кветкі, забаўкі, шалі, карункі ды іншыя неабходныя прадметы; дома, у коле сяброўак, яны бавяць час прыстойна, спакойна і ціха – за плёткамі, з мэтай падрыхтоўкі грамадскай думкі пра рэчы і асобаў, а часам зымправізуюць аматарскі тэатр ці канцэрт на карысць бедных або на парафіяльны пабернардынскі касцёл св. Антонія.

Чаго ж больш чакаць? Зласлівыя катоны[5] гавораць, што нашы дамы жаданне пазабаўляцца і пафранціць прыаздабляюць у выгляд дабрачыннасці, а за межамі тэатраў

---

[3] Канчатковы вынік (лац.).
[4] Гаворка, хутчэй за ўсё, пра жыхароў Вільні, а таксама гарадоў Царства Польскага.
[5] Маецца на ўвазе аўтар крытычных заўваг у адной з рускіх газет адносна віцебскіх дабрачынных вечароў.

і канцэртаў іх любоў да бліжняга спачывае на лаўрах. Для агульнай радасці мушу прызнаць, што пекныя (да канца буду галантным) нашы пані любяць чытаць кніжкі і штораз большай масай адмаўляюцца ад кепскіх французскіх раманаў. Яны размаўляюць на роднай мове, можа, часцей, болей ды нават і лепей, чым па-французску, і так, нягледзячы на сваю эфірную лёгкасць, хоць чарапашым крокам, але рухаюцца наперад, цягнучы за сабой разаспаных вусатых і барадатых прадстаўнікоў сілы, мужнасці і волі нашай малалікай грамады.

Дзякуй вам і за тое, што ёсць, з часам, можа, будзе лепш.

E.F. Ul.

# З АРХІЎНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

У кнізе *Пачынальнікі* (1977) Г. Кісялёў апублікаваў шэраг матэрыялаў, якія датычаць удзелу Э.Ф. Карафа-Корбута ў паўстанні 1863 г. З іх вынікае, што беларускаму паэту і яго сябрам удалося заблытаць следства, якое не змагло давесці "бытности в шайке мятежников" віцебскіх паўстанцаў. Відавочна, былыя інсургенты разумелі, што за "составление вооруженной партии с целью присоединиться к шайке мятежников" пакаранне будзе менш цяжкім. Асобныя архіўныя дакументы дазваляюць меркаваць, што Карафа-Корбуты імкнуліся дасягнуць ўзгодненасці ў сваіх паказаннях, а дзеля гэтага выкарыстоўвалі ўсе магчымыя сродкі. Пэўную цікавасць выклікае следчая справа над аддзелам (дакладней: часткай аддзела) І. Будзіловіча, бо інсургенцкія сцежкі Э.Ф. Карафа-Корбута пралягалі ў тых самых мясцінах, што і сцежкі названага аддзела. Зусім верагодна, што ўсе (ці амаль усе) паўстанцы, захопленыя сялянамі і жыдамі каля вёскі Ордзеж 28 красавіка 1863 г., бралі ўдзел у сутычцы з царскімі войскамі каля фальварка Пагосцішча. Перадусім, пра гэта сведчыць пашкоджаная зброя, схаваная інсургентамі ў фальварку Новы Стан Яна Рагінскага, а таксама інфармацыя, пададзеная ў 1920-я гг. у Кваліфікацыйную камісію ветэранаў нацыянальных паўстанняў, што Вільгельм Карафа-Корбут браў удзел у баі "пад Пакасьмежам". Рапарт ваеннага губернатара горада Віцебска па следчай справе Э.Ф. Карафа-Корбута і яго сяброў, а таксама Заключэнне Часовага палявога аўдытарыята па гэтай жа справе дазваляць меркаваць, што арыштаваным удалося скаардынаваць свае паказанні. У выніку не выявіліся сапраўдныя факты, якія мелі месца ў красавіку 1863 г. у лясах Аршанскага павета. Дакументы друкуюцца з захаваннем асноўных арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналаў.

## Рапарт наглядчыка Віцебскага турэмнага замка

Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1248-2-394: *Дело Временного полевого аудиториата Виленского военного округа о дворянах Анастасии Козловском, Болеславе Улинском, Александре Василевском, Эмилии Франце Караффе Корбуте, Болеславе Вичульском, Станиславе Гелвановском, Антоне Каминском и др., сужденных за участие в мятеже. Начато 28 марта 1864 г. Кончено 11 августа 1867 г. На 491 листе*, с. 326–327.

31 октября 1863 года

**В Витебскую следственную комиссию по политическим делам**

Смотрителя Витебского тюремного замка

Рапорт

27 числа сего октября месяца караульным офицером подпоручиком Витебского батальона внутренней стражи Ивановым в небытность мою в тюремном замке секретно допущено свидание политическим преступникам Францу Корбутту, Николаю Лакису[6], Гавриилу Шляхто[7] и Адольфу Кумичку с их родственниками в офицерской

[6] Шляхціц Полацкага павета (бацька валодаў маёнткам Морач). Пазбаўлены шляхецтва і сасланы ў Томскую губерню. Патануў у 1865 г.

[7] Шляхціц Віцебскага павета (бацька валодаў фальваркам Красыня), памочнік кантралёра Віцебскай казённай палаты, калежскі сакратар. Маёмасць канфіскавана. Пазбаўлены шляхецтва.

комнате, о чем мною донесено господину исправляющему должность Начальника губернии[8] и по распоряжении Его Превосходительства производиться о сем следствие господином подполковником Витебского батальона внутренней стражи Громекою[9] и Витебским полицмейстером[10]. Имея ввиду, что разрешенное господином военным губернатором г. Витебска и Витебским гражданским губернатором свидание жене и матери политического преступника Франца Корбутта в последствии прекращено впредь до особого распоряжения Его Превосходительства, полагать должно, что жена и мать Корбутта достигли секретно свидания умышленно с какою-либо важною целью. Я долгом своим считаю донести о сем Следственной комиссии по политическим делам...

Смотритель замка Чунихин

## Рапарт наглядчыка Віцебскага турэмнага замка

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1430-1-31345: *О беспорядках происшедших в Витебском тюремном замке. Начато 2 ноября 1863. Кончено 1 февраля 1864 г.*, с. 1.

Ноября 1 дня, 1863 г.

Смотрителя Витебского тюремного замка

**Рапорт**

Возвращаясь в тюремный замок, я заметил, что солдат из караула Макар Москаленко глухим переулком следовал украдкой из шинка к ретирадному месту[11]. И, будто бы оттуда идя, встретив его при входе в тюремный замок, я при старшем унтер-офицере Степане Шутове произвёл у него обыск и нашел в кармане полуштоф[12] с водкой. При этом Москоленко объявил, что водку он несет караульному офицеру подпоручику Иванову. Чем обнаруживается, что 27 происшедшего октября действительно была внесена в тюрьму водка. Потому что, если бы я не заметил солдата, выходящего из шинка и следовавшего глухим переулком, то, вероятно, отобранная водка Москаленкаю была бы передана в тюрьму. Означенный полуштоф с водкой, опечатав печатью конторы тюремного замка, я предоставил г. полковнику Левандовскому[13] для приобщения к делу, производящемуся о допущении 27 октября г. подпоручиком Ивановым свидания политическим преступникам и вноса в тюрьму того числа до 30 полуштофов водки. О чем Вашему Превосходительству[14] честь имею донести.

Смотритель замка Чунихин

---

[8] Маецца на ўвазе генерал-маёр Уладзімір Вяроўкін (1821–1896), удзельнік Венгерскай кампаніі (1848), Крымскай вайны (1853–1856) і інш., які быў віцебскім губернатарам з 20 мая 1863 г. да 28 ліпеня 1867 г.
[9] Гаворка пра памочнік камандзіра Віцебскага батальёна ўнутранай аховы падпалкоўніка Антона Грамеку.
[10] Віцебскім паліцмайстарам быў лейб-гвардыі штабс-капітан Лаўрэн Дышлеўскі.
[11] Туалет.
[12] Бутэлька ёмістасцю прыкладна 0,6 літра.
[13] Гаворка пра камандзіра Віцебскага батальёна ўнутранай аховы палкоўніка Антона Левандоўскага.
[14] Маецца на ўвазе генерал-маёр Уладзімір Вяроўкін.

# Рапарт ваеннага губернатара горада Віцебска

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1430-1-31289: *Дело о Погостицкой шайке мятежников. О разбитом в бою под Погостищем и взятом в плен отряде восставщев*, с. 4–9.

Министерство внутренних дел. Военного губернатора города Витебска и Витебского гражданского губернатора. По канцелярии. Стол [1]. 7 декабря 1863 года. № 145. Витебск.

Господину Командующему войсками Виленского военного округа и войсками, расположенными в Витебской и Могилевской губерниях[2].

**Рапорт**

Комиссия военного суда при Смоленском батальоне внутренней стражи[3] учрежденная, представила ко мне военно-судное дело, произведенное по полевому уголовному уложению над политическими преступниками, взятыми с боя при селении Погостище[4] Могилевской губернии.

По рассмотрению дела оказалось: В апреле месяце сего года в доме мирового посредника Оршанского уезда отставного поручика Антония Пиоро[5] сверх обыкновенных съездов начали чаще собираться разные лица и советуясь между собой, занимались какой-то перепиской по ночам, в совещаниях сих, по показанию прислуги Пиоро, участвовало много знакомых и незнакомых лиц, при чем участвовал и выдрейский[6] выдрейский[6] ксёндз Богданович. После таких совещаний 22 апреля в доме помещика Антония Гурко[7] в Добрине сформировалась шайка мятежников до 25 человек; и того же 22 числа оттуда выступила; в это время в доме Гурко был и Антон Пиоро, и,

---

[1] Пропуск у дакуменце.

[2] Камандзірам войскаў Віленскае вайсковае акругі з мая 1863 г. па красавік 1865 г. быў генерал ад інфантэрыі (пяхоты) Міхал Мураўёў (1796–1866). У склад утворанае ў 1862 г. акругі ўваходзілі войскі, размешчаныя на тэрыторыі Віленскай, Ковенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай і інш. губерняў. Камандзір акругі звычайна займаў пасаду Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара.

[3] У 1861–1864 гг. камандзірам батальёна быў выхаванец Магілёўскай гімназіі падпалкоўнік Эдуард Штангэ Штангэ (1822–1883), удзельнік Каўказскай вайны (захапіў у палон Шаміля).

[4] Пагосцішча – гэта вёска і фальварак ля ракі Альшанка (сёння – Вольша) у Аршанскім павеце (воласць Высокае). У вёсцы напрыканцы XIX ст. – 55 жыхароў, царква. Фальварак (869 дзесяцін зямлі) з 1877 г. належаў Кажэўнікавым. Гл.: *Polski słownik geograficzny* (t. XV, cz. 2, s. 477).

[5] Гаворка пра паручніка (відавочна, расійскіх войск) Юзафа Антона, сына Станіслава Дэмбінскага-Пюра (1825– 1909), які на пачатку 1860-х займаў пасаду міравога пасрэдніка 4-га ўчастка Аршанскага павета. Яму належаў фальварак Пагосцішча (на паўночны-ўсход ад вёскі Пагосцішча) з 1973 дзесяцінамі зямлі. Ягоным намеснікам (г. зв. кандыдатам міравога пасрэдніка) быў Франц, сын Ігната Бржазоўскі, які валодаў фальваркам Дуброўна. На высылцы Ю.А. Дэмбінскі-Пюра ўзяў шлюб з Гэленаю Маеўскаю (1828–1900), былою жонкаю Адама Кіркора. Пасля амністыі разам з жонкаю паехаў у Варшаву, а пазней атрымаў дазвол на выезд у Смаленск. Апошнія гады жыцця прайшлі на Віцебшчыне.

[6] У вёсцы Вялікая Выдрэя, што знаходзілася на поўдзень ад Пагосцішча, меўся касцёл – філія Бабінавіцкай парафіі.

[7] Антона Гурко няма ў спісах высланых у Сібір. Аднак, не выклікае сумнення, што ён быў пакараны. Пера-Перадусім, канфіскаваны фальварак Добрына (1082 дзесяціны зямлі), уладальнікам якога ў 1870 г. стаў Магілёўскі павятовы спраўнік Восіп Сукруха. Добрына – сёння вёска ў Багушэўскім сельсавеце Сенненскага раёна.

проводя шайку, отправился в местечко Юньково[1], где во время прохода шайки чрез это местечко, выезжал к ней на встречу вместе с Юлианом Гурко[2] и матерью; шайка эта, состоя под начальством Каткова (Будзилович, и назывался Яном Паховичем[3]) [Он как начальник мятежнической шайки и бежавший из службы офицер подвергнут уже приговору смертной казни расстрелянием][4], бродила по лесам и селениям Оршанского уезда и увеличилась до 45–50 человек; особенными беспорядками себя не ознаменовала, кроме нападения на дом городничего в Бабиновичах[5], при чем захвачено только бывшее у него оружие, и пробравшись в селение Погостище (поместье того же Антония Пиоро) была настигнута войсками и вооруженными крестьянами; здесь мятежники, видя себя атакованными, дали залп, которым ранили одного рядового, потом, продолжая перестрелку с четверть часа, бросились через сад к болотистой речке, куда побросав большую часть оружия, прекратили перестрелку; при чем взято мятежников 21 человек, из коих два тяжело ранены и один легко, убито человек 6ть, несколько утонуло, а человек до 10, переплыв реку, скрылись в лесу; с нашей же стороны убито 2 крестьянина и ранено три рядовых; взятые в плен, кроме тяжело раненных, доставлены в Смоленск, в том числе и помещик Антоний Пиоро, хотя и не участвовавший в деле с мятежниками[6].

При следствии в военном суде они показали: Казимир Наркевич[7], Мартын Пиоро[8], что поступили в шайку по убеждению и сочувствию полякам и Пиоро имел книги и рукописи возмутительного содержания. Игнатий Бабашинский[9] и Франц Занкович[10] сначала отозвались о поступлении в шайку по увлечению, в чем и раскаивались, но в последствии выразились: Занкович, что поступил в шайку, как должно было поступать каждому поляку; Игнатий Бобашинский[11], что он поступил сознательно в шайку,

---

[1] Відаць, памылка перапісчыка. Павінна быць: Юшкава. Гэта маёнтак (327 дзесяцін зямлі) у Аршанскім павеце. Напрыканцы XIX ст. належаў Бжазоўскім. Гл.: *Polski słownik geograficzny*, t. XV, cz. 2, s. 35).

[2] Звестак пра Юльяна Гурко выявіць не ўдалося. У Аршанскім павеце ў вёсцы Высокае была папяровая фабрыка Аляксандра Рамейка-Гурко, які з лістапада 1863 г. стаў павятовым маршалкам шляхты замест князя Уладзіслава Любамірскага, якога ўлады абвінавачвалі ў сувязях з паўстанцамі.

[3] Трэба: Піховічам.

[4] Словы ў квадратных дужках пададзены як спасылка ўнізе старонкі.

[5] Гараднічым у Бабінавічах быў падпалкоўнік Міхал, сын Казіміра Лісоўскі. У Бабінавічах мелася царква (да 1839 г. – уніяцкая), касцёл св. Тройцы, сінагога. Да каталіцкае парафіі належала ў 1870-я гг. 1060 асоб.

[6] У кнізе А. Мілавідава *Перечень боевых столкновений русских войск с польскими повстанцами в кампанию 1863–1864 гг.* (Вильна 1915, с. 33) бой пад Пагосцішчам датуецца 25 красавіка. Апрача таго паведамляецца: "Сутычка ля маёнт. ***Погостице*** (ці ***Погостница***) памешчыка ***Піоро*** Сененскага пав. 40 салдат Магілёўскага палка і 50 узброеных сялян пад камандаю спраўніка падп. Савіцкага. 1 ранены (памёр ад ран). [Прозвішча забітага – радавы Грыцэнка. Фотаздымак надмагільнага помніка маецца ў Музеі гр. М.М. Мураўёва, як і здымак пахавальнай працэсіі, у якой брала ўдзел губернская адміністрацыя на чале з віцебскім губернатарам ген.-маёрам У.М. Вяроўкіным]. Шайка Яна Піхевіча (б. паручн. гранадз. палка Будзіловіч) – 50 чал. Забіта 6, паранена 3, узята ў палон 21, астатнія патанулі".

[7] Магчыма, гаворка пра Казіміра Наркевіча, шляхціца Панявежскага павета Ковенскай губерні. Ягоная маці валодала маёнткам Агінцы.

[8] Шляхціц Віцебскага павета, сын Яна, стрыечны брат А. Дэмбінскага-Пюра. Бацьку належалі фальварак Юдзіна ў Вілейскім павеце і фальварак Снігіры (119 дзесяцін зямлі. У 1876 г. перайменаваны ў Недраў) у Аршанскім павеце. Катаргу адбываў ва Усоллі. Пасля хваробы (тыф) стаў глухім. Наладзіў вытворчасць папіросаў, пазней займаўся гандлем. У 1870-я гг. атрымаў дазвол на выезд у Кастрамскую губерню, пасля – на вяртанне на Віцебшчыну.

[9] Шляхціц з засценка Цыкун Аршанскага павета.

[10] Шляхціц Лепельскага павета.

[11] Тут і далей напісанне прозвішчаў у дакуменце падаецца па-рознаму.

Помернацкий[1] тоже, но сделанное им раскаяние при следствии было временным увлечением; прочие же мятежники, кроме витебского мещанина Александра Правилова, нарвского биргера[2] Николая Засса и вольноотпущенного Владимира Бобах, утвердили, что присоединились к шайке без предварительных намерений, случайно и были увлечены или Феликсом Пац-Помарнацким или принуждены каким-то Щедрою, которые в деле оба убиты; Александр Правилов и Николай Засс поступили в шайку по принуждению, из страха, первый за проводника, а последний за погонщика и за ними в шайке имелся надзор.

По обстоятельством настоящего дела я полагал бы[3]:

1. Бывшего мирового посредника отставного поручика Антония Пиоро, 38 лет, виновного в допущении у себя в доме съездов окрестных помещиков и лиц незнакомых ему для преступных замыслов, знании о формировании мятежнической шайки и цели ея восстать вооруженною рукою против своего отечества и содействия к тому, тогда как по долгу службы особенно обязан был не только ненарушимо соблюдать данную им верноподданническую присягу, но и служить в том примером для других по лишению чинов и всех прав состояния сослать в Сибирь в каторжную работу в рудниках на пятнадцать лет[4].

2. Коллежского регистратора Ксаверия Бжезовского[5], 42 лет,

3. коллежского секретаря Александра Бобашинского[6], 38 лет,

4. писца Витебского дворянского депутатского собрания Мартина Пиоро[7], 22 лет,

5. канцелярских служителей из дворян: Иосифа Русецкого[8], 34 лет,

6. студента Московского университета Казимира Норкевича, 23 лет,

7. неслужащего дворянина Иосифа Шиманского[9], 35 лет,

8. гимназистов Витебской гимназии Николая Пац-Помернацкого[10], 19 лет,

9. Франца Занковича[11], 20 лет,

10. неслужащего дворянина Игнатия Бобашинского[12], 17 лет, довольно развитых в умственных отношениях, виноватых в личном участии в возмущении вооруженною рукою и не раскаявшихся в своем заблуждении по лишении первых двух чинов, всех прав состояния сослать в каторжную работу в рудниках на 12 лет.

11. Служившему по почтовому ведомству отставного сортировщика из обер-офицерских детей Александра Малаховского, 27 лет, виновного в одинаковом участии в мятеже, будучи при этом православного вероисповедания, во внимание, что он оказал раскаяние и первый заявил готовность сдаться на месте происходившей

[1] Відаць, Мікалай Пац-Памарнацкі, шляхціц Віцебскага павета, дзе бацькі мелі фальварак Арцюхова. На катарзе быў у Іркуцкай губерні, пазней атрымаў дазвол на выезд у г. Цывільск Казанскае губерні. У 1877 г. вызвалены ад паліцэйскага нагляду і атрымаў дазвол на свабоднае пражыванне.

[2] Біргер (ням. Bürger) – мешчанін.

[3] Тры апошнія словы закрэслены, а замест іх напісаны сказ невыразным дробным почыркам.

[4] Сасланы на катаржную работу ў крэпасцях на 10 гадоў.

[5] Шляхціц Аршанскага павета. Меў маёнтак Астраполле з 700 дзесяцінамі зямлі. Сасланы на катаржную работу ў крэпасцях на 8 гадоў.

[6] Шляхціц Віцебскага павета. Сасланы на катаржную работу на заводы на 6 гадоў.

[7] Сасланы на катаржную работу ў крэпасцях на 8 гадоў.

[8] Шляхціц Дзісненскага павета Віленскай губерні. Ягоная маці валодала маёнткам Дзіўнікі. Сасланы на катаржную работу на заводы на 4 гады.

[9] Шляхціц Лепельскага павета. Сасланы на катаржную работу на заводы на 6 гадоў.

[10] Сасланы на катаржную работу на заводы на 8 гадоў.

[11] Сасланы на катаржную работу на заводы на 6 гадоў.

[12] Сасланы на катаржную работу на заводы на 4 гады.

